


ВЫПУСК 38

**Аляксей ФІЛАТАЎ**

# ЖЫВОМУ — ЖЫЦЬ

**(Споведзь качагара)**

Мінск, «Кнігазбор», 2013

УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
Ф51

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 38.
Заснаваная ў 2009 годзе.

Філатаў, А.
Ф51 Жывому — жыць (Споведзь качагара) / Аляксей Філатаў. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 204 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 38).
ISBN 978-985-7057-43-6.

Гэта ўжо адзінаццатая кніга Аляксея Філатава, які пачаў друкавацца з 1958 года. Галоўная ідэя ўсёй творчасці празаіка — пошук чысціні і дабра ў чалавеку, у людстве, у грамадстве.

Новая кніга — працяг папярэдніх. Яна пра Радзіму, маці, мову, каханую, пра складаны асабісты лёс і лёс пабрацімцаў-творцаў, пра веру ў жыццё. Аўтар вырашыў зрабіць яе, як ён пашуткаваў, «скачагарыць», да свайго 75-гадовага юбілею.

Назва яе запазычана з верша шчырага сябра Аляксея Філатава — пранікнёнага палескага паэта Міхася Рудкоўскага. Можа заінтрыгаваць чытача і падзагаловак кніжкі «Споведзь качагара».

УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)

ISBN 978-985-7057-43-6

## Сам-насам з жыццём

*Вядомы на Берасцейшчыне празаік, арыгінальны, самабытны апавядальнік, дасціпны і мудры чалавек Аляксей (Леанід Георгіевіч) Філатаў чакае ў наступным годзе сямідзесяціпяцігадовы юбілей. Усе, хто яго ведае, упэўненыя: гэтаму пісьменніку і чалавеку ёсць пра што расказаць людзям. Натхняючыся і наталяючыся жыццём, Філатаў бліскуча гэта робіць.*

*Нарадзіўся будучы пісьменнік на Віцебшчыне. У першы ж дзень вайны асколкамі фашысцкага снарада забіла яго матулю, выкладчыцу Брэсцкага педагагічнага вучылішча. Хлопчык-сірата выхоўваўся ў сям'і настаўніка А. Н. Афанасьева з вёскі Ляхаўцы, што пад Маларытай. У маленстве ён зведаў фашысцкі канцлагер. За жыццё набыў прафесіі чыгуначніка, журналіста, настаўніка. Яго творы пачалі з'яўляцца ў друку з 1958 года, і сёння Аляксей Філатаў — аўтар дзевяці кніг надзвычай цікавай, змястоўнай, стылёва адметнай прозы. Пісьменніка хвалюе і кранае ўсё — прыгожае і пачварнае, узнёслае і зямное ў чалавеку, у жыцці ўвогуле. Ён усяму ўмее даць адметную, філатаўскую маральную ацэнку. Але вызначальны пафас і дыяпазон творчасці гэтага пісьменніка — любоў да маларыцка-берасцейскага краю, да людзей, якія ўратавалі падранку вайны жыццё, выхавалі яго моцным і адначасова чулым чалавекам. У творах Філатава асабісты боль па страчаных блізкіх людзях, настаўніках і сябрах спалучаецца з трывогай за лёс Бацькаўшчыны, за яе духоўную і матэрыяльную культуру, і ўсё гэта афарбавана філатаўскай, маладой, неўтаймоўнай прагай жыць гожа, годна, змястоўна.*

*Ратавальным сродкам ад маральных хваробаў гучыць для сучаснікаў гумарыстычная проза Філатава — абразкі, нататкі, замалёўкі з кнігі «Ляхавецкая торба». Гэтая філатаўская проза — сапраўды гаючыя лекі, эліксір паратунку з крыніц незнішчальнай беларускай, паляшуцкай душы, якую не толькі добра ведае, а, несумненна, мае сам пісьменнік Філатаў.*

*Цікавую трылогію прадставіў чытачу Аляксей Філатаў у кнізе «Дарога» (Брэст, 1997), якой аўтар даў падзагаловак — «Палескія аповесці». У трох аповесцях — «Дарога», «Канёздрыкі», «Жніво ў Замошшы» — аўтар з глыбокім веданнем матэрыялу расказвае пра жыццё цэлага пакалення палешукоў-заходнікаў. Некаторыя сюжэты ў трылогіі закранаюць падзеі мінулай вайны ў Заходняй Беларусі, а затым драматычную калектывізацыю заходнікаў, прадстаўляючы ў апошняй частцы трылогіі чытачу калгаснае жыццё ў апошнія савецкія дзесяцігоддзі. Аповесці звязаны месцам дзеяння і вобразам галоўнага героя Сцяпана Буруна, чалавека са складаным і багатым на выпрабаванні лёсам. Асабістыя драмы, страты, супярэчлівыя і таксама часта драматычныя сацыяльна-грамадскія падзеі не зламалі героя. Ён часам памыляецца, але ўмее цвяроза і крытычна асэнсаваць перажытае, каб годна і шчыра жыць далей, быць паважаным і шанаваным людзьмі, быць ім патрэбным.*

*Перагортваю прачытаныя ў свой час кнігі Аляксея Філатава — «Адарваць ад сэрца», «Жывая зямля», «Страла жыцця», перачытваю аповесці, апавяданні, народны гумар, мініяцюры, вершы... Захапляюся, думаю... Чаму ўсё ж у сталічных выдавецтвах не друкавалася гэтая густая, густоўная, арыгінальная проза?.. Не знайшоўся, відаць, рэдактар, які б захапіўся не толькі зместам, але і надзвычай скандэнсаваным сэнсава, экспрэсіўна згушчаным філатаўскім радком. Прыходжу да думкі: а яно, бадай, і добра, што ніхто не ўзяўся гвалтаваць гэтыя жывыя і гаваркія старонкі, бо проза Філатава з цяжкасцю паддаецца рэдагаванню. Слова пісьменніка такое ж імклівае, радок такі ж складана-багаты, як сам аўтар і як наша жыццё.*

*У творах Філатава ўражвае ўменне нешматслоўна, але вельмі ёмiста і ўзрушана пісаць пра сустрэтых людзей. І, думаецца, не проста пісаць, а прапускаць праз уласную душу чалавечыя лёсы. Вось як трапна, шматсэнсава і кранаюча аўтар піша*

*пра ліквідатараў-чарнобыльцаў, з якімі ненадоўга сустрэўся ў санаторыі: «Прыслухоўваўся да ўсіх болек, цікаваў за здароўем... пакуль не падсялілі да двух хлопцаў-чарнобыльцаў. Гадоў за трыццаць, прыгожых, шчырых, далікатных, інтэлігентных нутром, скалечаных чарнобыльскім стронцыем і камуністычным распутствам. Як гасцінныя гаспадары, хлопцы пачалі адразу выганяць маю немач святымі на нашай зямлі лекамі — злым, аж забівала дых, настоеным на мёдзе і перцы самагонам. Калі было выпіта за здароўе, за іхняе Падняпроўе і маё Палессе, за залацісты і ясны той дзень, якога дачакаецца народ, былы салдат-шафёр Валодзя, які толькі прыгубліваў шклянку, боўтнуў «старасла-вянскага» бальзаму ў кіпень, прымусіў мяне гарачым выхлябтаць ладную кварту: «прапацееце — бы дваццаць баб адшаптала...» (апавяданне «Ганарар»).*

*Так, было б клопату рэдактару ў мінулыя дзесяцігоддзі з неспакойным і непакорным філатаўскім радком. Але ж якімі выразнымі, паўнакроўнымі, сапраўднымі пад пяром Філатава паўстаюць яго героі!..*

*У сваёй прозе пісьменнік багата расказвае пра ўласна перажытае, у якім было многа і радасці, і болю. Тут Усявышні праявіў да яго асаблівую шчодрасць. Але пісьменнік мае рэдкі талент бачыць, адчуваць і любіць найперш людзей, а не сябе. Гэта сапраўды шчаслівы мастакоўскі дар: здзівіцца чалавеку, узрадавацца яго адметнасці, дзівакаватасці ці тыповай звычайнасці. Жывыя і запамінальныя героі твораў, бо пісьменнік дакладна бачыць і фіксуе словам уласныя зацікаўленыя адносіны да людзей і жыцця. Давайце яшчэ раз атрымаем асалоду ад таго, як апісвае аўтар наступнага суседа па пакоі ў санаторыі ў тым жа апавяданні «Ганарар»: «...перавялі мяне ў другі нумар, да равесніка, шафёра-дальнабойшчыка, ярага ворага мовы роднай і яго і маёй, хоць і аб'ездзіў ён шмат зямное кулі, ад Мадрыда да Пекіна.*

*Меў чалавек купецкія замашкі, лічыў усё ў далярах і еўра, паводзіў сябе на шырокую нагу, бабскага атачэння было, бы ў магаметанскага пашы. Але таксама неканчаткова спаганеная, шчырая, радзіміцкая душа».*

*Кранаюча і шчыра прызнаецца Філатаў у любові да жыцця, да літаратурнай творчасці, схіляе галаў у шанаванні аўтарытэтаў роднага слова. Яго мудрымі настаўнікамі-субяседнікамі з'яў-*

*ляюцца Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Янка Брыль, Фёдар Янкоўскі, Уладзімір Калеснік, Леся Украінка, Тарас Шаўчэнка... Зычліва і радасна здзіўляецца таленавітаму мастацкаму слову Васіля Зуёнка, Янкі Скрыгана, Андрэя Федарэнкі, Васіля Быкава, маладога гомельскага аўтара В. Бойкі...*

*Сёння на рабочым стале пісьменніка Філатава — творы пісьменнікаў-пабрацімаў з суседняй дзівоснай Украіны: ідзе праца над перакладамі паэзіі Івана Чарнецкага, Ніны Горык, Васіля Гея, Міхайлы Хіжко, Валянціны Штынько, Пятра Маха... Перакладаецца і проза Івана Корсака, Восіпа Струцюка...*

*Імклівай стралой ляціць жыццё... Няхай прыгожым, высокім будзе жыццёвы палёт чалавека-творцы!.. Няхай будуць блаславёнымі хвіліны, гадзіны, дні і ночы, калі пісьменнік застаецца сам-насам з белым лістом:*

*«Калі надыдзе хвіліна расстання з белым светам, зажурыцца памлелае сэрца, болем працятае, таму што так і не знайшоў самага шчырага і чыстага слова... Богу, маці, каханай, дзецям, роднай Зямлі... І закіпіць на імгненне стынучая кроў, бо не плюнуў у юрлівыя вочы тым, хто топча, зневажае апетае Купалам, Коласам, Гарэцкім, Брылём, Купрэевым, Рудкоўскім, Сахарчуком, Ніначкай Мацяш, Жэняй Янішчыц і Васілём Гадулькам. Таму што не шукаў паплечнікаў, каб разбудзіць усхваляванымі душамі беларуса, павесці на апошняе змаганне за годнасць сваю.*

*І блісне ў затуманенай свядомасці думка, што і я намагаўся “з народам гутарку весці”, што крышку падслухаў біццё ягонага хворага сэрца. І, напэўна, запяюць ціха смычкі, падхопяць мелодыю літаўры, і сплыве яна разам з душою ў абыякавае сіняе неба. І, пэўна, там, за крайняю мяжою, прысніцца мне ўжо жывая Беларусь...» («Запяюць смычкі»).*

**Зоя МЕЛЬНІКАВА**,
*доктар філалагічных навук, прафесар,*
*г. Брэст*

От бы ўсё — ад зярнят да расы —
Зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца!
Дакахаць, дапісаць… Папрасіць
Даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца.
Можна загадзя ўпасці, не жыць…
Ды з таго і жывем, што жывем недажынам.

Алесь КАСКО

**Раздзел I**

# Споведзь качагара



# Палескія калібры

Паціху ўцягваюся ў сваю, напэўна, апошнюю на вяку качагарную «адысею». Хораша на душы: сам сабе начальнік, ні за кога не адказваю, не клапачуся, аніякіх ініцыятыў не трэба. Адно намаганне — не спалі сушыльню, сам не апячыся. Хоць гудуць, крэкчуць вентылятары і топкі, але цішыня, асабліва ў начную змену.

Пад зыход траўня палім дзве печы, адна ад другой на адлегласці ў добрыя паўвярсты, папаб'еш ногі за дванаццаць гадзін, ды затое папаўзіраешся ў неба, шмат што прыкмеціш.

Ніколі не думалася, што ў цэнтры горада, побач з чыгункаю на аграмаднай сядзібе, перапоўненай пагражальна-трывожным прамысловым начыннем мэблевай фабрыкі, аціраецца процьма братоў і сясцёр нашых меншых. Сабакі, ад лайкі да дварняка, кабялі і сучкі, шматлікае іхняе патомства, з якога часам нават і сажрэ небараку які-небудзь згаладалы татка; каты і коткі (гэтыя аціраюцца больш ля кабет у цэхах і кабінетах). Чаіцы, качкі, нават кнігаўкі з блізкага Мухаўца прагвалтуюць у небе. Галкі, сарокі і здаравенныя варанякі, вераб'ёў чамусьці няшмат: ведае шэры «жыдок», што тут табе не калгасны зерняток. Пліскі, сініцы, галубы, пераважна палявыя. А найбольш уразіў наш, беларускі, калібры. Вісіць на месцы ў святле ліхтара, так хутка трапеча крыльцамі, што і карыбскі калібры пазайздросціць. А гэта ўсяго мухаловачка, шэра-карычнева-ружаваценькая, бы прывязаная да павуцінкі, крадзе ў павука здабычу.

Сёння больш-менш цёплая, першая за вясну, ноч, дык наведаліся кажаны, ці тутэйшыя, а мо з Аркадзіі, з форта крапас-

нога (там іхняя шматлікая, адзіная ў Еўропе, калонія). Ад змяркання да паўночы панасіліся туды-сюды, не зачапіўшы ні фермаў, ні бункераў, ні сцен, ні комінаў, і зніклі як адна.

Няма чамусьці сёння і ластавак. Тыя ўпадабалі нашу качагарку. Кожнае ночы прыляталі, сядалі на правады акурат над галовамі апаратараў сушыльнага абсталявання, разаграваліся, зацята цвіркацелі, азартна займаючыся грэшнаю справаю, наравілі капнуць чалавеку, няхай бы на спіну, абы не на галаву…

Затое роўна ў поўнач кораценька папярэдзіла перапёлка: «Спаць пара!» Не паслухаўся, бо чакалі вогненныя зяпы дзвюх печаў. Работы — удвая, заробку — аднаго кія: сочаць, эканомяць і вымовамі «ўзнагароджваюць».

Раненька сыпанула пад дзверы сямейка-вывадак нейкіх не нашых, чубатых, блакітных сініц, нехта патлумачыў: далёкаўсходнія. Не заспаў «смотрящий» нашага акалотка — драбнаваты, вышчыпаны шулячок-каршачок — так бы «злодзей у законе». З самага высокага маланкаадвода вынюхваў спажыву. Але яго абшмуклявалі два гарадскія галубы, што пад бункерам у пілавінні борзда клявалі нейкае насенне. Пара цыбатых, хударлявых курапатак прабеглі праз двор, схаваліся пад высачэзны, з калючага дроту плот. (Нясе народ, хоць пільнуюць, праўда, току ў плоце пакуль няма.)

Цалюткі дзень тлумнаю, з нейкім падкалодным болем была галава, лыгнуў цытрамоніну — пасвятлела, нават калібры ўспомніліся. Вычытаў, падправіў.

Усё жадаецца ўспомніць пра пальчаткі Быкава — не атрымліваецца. Мо сягоння і дасць Бог?.. Не даў…

# Коней цугляйце

У маю змену працуе электрыкам харошы, з ног да галавы тэхнічны чалавек, што ні на хвіліну не дае спачыну ўласным рукам. А яны ў яго ў прамым, хоць у пераносным, сэнсе — залатыя. А вось сэрца не жалезнае, а жывое, таксама беларускае, хоць па паходжанню ён — украінец.

Крыху і фізічна, і маральна прымораны, сядзеў я глыбокай ноччу за столікам, карпеў над лістком паперы, на які без дай прычыны паклалася:

Прусы, шведы, ляхі, яцвягі,
Хазары, манголы, персы, башкіры
Землі нашы таптаді, палілі,
У морах крывавых тапілі,
Дзядоў і ўнукаў на дыбу ўздымалі,
На крыжах распіналі,
Мацярок, сясцёр і дачок гвалтавалі.
А крывы, валынцы, бужане, драўляне, паляне
Зноў уставалі ў кайданах з жалеза і сталі,
У калодках, з стралою атручанай у грудзях,
З жаданнем адзіным у сэрцы
Уваскрэснуць і зноўку памерці
За горы, лясы і даліны,
За мову і песню, за волю Радзімы…

Так і заснуў на табурэтцы, паклаўшы галаву на складзеныя накрыж рукі. А світанкам уздрыгнуў, ускочыў: нечыя крокі, і шуфель у топку стукнуў. Ды зноў асалавеў. І толькі калі Валік, падкінуўшы за мяне ў кацёл, падышоў і прашаптаў на вуха: «Дзядзьку Лявоне, не спіце, уставайце, на волю ідзіце, коней цугляйце: Зорка Венера ўзыходзіць, будзе жыць Беларусь!» — канчаткова прачнуўся і дапісаў:

А топка гудзела, а сэрца трымцела.
Праз комін да зорак, да Сонца,

Да Бога ляцела думка —
Споведзь мая…

## Проза і паэзія

Перад полымем, у гарачыні і задусе, на карабок з-пад цыгарэт чамусьці паклалася: «П'яны чалавек свечку не паставіць». Накрэмзаў, задумаўся, так задумаўся, што ажно здрыгануўся, падскочыў: доўга — амаль ужо і нечаканы званок. Пабег з падцятым хвастом. А Яна ўзяла толькі позірк мой, пасабачы аддданы Ёй, слова ніводнага роднага не вымавіла, пільна так небам сваім у сонца маё паглядзела, знікла ў «планы свае». Вярнуўся, зноў крышку ў катлы падкінуў і сам «вогненнай» лыгнуў. Працягваю ўжо за сталом на паперы сведчыць: п'яны чалавек… — паўдня ў топку шуфлем кідаў, ні разочку не збіўся. А вось «прычасціўся» — раз-пораз то ў левы, то ў правы кранштэйн дзверцаў трапляю…

Ну, чаму, чаму «топка» мая, сэрца маё не можа спаліць Яе ў душы і з дымам чорным па свеце белым развеяць?.. Не спаліць, само згарыць, чаму?

І неўспадзёў з касмічнае цемры маіх пакручастых арбіт бліскае чатырнаццацігадовай Алёны Цвірко з-пад Баранавіч:

Я ведаю: ты зараз не са мной
у снах, на яве, целам і душой.
Але дазволь, дазволь маёй душы
пабыць з табой у гэты час журбы.
Не, я хлушу — я зараз не сумую.
Ты — тут. Са мною. Бачу цябе, чую…

Няхай яна, толькі-толькі раскінутае дзяўчо, а чаму Рудкоўскі ў ягоны апошні на зямлі пяцьдзясят пяты год выплёсквае з душы:

Кахаць цябе — забыць сябе самога,
Згубіць цябе — у вечнай скрусе жыць,
Бадзяцца блудным ценем па дарогах

Альбо запіць?
І я забыўся…
Я растаў з табою
У марыве зачараваных дзён…

З трапяткім сэрцам ачомваюся, і думаецца мне: проза цяжэй даецца за паэзію.

Развеяна марыва маёй зачараванасці. І я заўважаю зоры ў небе, пляшку пустую на стале, я чую: салоўка цёхкае, топка гудзе.

## П底размeнка

Сёння ў ноч. Прыбыў крыху нападпітку. Сустрэў мяне рознарабочы з абзэмкам у руках. Прыкметна, што не раз «прычашчаўся», працягвае абзэмак. «Купі, прадам — паўзмены тлець будзе. Знайшоў яму на «чарніла». Пайшоў ён, а я не знайду ў торбе акуляры. Папакляў і торбу, і сябе, папашукаў, нарэшце надыбаў. Але кляцьба не спынілася: асадкі няма. Нарэшце пішу.

Зменшчыкаў двое. Упокат ляжаць на маім бушлаціку ля пагаслае печы. Пад галовамі па пляшцы. Адна крыху надпітая, надзейна закручаная коркам… і мяне чакаюць.

Эх, напэўна, у панядзелак мяне мама спарадзіла: «Не идут дела». Што ні раблю, усё з рук валіцца. Вось і цяпер не магу распаліць топку. Нарэшце спачатку на шуфлі здабыў агню, потым печ падкарміў. Чакаю ад Яе званка — ні гу-гу.

Забег трактарыст. Паздароўкаўся. Далонь у яго, бы ў каня капыт. У мяне такая была, калі пуцейцам працаваў, — гарачая і шурпатая, бы наждак. Пабудзіў ён маіх зменшчыкаў. Пусцілі чарку. Трактарыст закусіў рукавом і пабег. Адзін са зменшчыкаў селядца пальцамі ў рапсавым масле вымакаў. Другі прыпеўку прапяяў: «Хорошо тому живётся, у кого одна нога. // И штанина не порвётся, и не надо сапога…» Прытэпнуў. Пайшоў чачотку пад «яблычка» (былы марак). Нарэшце, яшчэ глытнуўшы: «Слухай, дзядзька Леанардо, я табе з лаціны скажу: Арол мух не ловіць. А Мэта жыцця — жыць, а Мэта свету — быць…» — на

канапцы захроп. Першы спаў за сталом. «Балалайка-дэбільнік»-мабільнік маўчыць. А я маналог перад люстэркам у копаці і сажы выдаў: «Папугай ты, глушэц з носам пабітым і крывым. Алкаш, нікому не патрэбны. І адно табе застаецца, як старому сабаку, — узвыць, падціснуць хваста, і насустрач смерці паўзці. — І неяк неўпрыкмет наперакор бруду ўспалыхнула свечачка, зажурчэў жаўручок у душы: — У ростані нам існаваць наканавана, ды немагчыма годна, пакорна і цярпліва на белым свеце без цябе дажыць…»

## Здзіўляюся

У час, «няўрымслівы і благі», як ахрысціў прыканец ХХ стагоддзя Пімен Панчанка, не перастаю здзіўляцца. Радуюся, калі па-добраму здзіўляюць людзі, ды так часам, што ажно не верыцца, каб застаўся ў душах людскіх драбок дабрыні і сумлення.

Злыбяда ў мяне — гараж. Пусты, праўда, бо дабітыя «масквіч» з «жыгулём» ужо дзве зімы пад плотам даходзяць, ды з паграбком і канапкаю і пісьмовым сталом, побач з якім — груда майго «пісацельскага» архіва дагнівае. І стаіць гараж блізенька канавы, у якую паціху, бы Пізанская вежа, спаўзае.

Ужо скараціў яго на паўаршына, новую заднюю сцяну вымураваў, падпёр бетанаванаю «паўкалонаю», ды ўсё роўна думаецца, што гэпнецца, грымне долу. І як на тое — канаву чысцяць па поўнай праграме магутным экскаватарам, бензапіламі дужую на волі раслінасць па берагах нішчаць. Выпадкова натыкаюся на меліярацыйную брыгаду, бо ўжо і сцежка асіннікам да гаража зарасла. Прашу хлопцаў, каб не чапалі кораня «маёй» вярбы, бо на яго толькі і надзея, і пару каўшоў мулі пад сцяну ўкінулі. Папрасіў і, як заўсёды ў мой папэрадмаразматычны ўзрост, забыў.

Праз тыдзень роварам кручу, вачам не веру: пянёк стаіць і муля — пад сцяною… А па мулі, хоць і высокі, круты адхон, ужо пракладзена сцежка людскімі нагамі. Здзіўляюся ўжо па-чорнаму, бо гараж крайні, і, ходзячы паўз вугал, людзі спрыяюць спаўзанню…

Сам сябе здзіўляю. Па качагарскіх абавязках паўзу па металёвай стромкай лесвіцы на дах. Коміны трэба чысціць: машынэрыя наша ўсю гђру на качагарку дзьме. Не так, каб да сонца, прыблізна трэці-чацвёрты паверх. Ногі дрыжаць, рукі ў балясы мёртваю хваткаю ўпіваюцца… Баюся! Гэпнуцца баюся. Смерці баюся амаль у 70! А ў 20, 40, 60 столькі нагаворана ды напісана, як без хвалявання яе сустрэну… Неяк Уладзімір Андрэевіч, ужо незваротна хворы, выпраўляючы мяне ў Мінск з ягоным матэрыялам у «Полымя» да Галі Тычкі (менавіта Галяю назваў), спакойна вымавіў: «Да адыходу я адношуся сур’ёзна, без гвалту, непазбежнасць, ды не “чыстага світання”, як Купрэеў спяваў, а чорнага развітання-захаду за небакрай».

Другіх здзіўляю. Мая былая дакторачка, што з дзіцяці, як і яе пацыент, валейболам займалася, са шчырай прыяззю сустракае:

— Так даўно вас не бачыла. Як яно? Што, здавацца прытэпалі?

— Ды не, — гавару, — чалавеку дапамагчы трэба, ложак у вашай парафіі на пару дзён выбіць.

— Но праблем. Зробім! — зіхаціць чорнымі вачанятамі. — Ну, а ваша, ваша як здароўе?

— У качагарку ўладкаваўся. На кус хлеба з кефірам падрабляю.

— З вашымі лёгкімі??! Не жартуйце. Рэспіратарам абавязкова карыстацца! Глядзіце мне! — нібы жартуючы, нібы ўсур’ёз, але не здзіўляе, бо даўно ведаю яе чулае сэрца.

## Лёгка і цяжка

Лёгка і радасна ў маладосці абзавесціся сябрамі!
Нясцерпна цяжка і балюча ў старасць хоць аднаго згубіць!..

# Маці

Чамусьці так, як сёння, яшчэ ніколі не ўсміхалася мая родная мама Феня з партрэта, які перад сваім сконам прыслаў мой старэйшы брат Яўген з Ніжняга Ноўгарада ў Маларыту. І хоць мама спачывае пад правым крылом Маларыцкае старое школы, а брат — на Бугроўскіх могілках Ніжняга, мне падумалася, што мама папярэджвала, прасіла: не нервуйся, супакойся, не спяшайся, мой меншанькі. Мне з Жэнем тут стала крышку лягчэй, а ты затрымайся, пажыві і за нас крыху там.

Скалечаным у вайну
Правулкам сцішаны іду.
На вокны школы пазіраю,
Нібы пагляд матулі я чакаю…
Сціскаецца, на часткі сэрца рвецца:
Вось з гэтага апошняга акна
Глядзіць яна, здаецца…

Мая мама загінула ў світанні 22 чэрвеня 1941 года на ганку Маларыцкай школы, куды трапіў фашысцкі снарад…

P. S.: Пад «Дажынкі-2010» на месцы нашай школы ўзвялі гасцініцу. Сотні кубаметраў зямлі вывезлі. І матчыных костачак не знайшлі…

## ...Семдзесят

Ледзь ногі цягну,
Сэрца ные, зьбіць —
Трываць немагчыма.
Мімаходзь на фота зірнуў —
Родная мама на мяне глядзіць
маімі вачыма.
…Чэрвень сорак першага,
Дваццаць другое —
Клятае ранне, ліхое.
Табе, маці, дваццаць чатыры тады было,
А мне семдзесят у нябыт сцякло
З таго ранку,
Як цябе няма:
Забіла вайна.
З немаўляці
Прыёмная маці
Падхапіла тваю калыханку,
Цябе замяніла,
Трыццаць год да сэрца свайго туліла.
Калі супакой знайшла,
Калі да цябе сышла,
Абедзве побач былі,
Як маглі і адтуль берaглі.
Праўнучкамі вашымі разжыўся…
Мо і таму не забіў
Жыцця скрутны вір,
Што зрэдзь Хрысту маліўся.
Праз траву, карэнне і жвір
Да вас, матулі,
У летуценнях туліўся…

# Крыху пра душу

I

«Тады адкрыеш чужую душу, калі адчуеш яе адносіны да Бога», — недзе вычытаў. Акрамя бабулі Сцепаніды Пятроўны з майго за жыццё атачэння сапраўднымі адносіны да Бога былі толькі ў Алёны. І я іх не адчуў, значыць і не адкрыў яе душу — не адкрылася, напэўна. Затуманіла зямное? Засмактаў вір асалоды яднання? — Разбярыся: ты ж — задрыпаны «інжынер» (пасавецку) душы чалавечае…

II

«Калі пяе казак — душа ягоная плача», — пачуў з тэлевізара. Папаспявалася, папаплакалася. Калі ты спынішся?! — у роспачы і гневе пыталіся. А я хоць і спыняюся, часам амаль паміраючы, — усё адно спяваю. Напэўна, датуль будзе песня з грудзей ірвацца, і будуць плакаць яны, пакуль не сціхнуць назаўсёды…

III

Амаль веру ў бессмяроцце душы. Марацца, чакаюцца наіўнаму старому дурню яе будучыя сустрэчы на тым свеце. А боязь адыходу не пакідае. Не ратаваў, не ведаю, як ратаваць душу, як знайсці дарогу да Хрыста, як паверыць у будучае жыццё? Неяк пачуў, што любоў Бога прыходзіць у любым узросце, нават неспадзявана. Аценіў Ён, выбраў цябе і ўратаваў. Калі ж гэта здарыцца? Так мала часу ўжо засталося. І, напэўна, не варты я Боскае ласкі. Канешне, не варты, шмат саграшыў і не песціў Яго, баяўся, хоць не раз дзякаваў за тое, што жыву, што ўратаваў і ў вайну, за далоньку да смерці: стрыечнага брата-равесніка ў сцяну ўціснула ўзрыўная хваля таго снарада  нямецкага, што на тры часткі разарваў маю родную маці, а галовы нашыя з братам на адной падушцы ляжалі; і немец-доктар выратаваў ад газавай камеры ў канцлагеры; і на жыццёвай дарозе не раз заставаўся на валасінку ад смерці.

І зусім нязведаным шляхам цераз мужнага, дужага духам чалавека не дапусціў мяне Усявышні ў мае дваццаць два гады да граху цяжкага, страшнага. А сёння, вось у гэты момант, гэтай ночанькай яшчэ раз дзякую Богу, што жыў, жыў і яшчэ існую на Зямлі. І нізка-нізка кланяюся Табе, Божа, і таму чалавеку. І вось за што.

## Каб і духу твайго тут не было!

Вярталіся мы ад святара, буйнатварага старога айца Рамана, што выканаў святое таінства хрышчэння маёй дачкі Людмілы ў сябе на кватэры, апоўначы. Сцішана папіхалі зялёны вазок цераз пешаходны пераход Брэста-Усходняга. Цікавалі наўкола, баяліся чужога ліхога вока, спяшаліся схавацца ў купчыне нізкарослых акацый і язміну, за якімі цямнела наша пуцейская «казарма».

Я толькі-толькі пачаў выбівацца ў людзі, скінуў абрыдлую ватоўку пуцявога рабочага і ўсцягнуў на плечы шынялёк тэхніка дыстанцыі пуці і ў дадатак да ўсяго быў абраны сакратаром камсамольскае арганізацыі нашага немалога прадпрыемства. Самі разумееце, было чым рызыкаваць. Дапялі парога, паклалі дзіця на канапку. Кумы пачалі варажыць над пялюшкамі і паўзунамі, хвалілі дзяўчынку за тое, што ні войкнула і ні піскнула, а я выскачыў у хлявец, зірнуць сваю трусіную гаспадарку.

Збольшага падкінуў лапавухім бурака і сена, кірую дамоў і… чую прыцішаны ды валявы, грозны голас начальніка дыстанцыі, мажнага крэмень-хахла інжынера-палкоўніка Мікалая Рыгоравіча, які ступіў насустрач з-за пажарнага вагона, што стаяў акурат супраць вокнаў майго жытла.

— Вьюноша, ходіть-но сюды! З сённяшняга дня, з гэтае мінуты ты ў адпачынку, збірай транты і да маці, у Маларыту! Каб і духу твайго тут не было! Ніякіх пытанняў і пярэчанняў! Усёк? Выполнять! Прыйдзе пара — паклічу!

Я — бегма на манеўровую горку, адшукаў пуць, дзе фарміруецца «зборны» цягнік, уціснуўся да «гаўрылы» (галоўны

кандуктар) на тармазны тамбурок — і пагрукацелі на стыках і крыжавінах у родную маю старонку, да мамы. Тады яшчэ жывая была, малілася за мяне…

Не паспеў я пастукацца ў кухоннае акенца, паперад якога чакала мяне маці, як грукнулі ў дзверы брэсцкай маёй кватэркі.

Такі самы «в'юнаша», як і я, прыпухлагубы старлей-пагранец, відаць, нампаліт кіжаватаўскае заставы, шукае малодшага тэхніка-лейтэнанта Філатава. Ды выручае інжынер-капітан пуцейскае службы Васіль Кузьміч:

— Я за Філатава! — гукае з сянец, аціpae, пераступіўшы парог, з чапаеўскіх вусаў расу і тою ж крэпкаю рукою да болю цісне пагранічніку пальцы. — Айда на маю, маставую, базу-камору. Крэпка павязала сёння нас наша родная партыя. Не горш за мяне ведаеш першы параграф Устава Унутранай службы: загад начальніка — закон для падначаленага, павінен быць выкананы точна, беспярэчна і ў вызначаны тэрмін!

Палова маставой брыгады, тыя шэсць рабочых — дзядзькоў, што жылі ў інтэрнаце, і чатыры добраахвотнікі (газаэлектразваршчык і тры слесары) загрузілі ў крыты тэнтам вайсковы «газон» лесвіцы, рыштаванне, вяроўкі, пастромкі, рамяні бяспекі, каскі, нават манцёрскія кіпці, газавыя балоны, разакі, гарэлкі, скруткі шлангаў і пакацілі ў святле фараў… Толькі не на мост цераз Буг, як спадзяваліся маставікі, а пад Брацкую Мікалаеўскую царкву, дарэчы, у два пасы ачэпленую міліцыянтамі, ад радавога да палкоўніка, на рог вуліцы Савецкай і бульвара Міцкевіча.

Вернікі-палешукі на цвінтары пасталі на калені і адмаўляліся лезці на званіцу і купалы-цыбуліны храма. Затое шчыравалі «вольнанаёмныя» — слесары-прыблуды, бацька, добра пакрэмзаны і вайною, і турмою, з двума сынамі-мацакамі і зваршчык палескай крыві, зацяты бальшавік, хоць і «хрысціў» сваю партыю і ўздоўж, і ўпоперкі.

Да ўзыходу сонца завяршыць хрыстапрадажнае заданне не паспелі, бо прарваліся да царквы людзі, пусцілі ў ход каменне, кавалкі арматуры і трубаў, калы.

Міліцыя разагнала натоўп, ды з сямі крыжоў самы высокі, на званіцы, крыж толькі скалечылі, адрэзалі вяршаліну, нагнулі ад

асновы ў бок Савецкай вуліцы стрыжань, які доўга, бы гарматным дулам, страшыў люд паспаліты, аж пакуль уладары не аддалі народнае народу, і той аднавіў сваю красуню-цэрквачку.

У хуткасці ўсе пяцёра ў зямліцу сышлі. Электрагазазваршчык, трое слесараў, інжынер-капітан. Як адзін ад рака лёгкага. А я вось дасюль Богу і інжынер-палкоўніку за жытку дзякую.

## Яшчэ крыху пра душу

Калі мы па вобразу і падабенству Яго, то даруюцца нам грахі нашыя. Хіба гэта сын любы Ягоны і сагнаны Ім у апраметную за тое, што волі зажадаў, а не Ён сам дазваляе амаль усім нам больш за ўсё любіць сябе?.. І пакутаваць пякельна, калі нас не заўважаюць тыя, каго мы любім больш за сябе?

## За што кара?

Не толькі маё ўласнае назіранне — шмат людзей цяплеюць душою, калі ідуць дождж ці снег. Бо ападкамі неба абмывае, аднаўляе зямлю і яе насельнікаў, змывае бруд нават з душы чалавечае. А бруду гэтага — горы. Таму і дасылае Уладар Сусвету на людзей цунамі, тарнады, землятрусы, патопы ад стварэння да скону жыцця на Зямлі…

## Падзяка

Так даўно жадаў падзякаваць Богу, а толькі сёння сярэдначы ўскочыў да стала і дзякую — вось за што. Заснуць не магу. Шмат начэй кручуся, жытку сваю перабіраю, вочы тру. А перахрышчуся тройчы, яшчэ раз і яшчэ, добрым людзям шчасця ў Яго папрашу. Схілю сваю сівую галаву, узмалюся: «Дай,

Усемагутны, заснуць, хоць на хвілінку!» І паверце, людзі добрыя, далібог, засынаю.

А яшчэ часам папрашу слоўка забытае, з'яву, што на сэрца лягла, успомніць. І зрэдзь дапамагае і ў гэтым. Вось хацеў пра Сцяпана Крываля прыпавесць успомніць, як землякі нашыя назвалі яе лоўкім рускім слоўцам «побасенку». І зноў-такі, памаліўшыся, пад ранне ўспомніў.

## Не адгукаецца

Чамусьці падумалася, што забыўся Бог на свой розум у той час, калі ствараў бел свет і ў ім чалавека і даў чалавеку розум. Напэўна, аднымі пачуццямі, а мо і інстынктам кіраваўся. Бо розум памятае, бо розум пакутуе. І як жа ён пакутуе, чалавечы розум, калі адрываюцца чалавечыя сэрцы адно ад другога, жывыя, у гарачай крыві! Чаму гэта з хвіліны забойства Каінам Авеля нарадзіліся зло, распуста, вэрхал і бяда ў сэрцы любай Богам зямлі і множацца геаметрычнай прагрэсіяй? Яны пачынаюцца з адзіных жылкі, крывінкі, што нязменна чамусьці разрываюцца і нараджаюць злосць і адчай, якія разрастаюцца ў бойні сусветныя, разліваюцца морам чалавечае крыві на створанай Ім зямлі? Чаму няўмольна, бясконца збірае сваю заўчасную даніну Смерць, калі кожны пад сонцам хоча жыць, як, напэўна, хочаш жыць і Ты, Ойча? Дай адказ!

Не адгукаецца. І зноў грэшная думка, хоць страшыць, але просіцца. Сын Твой, Божа, 33 гады пакутаваў і ўзяў смерць тут, у нас, на зямлі, не толькі за нашы, але і за Твае грахі, каб прынесці зямлянам бессмяроцце. І слава Яму з веку ў век!

# Ноч перад 70-м на маім вяку Раством Хрыстовым

Пасля першае на небе зоркі ў губу і кроплі не ўзяў, але павячэраў, і, грэшны, не адным толькі посным, выцягнуў з-пад абруса сяніну — кароценькая трапіла. Паленаваўся за прыбраны стол сесці, асадку ў рукі ўзяць, з канапы ўключыў выклятую «скрыню». Дзякуй Богу, заснуў, і дзякуй пульту, уставаць не трэба было.

Пасярэд начы штуршок — і тру засвярбелыя вочы. Святло ўключаю. Сядаю за стол. Светла чытаю калядныя падарункі — пажаданні з-пад ялінкі: «Вясёлых Калядаў і шчаслівага Новага года, веры, адданасці, імпэту ў справах» ад Аляксандра Мілінкевіча з Мінска, «Удачи, светлых дней, благополучия и здоровья» ад унучак Аліны і Веранікі з Берасця, «Здароўя, цяпла, дабрыні і ладу» ад Ірыны Рудкоўскай з Хатынічаў, «Здоровья и счастья» ад стрыечнай сястры Наталкі з Гомеля і ад яе ж на вялікую радасць — пераразнятыя фотаздымкі той, перадваеннай пары нашых дзеда з бабай, маіх родных маці і бацькі і мяне самога на другім маім годзе яшчэ мірнае, шчаснае жыткі.

Раскрываю мо Дзедам Марозам, мо сынам Іванам ноччу прынесены разам з лістамі альманах «Поэзия» № 36 за 1983 год, патанаю ў артыкуле да 90-годдзя Уладзіміра Маякоўскага, які пачынаецца радкамі Ганны Ахматавай «Я тебя в твоей не знала славе, помню только бурный твой рассвет…». Уздрыгваю нечакана, вынырваю на свет Божы, бо паклікаў да Яго звон з нашае Мухавецкае званічкі. Кажушок — на плечы, чабаткі — на ногі, рукавіцы — на далоні, аблавушку — на лысіну, выбягаю ў дваццаціпяціградусны, рэдкі апошнімі гадамі ў нас мароз.

У царкве люду багата. Служба перайшла раўнадзенства. Малады прытомлены бацюшка, ойча Зміцер чытае памінальніцы, просіць у Бога ратунку «болеющим младенцам, страждущим, пьющим отрокам Николаю, Ивану, Роману»… «От, халера, — падумалася. — А мяне прамінуў».

Любяць у нашай парафіі святара. Сціплы, далікатны, бессярэбраны руплівец, не з прапароў ці мянтоў, рабочага сын з пакорнай усмешкаю просіць прабачэння за тое, што недзе згубіў Пасланні нядаўна спачылага Патрыярха ўсяе Русі Алексія II і во здравіі Уладыкі Берасцейскага Іаана да вернікаў з нагоды Раства, чым яшчэ больш хіліць да сябе паству сваю. Віншуе са Святам, запрашае да абраза і Крыжа.

Цалую і абраз і Крыж, вось толькі не прыхапіў, жмінда, капейчыну, каб укінуць у скарбоначку, даруйце і гэты грэх — не здагадаўся, не ведаў завядзёнкі. Бацюшка хуткагаворкай у бародку:

— С праздником, Леонид Георгиевич, рад вас видеть у нас.

— Узаемна, Зміцер Валер’евіч, дзякую.

А на паперці шчыра абдымае доўгі, худы ў царкоўным аблачэнні мой былы вучань, спартсмен Сярожа, на сёння выпускнік школы і першы памагаты святару. Ён упэўнена вызначыў сваю будучыню — які там спорт — у Жыровічы, у семінарыю, да Бога.

«Эх, каб і мяне, брата свайго, крышку бліжэй прытуліў да грудзей у 2009-ы год свайго нараджэння Сын Божы…» — марыцца мне.

Тройчы хрышчуся на вобраз Хрыста, пакідаючы царкву. Мароз крыху спаў. На змену ночы спяшаецца адвечны дзень. А куды траплю я, ідучы насустрач сонцу? Ёсць дзве дарогі ў кожнага — да Хрыста ці да Люцыпара, трэцяй няма. Ды шмат хто крочыць па ёй…

## Чысты чацвер

Па кожнай па вясне
Чамусьці ўспамін нясе мяне
У сорак пяты-шосты…
У ляхавецкі Чысты наш чацвер,
Калі малы я атрымаў дарослых
Адказны той наказ-давер.
— Бяжы, Лявонка, — кажа баба: —

Бальшавічок ты ў нас —
Цябе ўратуе уваскрэслы Спас.
Канешне, грэх, яно, малога,
ды адмалю яго у Бога:
такі ўжо скрутны час —
анціхрысты мардуюць нас…
Аж хрумснула бялюткая кашулька,
на штоніках камар парэжа нос,
з грамнічнай свечкаю бабулька
шле у царкву, дзе уваскрос Хрыстос.
І запаліў я свечку нашу ля амбона,
пацалаваў Хрыстовы крыж,
сыходжу з паперці пад звоны бома,
трапляю у Палесся цемру-ціш.
Нясу у прыгаршчах агеньчык,
напэўна, першы раз ў жыцці малюсь:
не памірай, не згасні, мой праменьчык…
І раптам у канаву з галавою шусь!..
У тванні, расцы выпурнаю…
І рук, і свечак мора сустракаю.
Дэтынонько, ты будэш жыты,
і свічэчка твоя будэ горіты,
алэ ты выплачэш ны мало слёз,
однэ — ны одвэрнэцця від тэбэ Хрыстос…
Оплэўка тут, Макеіха, Юстына баба,
дзядоў, дзядзькоў, равеснікаў грунтоўны стос…
Яны так па-сялянску шчыра рады,
што я жыву, што праз вякі жыве Хрыстос.
Напэўна, хутка да Яго прыйду,
сустрэне «в венчике из роз»
і усміхнецца, ўспомніўшы маю царкву,
бабулін, матчын, Алёнчын
і крышку-крышку мой Ісус Хрыстос.

## У цемрадзі

Здорава, хораша і прыемна падкінуць ноччу ў топку паліва, падрыхтаванае тваімі папярэднікамі, падзякаваць шчыра адстаўнікам — палкоўніку і шараговаму матросу.

А потым усёй істотаю адчуць жывёльную, першабытную радасць ад прысутнасці ў цемрадзі твайго існавання жывога: птаха, звера, мухі, камара, павука, матыля, чалавека пад зорным, месячным, асабліва пад апраметна-чорным, як сёння, пагрозлівым небам.

З якога праз ледзь прыкметныя акарункі сівых аблокаў раптам зірнуў крывавым вялізным вокам месяц. І гэтая гіпнатызуючая бездань нябёсаў нагнала на душу нейкую звярыную жуду-жах. Амаль не ўзвыў, бы воўк. Жахнуўся, перахрысціўся, у качагарку схаваўся. Паціху ачомаўся, ды нешта зноў пацягнула на волю.

Акурат поўня з хмары чорнае выплыла, і такая яскравая, што разгледзеў на ёй таго вялізнага бессмяротнага вершніка без галавы. Пануе над светам чорным уладарна-велічная, аж мароз па скуры ідзе. Глядзіць, бы пакінутая дачка яе на сваю маці-Зямлю ў роспачы і дакоры, імчыць у бясконцасць сусвету разам з Зямлёю, качагаркаю і са мною — і яшчэ раз сцвярджае, няхай асабіста толькі для мяне, што кожнае жывое на зямлі — таксама сусвет.

## А ў хаце

Пасля працяглае ў лютым адлігі (наліліся пупышкі) вятрыска, пыл, завея, «чортавы вяселлі» рэжуць сечкаю вочы, мароз, дубеем, асабліва нагам дастаецца. «А ў хаце, — марыцца чалавеку, — такая раскоша: цёпленька, чысценька, утульненька і гарачага ўзвару ладны чыгунец…»

## Плачу я

Плачу я, тыдзень плачу: згубіў свае «качагарныя зацемкі». Напэўна, не знайду. Акурат чытаю Міколы Лупсякова «Вераб’іныя ночы», выдання 1958 года. Час, калі я толькі-толькі ў друку абазначыўся. Радуюся і смуткую. Чаруе паэзія на старонках ягонай любові да дняпроўскага раздолля і ў берагах, і на плыні; і на берагах плыні пачуццяў людскіх. А смутак таму, што наступаў ён на горла песні сваёй з грудзей.

Чаму крануў менавіта Лупсякоў, якога я не бачыў, не ведаў і мала чытаў? Бо сусед мой — доктар, зямляк яго, распавёў неяк, што душа Лупсякова — Купрэеўска-Гаўрусёўска-Пісьмянкоўска-Сысова-Стральцоўска-Філатаўская. І нахрана тады яму патрэбны былі гэтыя эмтээсаўцы, калгасы, клубы і танцы, гэты гной на ботах і кажусе? Не, не рваў ён гною, не кідаў на «кары». А як блісне пачуццё, як захопіць праўда жыцця людскога, то і ходзіш ад катла да катла шчасліва-ачмурэлы: «Спіш, Петручок? Ну, спі, спі. Як я радуюся, што ты зноў са мною…» Пасля такога агульна-чалавечага, трапяткога, вечнага і цягне з людзьмі пра людское падзяліцца…

Зноў выскачыла, пра што мовіць збіраўся. Але вось трапілі на вочы мае пантофлі, дарэшты занядбаныя, дзірка на дзірцы, латка на латцы. Спалю я сёння іх. Але дзякую ім: успомніў — карцела распавесці пра мамы прыёмнай Люсі бахілы.

## Маміны бахілы

То былі трафейныя нямецкія салдацкія, абшытыя цыратаю, з адрэзанымі амаль па шчыкалатку халявамі валёнкі. Трапілі яны ў нашу ляхавецкую хату шляхцюка-галоты Клапатоўскага (Бог даў яму шчасця скокнуць за Буг, а нам — прытуліцца пасля канцлагера ў ягонай старызнай, дзіравай, пад саламянай страхою,

на два коміны будыніне) пад Раство 1945 года. Служылі яны хворай на сухоты маці за атопкі. І за паўдзесяцігоддзя пасля вайны пабіліся моллю і мышамі на рэшата. Бацька не раз купляў маці даволі прыстойныя чуні і пантофлі, але яе нязменна цягнула да бахілаў.

І вось аднойчы, калі мама скокнула ў Маларыту, ці нават у Брэст, знёс бацька яе дарагі абутак чорт ведама куды — у неабсяжнае за сялом балота з загадкаваю назваю Пэрэцілле.

Пасля вяртання з вандроўкі маме сумавалася, уздыхалася, плакалася, бы сёння мне, тыдні з два. І вось ідзе, ззяе, нават тварам пачырванела, у руках бахілы цягне: адшукала разам з блізкаю суседкаю Настачкай Гарчыкавай, ад яе пільнага, ласкавага вока не схаваўся бацькаў сакрэт.

Можа, і ў мяне ад мамы перайшла звычка прыкіпець да зношанае на рыззё апраткі і абутку, хоць на людзях, як і яна, я люблю фарсануць свяжуткай блакітнай ці вышыванай сарочачкай? Але бывайце, дарагія мае «макраступы», вечная памяць, ляціце ў топку. Ну ж і дыму нарабілі… А можа, дасць Бог, і я свае зацемкі знайду…

## Эх ты, бэйла…

Чалавека, які адзначыўся неверагодным глупствам, у нас называлі бэйлам. Чаму? І хто такі Бэйла? Трэба пашукаць. Мне думаецца, яно ад яўрэяў ідзе. Але гэта пакінем на потым.

Мой сусед, цёзка, равеснік, падобны на мяне неверагодна. Нас нават на паляшуцкі манер ахрысцілі «Братыкы-Братыкы». Як і я, — былы спартсмен — «іграві́к», фізкультурны работнік. Набыў ён новую «Яву» і не шкадаваў ёй паліва ў карбюратар. Менш за «100» на спідометры не трымаў. А я меў адмысловую дубальтоўку, бескуркоўку — «іжаўку», да якой ужо сапраўдны брат-ляснічы падкінуў мне яшчэ аднаствольнае курковае ружжо тых жа маркі і 12-га калібру.

Па позняй восені яшчэ прыцемкам «Братыкы» выскачылі на качкі на нашу Рытку, пад мае Ляхаўцы. Халадрына неверагодная.

Сляза да веек прымярзае. Ды на асфальтавай дарозе нас уздумала абагнаць нейкая задрыпаная, аднацыліндровая «Чэзета» ажно з трыма грыбнікамі «на барту». Лёнева душа ўскіпела, і ён паддаў яшчэ газу. Пакуль даімчалі да Плаўка, лысіна і спіна мае ўзапрэлі ад страху. Качак мы не надыбалі і, добра набіўшы ногі, перад дарогаю дамоў прылеглі пад лазовы корч адпачыць. Белабрысая ягоная галава пакоілася на маім плячы, як і ружжо ствалом да вуха (з дубальтоўкаю як госць хадзіў Лявон). У час ціхамірнай гамонкі ў нейкае Богам дараванае нам шчаснае імгненне мы абодва падскочылі, аглушаныя і анямелыя, разам з выклятым ружжом, што азвярэла бабахнула, нават асмаліўшы ягоны віхор і маю шчаку: механічна, машынальна, несвядома я націснуў на курок.

З паўгадзіны маўчалі, з задумлівай пакутаю гледзячы ў злінялае за лета неба. Нарэшце ён выдавіў.

— Эх, і бэйла ты, бэйла дурное! Нас жа бацька мой кожан дзень папярэджваў: кій адзін раз у год сам страляе, а то стрэльба!

Бацька ягоны быў нашым ваенруком.

Божа, колькі разоў за жыццё ўспаміналася гэтае здарэнне. Колькі перадумалася: «А каб яго? Няхай бы лепш — мяне!..»

## Тэарэма

Зімою, напрыканцы лютага, сярэдначы пабудзіў звышімклівы разрыў — трэск грому. За акном ірвануў шалёны вятрыска. У адно імгненне як і не было — сціх. Прашапацеў, крапануў дожджык. Зноў узрываецца, звярэе, шалее. Маланкі ў няспынным грукаце рвуць неба. Пакрысе перуновыя раскаты змаўкаюць, сплываюць у нікуды. Праз хвілінку зноў правіцца сатанінскі баль. Лыпае-гасне святло. Зноў — зацішша.

І ў паўзмроку світання з нейкага куточка памяці чамусьці запісваецца чыёсьці: «Любоў — тэарэма, якую трэба даказваць кожан дзень». І адразу спяшаецца на паперу сваё.

У зацвілай, смуроднай жудзе пакоя хворага душою чалавека — яе маці — вар’яцее, бы тая ноч, піяніна. З-пад пальцаў з набалелых

грудзей праз мелодыю ірвуцца на волю невыказны боль існавання і ціхая ўсмешка надзеі таго чалавека, каму я бясконца жадаю даказаць тую пякельна-крывава-салодкую тэарэму, і не магу.

## Промні

Даўно яна не адгукалася, а то — кліча! Маці згубілася, хворая маці — і чалавек разгубіўся. Я бег да іх, бег апантана чвэрць сотні кіламетраў. Бог мілаваў: знайшлася маці. Маладзенькі сяржант міліцыі звярнуў увагу на прыгорбленую, босую ў зімовыя паўночы ля царквы старую.

У той момант, і толькі на момант, яна даручыла мне сваю надзею на шчасце. Зноў адчула яго немагчымасць, і зноў, гордая, адштурхнула. І злякаўся я, адступіў, пакінуў іх без ніводнай капейчыны ў кішэні на канечным аўтобусным прыпынку, куды завёз нас нейкай добрай душы шафёр. Так яна пажадала, загадала, скамандавала. Я і падаўся ў свет чорны, зноў-такі подбегам. Потым, сам амаль звар’яцелы, рынуўся назад, але не заспеў. Напляваў сам сабе ў апляваную ёю душу. І без мяне знайшліся людзі на гэтай нямілай зямлі.

А калі цягнуўся дамоў, на нуднай дарозе снегачыста сустрэў, які шалёным кругаверцем дыска сеяў позаду сябе і наўкола, і ў вочы мне калючыя промні пяску ў жывых промнях узышоўшага сонца. Крыху адлягло: сонца сее ў душы людскія надзею.

## Не веру

Бясконцы сусвет у часе і прасторы, ад мёртвага, жудасна-чорнага небыцця праз ільды, агні, праз касмічны пыл і смецце, ад нейтрына, электрона, атама, малекулы цераз валентнасць вадарода з кіслародам ты дайшоў да жывога! (І думаецца мне, што толькі на нашай зямлі.) Далібог, не веру, што недзе там, сярод сонцаў і планет ёсць недзе жывыя душа і цела!.. Цёплыя,

пульхныя, жадана-салодкія быць да бясконца побач, разам праз бясконцасць старое, як свет, і з кожнай раніцай, з кожнай сустрэчай з сонцам зноў толькі народжанай нашай цёплай, пульхнай, жывой зямлёю! Трапляе на вока кавалачак сотаў мядовых, бурштынавай слязою налітых Папекавымі пчолкамі, Божа, жывых! Свецяць, праменяць, духмяняць красою зямною, адчуваю — жывуць!

## Не крадзіце

Іх зрэдзь сустракалі ў гарадскім аўтобусе, які ішоў праз апошнюю чыгуначную станцыю, дзе спынялася апошняя электрычка, на якой ён дапінаўся дамоў. На іх звычайна не звярталі асаблівай увагі. Мо толькі якая празмерна пачуццёвая кабета часам кіне вокам на ягоную сівізну і яе рудаваценькую русявасць разам з блакітам вачэй на крыху падпухлым маладым твары. Яны паводзілі сябе сціпла і ціха, абое агорнутыя болем блізкага расстання. Іх сэрцы і думкі поўнілі поруч асалода і пакута на працягу… вось ужо амаль васьмі гадоў.

Часам, праўда, нейкая неспадзяваная сіла клікала яго ў маладое бунтарства, сугучнае і яе жаданню, ды яна знаходзіла моцы пагасіць юначыя парывы, баялася, як і ён, выказаць, хто яны адно аднаму. А яны былі зладзеі — кралі каханне самі ў сябе, не маючы рашучасці пазбавіцца пут абавязку, якімі скруціў іх няўмольны жыццёвы лёс.

Пасля развітання ён крочыў у нікуды, не бачыў месяца ў небе, не чуў чароўнага пошчаку салаўя, якім яны захлыналіся ўчора, яна — першы раз у жыцці. Нават жадаў сустрэцца са смерцю, сысці назаўсёды; і разам з тым, як ніколі, імкнуўся падоўжыць жыццё. Каяўся лёсу, не Богу, бо далёка быў ад Яго, за свае падспудныя грэшныя думы. Не верыў, але на кончыку сэрца нёс надзею на найдаражэйшую часіну-хвіліну…

А яна, ужо далёка ад яго, узіралася ў тую самую, што і ён, захмараную поўню, адчувала ласку подыху весняга ветру і ціхутка

спавядалася Маці Прачыстае. Прасіла ў Яе і люду дараваць за жывыя сардэчныя мару, слабасць і грахоўнае пачуццё. І пасля аддананага яднання з Небам на ейнай душы станавілася крыху святлей і спакайней…

Яны бязмежна любілі. Як у дзяцінстве, верылі і жадалі.

І марыцца мне, што Боская ласка іх не міне, што зліюцца ў рэшце рэшт яны — двое — у адно.

## Заплач

Узнёсла-чыстае, крывава-праведнае, што сказаў Купрэеў вершам услед Купрыну, падмацаваў прозаю: калі пасля мяне заплача хоць адна жанчына на Зямлі, я вярнуся да яе… Хацеў упэўніцца ў дасканаласці выслоўя, гартаў, перагортваў «Палескую элегію», ніяк не змог знайсці. Выходзіў з сябе, бурчэў, сварыўся. «Эт, — няўцям падумалася, — наведаецца, спытаю!..» Агламошаны ачомаўся: не, не наведаецца, няма ні Купрына, ні Купрэева. Не вып’ю я з імі ні ў Перабродах, ні на Гары…

— Заплач! — узмаліліся вусны.

— Заплач! — ускрыкнула душа да цябе.

Можа, ужо і сустрэліся ў сусвеце жывыя душы Алесі, Аксаны, Аляксандра Іванавіча і Мікалая Сямёнавіча? А нашы, Алёна, пакуль жывуць пад трапяткімі сэрцамі. Але ты заплач, заплач пасля мяне на зямлі! Я буду доўга чакаць…

## Дайшоў

У апошні час растуць на могілках крыжы,
А я начую пераважна ў гаражы.
Чамусьці адзначаю даты.
І вось дайшоў, што нарадзіўся ў дзве тысячы другім,
А паміраю ў пераможным сорак пятым.

## Лапу цягну

Ці бачыў з вас хто, як памірае стары, заслужаны ды сагнаны ўжо з двара сабака? Не мае моцы ўтрымаць у струджаным целе корань свой. І цяжкай хадою вандруе недзе недалёка ад роднага котлішча, пакуль не наткнецца на п'яную кулю ўчастковага ці крывое кола шафёра…

Лапу цягну насустрач небараку: і я — натруджаная на гэтым белым свеце істота, самасагнаная з уласнага падворка.

## Як без рэха?

На кожны гук ёсць рэха на зямлі! Падабаецца, другі раз натую. Патухлы, спустошаны, чытаю сваё, кранае, нават да слязы. Сам, уначы, «на службе», нікагуські побач, аж халадок, маразок, ветрык ад крыжа да патыліцы. Мышка слізганула, маліпуткая — мышаня Пік — уваскрэс! Во, яно — жывое — побач! Мышаняці страшна, а мне — міла. Браты мы ўсе, кроў у нас, пакуль жывыя, — цёплая. Нават бусел доўгаю дзюбаю п'е цёплую кроў, а на халодную носам круціць (таксама другі раз успамінаю).

Паставіў кропку. Выйшаў на волю. Сонейка прачынаецца, плойма шпачанят з усіх куткоў горла дзярэ, плісачка бліз калюжыны ад маёвага дажджу хвосцікам дражніць, недзе з-пад бэлькі выціснуўся чмель, загудзеў, бы мядзведзь, пасвятлела, абудзілася, усміхнулася, адгукнулася рэхам жыццё!

Раздзел II

# Мае Каралішчавічы*

## (Радкі са шпіталя)



* *Каралішчавічы — разрабаваны былы Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў.*

## Страшней за ўсё

Зыркім сонцам, смаляным духам, белапеннай квеценню зноў сустракаюць мяне па ранняй вясне мае «Каралішчавічы» — Рэспубліканскі шпіталь для інвалідаў вайны імя Пятра Машэрава.

Да чорта смуродны спёрты дух палат і калідораў. Чытаю «Былое и думы» Герцана сярод вячыстага ельніку, радуюся, дзе які вузельчык запісваю, стоячы за счарнелым, пабітым груваcткім бетонным латком («інжынернае збудаванне для пропуску вады ці ўкладкі кабелю»). І хораша так успамінаю Гогалева: «Белинский любил писать стоя, я — тоже!..» І ў душы маёй вугалёк асалоды таксама жарыць. І раптам апякае Герцанава: «Говоря о московских гостиных и столовых, я говорю о тех, в которых некогда царил А. С. Пушкин, где до нас декабристы давали тон, где смеялся Грибоедов, где Чаадаев сердил оторопевших аристократов и православных славян колкими замечаниями; и куда, наконец, иногда падал, как Конгривова ракета, Белинский, выжигая кругом всё, что попадало…»

Толькі ўсяго занатаваў, а як заныў мой спадарожнік нязменны «панскі», набыты ля шпалаў і рэек, радыкуліт, як закарцела прысесці. Не! Бурапеніць душа, марыцца менавіта «выжечь», спапяліць абрыдлую рэчаіснасць вакол невынішчальнай натуры «старого больного белоруса» (Някрасаў), які, нягледзячы ні на што, дзеліцца апошнім, што мае, і сярод нэндзы, убоства, маразму знаходзіць у сабе жыватворчыя сілы спяваць і танчыць, нават на адной назе, з мыліцай пад пахай пад крыху ап’янелы гармонік

скалечанага таксама на вайне, сляпога музыкі — крыва ці палешука.

Скончана доўгая, цяжкая, турботна-згрызотная праца. З дапамогаю шчырых людзей, насуперак рэальнаму становішчу па-сапраўднаму сумленнай беларускай культуры выдадзена апошняя кніга, за якую застаўся вінен выдаўцу яшчэ мільён цяперашніх беларускіх грашанят. У «Страле жыцця» ёсць кароткая развага-трывога пра немагчымасць стварыць «справаздачу» пра наяўнасць сумлення ў душы пісьменніка, пра адсутнасць натхнення і змардаванасць тлумным жыццём.

І вось сёння тут, у шпіталі, адчуўшы безвыходнае, гаротнае, асуджанае на здзек становішча гэтага болю і стогну той найвялікшай сусветнай бойні, гэтай жмені апошняй нашага «счастливого» народа, які ўратаваў ад здзеку чужынца Радзіму, а яе «век кожны новым здзекам крыжуюць» (Змітрок Бядуля), загарэўся жаданнем стварыць не справаздачу, а споведзь з мінулага, якога аж зашмат, і дум, якія зрэдзь нараджаюцца ў прабітай у першы дзень вайны фашыстоўскімі асколкамі маёй галаве.

І прычына гэтаму не толькі скрутныя абставіны апошніх год уласнага жыцця, дзе перапляліся і радасць з журбою, і шчасце з роспаччу, і сумленне са здрадаю, а галоўнае — стан нашага грамадства, у якім пануюць, па словах усё таго ж Герцэна, «новый елей, помазывающий царя, новая цепь, налагаемая на мысль, новое подчинение совести раболепной византийской церкви…»

Якая моц, як на стагоддзі, як не ў брыво, а ў вока, як паўтарылася на апошнім вітку нашай ліцвінскай гістарычнай спіралі! Але цепліцца надзея. Жадаецца, каб напаткала шчасце нашу Беларусь, няхай бы пры нашчадках нашых. Няхай бы хоць яны адгукнуліся на покліч Каліноўскага: «Смерць не страшыць. Страшней за ўсё няволя»…

## Будзе чакаць

Ад задухі і бяссоння з цяжкай, тлумнай галавою выйшаў на ўзбор'е зацягнуцца першай сёння цыгарэтай, утаймаваць крыху неўтаймаваную маю душу ў стынучым целе. Рой думак,

трывог свідруюць свядомасць. Страшаць грахі «вольныя і нявольныя». Гасне, спыняецца, гальмуецца грэшнае маё існаванне. Але жадаецца прынесці родным па крыві і духу хоць драбок дабра, і далібог, апошнім часам і гэта не атрымліваецца, а мо і не патрэбна яно нікому?

Сустракаюць ужо падпітыя, скалечаныя, адзін зламаны ў крыжы, прыгнёны да саменькай зямлі, шчырыя добразычлівыя «афганцы».

Не адмовіўся сагрэцца з імі за адным пяньком, на якім праз дні і ночы будзе чакаць забітага салдата, і на нашай, і на іхняй вайне, чарка гарэлкі, накрытая скарынкаю хлеба.

## Табе і Радзіме

У суцэльным кашлі і «пеўнях» у дыхаўцы адпакутаваў гэтую перадняздзельную ночаньку, а на світанні зноў закарцела паспавядацца крыху, найперш Табе. На апошнюю моц скалечаных маіх грудзей шчыра паведаміць свету тыя асалоду і святло, якімі азарыла Твая чулая душа маё згасаючае існаванне. Паціхеньку прашапацець зноў Герцэнава: «Обеими руками уцепиться за чашу, налитую через край, которую протягивает сама жизнь, непрошеная, с обычной щедростью своей — и пить и пить, пока чаша не перешла в другие руки».

Разам з тым, прамаўляючы толькі Табе, мне неяк употай хочацца, каб пачула маю споведзь і мая, усё яшчэ занядбаная, у ланцугах духоўнага прыгону, мая родная, амаль ужо знямелая Беларусь.

## Мама

8 сакавіка 2010 года. За ўвесь пакутна-трывожны гэты Жаночы дзень (чакалі вынікаў аналізаў з выклятай людзьмі, а мо і Богам, бараўлянскай лабараторыі) — дзве ласкавыя сустрэчы па дарозе з вакзала (шчаслівы, браў білет да-мо-о-оў!).

Пры саменькім выхадзе з аўтобуса купчына дзетак-смаркачыкаў — да прыстойнае бела-русавалосае кабетчыны ў цёмных акулярах:

— Мама, мама, матулечка, мамачка! — у паўтузіна ўзрадаваных галаскоў: некуды з «дзіцячае вёскі» ў святочнай апратачцы спяшаюцца.

Сціснулася маё сірочае сэрца (бацькоў вайна забрала), адагрэтае прыёмнаю мамаю, — зрываецца з вуснаў само па сабе:

— Ну і мама! Са святам вас!

— Шчыра, шчыра дзякую, — шчыра, мякенька-чыста пабеларуску, нават акулярыкі зняла і міла ўсміхнулася ласкавым блакітам, здагадаўшыся, што і я здагадаўся пра яе вялікае сэрца.

І такі дай, дай, Божа, ёй здароўя і, канешне, вывадку (пры жывых бацьках) ейнаму…

## Дзед

Перад клямкаю шпітальных дзвярэй сустракае мяне дзед. Сухенькі, чысты, паголены, з вожыкам упартых сівых валасоў. З-пад вусоў толькі два на ўвесь рот сцалелыя зубы заціснулі піпку.

— І я з адзінаццаці гадоў цягнуў. Нядаўна кінуў, у трэці раз. Ды і вам, напэўна, пара завязваць, — упікнуў дзеда.

— А каков дзесяток ужо розменял, милай? — хараша, так, неяк па-пензенску.

— Восьмой, к сожалению, батя.

— Ну-ну-ну, паря, тебе до меня ешо топтать и топтать, — патрапаў мяне па плечуку. — Слышь, мил человек, открой ворота, туговата, чёрт побери, пружина, силёнок ужо не хватает, как-никак сотню добиваю… — асцярожнай хадою падаўся не ў ліфт, а на лесвіцу…

«Беражы і яго, — падумалася мне, — ласкавы наш Божа!..»

# Адліліся ваўчысе

Зноў уваскрасіла мяне кудзеркаватая, «плакучая» бяроза, якая выцягнулася вершалінаю ў неба вышэй за пяціпавярхоўку, а веццем кранае дол. Учора вечарам у заледзянелай снежнай кругаверці гнуў і калечыў яе злы, шалёны вятрыска, ажно жадалася выскачыць з палаты, падставіць плечы, «заламаці ды расчасаці» яе доўгія, усё яшчэ густыя косы. А сёння на світанні не варухне ні галінкаю, ні пупышкаю, ні сучком, ні бяросты істужкаю.

Такая ціша, такая райская раскоша пад магутным купалам лёгка-празрыстага, блакітнага неба, што замірае душа, што верыцца — ёсць Бог. Менавіта Бог Ойча, які стварыў і ўтаймаваў сусвет. Бясконцы ў бясконцасці сусвет з сонцамі і планетамі, касмічнымі віхурамі, каметамі, чорнымі адтулінамі, з «матэматычна даказанай ісцінай і «з Хрыстом»; нарэшце стварыў чалавека, надзяліў яго «думкаю-пачуццём, думкаю-болем, думкаю-пакутаю» і словам, каб змог гома сапіенс, пазнаўшы радасць жыцця, выказаць невымоўную падзяку Творцу за Ягоныя Працу і Цярпенне грахоў зямных…

Зноў я ў сваіх «Караліўчавічах» і «Іслачы», у «доме творчасці» — назва якому шпіталь імя Пятра Машэрава для інвалідаў вайны. Лепш сказаць, войнаў: Айчыннай, афганскай, чачэнскай і яшчэ чорт ведае якіх, дзе лілася не толькі хрысціянская крывінушка. Дзе калечыла крупаўскае, рурскае, чыкагскае, шанхайскае, а ў асноўным уральскае і запарожскае жалеза — ад В’етнама да Чылі — маладыя, дужыя, не толькі хрысціянскія душы і целы.

Зноў тое ж убоства, нэндза, пакуты, зноў той невыказны боль, што працінае кожнага, хто трапляе сюды з пакуль яшчэ не скалечанаю канчаткова псіхікаю. Вось сёння трое хворых душою старых цалюткую ночку тапталі ў калідоры ўралагічнага аддзялення тую выклятую «народную сцежку», якая, як жартуюць сястрычкі і санітаркі, «не высахне ніколі». Зноў старасць тая, як сказаў Салжаніцын пра Сталіна, «сабачая старасць нікому не патрэбнага чалавека»…

І на дзіва, зноў той неўміручы памяркоўна-міласэрны, з гумарком, менавіта беларускі дух у суседстве з чэрствасцю і нахабствам ужо зманкуртчаных сусветнай набрыддзю беларусаў.

— Ну што тут у цябе? — прыбегла сярэдняга веку санітарка а пятай гадзіне ранку ў палату да старога, якому ўчора зашылі страўнік, а заўтра адправяць у замерзлую, амаль памерлую вёску. — Павярніся, павярніся, ціхенька, асцярожненька. Бачаш ты — чысценька, а мой ты харошы, дай табе Божа ачухацца. Давай, давай выллю з «палявое сумкі».

І яна ж яму ні сястра, ні свацця, і ў дзеда за душою ні дулі з макам… А вось нявестка раз'ятранай сучкаю кінулася на старога: «Аніяк не працягнеш ногі свае клышавыя, варушыся хутчэй, машына чакае…»

Зноў тыя неўміручыя чэргі ў нужнікі, у фізіятэрапеўтычныя кабінеты, у буфеце па кефір і ляндрынку, да цырульніка, да сястры-гаспадыні, да дактароў і загадчыкаў аддзяленняў.

У 203-м кабінеце палiклінікі прымае «вуха-горла-нос». Вядзе рэй у чарзе малады, дужа сімпатычны «афганец», да сясцёр, што бяруць кроў і з вены, і з пальца.

— З 1988 года пасля раненняў і кантузій я атабарыўся тут. З кожным годам усё горшае і горшае. Пакуль жылі франтавікі, то трымаўся парадак кульбамі, пратэзамі, проста кулаком у зубы зарваўшамуся мурло-інтэнданту, на якіх быў у акопнікаў звярыны нюх…

— Эх, унучак ты мой міленькі, горш за ўсё на вайне маткам і дзеткам, увогуле «бабскаму батальёну». Сам ведаеш — на жаночае цельца ласы і фрыц, і іван, і жоўты, і белы, і чорны. Але я не пра гэта, хлопчыкі і дзяўчаткі, — устравае ў размову сагнёная ў крук, сівая, са шкляным вокам бабуля. — Гэта не сакрэт для свядомых людзей, што таго, хто панюхаў пораху, больш за астатніх цягне гарэліцу хлебам занюхаць. Можа, і ад гэтага ў іх насы сінеюць? А я, пакуль не змаразмілася зусім, у газеты папісвала і больш за ўсё з тых сініх насоў смяялася. І пакараў жа мяне за гэта Гасподзь Бог, адлiліся ваўчысе сіняносых слёзкі. Зірніце во, як губы мае пасінелі, аніякія памады і ўзвары не бяруць…

Чарга весялее, і ветлівенькая, маладзенькая дакторачка неяк байчэй гукае з-за дзвярэй: наступны, калі ласка, можна і ўдвух!..

## Унук спіць

Астап Тарасавіч з лагодаю на душы неўпрыкмет прачнуўся на золку. Суседзі паціху пасопвалі. У целе адчувалася нязвыклая ў апошні час дужасць, у галаве — ціша і празрыстасць. З-пад цёплае, свяжуткае коўдры (учора санітаркі памянялі пасцелю) сярэдняга ложка яму смачна зірнулася ў суперпластыкавае, еўраакно пятай палаты тэрапеўтычнага аддзялення рэспубліканскага шпіталя для інвалідаў вайны імя Машэрава ў сумнавядомых на цалюткі бел свет Бараўлянах. Машэрава — першага сакратара ЦК КПБ, хоць і лічыў, як і ўсіх палітбюроўцаў, коласам неўмалотнага поля, стары паляшук чамусьці паважаў усё сваё жыццё, і асабліва ў старгод, у сённяшні нікчэмна-скрутны час, калі яму дайшло, што той быў сапраўдным гаспадаром.

Праз акно на яго пазірала купчына жывых шыкоўных ялінаў у церусенні дробнага сняжку, падсвечанага рудавата-малочным мроівам з соцень вокнаў гмахаў-дамоў толькі што заселенага жылога квартала медыцынскага гарадка. Летась тут вялася бесперапынная будоўля і таксама цешыла начамі дзедавы вока і сэрца маланкава-трапяткім заравам электразваркі.

Тарасавічу падалося, што з ялінаў звісаюць доўгія белыя пацеры-гірлянды, пенькна аздабляючы плаўным згібам і першазданаю беллю гэтае каляднае хараство. Стары зірнуў пільней выцвілымі, учора двойчы пракропленымі падгнілаю нямецкай «гуманітаркаю», вачыма і зразумеў, што гэта не цацачная, штучная тасьма, а жывая галіна жывой бярозы, равесніцы і суседкі ялінаў. Летась вакол дрэваў паважна і заклапочана шпацыравала стракатая пара сарокаў, а па галінках скакалі, агідна і рэзка дзерлі горла нахабныя шызаваронкі, нібы спрачаліся і спаборнічалі з імкліваю сямейкай вогненна-рыжых вавёрак за пачастунак з чалавечых рук.

Астап паціху ўзняўся з ложка, падышоў пад акно, абаперся на падваконне, зачаравана глядзеў у срэбную казку ночы. І з узнёсла-шчымліваю журбінкаю яму ўспомніўся пачатак дзяцінства. Бы сённяшняя чароўная ноч, залітая месячным святлом праз

аконца невялікая кухня бабулінай хаты. Бабуля на прымастах, а ён на шырокай лаўцы, абое ў палатняных, адбеленых, з вышыванкаю сарочках і з меднымі крыжыкамі на шыях сустракаюць наўколенцах новы дзень. Хрысцяцца, шапочуць малітву перад вобразам Міколы Угодніка, што вісіць у чырвоным кутку акурат над ягонаю галавою. Як і тады, сёння з грудзей просіцца сляза, вусны бы самі па сабе мовяць бессмяротнае: «Отче наш, Иже еси на небесех! Да святится имя Твое, да приидет царствие Твое, да будет воля Твоя, яко на небеси и на земли. Хлеб наш насущный даждь нам днесь; и остави нам долги наша, якоже и мы оставляем должником нашим; и не введи нас во искушение, но избави нас от лукаваго. Во имя Отца, и Сына, и Святого Духа. Аминь…»

Пад ранне дужэе мароз, святлее неба, плывуць па ім празрыстыя аблокі, але здаецца Тарасавічу, што аблокі стаяць на месцы, а плыве бязмежная густая просінь з бясконцасцю зіхотка-трапяткіх зор у ёй. У душы азываюцца струны, нараджаюць мелодыю-песню да Яго, да Сына Божага. Астап упэўнены, што Хрыстос менавіта там, сярод гэтай бясконцай у прасторы і часе просіні. І так жадаецца, каб Ён пачуў сум і радасць чалавека, яны ж ідуць з саменькага донца істоты старога. «А ці адгукнецца, ці зробіць ласку халопу грэшнаму, ці зразумее неадчэпную думку служкі Свайго?» — шчыміць у ціхамірнай трывозе душа. І так захапіла, паланіла старога думка пра шлях да Бога, што стрэлам здаўся яму ўсхрап суседа па ложку, яшчэ старэйшага за Астапа, як ён сам гаворыць, таксама «акопніка» — франтавіка. Ад пят да макаўкі працяў чалавека стрэл-прамень страху, ажно спынілася на момант, потым ашалела сэрца, падумалася нават: яшчэ імгненне — і пэнькне. Абліўся потам, схаладзеў Тарасавіч, хоць сусед больш не хроп, адно нешта бязладнае, манатонна-цяжкое, трывожнае шапацелі ягоныя вусны на смуглява-пажоўклым, на ўздзіў гладкім яшчэ твары. Аслабелы, згаслы, сцяты Астап лёг, нацягнуў на сябе ажно дзве коўдры, але доўга не мог сагрэцца і забыцца хоць на хвілінку. Калі толькі-толькі ад грудзей праз доўгае масляка-ватае цела ў ногі паплыло цяпло і змроіліся вочы, прачнуўся жаўтатвары.

Выцягнуў з тумбачкі нейкі хрумсцячы, бы з цыраты ці бляхі, спартыўны касцюм, доўга храбусцеў, усцягваючы на азадак і

плечы. Нарэшце без цырымоніі ўключыў свяцёлак над ложкам, але даволі дужае святло заліло ўсю палату. Жаўтатвары пагаліўся электрычнаю брытваю, асвяжыўся адэкалонам. Чорт ведама куды сышоў ні свет ні зара. Напарнікі заварушыліся, папрачыналіся. Гадзіннік паказваў дзесяць хвілін на шостую.

Акурат такою парою расплюшчыў вочы са сну малады Астап ліпеньскім грымотным світанкам 1944 года. Вуркатала неба зноскамі хмар учарашняе навальніцы, што наляцела на хутар на сыходзе гарачага дня. Грымела разрывамі мін і снарадаў зямля недзе ўжо за Бугам, куды выперлі немчугу чырвоныя батальёны, палкі і дывізіі. Толькі-толькі прыйшло вызваленне, а за ім і павестка хлопцу ў ваенкамат.

Маці ў палаючай печы прыставіла чыгуны з капустаю і бульбаю для сябе і парасят. Корпалася з цадзілкаю і даёнкаю, збіралася да хлява. Ражком хусткі ацірала на распухлым ад плачу твары кроплі поту з слязьмі напалам. Бацькі ў хаце ўжо не было. «Прызыўнік» выйшаў за маці ў хмельнае ад ляснога духу ранне. Нешта пацягнула яго ў клуню, у той куток, дзе стаяў бацькаў варштат з процьмаю сталярнага і слясарнага начыння, стружак і заржавелае драбязы. На вока трапіла спарахнелае, поўнае старых, скарыстаных цвікоў, вядро. Знайшоў малаток, уладкаваўся ля ціскоў, паціху, з роздумам стукаў па кавадлачку. «Усё бацьку помач будзе, — думалася сыну. — Хто ж яму дапаможа? Калі то вярнуся? А мо і ўвогуле галаву пад таполяй злажу?» «Там, сярод поля, росла таполя, тай на салдацкай, ай, на казацкай, магіле», — ледзь чутна, з сумам заспявалася.

— Сумныя нашы песні, сыне, — заспеў Астапа статрохгадовы бацька. Яшчэ не зломак, высокі, крышку-крышку ссутулены, сухі, жылавы, з сівымі, бы ў Шаўчэнкі, доўгімі вусамі, з густою чупрынаю, з цёмна-блакітнымі, валашковымі вачыма пад калматым брывом. — Запрагай Ворана, бяры дымары, стаў дзежкі — да калод паедзем: паповы пчолы ад дажджу ў нашых вуллях на ночку схаваліся, паўнюткія мёдам налілі.

— Ото, гаразд! — вырвалася ў Астапа. — З сабою на вайну пару рамак вазьму.

— Гары яны гарам, — адказаў Тарас, — і тая вайна, і тыя хвашысты, і тыя бальшавікі. Бач, як хутка, в одён дэнь, усіх падмялі, як

гэта яны і мяне не мабілізавалі? Пад аўтаматамі нашых гоняць! — нібыта ўсміхнуўся, сплюнуў, расцёр вялізным пасталом. — І табе дула ў спіну ўсунуць, бандэраўцы прышпіляць. У сваё апранайся, не шкадуй, да першай крыві ні штаноў, ні гімнасцёркі не дадуць, каб хоць хлеба з вадою далі…

Чула бацькава душа. Як павезлі Астапа ў свет вочы, на перадавую трапіў. У танкавы дэсант кулямётчыкам — ухапіліся камандзіры за набытую ў польскай марской пяхоце ваенную ягоную спецыяльнасць. Батальённы старшына выдаў салдату кантаваты трафейны кацялок, асірацелую, нейкага Лёхі, лыжку-відэлец, на якой прыгожай вяззю было выразана, што Лёха нарадзіўся 8-III-1926 г.; дабавілі два сухары і чарпак гарохаўкі ў кацялок. Праўда, скаромнай: сярод бульбы, лаўровага ліста і гароху можна было ўхапіць і тлусты кавалак мяса. Імчала Чырвоная Армія па апошніх гонях Польшчы. Перад боем на пляц вывелі ў бацькавых чобатах і ўласнай марынарцы, што маці адшукала ў сямейным скарбцы. Да першага бою абмудзіроўкі не далі і прысягі не прынялі. Крывёю такую ласку патрэбна было заслужыць.

Хмарыліся, касавурыліся штрафнымі ўзводамі і ротамі на пляцу, куды пажалавала на пастраенне высокае начальства. Кампалка — палкоўнік, камдывізіі — падпалкоўнік, і крыху развесялілі «бандэра-пятлюраўскую рвань». Начальства нечага не падзяліла. Палкоўнік набычыўся, нешта дакляраваў, слінаю пырскаў, а каржакаваты здаравіла падпалкоўнік падсунуў яму моўчкі пад кірпаты нос складзеную ў руцэ-аглоблі дулю і нават вялікім пальцам у ёй пахітаў. Неяк лягчэй на душы стала, спадабаўся падпалкоўнік войску. «З такім не прападзеш!» — шмат хто падумаў і пасля каманды і прызыўнага звону трубы пабег да свайго танка, якія вуркаталі за садамі і агародамі.

Няёмка было сядзець на бервяне, адной рукою трымацца за танкавую башню, другою сціскаць кулямёт. Танк выскачыў на адхон невысокага ўзлобка, да вяршыні якога, дзе віднелася купчына дрэваў, вяло суцэльнае мора золата — белага пераспелага жыта.

Астап паспеў заўважыць і адчуць, як на тым зялёным астраўку ўзарвалася ўгору закудзерка шэра-белага дыму, як у тое ж імгненне спатыкнуўся, асадзіў, заглух, засмярдзеў гарам танк. Як нешта разанула вогненна-пякучае па грудзях, а ён працягнуў перад са-

бой рукі, не выпускаючы з іх зброю, як крывава-чорным мроівам затуманіла свет вочы.

Астап не ўбачыў, не пачуў, што новаспечаныя дэсантнікі саскочылі на зямлю, заглушылі жах сустрэчы са смерцю адчайным «ура», за смуродным гарам спаленай саляры паперлі на вяршыню, скінулі фашыстаў з пазіцый, даімчалі да кінутага немцамі фальварка. Астап не бачыў, не чуў, што на тры чвэрці палеглыя ў палаючым жыце роты выканалі бязглуздае ад генеральскай фанабэрыі заданне, спланаванае асабістамі як выпрабаванне заходнікаўнацыяналістаў.

На змярканні ён ачуняў пад грушаю-дзічкаю ў сцалелым ад агню лапіку жыта. Над ім схілілася жанчына ў пілотцы з зорачкаю на чубочку, пручалася расшпіліць ягоныя сцятыя зубы горлачкам доўгае бутэлькі. Падужала — і ён адчуў у засмяглым роце гаркава-салодкую, п’янкую вадкасць.

— Маліся, марачок, ужо не думала, што заспею жывым, — прыязна-шчасліва ўсміхнулася, падціснула пад пілотку пасму русых з сівізною валасоў. — А зараз зірнем, што там у цябе ў грудзях? Падмацуйся крыху, — уціснула ў рот кавалачак шакаладу, падцягнула пад бараду, адрываючы ад раны ўжо прысохлую цяльняшку. І Астап зноў страціў прытомнасць.

— Чуеш, Ганна, на які ляд ён табе здаўся? — вярнуў з небыцця Астапа нейкі невыразны мужчынскі гнюсавы голас. — Чаго ты вылузваешся, ратуеш недабітага бандыта-бандэру? Давай я яго з «ТТ». Усё роўна скапыціцца: крывёю сышоў, белы, як смерць.

— Сам ты, гад падкалодны, скапысішся! — сястра выпусціла крысо шынялька, на якім цягнула Астапа, сашчапіла ў замок абедзве рукі і ўрэзала суразмоўцу ў скронь, аж той носам зямельку ўзараў.

— Ты на каго, на каго, сука? На старшыну-смершаўца руку ўзняла? Пад трыбунал абаіх падвяду, калі ён не здохне. Ні табе, ні яму да скону дзён не дарую! — ацёр кулаком з носа юшку.

«Калі толькі не замужам, за жонку вазьму», — падумаў Астап. І стрымаў сваё слова, хоць Анюта была старэйшаю за яго.

З адным правым лёгкім (пасечанае асколкамі левае ампутавалі), да якога адразу пасля вайны прычапіўся яшчэ і туберкулёз, дацягнула Ганначка Астапа да васьмідзесяці пяці гадоў. Праўда, заква-

ска ў яго абзэмкаватая, паляшуцка-валынская была, але і жонка сябе не шкадавала. Медык па адукацыі і прызванні, яна вазіла яго ў Крым, на башкірскія кумыс і мёд, да маскоўскіх, кіеўскіх і варшаўскіх прафесараў, нават перапісвалася з парыжскім свяцілам. Потым сама на ўзмежку лесу завяла пчольнік. Гатавала на мёдзе, прапалісе, матчыным малачцэ, на травах і карэньчыках настоі з узварамі. Пагэтаму і сёння Астап Тарасавіч, дзякуючы ёй, мае яшчэ моц у целе, пачуццё і ўдзячнасць у сэрцы…

Суседзі па палаце разышліся, а яму не хацелася ўставаць. Ляжаў, круціўся, уздыхаў, стагнаў, перабіраў у думках свой доўгі жыццёвы шлях. І краечкам душы адчуваў, што на гэты ўспамін быццам падштурхнуў яго жаўтатвары, нейкая быццам чутая недзе раней ягоная кантужаная гамонка.

Але вось рыпнулі, адчыніліся дзверы. Увайшоў, спыніўся ля крана жаўтатвары, і, мыючы рукі, праз сцятыя зубы раптам прагундосіў:

— Нумар пяцьдзясят чатыры, устаць! На выхад, без вещей!

«Ён, сабака, ён, шкура, ён, кат! — самлела сэрца, задрыжэлі рукі, абліўся потам ад ілба да пят стары. — Смершавец, што парашыць мяне хацеў, я ж з ім сустракаўся неяк і пасля вайны, здаецца, і не так даўно, ды не пазнаў тады… Божа Святы, памажы ўспомніць…» — і раптам асяніла. У генерала, на дачы!

Пасля выхаду на пенсію, як належала франтавіку, у пяцьдзясят пяць, Тарасавіч застаўся працаваць у сваім гор-райгазе, толькі не прарабам, а сантэхнікам. І як заслужанаму, надзейнаму спецыялісту начальства даручала яму абслугоўваць знакамітых ягамосцяў. Так ён трапіў аднойчы за жалезныя дзверы абнесенага мурам генеральскага гмах-лецішча. Дзверы адчыніў яму вартаўнік у вайсковай без пагонаў форме, якому з ганачка нешта загадаў генерал, і, прыклаўшы палец да вуснаў, прашаптаў Тарасавічу:

— Заходзь, заходзь, чакаю, толькі, калі ласка, цішэй.

Астап акуратна і спаранька прывёў да ладу і пліту, і калонку, і ракавіны, і ванну, амаль на палюшка сышоў праз чорныя дзверы і замілавана застыў перад закутым у граніт стаўком, ля якога ляжала адмысловая вуда, нават з чарвяком на гачку.

Засвярбела закінуць. Закінуў — у момант клюнула, і золатакарп залапацеў хвастом у пастрыжанай мураве. Клявала па-

чорнаму. Мо з тузін ужо выхапіў малайцоў, як з мацюкамі наляцеў вартаўнік, замахнуўся лапатаю:

— Я табе налапаю, вонь рваная, рвань ванючая, у карцары згнаю! — вызверыўся на поўную глотку.

Ды тут сокалам з яснага неба наляцеў генерал і без размоў аберуч, зусім, як тады Ганна, урэзаў служываму ў зубы:

— Внук спит, пёс смердящий! Забыл?..

…«Сапраўды сабака, ды смярдзючы, — задумаўся Тарасавіч. — Тхне з яго тое крывава-берыеўскае, напэўна, па турмах назіральнікам ці катам век аціраўся. Урэзаць бы па карку. Аднаго разу хапіла б: жоўты нейкі, хутка дойдзе, напэўна, рак, — адштурхнуў плечуком жаўтатварага. Выгукнуў у асалавелыя вочы: — Внук спит, пёс смердящий! Сыдзі з дарогі!» — памыў рукі, і падалося Астапу, нібыта на ўмывальніку засталося разводдзе ад нечага чырвонага, можа і ад крыві. «Ліха з тым лячэннем, бы фюрар у Асвенціме жыдкоў, кормяць у рэспубліканскім шпіталі», — сплюнуў, выцер рукі, заслаў ложак, пацягнуўся да тумбачкі і шафы, пачаў збірацца да сваёй дзевяностагадовай Ганулі.

У жаўтатварага праз два дні скончыўся ветэранскі тэрмін лячэння — дваццаць адзін дзень. Ён доўга корпаўся ў сваёй, памерам з яго самога, спартыўнай торбе. Нарэшце на саменькім дне намацаў поліэтыленавы мяшэчак, рука адчула нешта мяккае, гладкае, бы шаўковае.

— Во, і шапка ці каўнер будзе, — усцягнуў торбу на плечы. — Номер трыццаць тры! На выхад, с вещами!..

А ў шпіталі доўга ламалі галовы: «Якая гэта падла прыручаных вавёрак кожнага году нішчыць?..»

## Доўга і шчасна

Напрыканцы верасня, як і ўсё мінулае лета, на пачатку — задужа сонечнага і гарачага, а на зыходзе — пахмурага і халоднага, скупога на сонца, блакіт, на грыбы і ягады, але шчырага на дажджы, слату і садавіну, — Пятро пачаў збірацца ў дарогу. Не надта далёкую, але пакутна-цяжкую.

Нудзілася душа, застаўлала цела. За доўгія зімы і леты ладнавата падпорчанае, набрынялае болем, над былою моцай якога запанавалі не тое каб і раннія змаршчыны — вынік атруты табакаю і гарэліцай, увогуле — вынік забубеннага, няўрымслівага ягонага жыцця.

Цягнік на Мінск адыходзіў а палове дзявятай вечара, а ён прачнуўся пара хвілін на пятую рання. Усцягнуў «рабочыя» транты, пацягнуўся з ліхтарыкам у хлеў. З такою жудою, з такою нудою пакарміў апошнюю сваю «гаспадарку — сямёра рыжашэрых трусоў», ні на адно імгненне не губляючы з думкі не так сваю немач, як сваё наканаванне на старгод — абавязак перад не на жарт захварэўшаю і ўвачавідкі пасівелаю жонкаю, з якою агораў трэць веку, і мройна-шчасную мару-надзею на бяляварудзенькае сваё шчасце, што ззяла і гасла, гасла і ззяла яму ўжо некароткі час, і ў золата ейных валасоў апошнім часам таксама пачало ўплятацца павуцінне заўчаснага срэбра. «Халера на іх, на цяперашнія паскудныя батарэйкі, — узарваўся Пятро. — Другі раз на месяцы мяняю, а ліхтарык жарыць, бы лучынка на бабуліным посвіці». Ён быў вымураваны ў комінку бабінай пліткі і з горам напалам дазваляў чытаць, лежачы на «крулеўскіх ложках» — скрынях з-пад запалак: бабулі — Евангелле, Петрыку — «У краіне райскай птушкі», «Генерала Таптыгіна», «Вія», «Страшную месть», «Міколку-паравоза», «Глыбокую плынь» і нават «Ціхі Дон»…

Скупы, блякла-тоўсты прамень ліхтарыка выхапіў з цемры ладнаваты кош сабраных тыдзень таму яблык, крамяных, чырванабокіх, пругкіх, сакавітых. «Эх, Маці Божа, як то хутка яно праляцела!..» — шуганула маланкай у мазгу. За чвэрць веку таму, таксама хворы, усё з тою выклятай надзеяю; а каб то не яно, каб, крый Божа, не Бараўляны, ад'язджаючы са сталіцы, купіў Пятро на Камароўцы ў эстонцаў пяць саджанцаў яблынь. У тамбуры, ля катла, за невялікі хабар правадніцы, абвязаўшы карэньчыкі змочанай мешкавінаю, прывёз дамоў, разбіў садок. Думаў: «Памяць па сабе пакіну». Перамагло тады Пятрова прыдзвінска-крывіцкае «буйства» хваробу. Дрэвы ўжо закарэлі, імхом параслі, у дрымуча-густую крону ўбіліся і сёлета надзіва ўрадзілі.

А Пятра, таксама ўжо закарэлага і заімшэлага, зноў лёс у жуду нясе, зноў эскулапы нешта не разбяруцца, зноў раба Божага дасылаюць у той сумнавядомы не толькі на Беларусі шпіталь.

Закарцела перабраць кош, але імпэт надта хутка атух. Зверху на выгляд здаровы, пунсовабокі, прыгожы яблык спадыспаду быў чорна-руды, бурачкова-сівы, ужо нежывы. Чвэрць каша такіх назбіралася, у сметніцу, у небыццё пайшлі. «Вось ты цяпер простым вокам бачыш, што да чаго, а цябе будуць нейкаю атрутаю свяціць і выносіць прысуд, — думаў Пятро, выносячы памерлае, гнілое. — А дзе твая сметніца цябе напаткае? Адно папрашу, каб у Маларыцкай зямлі, якая з першага дня вайны роднай стала, пахавалі!»

Бы за пісьмовым сталом, непрыкметна і хутка ляцеў час. Даўно развіднела, згубіўся ліхтарык, а Пятро ўсё кешкаўся ў хляве, даводзіў да прыблізнага парадку той неўявімы вэрхал, што панаваў наўкола і ў душы. «Не падужаеш, не давядзеш, брацекандраце, — журыў сябе Пятро, — сплыло, праляцела. Агонь, ачышчальны агонь патрэбен, толькі ён даводзіць да ладу ўсё на зямлі».

Вочы незнарок паглядзелі ўгору — у сонечных промнях, што зазірнулі праз слухавое акенца, на бэльцы ўбачыў ластаўчына гняздо. Акурат пасярэдзіне бэлькі прыкіпела яно да размеркавальнае каробкі, ад якой уздоўж-упоперкі ішла тоўстая, двухжыльная чорная электрычная праводка.

Будаваў свой хлеў Пятро яшчэ тады, калі яблынькі былі падлеткамі, а Пятро Аляксеевіч цягнуў лямку дырэктара гарадское школы, хоць жыў у блізкім ад горада сяле. Знаходзіў ён тады час і сілы на працу, будоўлю і гаспадарку. (Трымаў карміліцукароўку, парсюкоў, меў птушыны загон і за паўсотню трусіную «ферму».) «Хвігу з макам ты пацягнуў бы ўсё гэта, ды яшчэ ў бялюткай кашулі, пры гальштуку свяціўся б на людзях, — аж закарцела закурыць Пятру. — Каб не жонка твая — амсціслаўская пакорная парабчанка, хоць таксама завучам, ужо вясковае дзесяцігодкі, трыццаць пяць гадкоў адбухала…»

З чорнае палескае гразюкі-«калу», як называлі яе ў сяле, шурпатае, у гарошынку, з пер’ечкам на дне сферы і з засохлай тоненькай травіцаю, што звісала з бакоў, гняздо кантраставала з

чыста-белымі шпалерамі і фарбаю плінтуса, якія ён прыкмеціў упершыню. «Божа мілы, Божа ласкавы! Адкуль я прыцягнуў тую бэльку? Як утрымалася на ёй гняздзечка? А галоўнае, як знайшла яго ластаўка — ці законная ягоная гаспадынька, ці прымачка? Чаму не звёўся ў ім ластаўчын род і весяліў людскія душы да сённяшняга дня?» Пытанні, пытанні і яшчэ раз пытанні, паспешлівыя адказы на іх, бо на разважлівыя не хапала часу, цярпення і смеласці. «А бацька гаварыў, што ластаўка мінае страху злога чалавека…» — зноў успомнілася дзяцінства.

… — Ды не грызі, не душы ты сябе, як стрэлам, аж сэрца зайшлося, — ударыў ціхі голас «амсціслаўскае парабчанкі», што, абапіраючыся на дзве кульбы, стаяла ў дзвярах. — Хадзем, зелле тваё стыне, ды і «хімію» глытаць час. Патрэбнае я ўжо спарадкавала ў торбу.

На чыгуначнай станцыі перад апошнім крокам у вагон нехта дакрануўся да Пятровай торбы, і найдаражэйшы ў апошні час яму голас, якога ён так даўно не чуў, заставіў здрыгануцца, азірнуцца, замерці:

— Угледзела, што няма нікога побач з табою, вось і гукнула. Ідзі, ідзі, шукай сваё месца. Пяць хвілін засталося, хоч гэту кроплю побач пабудзем.

У плацкартным вагоне было цемнавата. У закутку нікога.

— Дай, пацалую! — яно, бялява-рудзенькае ягонае шчасце!

Божа, а за што, адкуль такі дарунак анёльскі амаль праз год нашага расстання?

— Засумавала, любы мой, а нялюбы (яе венчаны муж) зноў уцёк, нават кватэры не зачыніў.

— Ручніком яму вышытым дарожанька, — неяк крывавата ўсміхнуўся Пятро.

— Едзь, едзь. Не на вяселле спяшаешся, можа, і пад скальпель патрапіш? Даў бы Усемагутны, каб і нам сонейка ўсміхнулася, каб крышку па-людску пажыць.

…Іх было дзевяць, хто трапіў у хірургічнае аддзяленне рэспубліканскага шпіталя ў гэты дзень. Аднаго адразу адправілі ў бел свет. Сухенькага, ужо прызвычаенага да немачы, што налаўчыўся абыходзіцца без страваводу і нават чарку ў шлунак браў праз ушыты бліз пупа патрубак.

Дзядок злякаўся. «Вот и отпели донские соловьи», — чамусьці яму ўспомніўся Шолахаў. Злякаўся таму, што зразумеў: усё!.. І таму злякаўся, што яго ніхто нідзе не чакае. Ні здраднік сын-палкоўнік, што нават памперса шкадуе бацьку, ні распусная маладая жонка ўсходніх крывей, якая як магла і куды магла вытурвала ветэрана з ягонай ветэранскай кватэры. І ўжо больш за тры гады цягала яго з бальніцы ў бальніцу, дзе ён дагніваў на казённых ложках. Чарговы ложак павінен быў быць адзінаццатым. Ужо зачарапелі і прараслі рудым мохам акурат дзясятыя ягоныя казённыя падштанікі.

Адвезлі чалавека да месца прапіскі «хуткаю дапамогаю», праўда, не пашкадавалі небараку і пары бялізны, і бальнічнай піжамы з куфайкаю…

Семярых папхалі сястрычкі на каталках у аперацыйныя пад нож. І толькі Пятра, аднаго Пятра, накіравалі на аналізы і абследаванні самай сучаснай на сёння апаратураю. У апошнім, выніковым кабінеце сярэдніх гадоў здаровы чарнявы доктар соўгаў свае прычындалы і спераду Пятра, і ззаду, і з абодвух бакоў, і калі Пятро стаяў, ляжаў, апускаўся на калені ці кукішкі. Кідаў стэтаскоп на канапу, адыходзіў, мыў рукі, не выцершы іх, падыходзіў, зноў соўгаў. Нарэшце скрыгатнуў зубамі, гаркнуў і на дактароў, і амаль на ўвесь шпіталь:

— А якога хрэна вы яго прыперлі сюды?! З Брэста ты? Зямляк, значыцца. Роўна ў гадзіну «берлінскі» дамоў шыбуе, за чатыры гадзіны дапрэ. На, трымай дваццаць тысяч, па пошце вернеш, а то і не трэба. Няма чаго тут вуглы абсцыкаць ды паветра псаваць!..

Ачмурэлы, яшчэ больш чым у час развітання з рудзенькім шчасцем сваім, Пятро насмеліўся папытаць сястрыцу, якая ўвесь час запісвала нешта за доктарам:

— Што гэта значыць, дачачка, га?

Тая адказала, міла ўсміхнуўшыся:

— А гэта значыць, што жыць, жыць вы будзеце доўга і нават шчасна.

«Каб твае слоўкі ды Богу ў вушы», — падумалася Петрусю.

# Радкі са шпіталя

*Шпіталь Машэрава, 22.01.2010.*

Прывітанне, Жуковіч!
Васылыку, мій сыноньку!..

Напэўна да самага майго «датэпвання» па «дарозе ў вечнасць» да «небыцця» я буду звяртацца да Цябе гэтым ляхавецкім прычытаннем. Божа, колькі тут атрымалася гэтых «да» — прыназоўнікаў і прыставак!

Вось і прыплыў Ты да мяне ў чарговы раз сваім новым чарговым ласкавым зборнічкам, які прыхапіў раб Божы Лявонка ў чарговае наведванне бальніцы. Дзякуючы за ўсе папярэднія твае кніжкі і гумарную «юбілейную» тэлеграму, чытаю Твой лірычны спеў, Твае оды і гімны, гуканні і прычытанні, песні-рамансы. І з першага прачытання да апошняга радуюся Твайму пачуццю, Тваёй радасці ад «жывога жыцця», якое рвала душу і Бялінскаму, і Дастаеўскаму, і Талстому, і Верасаеву, і нават нашаму Міколку Аляксандраву ў яго «великолепном» зборніку верша-прозы «Долгий путь в Китеж», якія чамусьці трапілі мне апошнім часам на вока і таксама паляць душу, трывожаць згасаючы мой розум, які не можа даць лагічнага адказу на неразгрызенае пытанне і тытанамі думкі: «Какая логика может заставить жить и ценить жизнь, раз ждёт человека неизбежная смерть?» Сам разумееш, ад такой хфіласофіі зледзянее душа, але жывое жыццё растопіць ільды, як вось толькі што сагрэў маю душу доктар-кардыёлаг: тваё сэрца, гаворыць, пане дабрадзею, вытрымае і адэному, і кілу, але трэба рваць з гэтага гадзюшніка…

— Вы маеце пачуццё гумару, — заўважаю ў вус.

— Так, чорнага, — усміхаецца на выгляд аж занадта строгі эскулап.

І адразу ўспомніўся Уладзімір Андрэевіч Калеснік, які заўважыў чорны гумар у маім «кляпанні», што адлюстроўваў «аблудны лад жыцця», і якое ў Вашай, Васіль Аляксеевіч, анатацыі да «Радзімы» завецца «бальшавіцкай спадчынай»…

І няхай сабе працягваецца і сёння тая «неистребимая» аблуда, няхай цэны на лекі штодня імкнуцца ўгору, а харчаванне — долу, няхай разбэрсаны прахіндзей раскашуе ў палаце для ветэранаў, а ветэраны парацца ў агульнай палаце, няхай не выціскаецца з чалавека раб; тыя, каго надзяліла Боская міласць яскаркай таленту, клічуць люд паспаліты «ў белы свет, загадкавы і мілы», у «вясну жывую — маладосць». Спадабалася і шматтэмнасць, і шматдумнасць, майстэрства, асабліва — паводка любові да Радзімы, у якой «аблокаў пух над галавою», крона клёна і твой чуб…

Прабач за тое, што не адгукаўся, за парасячае невіншаванне, такая ўжо ў мяне разбэрсаная натура.

Старэю, хварэю, чакаю, рыхтуюся да капітальнага рамонту, зазіраю ў чарку, сумую па чароўнай чары, якую выпусціў з рук, ды не вырву з сэрца! Дабра табе і шчасця тварыць!

*23.01.2010*

Сёння пранікнёна і светла наведаліся ў маю «ветэранскую» палату («восторжествовала» справядлівасць — чырванамордага смаркача выпісалі, а вязня вайны — Лёшку Філатава — на законнае месца паклалі) сябры-служкі роднаму слову — паэты Іванка Арабейка і зямляк з «перабітымі крыламі», якія ў яго, дзякуй Богу, ужо рубцуюцца, Валодзька Барысюк. Крыху развеялі сум і развесялілі маё зажуранае бацькоўскае сэрца.

Так, збіраю каменне, якое параскідваў за жыццё па роднай зямлі. Цяжка жнецца тое, што сеялася ў бунтарскія вёсны. Здавалася, не надта грашыў, а вось карае Бог, да якога ніяк не дайду, бо, напэўна, не веру ў бессмяроцце душы. «Стомлены і паранены», ніяк не дапаўзу ў «лазарэт» для грэшнікаў — царкву.

Напэўна, скажу, прапакутаваўшы некалькі ночак разам з Дастаеўскім: пакутлівае жыццё маё зямное — не шэрае, мёртвае, безнадзейна жахлівае, вечнае бессмяроцце, а сапраўдны, жыццесцвярджальны, вокамгненны рай.

Вось і дзякую ад усенькай душы жывому жыццю і вам, самыя блізкія мае людзі, — і тым, якія ўжо адышлі за небакрай, ды не пакінулі мяне, і вам, што пакідаеце, хоць і не ў самую цяжкую

хвіліну, але плюяце ў душу. Я сцярплю, перад людзьмі сорамна крыху. Я апраўдваю вас, я дарую вам, бо, можа, нават больш, чым вы, адчуваю, за што нясу гэтую, і не надта справядлівую, Боскую кару. Я дзякую вам за пераблытаную нашу кроў, за імгненні нашага агульнага шчасця, за тое, што вы працягнеце маё існаванне на зямлі і пасля мяне. Але я неяк па-жывёльнаму радуюся падспудна: і вам некалі адгукнецца ваша сённяшняя здрада — на тое я і чалавек. Млекакормячае, драпежнік. Паляваў, каб наталіць голад і смагу. Не павучыха я, якая жарэ, наталіўшыся, наталіўшага, а я дзякаваў і дзякую па сёння, у жывым сэрцы данясу да сваёй апошняй рысы падзяку ўсім, хто дараваў мне хоць яскарку шчасця.

…Пайшлі хлопцы. Пакінулі мне марозную свежасць зямлі, пару кіль садавіны з палескіх і заморскіх садоў, «Красу і сілу» — Міхася Скоблы таўшчэзную анталогію беларускай паэзіі XX стагоддзя. Уявіце сабе, нават з аўтографам жывога яшчэ Купрэева. І як жа выдраў Барысюк гэтыя некалькі сумна-шчырых радкоў у Паэта? Падаравалі прыгаршчы сваіх уражанняў і пачуццяў. Пажадалі веры, надзеі і любові, разбудзілі душу.

І я далей пішу ўжо не адным толькі розумам. І не верыцца мне, што гэтае, пазаразумнае, без якога няма мастака, уваскрасіць крынічку, струменьчык маёй новай мелодыі, і я нараджу, пушчу яе ў бел свет…

*24.01.2010*

Чытаю ў Верасаевай «Живой жизни» роздум над «Смертью Ивана Ильича» Л. М. Талстога. Дайшоў да «обыкновеннейшего буфетного мужика Герасима». І дзіва — у адно імгненне, бы жывы, паўстаў перад вачыма наш ляхавецкі Янэк Гарчыкаў, крышку «прышалепкаваты» бабыль, без двара і кала, якога неспавядзівымі шляхамі мінулі і польская, і нямецкая, і бальшавіцкая кулі.

Янэк век вандраваў па вялізнай, пакручанай нашай вёсцы. Заходзіў у любую хату, бо ведаў, што яго тут накормяць, а ён абавязкова «адтанцуе» за ласку — нарыхтуе чалавеку дрывец, адпасе «чараду», скосіць дзялку балота ці адполе градку кок-сагызу, выкіне з-пад цяляці ці з свінінца гной, пагупае цэпам па тачку, а

то прывалачэ торбу ягад, ляшчынавых арэхаў, кош грыбоў, якія не хаваліся ад ягоных сціплых вачэй.

Невялічкі, прыгорблены, у салдацкіх занэндзаных шыняльку і шапцы-вушанцы, з-пад якой вылазіла азіяцкі-жорсткая чорная грыва, нечасаная праз жыццё, нізкі лоб, карыя, на жоўтым, прыкрываўленым бялку наіўна-шчыра-прыязныя вочы, здаровыя, рудыя, пракураныя зубы з-пад конскіх мышастых сіня-мясістых губ, на ніжняй — абавязковая мажная лапацуга-самакрутка, расхрыстаныя каўняры шынялька і гімнасцёркі, спаленыя сонцам, бронзавыя, зморшчаныя шыя і грудзі, зрэбныя, пафарбаваныя сінькаю нагавіцы, закручаныя валасянымі валокамі ў канапляныя анучы, з-пад шыняля, выглядаюць ночвы — лыкавыя пасталы.

Кароткія, тоўста-падпухлыя пальцы складзены ў зачарапелыя прыгаршчы, поўныя лясных крамяных арэхаў.

— На, Лёнік, бэры, діткам завэзэш! — высыпае падарунак у палатняны ад сарочкі рукавец. А я яму на ягоную ласку аддаю два некранутыя пачкі «прымы».

— Спасі Бог, у сэнсе дзякую, — адказвае. Зашмальцаваным рукавом ацірае губы, сплюнуўшы недапалак пад пастол і, гулка ляпаючы губамі, адразу раскурвае цыгарэту.

Гэта была наша апошняя сустрэча праз трыццаць гадоў пасля таго, калі я дзіцем пакінуў Ляхаўцы. На другі дзень у яго, здавалася — без дай прычыны, разарвалася сэрца…

Запісваю таксама праз трыццаць гадоў жывога жыцця, што непрыкметна сплылі, напэўна, у нашу рэчачку-Безымянку, якой перадушылі меліяратары горла, але яна падужала выжыць. Запісваю і думаю: ці дзядзька Ясё, так, на польскі манер часам клікалі яго ў сяле, таксама, як, «буфетный мужик Герасим», «несомненно знал, что такое жизнь и что такое смерть», а я, як і барын Костусь Лёвін, не магу «удачно объяснить», што «не смерцю папіраецца смерць, а жыццём»…

*З 25 на 26.01.2010*

Паставіў сённяшнюю дату і злавіў сябе на думцы, што прабег часу першы раз задумаўся свядома на саменькім пачатку дарогі ў жыцці. Далібог, помню вялікі і светлы клас, хоць

і вокнамі на поўнач, драўлянае ляхавецкае нашае школкі. Прыёмны тата Аляксей Нічыпаравіч з акуратным, але страшнаватым сінім футаралам (ён мог адчыняцца, каб прамыць скалечанае ў нямецкай канцлагернай шахце вока) раздае нашы сшыткі з выпраўленымі цуда-каліграфічным почыркам памылкамі і ў заўвазе пытае мяне чырвоным алоўкам: «А дзе дата?»

Разбэрсанымі літаркамі я напісаў яе. Ні дня, ні месяца, ні канкрэтна года не адшукаю ў звілінах. 194… а які? — хоць па патыліцы лясні. Так, тысяча дзевяцьсот сорак… канешне пасля пятага, і знянацку кальнула тады: «А колькі яшчэ?» у маю малую параненую нямецкімі асколкамі галаву, а не сысці мне з гэтага месца, не падманваю, праз вобміг выскачыла, і неўпрыкмет я зноў пурнуў у свае дзіцячыя забавы.

Але зноў забажуся, па-нашаму, па-ляхавецку: крыж святы, кожнага новага дзясятка (а іх было сем з гачком) чамусьці пыталася, у самога сябе, у Бога, у лёсу — а колькі яшчэ?..

Ну, вось табе, і зноў пацягнула чалавека ў дзяцінства, у любую Талстому пару жыцця, з якой ён, як сцвярджае Верасаеў, так і не выйшаў. Пра тое, што і я век адчуваю жыццё ўсё яшчэ душою падлетка, неяк на паперы прызнаўся Леаніду Галубовічу, з вершамі якога пазнаёміўся толькі ўчора ў анталогіі (эх, і залатая праца, эх, і дуля пад нос, эх, і пстрычка ў цемя манкуртам і растрыгам, янычарам! «Краса і сіла» — бясцэнны твор Міхася Скоблы і Анатоля Сідарэвіча). Галубовіч здраднік, здрадзіў усім беларусам, самому сабе, свайму «болю і бою» — паэзіі.

У Ляхаўцах сказалі б: хфанабэрыя цераз нос паперла. Злачынец: з дзіцячым захапленнем жыццём піша сёння прозу, а крыху раней і вершы.

По калена трава
Вырасла ў гародзе.
Дзеду семдзесят два
Стукне ў гэтым годзе.
Дзед касой узмахне
Раз, другі і трэці…
Пастаіць — адпачне,
Пот забыўшы сцерці.
Паглядзіць на траву,

А пасля — на неба…
«Жык — жыву! Жык — жыву!»
і жыве як трэба.

Як хораша перагукнулася з Сахарчуковым: Дзед ліст прыслаў. Упаў на плот вятрак… як заставіла азірнуцца: ці ж «пражыў як трэба»? Не, канешне, «хоць і мая душа пакуль ідзе няўзнак, вандруючы ў прыродзе. Бы з торбаю жабрак, і я гатовы да ўсяго.

І прынімаў, як дар, дабро, што сустракалася ў дарозе. Цярпеў пакорна зло і прыгубляў яго»…

Во, як занесла чалавека! А сядаў жа на світанні за стол у бальнічнай палаце, каб расказаць…

Пра цётку Дэміню — маларыцкую сялянку, што са світання 22 чэрвеня 1941 года карміла мяне сваім малаком замест роднай мамы, якая загінула ў тое ранне…

P. S.: Праз дванаццаць гадоў Галубовіч выдаў чарговы зборнік світальна-чыстых, спавядальна-мудрых, бессмяротна-праведных вершаў!!!

## Пасля юбілею

*(Ліст сябрам на Валынь)*

Перабраў капу алоўкаў і асадак у сваёй «піцьменніцкай» каморы — ніводны не піша. Украў у жонкі жоўта-блакітную аўтаручку, успомніў эпіграму на Янку Брыля: дайце, дайце аўтаручку // і паперы добры стус // напішу раман пра ўнучку // скіну з сэрца творчы груз… І з нізкім паклонам дасылаю Вам маю галубіную пошту.

Браты мае і сястрыца Ніна з Украіны, родныя! Як шчыра ўдзячны я Вам. Магутна-мажны і сардэчна-шчыры валыняк-мацак-казак Іван Фядосавіч Карсак; пяшчотна-шчыра-дужа-маладзецкі Іваночко Чарнецкі; публіцыстычна-эстатычна і лірычна вядучы рэй Васылько Гей; сяброўства нашага апора, што і на нівачцы дзіцячай удала гора і адцярпела горы гора, Ніна Горык!

Я душу Вашу чую,
Без Вас гарую і сумую…
Як прагне маё сэрца,
Каб сагрэцца ля Вашага
цяпельца!..

## Не за гарамі і наша неба

*(Ліст Леаніду Галубовічу)*

Пасля надзвычай палкага сонца (разяву сыну спаліла да пухіроў спіну) пануюць у апраметным небе вялізныя зоры. Цемрадзь. Халадрына. Пакурыўшы, зноў радуюся ў спаленцы зыркай лямпачцы над канапаю, якая дазваляе радавацца Слову. Спачатку Яраслава Мудрага цераз акадэміка Ліхачова, потым Валодзі Марука праз мудрага Галубовіча. Гэта ж трэба было Айцу нашаму надзяліць гэтых чатырох сыноў Ягоных такім незямным, небным талентам!

Не нарадзіўся я, Лёня, каб сказаць маёю прозаю пра Вашу паэзію. Адно скажу: «Чытаў твой спеў у “Дзеяслове” нумар 57, захлынаўся разумнай красою, і нутро маё воўчае свідравала думка, — а ці вымавіць ён слоўка хоць воднае пра адхланнё ад жыццёвых пакут Валодзева — захапленне ягонае настольным тэнісам.

І вось нарэшце: «быў заўзятарам футбола і сам вельмі добра гуляў у настольны тэніс».

Праўда Ваша, Галубовіч. «Адзінокага, ціхага, слухмянага, дысцыплінаванага, руплівага, працавітага» заспеў яго недзе пад лесвіцай Палаца друку за тэнісным сталом. Усміхнуўся Валодзя поўнымі журбы, амаль Купрэева, вачмі, запрапанаваў мне, мусібыць як сябру Рудкоўскага і Каско, бо гэта яны ўвялі яму ў вушы маё трэнерства, узяць у рукі ракетку.

Выцягнуў я з сваёй «ляхавецкай торбы» найлепшую тады в’етнамскую ракетку і карабок найлепшых таксама, кітайскіх шарыкаў. Гулялі мы амаль на адным узроўні, праўда, я валодаў

некалькімі мудрагелістымі, таксама азіяцкімі, падачамі — адзіным з усяго майго пінг-понгаўскага прафесійнага арсеналу, бо з дзесяці гадкоў займаўся валейболам. Перамагло, канешне, СЯБРОЎСТВА. Падараваў я Вашаму земляку тую ракетку з шарыкамі і атрымаў ад яго на рэдкія сустрэчы безабаронную, удзячную, дзіцячую ўсмешку. І сёння бясконца дзякую і Табе, і Яму, і буду дзякаваць да «недалёкага майго неба».

## Спазнаваў жыццё і роспач піў

*(Апошні ліст са шпіталя Івану Лагвіновічу,*
*ужо туды, у занябесную далеч)*

Як ніколі, на гэты раз сустрэла мяне мая Іслач — яшчэ адзін мой Дом творчасці — раённая бальніца на Рэчыцы. Бы матуля сына, сустрэла. Прыветнымі тварамі дактароў, сястрычак, санітарачак, і ўжо подаўну знаёмых і тых, каго бачыў упершыню, маладых. Як і аддзячыць гэтым нястомным руплівіцам, на чыіх руках усё тут трымаецца, не датумкаю. Чысціня. Цішыня. Святло і цяпло. Такі-сякі, але казённы, «на апошнія капейкі», як скардзяцца кіраўнікі медычнай установы, харч. Ветэранская палата № 11 з напарнікам, у якога састарэлы астматычны бранхіт, негаваркі супрацоўнік «органаў» (ім, як і недабітым калекам рознаймітных войнаў і Чарнобыляў, без такіх палатаў «нельзя: бдят»). Вось і напарнік мой некуды выбег, потым прыбег, «адкапаўся». «Калі папытаюць, скажыце, што буду, — вымавіў і — за дзверы: — Дела». — «А, калі ласка. Дзякую Вам, хлопча, ды паберажы сябе — хранавата ты дыхаеш, братка. Дзякую, малады чалавек у цывільным, бегай, жыві».

І яшчэ шчыра дзякую жонцы маёй: нейкімі шляхамі прыдбала Лагвіновічавы «Палыновыя кветкі» і ўціснула ў маю торбу. Выкладчыца матэматыкі, але, як ніхто, адчувае мастацтва красу… Прачытаўшы вершы, пішу. Прабач, Іване Піліпавічу, за тое, што так недаравальна запознена я спазнаў «палыновую горыч роспачы», якую Ты піў праз жыццё нагбом, ды не адчайваўся,

знаходзіў у сабе духоўныя моц і патрэбу слугаваць Айчыне, нават за межамі яе, асабліва любаму Палессю. І не хвалюйся дужа там, пад «згаслым метэарытам, што на Твой капец поўнач кінула». Помнік сабе праведным вершам са слова, якое «звонам звініць і рассыпае ў іскры каменне», Ты высек сам, небарача. Таму сапраўдная Беларусь «навальнічнымі дажджамі і громам, няхай і пасля Цябе, па Табе плача».

Твае «Палыновыя кветкі» на Тваю спачылую душу — гэта мая журботная валошка на маё яшчэ пакуль жывое сэрца, ды на безліч сумленных беларускіх сэрцаў. Ты нарадзіўся Паэтам, а вось вырас у пранікнёна-ўзнёслага, экстра-класа лірыка праз бясконцую любоў да Айчыны, якая Цябе «не сустрэла (з якой гэта прычыны?), не абняла, як маці сына» і дваццацігадовае поўзанне на каленях па штрэках данбаскіх шахтаў. (Нехта сцвярджаў, што даўжыня Твайго «прапаўзання» — два разы вакол Зямлі па экватары.)

Гэты зборнічак Твой у жалобнай, чорна-бел-чорнай вокладцы — адзін з адметных набыткаў агульнаеўрапейскай, беларускай, берасцейскай, ганцавіцкай, якую заўважыў і благаславіў на росквіт Калеснік, прыгожай Паэзіі.

У ім чытаецца наша доля, ён дыхае нашым паветрам, у ім чуецца пошап нашых бяроз, плач гарабін-журбін, стогн дубоўволатаў, гул «тысячаногай Пагоні, тупат тысячы ног мурашыных, пасхальны клёкат бусліны». У ім бачыцца святло «тысячапалай Сонца рукі, крывавыя слёзы гарабінавыя, похвы і сядло Каліноўскага, харугвы Княства Літоўскага, падкова Багрымам кавана і гартавана». У ім рассыпаны каралі-пярліны ласкавага матчынага слова з тае далёкае даўніны, калі ў «скрутны час маліўся Знічу яшчэ твой прашчур-паляўнічы». Ты ў ім апяяў і аплакаў долю «бадзяжнага ветру, самотнага Купрэева, вольналюбівага Масхадава».

Ты асацыяваў сябе як паэта «салаўём з перабітым крылом», ды Ты памыляўся. Паэтычныя крылы Твае былі дужыя, шматабдымныя. Твая бунтуючая душа часам не «сябравала з музаю зацята», але Твая муза сама звычайна залятала ў Тваё сэрца з «пачэснага на покуці, з-пад бажніцы месца», бо ведала, што сэрца Тваё «разарвецца, калі Ты не складзеш гэты верш». Ты назваў сваіх настаўнікаў і паплечнікаў, родных Табе па духу: Міколу

Пракаповіча, Аляксандра Пракоф’ева, Мікалая Рубцова, Дмытра Паўлычку, Гарсіа Лорку, Мурата Ічкерыйскага, Алеся Корнева, Аветыка Ісаакяна, Міхася Маліноўскага, Леаніда Галубовіча, Міколу Купрэева, Алеся Каско. Большасць з іх — і мае дарадцы і пабрацімцы.

Я не замахнуся ахарактарызаваць, хоць і карціць, бо ёсць што, мастацкія вартасці і дасягненні Тваёй цудоўнай лірыкі, бо на гэта не хопіць і дысертацыі. Я не вучоны, я, як і ты, — «беларускі паэт» (так называлі мяне Купрэеў з Рудкоўскім). І кланяюся я сёння Табе апошнім паклонам — тою высноваю, якою Ты пачаў свае «Кветкі»:

Не прывіднай марай
за маркотаю сьледам
позна ўвечары рушыў
у засьнежаны сьвет…
Незайздросная доля —
нарадзіцца паэтам
асабліва калі ты —
беларускі паэт.

Ну, што тут, Іване, наракаць было на долю, калі хутарок той, дзе Ты свет белы ўбачыў, і той завецца За-пра-пасць… Сімвалічная, кадук яе забяры, назва, гэта ж краіна «сінявокая» наша — За-пра-пашчая.

*Жнівень 2012 года.*

## Самы вялікі грыб

*(Адкрыты ліст Міколу Сянкевічу з нагоды ягонага 55-годдзя і выхаду чарговай кніжкі прозы «Незваротны шлях»)*

Напэўна, не так прамовіў бы я сваё слова да юбілею Міколы, каб пачаў пісаць крыху пазней. Не да, а пасля прачытання ягонай чарговай («весомой, зримой») кнігі. Ды і пісаў бы не дзеля абавязку, а па загаду сардэчнаму.

А вось чыталася яна з трымценнем душэўным, з пакутаю і радасцю, як і пісалася аўтарам гэтая праўда пра ўласнае і народнае жыццё. Прызнаюся, што ўспрымаў яе неяк сумбурна-пакручана, як і жыццё маё асабістае і наша агульнае, беларускае ў наш час. (Перакручана-абмаркутчанае хаўрусам капітала-камуняцкіх бандыцкі-палітычных «рвачей и выжег».)

Сядаў пісаць з думкаю пра Сянкевічавага «хрышчонага бацьку» ў літаратуры Івана Антонавіча Брыля, які заўважыў у друку Сянкевічаў абразок, адгукнуўся на яго, сачыў за пачынаючым празаікам і пакрысе рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў даў. А вось бачыце, рвуцца са звілін словы-глыбы Маякоўскага. Чаму? Бо ненавідзеў ён ворагаў зямлі роднае і змагаўся з імі напоўніцу. «Рабочего, громады, класса враг — он враг и мой, отъявленный и давний». Не тое, што мы, «паны сахі і касы» талерантныя. Нам бы «долю здабыць», а мы аблізваемся, і ў ладкі нам плёскаць, барані Божа.

Загаловак гэтага ліста-водгуку ўсплыў ноччу пасля прачытання мініяцюры «Як грыбоў», і я так рагатнуў, што пабудзіў жонку, атрымаўшы ладнага прачуханца. Але вытрымаў, бо адразу нешта штурхнула пашукаць у Брылёвым паэтычным золата-дыяментавым россыпе прозы апісанне сустрэчы маладзенькай удавыжыдовачкі з двума дзіцяткамі на руках са святаром «з райцэнтра». Ён папытаў яе па вясне, калі была вайна, свяціла сонейка і спявалі жаваранкі: «Дитя моё, ты по вере или безопасности ради?»

І яна адказала яму прастадушна:

— Безопасности… батюшка…

— Умница, — сказаў ён.

Я адшукаў той аповед з крыху рэзкаватым для мяне, унука святара, загалоўкам «Поп». Лыгнуў адным духам, сцёр з вачэй, зжаваў слязу і гавару табе, отроче Николаю: умница!

У моміку гэтым Брылёвым пад зялёнаю вокладкай «Ад сяўбы да жніва» ляжаў мой неадасланы ліст да нашага Натхніцеля і Вучыцеля. Ад шчырага сэрца я адрасую тыя, ад сэрца сказаныя, словы Табе. Бо Ты заслужыў іх талентам сваім, працай сваёю нястомнай, доляй скрушнаю, відаць, на векі вечныя сярмяжнага беларуса.

Вось што тады, перад 1987 годам, пісалася: «…Далібог, Вы самі, Іван Антонавіч, вінаваты, што хапае нахабства ў нейкага макавага зярнятка ад літаратуры турбаваць Вас.

Толькі-толькі скончыў корпацца з бульбаю, хутка нарэшце наб'юць соткі, і так запэцкаліся зямелькаю пальцы, так ручанькі млелі і цяжка, з болем гнуўся крыж, што нават пажадалася, каб адчулі такую ўтому Вы. І не сярдуйце, на прамілы Бог…

Еднасць з хлебаробскаю натураю, з той ціхай, шчымлівай радасцю селяніна, якая часам сціпла блісне ў ягоных вачах і адаб'ецца ў кроплях поту на твары, якая адчуецца рудою даланёю аратага і сейбіта, — галоўная крыніца, выток узнёслага, невычэрпнага мора дум, пачуццяў Вашай навукі. І як не пакланіцца Вам за яе?

За «па-хемінгуэйску моцнае» і яшчэ мацнейшае брылёўскае; «Дык няўжо я хворы ці нямоглы? Ці проста гультай?.. Можа, расказаць усё-ткі тое, што я ведаю толькі адзін?.. Так, тут больш, чым дзе-небудзь, мяне, аўтара, не выручаць падзеі, — трэба псіхалагічная насычанасць і думкі, якія зноў не ідуць у галаву»… А вось яшчэ: «Для каго і для чаго так старанненька аберагае сябе Н., чалавек бесталанны, з халоднай і роўнай, абыякавай душой? Для таго, каб даўжэй працягнуць»…

Зусім не беражэ сябе паэт Міхась Рудкоўскі, адзіны на сёння чалавек, якому я даяраю сябе і сваё. І ён таксама горнецца да мяне, благаслаўляе на творчасць, на першую кніжку. Нават пераклаў некалькі маіх абразкоў, уціснуў у тады катэгарычна рускамоўную «Зарю», напісаўшы сціплую прадмоўку. Ды боязна мне, што не паспее. Часам назаве Філатава «брэсцкім Быкавым», складзе, прытуліць да вуснаў далані і ціхенька нібыта цытуе Пушкіна: «Я ўсё ўжо сказаў пра родную зямлю і для яе». Якія безнадзейныя, горкія словы… І як кліча ў жыццё, у працу Брыль: «Як многа недабачанага, недачутага, недаробленага!»

Век помні, Коля, гэтыя словы!

…Мая першая кніжка надрукавалася ў 1992 годзе. Пасля яе выйшла яшчэ восем. Вы, Мікалай Іванавіч, амаль на кожную не пашкадавалі разумнага слова. У дзясятай, што, юшка з носа, павінна выйсці ў 2013-м, я назаву Вас самым вялікім грыбам у паэтычным кошыку, які нарок У. А. Калеснік «Берасцейскім вогнішчам».

Трымалі ў чулых руках яго Крамяныя Баравікі — сам Калеснік, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, Ніна Мацяш. Сёння рупіцца аб ім здаравячок — Рыжык — Іван Міхайлавіч Мельнічук, найдабрэйшай душы «званар», пераважна ў дзіцячыя сэрцы.

**Мікола СЯНКЕВІЧ**

## Як грыбоў...

*Няма асаблівага жадання і магчымасці выпісваць усе моўныя казусы з пісьмовых прац абітурыентаў. Тут каб толькі не прапусціць чаго. Але тое-сёе і без запісу помніцца. Чытаю: «На Беларусі паэтаў як грыбоў, і самы вялікі грыб — Янка Купала». Раздражнёна падкрэсліў, вынес за палі моўную памылку. А праз некаторы час калега-экзаменатар: «Што яны пішуць!.. “На Беларусі паэтаў як грыбоў, і самы вялікі грыб — Максім Багдановіч”».*

*Пасля «расшыфроўкі» стала зразумела: адна і тая ж школа ў аддаленым раёне. Што тут скажаш?..*

# За пятнаццаць хвілін

*(Ліст Вадзіму Жылко ў Лунінец)*

Дарагі мой малодшы дружа Вадзіме, шчыра дзякую Табе за адданасць роднаму слову, за грунтоўны ўносак у справу нашага «Вогнішча» і берасцейскае гуманітарства, за чуласць душы і цвярозасць думкі, нарэшце, за шчырае спачуванне маёй трагедыі. Ён, сын мой, толькі на гадок старэйшы за цябе. І вось за 15 хвілін сышоў. Пакінуў боль і дзвюх унучак у натруджаным, але куды мацнейшым за ягонае, сэрцы маім.

Акурат у 5.00 раніцы дапісваў мо і апошні абразок у апошнюю маю кніжку, якую аніяк не надрукую. Рэзка б’е ў грудзі тэлефонны званок: сыну Алёшу дрэнна. А ў 5.15 яго ўжо няма…

Увогуле суцэльнае насланнё болю, крыўд, здрад, заняпаду духу і цела. Смыляць усенькія чыгуначныя і спартыўныя раны і траўмы. Але пручаюся, на хвіліну забыўшыся. Нарэшце даканалі кніжку ўспамінаў дзяцей — былых вязняў фашызму-камунізму «На абпаленых крылах». Здаецца, ніц сабе атрымалася, хваляць і нячэсныя, і чэсныя.

Словам, дзякую яшчэ раз за твае — нашыя «Вытокі». Марыцца зрабіць Лунінеччыну Філатава. Трэба будзе разам пакумекаць.

Прымі вітанне з Днём народзінаў, жыві, твары, будзь, як заўсёды, карысным Радзіме!

*Дзень Перамогі 2012 года. Поўнач.*
*Дзед Філатаў.*

# Радкі ў шпіталь

**Уладзімеж Анджэй ФРОНЧАК,**
*польскі пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Люблін»*

## Польскія коні ў Беларусі

*З беларускім пісьменнікам Аляксеем Філатавым я пазнаёміўся ва Украіне, у Ковелі, сустракаў яго яшчэ ва ўкраінскім Луцку. У Мінску ж, дзе часам бываю на збіранках пісьменнікаў і журналістаў, — ніколі. На маё пытанне наконт адсутнасці на сталічных «гавэндах» абыякава махнуў рукою.*

*— Туды лягчэй даехаць з Варшавы, чым з беларускай правінцыі, — і ад нязручнай гутаркі ўхіліўся.*

*Нарадзіўся ён у перадваенны час на Віцебшчыне. У першы дзень вайны асірацеў: забіла фашысцкім снарадам родную маці — выкладчыцу Брэсцкага педвучылішча. Узгадаваўся прыёмнымі бацькамі Афанасьевымі на беларуска-польскім памежжы і там жа пачаў адукацыю. У дзяцінстве, як шмат хто з палякаў, захапляўся чытаннем Сянкевіча. Лёс склаўся так, што выпала яму жыць у Беларусі, пад Берасцем.*

*Гадамі не карыстаўся польскаю мовай. Але падчас рэдкіх кантактаў з палякамі ўспамінаў вядомыя з дзяцінства прыказкі, выслоўі, звароты, калыханкі-люлянкі.*

*— Збышак, Збышак Багданец, — радаваўся, калі маё імя нагадала яму Сянкевічава героя з трылогіі «Ogniem i mieczem». У Луцку, дзе мы ўсю ноч гутарылі, дамагаўся польскіх песень. Нярэдка сам іх пачынаў, шчыра абураўся, калі мы, неміласэрна фальшывячы, цягнулі хто ў лес, хто па дровы стары шлягер «Плынэл струмэк пшэз зелёны ляс».*

*Ахвотна і шмат апавядаў пра прачытанае, пра людзей, пра сваю працу. У часы Савецкага Саюза дарожным майстрам, зазіраючы пад рэйку, на каленях амаль дапоўз ці не да Кітая, бываў і ў Польшчы, пад прыёмнага бацькі Уладавай, і ў гэтым вясёлым мястэчку азартна працягваў любы занятак яшчэ аднаго героя трылогіі — пана Заглобы ў кавярні, якая называлася яго вяльможным імем, і дзе шчыра ліліся польскі спірытус і расейская гарэліца. Увогуле, пачуваўся як дома і здолеў завесці сабе пенькну паненачку.*

*Ягоныя гісторыі былі кароткія, дынамічныя, кожная з прыгожым сюжэтам. Я падумаў быў, што ён распавядае свае творы. Калі так, то павінен быць някепскім пісьменнікам. Размаўляў парасейску, па-беларуску, па-ўкраінску і па-польску — у залежнасці ад таго, хто былі слухачы.*

*Спякотным летам 2010 года ў Ковелі на начную выпіўку літаратараў прыйшоў са сваім земляком паэтам Васілём Жуковічам. Алкаголю сабе не шкадаваў, а для кампаніі не шкадаваў анекдотаў, цікавых гісторый, бытавых і біяграфічных.*

*У маладосці працаваў маставым майстрам, узначальваў брыгаду з дванаццаці чалавек. За мостам праз памежную раку Буг — станцыя і горад Тарэспаль, Польшча. Рака быццам і вялікая, але не надта шырокая.*

*Людзі, аўтамабілі, сялянскія фурманкі, коні, ровары бы на далоні. Раптам беларусы заўважаюць, як нейкі палячок-рольнік прывязаў да плота запрэжаны параю воз, а сам парупіўся ў недалёкую краму.*

*У гэты час на мосце загрукатаў цягнік. Глухім, пагрозлівым водгаласам па рэйках загрымелі колы таварняка. Коні спудзіліся, парвалі лейцы і пастромкі, паімчалі праз мост. Спыніліся на*

*Беларусі, акурат за бела-чырвонаю пагранічнаю рысаю, дзе, як на тое, працавалі Філатаў з брыгадаю. Пара гнядых калаціліся, дрыжэлі ад пярэпалаху, не адважваліся ступіць ні на кроплю. Гаспадар іхні не мог даць паратунку — мяжа!!! А вось беларусы мелі права яе парушыць, бо толькі яны абслугоўвалі мост. Пасля пэўных развагаў Філатаў рашуча скамандаваў ухапіць кожную конскую нагу рабочаму і сантыметр за сантыметрам цягнуць іх у братнюю Польшчу. І гэтак праз палову моста, без перакураў, мацюкоў, з любоўю і павагаю да біцюгоў. Дамоў!*

*— Колькі вас сваімі лапамі ўчапілася за конскія ногі? — пацікавіўся худы і флегматычны Жуковіч, адчуўшы нейкую рыфму ў празаіка.*

*— Як колькі? Васьмёх! Два кані, восем ног, па чалавеку на кожную нагу-угу…*

*— А астатнія што рабілі? — высвятляў Жуковіч.*

*— Як што? — зазлаваў на пытанне Філатаў. — Назіралі! А ты, слынны сыне Белавежжа, чалавека ў прыстойных лецях слухаць вучыся! — і мы шчыра парагаталі нашым, яшчэ больш павесялелым, усходнеславянскім інтэрнацыяналам.*

## Працягваю табе руку

*(Ліст ад Валянціны Куксы)*

*Працягваю табе далёка не жаноцкую руку — бо напрацаваная і моцная, паціскаю тваю, толькі яшчэ мацнейшую.*

*Вочы твае зіхацяць маладым бляскам, задорам, натхненнем, жыццёвым запалам.*

*— Сядзем, Валечко, побач, — твар твой свеціцца шчырай усмешкай.*

*І плывуць успаміны, горкае праз слязу, вясёлае праз смех.*

*Я нарадзілася намнога пазней за цябе. Мы, малыя, седзячы на печы, чулі, чуеш — ЧУЛІ! — пра вайну, пра якую няспынна гаварылі ў нашай не надта сытай хаце, усе, хто б ні прыйшоў (цяпер так гавораць пра скон Саюза). Ад пачутага ў нас халадзела*

*пад каленкамі, страх пераймаў дыхавіцу. Мы дамовіліся так: як толькі немцы пакажуцца ля суседавай, Стыпановій хаты, мы па кавалачку мыла гаспадарчага ў рот і — капец. Наіўныя, Божухна, дзеці!..*

*А ты ў вайну пёкся ў канцлагеры. Маленькім быў... Выжыў, дзякуй Богу. І ведаеш, мусібыць, каб нам сустрэцца. А памятаеш, калі гэта было? Забыў... А БЫЛО ГЭТА ДЗЕВЯТНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ ТАМУ. Не забываецца тая сустрэча з табою і ўкраінскімі пісьменнікамі. Усю дарогу ты не змаўкаў. То спяваў — ах, і пяеш ты!*

*То расказваў смешныя гісторыі ці анекдоты, і ўся наша кампанія за жываты хапалася. Гэта ўжо зверх жартачкі — за жываты брацца. Я нават падумала: «І дзе яны — гэта Уладзімір Андрэевіч Калеснік і Мікола Пракаповіч — адкапалі гэтага пляскатуна? Нічога сур'ёзнага ў ім няма. І аб чым ён можа пісаць? Блазнюк, дый годзе...»*

*І вось у Луцку, ва ўніверсітэце, ты пачаў гаварыць. Ты гаварыў не ПРА жыццё, ты гаварыў ЖЫЦЦЁ. Закіпалі слёзы, і ўжо думалася зусім іншае: «Ах ты, чалавечына! Дык жарты твае, каб лягчэй жылося, каб душы палёгка!»*

*Шчырасць у кожным прамоўленым гуку. Удакладняю: у кожным прамоўленым не слове, а гуку.*

*— Мая МАМА, каторая нарадзіла, і МАМА, каторая выгадавала... — і ў абодвух выпадках слова «МАМА» гучыць аднолькава цёпла, пяшчотна, і гэтулькі ў ім любові, бязмежнай павагі і тугі.*

*Раптам міжволі падумалася: у цябе ж дзве радзімы — Віцебшчына і твая родная мама, якую забілі немцы (а табе ж усяго два гадочкі), потым радзіма Маларыта і мама, якая цябе гадавала і пакутавала разам у канцлагеры. І два імені: Лёня і Аляксей. Ты не задумваўся, з чаго б тое?*

*Пра ўсё ты пішаш у сваіх творах. Я не літаратурны крытык і не бяруся судзіць, добра ты пішаш ці не. Ведаю адно: калі чытаеш і хочацца плакаць — значыць, бярэ за душу, бо душой пісана. І калі над сучкай-мамай у маленькай аповесці «Чый бэз?» плакалі дзетсадаўскія дзеці і прасілі чытаць яшчэ і яшчэ — хіба ж гэта не ацэнка?*

*Хай пішацца, любіцца і жывецца. Доўга!*

*Валянціна Кукса.*

## Твары і шчасліўся

*(Ліст ад Ніны Мацяш)*

*20 красавіка 2007 г., Белаазёрск*

*Лёнечка, дзень добры!*

*Дзякую за Тваю зграбную і пацэльную «Стралу жыцця». Вельмі прывабны зьмест Тваёй гэтай кніжкі, — і яркай, адметна-сакавітай мовай, і Тваім сьветаглядам, дзе выразна бачыцца сталая мудрасьць добрай, уразьлівай і чалавечай душы з акрэсьленай, годнай грамадзянскай пазіцыяй. Без гэтых двух асноўных чыньнікаў наагул не бывае добрага літаратара. Ты ўмееш быць і дасьціпным, і глыбока лірычным, і ўболеным, і небанальна роздумным. Удала карыстаесься дыялектам, што дадае акрасы аповеду і жывінкі характарам. Умееш зладзіць і разгарнуць сюжэт, добра пачаць і своечасова паставіць кропку, таму й чытаецца ўсё зь цікавасьцю і задавальненьнем. Сырою падалася толькі Твая незакончаная аповесьць, — нейкі сьхематызм відзён і ў сюжэтнай лініі, і ў вобразах: недагаблявана, браце! Выганяй, таўчы ў каршэнь прэч русізмы, якія не-не дый уплішчацца, бы кастрыца, у нітку аповеду (сунуцца,ісьці па хлеб, пясок і г. д., а не за хлебам; сабака ў бел. мове ён, м. р., а не жан., не яна; і г. д.); Мызя з апавяданьня ў апавяданьне пайшла, хоць і ў розныя хлявы…*

*Але гэта дробязі, дружа! Недагляд рэдактара! Найбольш удаюцца Табе мініяцюркі, гумар і партрэтныя накіды-эсэйкі з разьдзела «Не забуду вас, хлопцы». Што да вершаў — гэта не Тваё, таму й слабыя, хоць і ў іх пракідаюцца яркія радкі («Нават некаваныя коні капытамі, // бы ў бубен, у бездараж б'юць»: праўда, у мяне бездараж асацыюецца з раськіслай гразюкай, а бубен — з токам, тупкай, гулкай дарогай…). Але гэта проста на зацемку, дзеля Тваёй увагі і жаданьня дасканаліцца. Будзь! Твары і шчасьліўся! Спадзяюся, падмацуесься і азавесься!*

*Ніна.*

Глядзіш то скрозь слёзы, то з лёгкім уздыхам на гэты поўны невымоўнае ласкі край, дзе ўсё так смутна, размыта, распушчана, стоена — і верыш: яшчэ крыху… вось зараз… раптам пачуецца звон.

Павел СЕВЯРЫНЕЦ

**Раздзел III**

# Званары



## Званары

Неяк неспадзявана сустрэліся з Міхасём Рудкоўскім. Маладыя, дужыя, яшчэ не надта пакрыўджаныя «радзінамі па крыві і духу».

— Лявоне, паэта напаткаў! Піша свежа, светла, чыста, усхвалявана, «без падману сардэчнага», як гаварыў Сяргей Ясенін.

— Дзе, як, хто?

Нехта, таксама Сяргей, толькі Грахоўскі, з-пад Бабруйска…

Потым мы нагбом, ужо разам «адкрывалі» пакутніка і змагара за шчасце і лёс чалавечы, які «толькі што прычасціўся глытком свабоды пасля дваццацігадовага посту» ў бязлітасна-бандыцкі, берыяўска-цанаваўскі, дзяржынска-яжоўскі, аблудна-дзікунскі кобаўскі час.

Вось дзве страфы з верша «Вера», прысвечанага паплечніку па ГУЛАГУ, подла знішчанаму журналісту Уладзіміру Мяжэвічу:

Ты помніш
Калючыя сінія зімы?
Ты помніш
Глухія сігналы адбою?
Ты помніш разлукі?
І толькі Радзіма
Была неразлучна
Са мной і табою…

Як яны сведчаць пра азвярэлы ад нявіннай крыві час, пра самаахвярную няскоранасць «летуценнікаў і волатаў» — сумленных

сыноў і дачок краіны, якіх мільёнамі нішчылі «гаспадары імперыі зла»!

— Не, ты паслухай, паслухай далей. Во як трэба пісаць пра паэта і паэзію, — Міхась шпарка хадзіў па пакоі, што яму было абсалютна нехарактэрна, размахваў рукою, у якой дымілася «прыміна».

Працуй, паэт, не ведаючы змогі,
Пакуль рука не выпусціць пяра.
Цябе яшчэ чакаюць перамогі
Для радасці, для шчасця, для дабра.
…Усё праходзіць, быццам дождж
Няроўны, —
І боль, і злосць, і дробная брыда,
А застаецца важны і галоўны
І самы светлы талент — дабрата…

— На, Філатаў, — працягваў «пяюн роднай зямлі» сціплую, у мяккай белай вокладцы кніжачку. — Прачытай сам, у цябе неяк званчэй атрымліваецца.

Я чытаў тое, што і да сёння помніцца:

**ЗВАНЫ**

Не верыў ён ні ў д’ябла, а ні ў Бога,
Ні ў казкі заімшэлай даўніны,
А слухаліся званара глухога
Раскацістыя, гулкія званы.

На самы верх па выбітых прыступках
Ён уцякаў ад смутку і журбы,
Дзе на плячо садзіліся галубкі
І лапаталі крыллем галубы.

Глядзеў удалеч, на лясныя нетры,
На спелы луг і хвалі ярыны,
І ўсёй істотай слухаў, як ад ветру
Гулі і захлыналіся званы.

Ён ведаў іх і мову, і натуру,
І голас, і настрой, і лад, і склад.
Калі вызвоньваў святы і хаўтуры
І біў у гулкі звон, як у набат,

А скаланула неба навальніца
Раскатамі не грому, а вайны —
Хіснулася старэнькая званіца,
І плачам захлынуліся званы.

Цягнула дымам з недаспелых ніў.
Па званары ніхто не пазваніў.

*1969 год*

Доўга будзілі маю душу бомы Грахоўскага і Міхасёвы. Дабудзіліся. Перачытаў патроху аднаго і другога. Адчуў іхняе пісьменніцкае наканаванне, як адзначыў Грахоўскі ў «Зоне маўчання», — «лячыць дабрынёю душу» (выснова Льва Талстога). Адважыўся прапяяць ціхенькі благавест любым сэрцу паэтам і злавіў сябе на хцівай думцы: «А можа, нехта стукне ў звон і па мне?».

*2012 год*

## Адказнасць

Як гэта страшна, якая гэта адказнасць творчай душы, каб, не давядзі Божа, нехта пазнаў у тым, што яна нарадзіла, ужо раней створанае творцам ці нават ты сам паўтарыўся. Спадзяюся, што такая думка не турбуе, як гаварыў Янка Брыль, «самаўпэўненую пасрэднасць»…

## Бацькі нашы

«Божа, прабач, — чамусьці пачынаюцца і сёння, і апошнія месяцы і гады мае сустрэчы з белым лістом паперы, —

Тваім імем, Божа!» У якія вякі трапляе ў рукі Купалаў таміна. «Паўлінку» чытаю ад кропкі да кропкі, успамінаю, як нашым дзясятым класам пад рэжысурай выкладчыцы беларускай літаратуры Ніны Васільеўны Саевіч пры поўным «аншлагу» ставілі Купалаву п’есу на сцэне Маларыцкага раённага Дома культуры.

Светлай памяці Міколка Чуль — шаснаццацігадовы сялянскі сын, як ніводзін акцёр, так увасобіў пана Быкоўскага, што і сёння наша Маларытчына гэта помніць! І я яму крышку дапамог, сыграўшы Пранціся Пустарэвіча, «вось цо да, пане дабрудзею!..»

Ад успамінаў адарваўся, паэмы чытаю. Першай «Зімою» трапіла — і заледзянела душа ад беларусачкі, нашай з Колем равесніцы, якая «на плячах і спераду ношку нясе»… І ўкінула ў гарачку высنова другога сябра, другога Міколы, ужо Крываблоцкага: «Было два Купалы, або ніводнага, Цанава быў, і па ягонаму загаду аблуды плялі пад Купалу “Арлянятам”, “Хлопчыка і лётчыка”, “Узнімайся, народзе мой”… А “Курган”, а “Зімою”, а “Раскіданае гняздо”, а “Паўлінку” — Дамінікавіч яшчэ з неперадушаным горлам і неперарэзанымі венамі ствараў».

Баюся пагадзіцца, ні кропелькі не скажу пра Купалу, баюся Яго, як і Бога, баюся зачапіць, не дарос, не дапнуўся. Зайздрошчу маладым, што з Купалам на Ты. Коласа больш у сэрцы трымаю. Іван Дамінікавіч, грэшна думаецца, не павёў бы закос, а за Міхалам Канстанцінавічам — хоць «дзявяткі» нам у рукі ўкладзіце — ён не скрывіць, а я — даганю!

І радасна мне яшчэ ад таго, што нядаўні мой знаёмы, які ў сённяшні аблудны цыганскі наш час па-беларуску і ў полі, і ў лузе, і ў канторах і кабінетах дужых гаворыць па-беларуску, неяк сцвярджаў: «Бацька Колас». Я здзівіўся:

— Дзядзька Колас, — запярэчыў.

— Не, Лявоне, — стаяў на сваім малады вучоны. — Я ў Акадэміі навук беларускай неяк ашываўся і там з шафёрам, які Коласа вазіў, аднойчы чарку ў губу ўзялі. Дык ён называў аўтара бессмяротнай «Новай зямлі» толькі Бацькам Коласам. Вер, хлопча, беларусаў да апошняга «ў трунах павыпростваюць» (Міхась Рудкоўскі), а Колас з Купалам, а «Новая зямля», а «Дрыгва», а «На ростанях», а «Курган», а «Паўлінка», а «Раскіданае гняздо», а «Тутэйшыя» не сканаюць у стагоддзях.

## Пах пылу фаліянтаў

Неяк побач з Уладзімірам Андрэевічам Калеснікам успамінаў маё дарагое, маладое, наіўна-прымітыўнае, праведнае пуцейскае. Як доўб кайлом і ржавай рыдлёўкаю ў чыгуначным насыпе гліну «прорези» глыбінёю 2,7 метра. Пад цягнікамі, не вылазіў на свет белы нават у час паўгадзіннага перапынку на абед.

А ён чамусьці з імпэтам і слухаў мяне, і распавёў сваё. Менавіта пра чароўны, незабыўны яму пах пылу фаліянтаў у сутарэннях архіваў і музеяў, дзе адразу пасля вайны, хворы на сухоты, корпаўся, шукаў ад Кірылы Тураўскага і Скарыны да Багдановіча «чужое слова» пра Беларусь. І Бог дараваў яму напаткаць «Песню пра зубра» Гусоўскага — «пачынальніка многіх матываў у беларускай легендзе нацыянальнага адраджэння, спеў якой гучаў не на роднай мове тых, каму адрасавалася слова, а на мове рэнесанснага Рыма».

Шукаў, знаходзіў, тварыў. А ў выніку амаль у кожным радку ягоных глыбінных тварэнняў адчуваецца пазіцыя змагара за праўду шляхам праўдзівага, тонка прыхаванага выяўлення зла ў піку нахабнае, крывадушнае, ханжаскае прапаганды «дабра» хлусамі і здраднікамі нашае нацыянальнае ідэі ў нашым нечалавечым, агідна-рабскім, здаецца, з усёй зямное кулі толькі беларускім жыцці…

## Асалода і горыч

Люблю, радуюся слову. Слову шчыраму, слову трапнаму, з самай глыбіні, з гушчы, з закваскі народнае. Эх, нездарма, нездарма Вы, Аляксандр Сяргеевіч, радаваліся, як дзіця, білі ў ладкі: «Ай да Пушкин…»

Выпадкова, неяк не па-людску — з сярэдзіны да канца і з сярэдзіны да пачатку — праглынуў знянацку Вашага «Дуброўскага» — асалода! І не так ад сюжэтавядзення, вобразаў, харак-

тараў, выпісаных да драбніц, філігранна адлюстраванаму часу, эпосе «мракобесия на Руси, что не згинет, видимо, в ней до скончания имперского века ея», як Слову!.. Душэўнаму, простаму, ласкаваму, «без щегольства, барских прихотей, фантазии, позерства, праздности», слову, што выйшла з-пад адданага да апошняй кропелькі любаму чалавеку сэрца, і схопленага геніем, і ўвекавечанага ім у святое імгненне натхнення.

«Остаюсь твоя верная раба, нянька Орина Егоровна Бузылева. Посылаю мое материнское благословение Грише, хорошо ли он тебе служит? У нас дожди идут, ужо друга неделя, и пастух Родя помер около Миколина дня». Гэтыя «Орина, материнское благословение, ужо друга неделя, гэты пастух Родя, гэты Миколин день» (чуеце, колькі тут беларускага?!). Як яны сціскаюць сэрца, як уліваюцца праз боль у душу спачуваннем, прыяззю да святое праўды, раскрытае на ўвесь белы свет боскае істоты!..

Адчуваю боль, жаль, горыч, пакуту, калі страчу мілую сэрцу кнігу, і чамусьці губляюцца, крадуцца, не вяртаюцца самыя дарагія душы, самыя прыкіпелыя да сэрца.

Пачалося з «Тёркина» Твардоўскага. Бязвусым дарожным майстрам знайшоў яе, тоненькую, без вокладак, пад вагонам у час ліквідацыі крушэння вайсковай «вяртушкі». Крушэнне было не надта крывавае, хоць і спыніўся на паўдня рух цягнікоў. Шмат рознай драбязы трапіла пад колы, запазухі і ў кішэні, а мне — вось «Тёркин». Паўжыцця побач была, цешыла: «Нет, ребята, я не гордый…»

Потым Яўгена Грабёнкі «Чайковский» — шчырая аповесць земляка Гогаля пра запарожскіх казакаў, асабліва — пра Гадзюкаў «здоровый борщ».

Потым томік Блока за восемдзесят капеек з ягоным «Был иль не был тот вечер? Пожаром зари сожжено и разорвано небо и на небе зари фонари»… За ім Васіля Шукшына «Рассказы» з пяшчотнаю вокладкай, што глядзела ў душу блакітнымі вачанятамі валошак.

А там Брылёвы «Час і памяць» з адзіным аўтографам Настаўніка: «Аляксею Юр’евічу Філатаву»… Гэтых кніжак у мяне было тры, прапала менавіта самая дарагая. Найбольш шкадуецца споведзь Мікалая Рубцова, падараваная найдаражэйшым маім зазімкавым каханнем.

Нарэшце Міколкі Купрэева «Палеская элегія», па-хамску зажучаная маім жа вучнем — «самардаком», таміна навел Стэфана Цвейга, якую збондзіў кум Валодзя Будзько. Ну, гэтым давядзецца шыю намыліць і кнігі забраць…

Кнігі, кнігі, споведзі чалавечыя, праменні ясныя скрозь хмары, бальзам на сэрца збалелае, як мне без вас?!.

## І радасна, і балюча

Такі ўжо шчасны лёс кожнага з нас, хто сілкаваў у пэўны час «Берасцейскае вогнішча», запаленае Міколам Засімам і расшуганае Уладзімірам Калеснікам, што сказаць слова пра брата па дарагім душы занятку, не адштурхнуўшыся ад праведнай мудрасці нашага «Плытагона», не зможаш. Таму ў год ягонага векавога юбілею пачынаю свой сціплы аповед пра нашага «Запальшчыка» Міколу Арцёмавіча Засіма высновамі Настаўніка: «Засім на пачатку сваёй літаратурнай дарогі дайшоў да ісціны, што мастацкі твор складаецца не проста са слоў, а з жыццёвага лёсу самога аўтара і яго чытача… Напісанае ім было праўдзівым і самабытным… Сказаць праўду ў тую пару азначала задзець несправядлівы і аблудны парадак жыцця, вымагала не толькі дапытлівасці, а перадусім сумлення і грамадзянскай мужнасці…» Ад няпомных часоў лепш не скажаш пра паэта, паэзію і час.

Сустрэўся я ўпершыню з пеюном «Пружанскае зямліцы» шаснаццацігадовым студэнтам-чыгуначнікам у інтэрнаце Брэсцкага педінстытута сярод пачынаючых літаратараў-студэнтаў Івана Мельнічука, Васіля Жуковіча, Аляксея Майсейчыка і трох Міколаў — Купрэева, Радзюка і Крываблоцкага.

Паэту-змагару, партызану, асілку Засіму на той час было ўсяго сорак сем, а нам наіўна здавалася, што ён ужо пажылы чалавек. Але дзіва: пачувалася побач з вядомым паэтам, старшынёй абласнога літаратурнага аб'яднання, супрацоўнікам абласной газеты, якога перакладалі Міхаіл Луконін і Аляксандр Твардоўскі, пасяброўску нязмушана, проста і шчыра.

Дасціпнасць, уважлівасць, беларускія сялянскія прастата і сціпласць свяціліся ў ягоных сініх вачах на шыракалобым, кругля-

вым, з мужнаю складкаю губ і валявым падбароддзем твары. Зусім не так, як, напрыклад, з пісьменнікамі Аляксандрам Авечкіным, Аркадзем Сурскім, самім Уладзімірам Калеснікам. Гэтыя выглядалі прытомленымі мэтрамі. Тут сядзіш, бы мышаня ў кубле, піскнуць баішся, а там і ў спрэчку ўступіш. І ён любіў слухаць маладых, адчуваў іх адоранасць, назапашаныя не па ўзросце веды і меў абвостраную душэўную патрэбу бачыць, чуць чытача, няхай сабе і губашлёпага крытыка.

Не толькі заходзіў да студэнтаў, але і да сябе іх запрашаў. Вялікі пакой па Гогаля на другім паверсе ўражваў таксама немалых памераў адзінаю канапаю, сталом і дзвюма табурэткамі, грудамі і чыстай і спісанай паперы, гарою здымкаў пра фашысцкія зверствы на нашай зямлі. Шчыміў боль трагічных пакут, гарэла помстаю душа паэта да гітлераўскіх вылюдкаў.

Вясковы хлопец Засім, якому Бог дараваў саматугам і розумам і пачуццём пазнаць красу і гармонію чалавечае існасці, бязмерна жахнуўся, не мог даць веры, што адзінакроўцы Шылера, Гётэ, Бетховена прынясуць не толькі ў ягоны край, але і ва ўсю Еўропу столькі варварства і пачварства. Палымяны змагар «за волю і долю» свайго народа, Засім яшчэ больш узненавідзеў фашысцкую зграю за тое, што яна самым крывым спосабам — вайною — спыніла ўпэўнены поступ, як верылася адухоўленаму юнаку, яго вялікай краіны ў новы свет хараства, навукі, творчасці, перамогі мазольнае праўды. Была ў Мікалая Арцёмавіча і асабістая, неспатольная крыўда да забойцаў старых бацькоў, да катаў роднай сястры. Пра ўсё гэта ён шчыра скажа паэтычнымі радкамі, а У. А. Калеснік — публіцыстычнаю прозаю ў прадмове да «Выбранага» Засіма і ўласных кнігах «Час і песні», «Зорны спеў».

Успаміналіся падполле і партызанка Засімам і ў размовах з маладымі. Ён быў шчаслівы, што сцалеў, што лёс дараваў яму дачушку, што жывём мы — дзеці вайны — і ўсе разам зноў шырока крочым да запаветных вяршыняў. Чытаў нам новыя вершы пра «Апанасаў, якія ўступаюць у калгасы», пра «брэсцкія вуліцы, па якіх можна прайсці толькі абуўшы ногі ў восем пар галёш». Заўважаў нашы ўсмешкі, сціпла абураўся, пакідаў малады паэтычны самасей-падлесак, дагледжаны руплівым «лесаводам» Калеснікам, за гаспадароў. Сам сыходзіў з хаты да больш сталых сяброў, апоўначы вяртаўся з пачастункам…

У той час разам з многімі, нават буйнымі, савецкімі паэтамі перажываў пружанскі волат творчы крызіс. Не пазбегнуў ура-чыста-святочнага, тэндэнцыйна-ўрапатрыятычнага тону паэзіі, які прыкрываў павярхоўнасць зместу, наступаў на горла інтымна-лірычнай песні, што прасілася з душы.

Часам на літаратурных «серадах» і «чацвяргах», бывала, і Уладзімір Андрэевіч уздыхаў, слухаючы гэтага, як сам сказаў, «напаказ расхрыстанага паэта-партызана». А той крывавата ўсміхаўся і з пакораю, з «наіўна-дзіцячаю журбою» ў голасе прасіў:

— Ну, не сярдуй, не сярдуй, Валодзя, я дома па гэтым вершыку гэблікам прайдуся.

— Які там гэблік, — нібы толькі самому сабе заўважаў адмысловы мастак і ў цяслярскай справе Калеснік. — Дома ў цябе, Мікола, і шархебель затупіўся…

Мікалай Арцёмавіч паважаў людзей, і яны яго таксама. Неяк звёў нас лёс у адным аўтобусе да Кобрына. Ехаў ён па газетных справах. Я — на спартыўныя зборы. На патрэбных прыпынач-ках паэт далікатна, неяк неўпрыкмет, шчыра, па-чалавечы прасіў шафёра: спыні, даражэнькі. Той спыняў, і, далібог, цуд, дзіва: ніхто не сінеў, не сіпеў, не лаяўся, не хапаўся загрудкі. Пасажыры чакалі, пакуль мы вернемся, крышку больш пачырванелыя, на свае месцы.

— А неблагі з цябе партызан атрымаўся б, — пацісНуў цяжкаю далонню на развітанне маю руку. — І шчасце тваё, што малым быў…

А то ў Дзмітровічы, пад Белавежу заехалі на сустрэчу з баявым пабрацімам ягоным — «беларускім Чапаем» Самусікам. Сустрэліся. Гаманілі, успаміналі, жартавалі.

Вярнуліся ў Брэст, узняліся драўлянаю лесвіцай на ягоны другі паверх. У доме ціха, з болем Засім пачаў:

Сінія вочы, сінія вочы,
Вас я ў магілу браці не хочу.
Там пад сырою цяжкай зямлёю
Радасць не блісне чыстай слязою…

Упэўнены, што ўся наша сябрына, імя якой «Берасцейскае вогнішча», ведае гэты верш, як і іншыя з цыкла «Табе». Раман-

тычнае бунтарства «адкрывальніка дзвярэй у камуну», як і густую ягоную чупрыну ўжо кранае сівізна расстання. Ные, баліць душа, але верыцца паэту, што «зберажэ яго народ, якому да смерці ён адданы…»

Паклалася на душу і яшчэ адна сустрэча, ужо з памяццю пра Міколу Засіма.

Пачынаючаму радыёжурналісту было даручана зрабіць матэрыял пра Рыгора Раманавіча Шырму. Як на тое, і шафёр яму трапіў пачынаючы, самаўпэўнены і гарачы. Па няпісаных законах на Пружаншчыне трапілі мы не ў Шакуны, а ў Шані. Пакуль зразумелі памылку, пакуль знайшлі замест радзімы Засіма радзіму Шырмы, дык і сонейка на захад павярнула. Але пашэнціла сустрэць суседак-«краяведак».

— А як жа, а як жа, харошыя мае, помнім, памятаем. Мажны такі, здаравяка. Шчэ за Пілсудскім начамі камсамолію сваю разводзіў, цалюткую ночаньку чырвоныя сцягі развешвалі, прыпеўкі пад гармонік, «Варшавянку» і «Інтэрнацыянал» наярвалі.

— Дык і за немцам не баяўся бобікаў. На Хрышчэнне ці ў Грамніцы ў адной кашулі коціць возам паўз управу, кажух пад нагамі, яго і мароз не браў, грыміць на ўсю вёску: «Нашы хлопцы ў цёмным бары ад зары да зары рэжуць фрыцаў паганых…»

— Ой, далажу вам, паесці любіў. I ніякага там кіслага-салодкага, яечню яму на ладнай скварцы спячы.

— Дык і кілбасу пад плот не кідаў, — смяюцца, свецяць шчарбінамі.

— Рана, ой, рана пайшоў, такі пенькны і дужы, — ражком хусткі слязу аціраюць.

Датумкаўшы, што да чаго, і пра земляка свайго Рыгора Раманавіча расказалі. А хіба Засім кабетам не зямляк?

Вось і радасна мне, што памяць аб ім у народзе жыве. А балюча таму, што не паспеў у свой час выказаць паэту-земляку, старэйшаму сябру не толькі сваю шчырую павагу і ўдзячнасць, што нідзе на радзіме не стаіць ён «у бронзу адліты і сонцам спавіты» — ні там, дзе свет белы ўбачыў, ні там, дзе спачыў.

# «Літаратурны чацвер» у Міколы Цялічкі

Усярэдзіне мінулага XX стагоддзя слынны сын Палесся Міхась Рудкоўскі ў сваёй першаспеўнай, маладой гумарыстычна-іранічнай паэме «Успамін пра “Літаратурны чацвер”» прысвяціў Міколу Цялічку наступныя радкі:

А класіцыст М. Р. Талчкін
Ужо свайго каня паклікаў
І шаблю вон, і з месца — ў рысь…

Мікола Рыгоравіч на той час «аддубасіў» вайну, працаваў загадчыкам Кобрынскага райана і меў сваю кніжку паэзіі. Менавіта за гэту кніжку і назваў яго Міхась «класіцыстам». Мне, васямнаццацігадоваму, запомніўся Цялічка з тае пары то задуменна-флегматычным, то горача-азартным.

Не змяніўшы натуры-характару, праз паўвеку, амаль дзевяностагадовы Мікалай Рыгоравіч, вярнуўшыся з вандроўкі на «рідну Украіну» ў наш Дзівакрай (так называе Берасцейшчыну сам Цялічка), запрасіў малодшых сваіх паплечнікаў на… «Літаратурны чацвер». Праўда, гады, як і голад, не цётка, і засядалі мы з прычыны хваробы ветэрана вайны і паэзіі двойчы — першы раз у бальнічнай палаце, дзе на той час акапаўся падпалкоўнік запасу, другі — ужо ў ягонай кватэры. Мы частавалі яго «франтавымі стаграмамі», хоць ён і ў губу не бярэ, а ён не пашкадаваў нам і з біклажкі, і спеўных слоў са свайго новага ўкраінскамоўнага зборніка «Дівокрай». У прадмове да яго паэт прызнаецца: «вершы ахопліваюць даволі вялікі тэрмін жыцця Берасцейскага краю, у якім аўтар пасяліўся пасля вайны. Прырода і людзі Берасцейшчыны напоўнілі зместам зборнік».

Але не быў бы Цялічка «класіцыстам», калі б да ўкраінскамоўнага не прыхапіў бы яшчэ і рускамоўны, таксама нядаўна выдадзены, «Что написано пером», у якім абавязковая для паэта-франтавіка ваенная тэма. Зместам нашай размовы таксама было мінулае — вайна і маладосць.

Мы зайздросцілі памяці Міколы Рыгоравіча, калі ён успамінаў прасоленых, скрываўленых баявых аднаакопнікаў, якіх ён губляў на палаючых вёрстах, і бачылі на ягоных вачах «за невернувшихся солдат ещё не выплаканные слёзы». Мы радаваліся і цяжка ўздыхалі, калі ён дзякаваў за навуку і чуласць душы Уладзіміру Калесніку, Міколу Засіму, Аляксею Бакуменку, Аляксандру Авечкіну, Уладзіміру Стэльмашуку, Фёдару Леўчуку, Дзіму Кавалёву, Аркадзю Сурскаму, Віктару Сухарукаву, Сцяпану Крывалю, Міхасю Рудкоўскаму, Колю Купрэеву — нязменным удзельнікам нашых «вечаў і сечаў», якія, як сказала Ніна Мацяш, — «зарана адляцелі ў незваротны вырай, пакінуўшы нам добрую памяць».

Мудры Цялічка ўсё яшчэ глядзіць наперад. Ён перажываў за нашу «Жырандолю», бо заўважаў у ёй і няспелыя радкі, і творчыя хібы, і адсутнасць на яе старонках маладых талентаў… Ён нязменна верыць у неўміручасць слова, радка, верша, песні, калі яны народжаны сапраўдным творцам:

Мой верш дарогамі вайны
Прайшоў агні і воды.
Цяпер няма яму цаны,
Як твору праўды і свабоды.

Ён крочыць па Радзіме, усё яшчэ зачараваны яе красою, і мы жадаем шчасця яму на гэтай дарозе.

Зноў паеду у Кіеў, паеду у Львоў,
Зноў паеду ў горы да сіняга неба.
Я гадзіннік жыцця ўраз назад перавёў,
Ў занябесную далеч спяшацца не трэба…

Ваша праўда, шаноўны Мікалаю Рыгоравічу!

## Дзе вы сёння?

Бог ведама як трапляе ў рукі «травеньскі» нумар «штомесячнага часопіса маладых літаратараў Беларусі» «Першацвет» (ці хоць дыхае ён сёння?) за 1994 год. І так шырока ўздыхнулі

грудзі ад волі, што заструменіла са шчырых таленавітых радкоў 15–20-гадовых. І так залюляла, уваскрасіла роднае слова: «Дык дзе, дзе вы сёння, хлопцы і дзяўчаты, што ж вы, бунтары бурапенныя, няўжо і вы за намі, трухлявымі пянькамі, рабамі маўчаць будзеце? Вастрыце шаблі-дзіды, набівайце порахам рушніцы, будуйце барыкады, а мы вам порах і каменне, смалу і стрэлы паднясем»…

(А «Першацвет», як і шмат што з беларускага сапраўднага, як ніколі патрэбнага, пасля рэферэндумаў, выбараў і канстытуцый занядбалі…).

## Лягчэй стане

Заўсёды пакутую, калі разбіраю похапкам накрэмзаныя рукапісы. А напладзілася… Сусед сцвярджае: «І МАЗам не павязеш». І яшчэ большыя адчай і згрызота, калі шукаю да зарэзу патрэбную ў гэты момант кнігу ва ўласнай бібліятэцы: тры шафы па тры паліцы, чатыры шуфляды, тумбачка, некалькі стосаў на падлозе ў святліцы, па купе ў гаражы і летняй кухні і ладныя гурмы на пісьмовым і абедзенным сталах…

Затое… Якая асалода, як радасна і лёгка стане на сэрцы, калі разбярэш і знойдзеш!..

## Сустрэліся

…Ды хіба толькі з рукапісамі і кнігамі хаос, бязладдзе і згрызота? А пісьмы, а фотакарткі, а ўжо надрукаванае ў газетах і нават часопісах?.. Гэтага дабра ў мяне няшмат: не любіў адказваць на лісты, лезці паперад аб’ектыва, ды пайшлі мае думы-трывогі, як гаворыцца, з ветрам за вадою ў самастойнае сірочае жыццё…

І вось дасылае мне лісток Рудкоўскага Міхася малодшая сястра Ярына. А ў канверце яшчэ і фотакартка. Сівы і ладнавата

падношаны, стаю я ля Міхасёвага бюста на магіле Востраўскіх кладаў. І так атрымалася, нібы побач нашыя твары, мой — яшчэ жывы, сябраў — ужо ў бронзе.

Цісну картку ў нейкі патрэпаны кардонны карабок, з якога выслізгвае на падлогу яшчэ адна фотакартка. Падымаю, гляджу — я з маленькім старэйшым сынам Алёшам на руках. Аж здрыгануўся, ажно страшна стала: сустрэліся хмельная маладосць і лядашчая старасць.

Успомніўся далёкі Міхасёў ліст з Хатынічаў (у Ярыны паэт залізваў тады свае глыбокія душэўныя закарэлыя раны), а ў ім — толькі-толькі народжаны верш:

Адной рукой ты калышы калыску сына,
Другой — магілку дзедаву папраў…

Божа, мілы, літасцівы, памажы, памажы, Божа, знайсці і той ліст, і гэтыя фотакарткі, і мудры, сардэчны водгук на маю апошнюю кніжку «Страла жыцця» Ніначкі Мацяш. Прабачце, Ніна Язэпаўна! З таго моманту, калі я — здаровы бэйбус, сама ў моцы лёгкаатлетычны дзесяціборац і валейбаліст — упершыню сустрэў Вас і пачуў Вашу песню, Вы да апошняга застаяцеся ў маёй душы менавіта Ніначкаю…

P. S.: Сёння Ярына пазваніла на світанні: у Рудкоўскага ўнук нарадзіўся. Міхасём ахрысцілі…

P. P. S.: Раненька ступіў на парог хаты, збегшы з чацвёртай бальніцы з інсультам, і адразу чую тэлефонны званок. Ярына Рудкоўская:

— Выпісалі?

— Не, уцёк!..

— Як я рада, што ўжо дома Вы, што чуеце, што гаворыце, нават жартуеце.

І чую сэрцам, што на самай справе радуецца, нават хваліць мой новы псеўданім — «Капшук кантужаны». Так, рада, шчыра, па-чалавечы. Нават больш, чым радня па крыві, родная мне цераз брата свайго па духу.

# У вераб'іную ноч

Цяжкае, задушнае лета. Па ўсёй Беларусі кожан дзень за трыццаць. Два такіх толькі помню за семдзесят гадкоў. Малым у Ляхаўцах, калі наш удовы бацюшка з двума сынамі, як і наша сямейка, апухлыя з голаду, адолелі вясну, і ён вадзіў хрэсныя ходы, правіў малебны яшчэ на ўласных «адзіналічных» ніўках, а бабулі сыпалі ў калодзежы мак. І ўжо ў сталыя гады, калі падрабляў у Забалацці Падлескім на КЗСе, сяляне, ужо без святароў, сыпалі ў студні пясок, прасілі ў Бога літасці, прахалоды і хлеба. Тады, здаецца, неба чула шчырыя малітвы. Сёлета ўпарціцца, але паслала крышку дажджу, грымоты і бліскавіцы ў першую ў жыццечку вераб'іную ночку маёй найменшанькай васьмімесячнай унучцы Чкаліку (дзяўчынку ахрысцілі Валерыяй разумныя нашы дзеці, дык я чамусьці нарок яе ў гонар цёзкі ейнае Чкалава Чкалікам).

Здалёк пачула дзіцятка пагрозу, жуду і заплакала гаротна, няспынна. «Адкуль яно? — круціўся, не мог супакоіцца дзед. — З якіх ліхіх начэй? А з сівое даўніны, калі продак наш, напэўна, хаваўся ад залеваў у пячорах ці на дрэвах…» У самы магутны грукат-разрыў перуновы Чкалік змоўкла. «Таксама чаму?..» Заснула, мо выбілася з моцы, дала магчымасць і дзеду заплюшчыць вочы, забыцца ў сне.

Прачнуўся раненька. І думка панесла, Бог ведама чаму, да пісьменніцкае справы — назірання. «Эх, каб табе Філатаў, ды рэдактара з чулым сэрцам», — не раз паўтараў Міхаська Рудкоўскі.

З трымценнем заўсёды праўлю братоў і сясцёр па дарагому душы занятку, шкадуючы, заўсёды прашу прабачэння. А ўчора карпеў над вершамі Мішы Федарука, вясною адляцелага за зямны небакрай, і пачуваў сябе байчэй, упэўнена, смялей. Няўжо таму, што ён ужо не скажа мне ў вочы: не смей сваім паганым пяром крэмзаць маю душу, мае думы, мары, надзеі?..

# Экспромт

О Леанід, хоць ты не грэк,
Але было б не грэх
Пакінуць пыл і тлум
Спартыўных заляў і камор,
Ды паімчаць у прастор,
П'янкім заснежжам
Белавежжа прычасціцца.
І ўтрапёна прыпыніцца.
Там, дзе бруіць крыніца,
Куды ідуць напіцца
Аленіха, зубрыца і ваўчыца.

Імгненны экспромт Рудкоўскага ў Купрэева каморчыне пры Філатава спартыўнай школе, дзе неяк сышліся ўпяцёх, Купрэеў, Рудкоўскі, Сухарукаў, Гарай, Філатаў паўшчуваць бадзяжнага паэта за тое, што каморчыну гэту ён пакрысе пачынае рабіць прытулкам бічоў і бамжоў. «П'янкім заснежжам» змогуць сёння прычасціцца, і то ў марах, толькі двое апошнія.

…Божа, якім жа сабачым было тое саўковае жыццё! Працаваў у нас у школе трэнер, Гадулькавай сціпласці чалавек-дзівак, здаецца, таксама «іняз» скончыў, з дзіўным прозвішчам Рыга. Якім цудам ён на валейбол трапіў, нават і Бог, напэўна, не ведаў. Настойвалі выгнаць, а ў яго дачка ад першай жонкі і сынок ад другой — маладой, якая акурат яго з хаты выгнала. (Я нашага «валейбаліста» на шахматы кінуў — прыжыўся: кандыдат у майстры спорту. Ну, а разумныя людзі — не для хрушчоўска-брэжнеўскага сацыялізьму-камунізьму.) Дык вось хлопец пасаромеўся папрасіцца да Купрэева: сябар дырэктара, маўляў. І ў закінутай зламанай бойлерна-душавой нары сабе змастаколіў. Ледзь выцерабіў нябогу праз ягоныя і ўласныя слёзы на гарышча турыстычнай базы, дзе ў той час змог нейкім цудам атабарыцца і паэт-франтавік Дзмітры Васільеў.

## Чулая душа

На лаўцы ля тралейбуснага прыпынку з Купрэевым адпачываем. Ён прапускае рэйс за рэйсам: цяжка дыхаецца, глуха кашляецца, ногі адмаўляюць служыць. Нарэшце праводжу чалавека да вакзала. Крыж сьвяты, надакучыў з тым «святым», выклятым заняткам, які і мяне трымае ва ўчэпістым, цяжкім палоне. Ды сумуецца нечага, цяжка на сэрцы, асабліва калі скосіш сваё ў ягонае, бы ў ягняці, вялікае блакітнае вока. Нават сарвалася з вуснаў:

Мой друг дзяцінства, любы вяз,
Ўжо час развітання з табою.
І ты прабач, што я пайшоў,
Прабач, што ты не змог пайсці са мною…

— Та-а-акс-с-с, — прыжмурыў вочы, ацёр бараду, задраў галаву ў неба, два разы хітнуў зверху ўніз. Прыкурыў, па-панску, ад сябе запаліўшы сярнічку, выпусціў дым і, разглядаючы пракураныя дарэшты пальцы, нібы мімаходзь пытае: — Тваё?

— Не, — называю аўтара.

— Ну што ж, часам і ён нешта народзіць, і ён мае шчырую душу… Усё! На наступны сядаем. Да прыгараднага неяк дапнемся. Ну, а там, а там, як мінулы раз, Лёня, у вагон занясеш…

Не раз я вас, хлопцы, Міхась і Мікола, і вадзіў, і насіў, а сёння сам «класікам» станаўлюся: на абедзве нагі пачынаю кульгаць…

## Неспадзявана

Познім вечарам, калі дапінаўся з качагаркі дамоў, з цемры ў спіну пачулася: «Вось ідзе апошні ў пасёлку беларус». Прагучала гучна, упэўнена, сур’ёзна.

Здзівіўся, спыніўся, задумаўся, узрадаваўся. Не верыцца, але марыцца: «Не, не толькі нарадзіліся, але ўзраслі, сталі на крыло,

зрабілі ўзмахі насустрач волі, можа, і не апошнія твае родныя дзеці, Беларусь, твае вучні, спадар Філатаў». У думках нават нарадзіўся загаловачак думкам маім — выканаў параду Міколы Купрэева: «Не стаў зорачак, прыдумляй загалоўкі: кожная мініяцюра — мініраман». Маю, так бы мовіць, афіцыйнае пацвярджэнне гэтай шчырай парадзе — адказ Купрэева з «Зары».

Неяк, працуючы сантэхнікам у Брэсцкай спартыўнай школе нумар чатыры і падрабляючы ў абласной газеце літкансультантам, наткнуўся паэт на купчыну абразкоў дырэктара ягонае школкі. Не здзівіўся, бо даўно сябравалі, прааналізаваў дасланае, на афіцыйным бланку пракансультаваў аўтара, за «труды праведныя» нават ганарар атрымаў (за кожны абразок — рубель) і ўзяў за яго на душу на абох.

— Капейкі далі, — скардзіўся ў каморчыне, якую мы яму падшыхавалі пры спартыўнай зале. — Збегай, Лёня, па закуску, не шкадуй, вазьмі ў сейфе з «баявога НЗ». Толькі цвёрдага, цвёрдага не бяры, сам ведаеш, зубы мае не ў роце, а ў карабку з-пад запалак.

За «мецэнацтва», якое ахрысцілі «патураннем дармаедству», «айцы» Ленінскага раёна горада Брэста ўляпілі «злачынцу» «вышку» — тры аклады на карысць самай магутнай тады дзяржавы ў свеце.

## Радуюся

Перачытваю Галубовічавы «Зацемкі» і радуюся. Радуюся, што не кінуў піць — «расслабляться»: гэта ж пручаўся бы за ім ірваць душы чалавечыя, агаляючы да непрыстойнае срамоты быдлячае існаванне чалавека, «людства».

Зноў і зноў паўзу, упаўзаю, бы кураня ва ўдава, у Галубовіча; і з кожным радком — глытком ён мяне мацней і мацней душыць… «Думкі стомленыя, словы цяжкія», — гэта пра мяне, бы побач сядзіць. Але запісваю: «Кахаць жанчыну — як мроіць пра вечнае». І неяк пасвятлела, бо я, «ЛГ», дасюль яшчэ кахаю. Гару, гару тут, а смажыцца буду, абавязкова буду, абавязкова буду, там. Заслужыў! Аж занадта…

## Увесь чалавек

Ледзь перажоўваю, перажываю, пераўжываю ледзь выдраную з Галубовічавых рук на 70-годдзе Купрэева ў Івацэвічах самаадстаўнога паэта прозу — «Зацемкі»…

І яшчэ больш жыць не хочацца. Страшна, скрушна і праціўна ад ягонай «дыялектыкі пазнання самога сябе, празарлівасці і таямнічай пранікнёнасці ў тайну тайны»… (У. А. Калеснік). Ад усіх ягоных паміранняў, кананняў і забойстваў: свінні дзядзькі Міхаля, згарэлага ў бензавозе Колі Архіпавага, самой смерці, якой аўтар, пішучы «звычайна пра разумнае», спрабуе даць права на…жыццё, і хоць не зводзіць жыццё да смерці, ды гундосіць праз радок, «што няроўна дзеліць Бог», што без творцы «заглохнет нива жизни»…

Гадоў з дзесяць таму левакішэнны Галубовічаў скарб я ахрысціў беспрасветам і нават «увекавечыў» у «Жывой зямлі», а сёння яшчэ больш у гэтым упэўніўся. Высветліў дуроту і нікчэмнасць не толькі ўласнага прыходу ў жыццё. Цалкам згодны, што «Разанаў — неба, Галубовіч — зямля», дзякую цёзку за яшчэ адну (ужо не ляхавецкую) мянушку — Гусар. Не надта ўпэўнены, што не толькі я праліюся кропляю «цёплага, шапаткога дажджу, а час сатрэ ці само напісанае, ці толькі пыл з яго», радуюся, «што не думаю пра сябе многа, гэта зробяць за мяне іншыя». Удзячны Богу, «што ён стварыў людзей і надзяліў іх розумам, і тады ў іх з'явіліся дурныя думкі»…

Але хоць чытанне-перачытванне Галубовіча — пакута з пакут, далібог, баюся, каб згубіліся ягоныя старонка, абразок, зацемка, сказ, радок. Не пакідае прага пакутаваць над амаль біблейскім Леанідавым шматдум'ем і радавацца…

Радавацца, як тады, у шостым класе, калі чытаў перад полымем у грубцы, седзячы на бярозавым цурбачку, бессмяротны «Ціхі Дон».

Адчуваў, адчуваў і тады, адзінаццацігадовы, жыццёвую мярзоту, грэх і кару, пакуту і шчасце чалавечыя. Ды хіба так, як

сёння — за два крокі да сямідзесяці абалонкі сваёй, — усё той самай падлетка-дзівака душою!

Дзякую, Леанід Міхайлавіч, дзякую, Лёня, за ўсе спыненыя імгненні, за тое, што ты быў і ёсць «Увесь чалавек»…

## Добра між вамі мне, людзі

Ну, як тут не дзівавацъ, калі ты ведаў, бачыў, чуў, адчуваў: чалавек як чалавек, не надта высокі, худзенькі, ціхмяны, надзвычай сціплы, прыстойны, башкавіты, да педантызму інтэлігентны… І раптам кніжка вершаў ягоных, якую ты па распусце сваёй некалькі гадоў насіў у трэнерскай торбе, аўтарам нават падпісаную, не зазіраючы ў яе, не гартаючы яе гаючых старонак, якія філігранна, па-мастацку адкрываюць табе свет увогуле і свет душы творцы, якая так сугучна і тваім думкам, настроям, адчуванням светлых парываў у слугаванні дабру.

У вершаванай прадмове да свайго першага паэтычнага зборніка «Між вамі» прыбужскі паэт Канстанцін Жмінько шчыра, на адным дыханні, скажам па-спартыўнаму — «першым тэмпам», без сучаснага мудрагельства і выкрутасаў падзякаваў жыццю, зямлі і людзям: «Мне больш няма чаго сказаць вам, людзі… няма чым вас суцешыць, апроч як тым, што добра мне між вамі»… І яшчэ раз падкрэсліваў тэму і ідэю сваёй паэтычнай споведзі назваю кніжкі. Суцешыў чытача, суцешыў і сябе, бо жыў і адчуваў сябе ў двух імгненнях — «калі свет пераходзіў у яго і калі ён пераходзіў у свет». А пераходы адбыліся гэтыя ціхамірна, адкрыта, без самалюбавання і эгацэнтрычнай пацярухі, у шчырым прызнанні закаханасці ў жыццё. Як і ва ўсіх маіх сяброў-паэтаў, землякоў-палешукоў, асабліва ў тых, хто «родам з вайны» (Рудкоўскі, Купрэеў, Арабейка, Жуковіч, Мельнічук), у паэзіі Кастуся заўважаецца тая «даравітасць і чуласць сэрца», на якую звяртаў увагу Уладзімір Калеснік.

Кастусь Жмінько нарадзіўся 17 лютага 1941 года ў Пугачове пад Брэстам. У звонь-цішу гэтага ўрадлівага лапіка прыгожай зямлі з-за Буга ўжо далятала да «рабоча-сялянскай сям'і»

Кастусіка лязганне фашысцкае сталёвае зграі. Сваю сям'ю «рабоча-сялянскай» назаве сам паэт у змешчанай на старонках зборніка кароткай аўтабіяграфіі. А вось у паэзіі «рабочага» нешта я не прыкмеціў, бо ўратавалі, ускармілі чалавека, вывелі ў людзі, у бел свет сялянскія, «усходнекрэсоўскія» палі, лугі, балоты, крыніцы, бары ды дубровы.

Захапіла сваім багаццем роднае слова, зачаравала красою родная зямля, запалілі пачуццё ва ўзнёслай Кастусёвай душы яшчэ ў дзяцінстве і натхнялі доўгі час — вучня школы нумар чатыры горада Брэста, электрамантажніка, электрыка-падводніка, мастака-афарміцеля, студэнта-завочніка філфака педінстытута, мытніка і, нарэшце, начальніка аддзела абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў. І надзвычай сціплы, самакрытычны, даўно ссівелы «мент» у портках з шэрай «парусіны» адважыўся сабраць пад вокладку і з дапамогаю сяброў (праўда твая, Лявоне Галубовічу, — нясоладка жыць беларускаму пісьменніку, ды часам «пісанне» ягонае на шмат прыгажэйшае, чым «жыццё») вынесці на людское вока свой дарагі набытак.

Ужо ў той час, калі «і лета аджыло, а восень у лесе блудзіць, калі ў смутку птушкі сталі на крыло, а на лясы снягі накінуў студзень…». З гумарком, з самаіроніяй, шчыра, вобразна, як ні круці, таленавіта.

За час слугавання лірычнаму слову і не без дапамогі паэтычнай берасцейскай сябрыны (асабліва шчырай была сувязь сям'і Канстанціна Фёдаравіча з сям'ёю Калеснікаў) Жмінько набыў толькі сваё адметнае бачанне зямнога існавання і сусветнай гармоніі, знайшоў свой паэтычны шлях па дарагой яму «пакутніцы-краіне». Гістарычны лёс Беларусі, яе народа і мовы напоўніў свядомасць яе адданага сына «дакорам, адчаем і неспакоем» (верш «Існасць», прысвечаны памяці У. Калесніка) і разам з тым прынёс паэту «радасць, сталасць, прычасце і шчасце» («Дзве іскрынкі») — асабліва неабдымнае таму, што

Ішоў скрозь вякі
З павуцінкай на скроні,
І далоньку дачкі
Трымаў у шурпатай далоні.
*(«Я ішоў»)*

Чамусьці зноў успомнілася Шаўчэнкава: «Я так її, я так її, я так її люблю, мою Україну убогу» і Коласава: «Толькі нудныя песні твае, Беларусь, жалобяць душу, хапаюць за сэрца. І горкаю ўпікаю, і ціхаю скаргаю плывуць да абыякавага сіняга неба».

Творчасць Жмінько — песняра Прыбужскай «зямліцы» (пяшчотнае слоўка Міколы Засіма пра Пружаншчыну) — нясе ў сабе прыкметную сэнсавую і пачуццёвую нагрузку. Яна спеўная і далікатная, запамінальная і трывожная, асцярожная і прызыўная, а пры выкрыцці цяперашняга «вясёлага свята маразму» — дык і з ладнай доляй іроніі і сатыры.

Канцэпцыя кароткай памерам і ёмістай зместам лірыкі Жмінько грунтуецца на выхаваных ва ўмовах шчырай сялянскай маралі спагады, дабра, улюбёнасці ў прыгажосць людскіх узаемаадносін, іхніх пачуццяў. Вобразы Маці, Радзімы, дараванага Небам Кахання кладуцца ў слова, радок, страфу, верш трапяткі, праведна-чысты, бы расінка на весняй кветцы, бы слязінка з безабаронных дзіцячых вачанят.

Жыццёвая плынь мяне паланіла, нарадзіла радасць-трывогу ў сэрцы маім, і я дзялюся ўзнёслым станам маёй душы з вамі, людзі. Чытайце, радуйцеся і пакутуйце разам са мною. Не схлусіў я вам ні на кроплю, — прызнаецца Жмінько. — Няхай і не нахапаў зорак з неба, але яны ззяюць у сэрцы маім, як і ў небе над нашай, блаславёнай на шчасце, зямлёю.

А да шчасця, ой, як далёка, і гучаць у асобных вершах грамадзянскага накірунку матывы пакут, болю, страты, непазбежнасці чалавечага лёсу, дзе лёс асобы ператвараецца ў агульназямны лёс («Хатынь», «Курапаты», «Жыццёвая плынь», «Галінка»).

Паэзія высокага мастацкага густу, іскрыстай асабіста-індывідуальнай метафарычнасці — надзейны падмурак, аснова і другой, і трэцяй Жміньковых кніг, якія клічуць чалавека ў чароўны вір паэзіі, захлынаюць яго хараством пачуцця.

## Бяры мае акуляры

Вышэй сярэдняга росту, ды крыху сагнёны, грудзьмі і плячыма — не зломак, цёмна-густачубы і калматабровы, з маленькімі вочкамі з-пад акуляраў у цёмнай аправе Сцяпан здаваўся вычасаным з дубовага абзэмка, над якім доўга не мудравалі цеслі, карыстаючыся толькі сякеркаю. Век з насупленым ілбом, клышаногі, у рудым палітоне, ён добра так нагадваў былога гаспадара палескага лесу — мядзведзя, якіх знішчылі лесанарыхтоўшчыкі і меліяратары да таго часу, калі недзе ў сярэдзіне шасцідзясятых мінулага стагоддзя атабарыўся «пісацель» з руплівіцай жонкаю Кацярынаю і дзвюма дочкамі ў нашай Маларыце, прыблукаўшы недзе з-пад Івацэвіч.

Ён меў ужо за плячыма вайсковую службу ў пясках Каракумаў, быў выгнаны з другога курса журфака ўніверсітэта, але няспынна сыпаў Бялінскім і Талстым, меў растаропны розум і, галоўнае, хоць клышавыя, але надзвычай дужыя, нахрапістыя, хуткія ногі. Ён быў «увахож» у інстытуты, рэдакцыі, райкамы, абкамы, райспажыўсаюзы, піўныя, крамы, вайсковыя часці, аддзелы міліцыі і пажарныя каманды, у кватэры пачынаючых і мэтраў, аж да самога старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Максіма Танка, дзе, як не аднойчы з гонарам сцвярджаў, набіраўся матэрыялу ў будучыя тамы сваіх праўдзівых кніжак. Не ленаваўся чытаць класікаў і пачынаючых, пісаць на адных і другіх злыя трапныя эпіграмы.

Яго ведалі ў твар старшыні, галоўныя інжынеры і бухгалтары, парторгі, камсоргі, даяркі, трактарысты і шафёры калгасаў, саўгасаў, «Сельгастэхнік», МСО і ДЭУ, супрацоўнікі бюро рытуальных паслуг, дамоў быту і культуры, настаўнікі, камсамольцы і юныя піянеры. Шмат каму з іх ён за адзін рубель і «за так» падпісаў сваю адзіную кнігу «Аднойчы летам». А каб выдаць яе, назбіраць тыраж, на папутных машынах, рэйсавых аўтобусах, таварных, прыгарадных, пасажырскіх і хуткіх цягніках, роварам і пехам наведаў амаль усе больш-менш значныя кропкі роднае Беларусі, у якіх гандлявалі кніжкамі.

Век паводзіў сябе сціпла. Націскаў на сала, хлеб, соль, ваду, цыбулю і часнок. Мог адпачыць, падклаўшы пад галаву толькі кулак з шапкаю, накрыўшыся шынялькам. Аднойчы быў разбуджаны міліцыянтам на клумбе ля помніка Перамогі ў стольным Мінску акурат перад гадавінай Кастрычніка, і аказіяй гэтай дужа ганарыўся.

Ён быў смелым, таленавітым журналістам, пісьменнікам з гумарыстычным ухілам — і яго любіў памяркоўны беларускі наш люд. І таму сёння чалавек гэты ўспамінаецца з нязменнаю, шчыраю, чалавечнаю ўсмешкаю.

Вось і паэт Сямён Кавенька, скажам так, у гады Крываля і аматараў кукурузы з грэчкаю — першы сакратар Маларыцкага РК ВЛКСМ, падвесяліў неяк нашу літаратурную сябрыну шчырым сваім успамінам пра Крываля.

…— А ці збіраецеся Вы, Сямёне Іванавічу, на прастор, на шырокі прастор, ці не нажылі яшчэ, прабачце, гемарою ў гэтым кіруючым крэсле? — заспеў мяне адразу пасля лятучкі ў кабінеце па позняй вясне.

— Не, не нажыў пакуль, адкажу Вам, не дачакаецеся, Сцяпане Антонавічу. А ў раён збіраюся. Во, «К-750» зацугляем і — да меліяратараў у Арэхава. Извините, Вас это устраивает?

— Спасибо, дзенькуе, шчыра дзякую, вполне!

Я паўбоцікі скідаю, дастаю з каляскі чобаты з плашчнакідкаю, а Сцяпан у карычневым гарнітурчыку і пантофліках на задняе сядзенне мосціцца, адною рукою за дугу сядзення, другою за акуляры трымаецца. Акурат ля возера Арэхаўскага дамбу ўзводзілі. Калдобіны, яміны. На сушэйшым — пясчуга з пылам, у нізінцы — калюжыны з гразюкаю. То з адхону, то на адхон, то з матацыкла, то на матацыкл, то мы яго, то ён нас вязе. Урэпаліся па макаўку. Я халявы чабоцяў, ён калошыны нагавіц папалілі, абодва лыткі папяклі, аж скварчэла. Неяк дапнуліся, у возеры адхаркаліся, адмыліся, палапіліся. Я да камсамалят — у ПМК і ў праўленне калгаса, Сцяпан — у рыбалавецкую брыгаду матэрыялу набірацца падаліся.

Пакуль я вярнуўся, Сцяпан назбіраўся і мне юшкі пакінуў. Паціху ладкуемся дамоў.

— Сёма, Сямёне, век не забуду, на прамілы Бог прашу, — узмаліўся Антонавіч, — Сёма, Сямёне, бяры мае акуляры: абодва нічагуські бачыць не будзем, а то, чаго добрага, сэрца ад страху пэнькне…

## Стамлёны вырай прытуліў

Ужо каторы раз мама ціхенька просіць: «Прачынайся, уставай, сынку, табе чараду пасвіць». А ўставаць так не хочацца! І маці шкадуе, дае магчымасць яшчэ хвілінку паспаць. Нарэшце ў сямігадовага падпаска за плечукамі — торба, у руках — ляшчынавы кій. Так, «не белы і не русы, а колерам у спелае жніво» Іванка Арабейка — падпасак, бо за пастуха — не намнога старэйшы ягоны родны брат.

Торба за плячыма ў парабкаў — чужая, бо яны найміты — людскую скацінку пасуць. А вось кій, рабенькі і зграбны, бы цацачка, — уласнай вытворчасці, бо рукі ў палешукоў ад бацькі і ад Бога, ад роднае зямлі, як і сэрцы іхнія, пакуль памерам з кулачок, — залатыя.

Уладзімір Андрэевіч Калеснік не мог надзівіцца, чаму Палессе «ў час вайны і адразу пасля яе нарадзіла так шмат чулых сэрцам дзяцей». Іван — адзін з іх. І цягне ён цяпер парэпаныя, адубелыя, босыя свае нажаняты праз колкую жнівеньскую расу «ўслед за сонцам» у аколіцах роднае вёсачкі з п’янкім імем Хмелева бліз Жабінкі.

Я вухам не чуў і вокам не бачыў Івана, але ведаў ужо пра яго ў далёкім 1955-м, бо вучыўся разам з ягоным суседам, які таксама не мог надзівавацца той празе да працы, той нястачы, якую пораўну дзялілі шматлікія дзеці сям’і Сяргея Арабейкі, намагаючыся з апошняе моцы дапамагчы бацькам зарабіць на хлеб. «Каб браць той хлеб было не грэшна, я дровы сек і печ паліў», — вобразна скажа Іван праз гады ў вершы «У хаце сонечна было» з першага ягонага паэтычнага зборніка «Услед за сонцам», пачынаючы распрацоўку ў сваёй спеўнай лірыцы тэмы любові да маці-жанчыны, якая нарадзіла, і маці-Радзімы, маленькай і

найвялікшай у свеце, якія вывелі, нягледзячы на «чорныя скібіны няўдач», каржакаватага, у корань, вясковага хлопца ў людзі.

За сваё шматгадовае і скрутнае літаратурнае жыццё Іван Сяргеевіч выдаў толькі дзве паэтычныя кніжкі. Другая мае назву «Асенні ранак». З 1979 года Іван — сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. А ў тыя гады афіцыйным пісьменнікам было стаць цяжэй, чым у космас узняцца. Дарэчы, прысвяціў ён верш і нашаму зорнаму земляку Пятру Клімуку, ды я б сказаў не так яму, як ягонай маці…

Чытаем Іванаў спеў, і паціху, шчымліва радуецца душа, і дзякуем Богу за тое, што звёў з чалавекам, які так звонка, іскрыста, так чула і далікатна-замілавана выказаў і твае запаветныя пачуцці і думы, ухваліў, здзівіўся красою нашай непаўторна-самабытнай зямлі, раскрыў існасць душы палешука.

Пячэ — ні воблачка нідзе,
На лузе конікі замоўклі,
І толькі чмель адзін гудзе
Вакол рамонкавай галоўкі.
Зграбаем сена, ну а дзед
Кладзе ў копы ды жартуе:
«Яно — як чай, карова з’есць —
Яшчэ і ў рукі пацалуе».

Аснова і выток пачуццёва-пейзажна-інтымна-патрыятычнай паэзіі Арабейкі — вясковыя, цнатліва-чыстыя, надзвычай сціплыя, нават неяк пяшчотна-сарамлівыя. Ну, не можа Богам адзначаны дзівак-чалавек, бы натоўп «самаўпэўненай пасрэднасці» (Янка Брыль), кляпаць і трубіць оды «времени, себе і ему». Але мімаходзь адзначым, што і вытворчую, пралетарскую тэму не мінае ў сваёй творчасці інжынер па адукацыі Арабейка.

І робіць гэта па-майстэрску, таленавіта, да парушынкі спазнаўшы тэхналогіі вытворчасці «газавых пліт, шкла, папярэдне напружанага бетону», і пры гэтым тлумачыць прычыну поспехаў як паплечнікаў, так і ўласную: жарыць «сэрцаў нашых агонь! Барвовае полымя печы бушуе, бушуе ў вачах».

Не мог дзіця вайны Арабейка абмінуць подзвіг бацькоў, «якія жыцці нам падаравалі і ў зямлю навек ляглі» (Расул Гамзатаў).

Сваю паэму «Сцяна» Іван выпакутаваў, падслухаў у звоне цішыні Брэсцкай крэпасці і золкім ранкам, і росным вечарам, і зорнай ноччу. Вобраз камісара, жывога чалавека, які пускае слязу на рукаво шыняля, шкадуючы цёплых, жывых дзяцей сваіх, юнакоў — салдацікаў, якія «ў дальнім гуле слухаюць трывогу», стане прыкладам вобраза чалавека на вайне. Ідэя амаль дакументальнага гэтага эпічнага твора сцвярджае: «Як да зарэзу мне трэба помніць мінулыя дні! Каханне вечна, над ім не ўладны бег гадзін». А тыя, хто загінуў, баронячы Радзіму, сёння сталі «шчэбетам птахаў, травою ля вады», і прысутнасць іхняя назаўсёды! Гэты праведны сказ пра час, ад якога мераюць свой кон многія на нашай зямлі, прыйшоў да Арабейкі ад Твардоўскага, у паэзію каторага ён бясконца ўлюбёны.

Здзіўляе метафарычнасць, лірызм, тонка падгледжаная дэталь, ласкавы гумарок, вобразнасць творчага набытку паэта. Абагаўлёныя Іванам хмель і журавы. Знакамітая ў літаратурным коле «белая, белая будка, дзе дзяўчо каля будкі, як незабудка». Крыхабор, злыдзень, што нават камень, які за пазухай насіў, npасіў, «каб на грудзі палажылі на магіле». А чаго варты марцовы кот, «які прыходзіць досвіткам дамоў ды ўсё расол халодны п’е, а ўдзень, як выгнаны прымак, пад прызбай грэецца з варонамі»! А «аловак — паяльнік сакрэтаў маіх, што пакідае на паперы абвуглены след»!

У адным з вершаў Янка Арабейка (прабач, Іване, за Янку. Сарвалася з душы) разважае: «Можа, буду воблакам ці лазою там, за небакраем?» Не, ты ўжо сёння, у свае семдзесят, як сам сказаў,

Падняўся дрэвам гонкім,
Пераўзышоў тым самым небыццё…
Ты разышоўся голлем у блакіце,
Стамлёны вырай прытуліў вясной не раз…

Набралася моцы ўлюбёнае ў жывое на Зямлі тваё сэрца, здзейсніліся твае надзеі. Ты стаў голасам сваіх землякоў, чые сэрцы разбіваліся моўчкі, асабліва тых, хто насуперак току валынскай роднай крыві прытуліў да сэрца спеўнае слова Купалы і Коласа, мову шматпакутнага беларуса. І слаўна, хораша, што

апошнім часам твой голас зноў загучаў напоўніцу, бо душа твая, адчуваючы, што «зусім не мінулы, а мой жорсткі век», прамаўляе: «Не магу маўчаць».

## Кнігаўкі лёс

Шчыра скажу, Валя, Валянціна Міхайлаўна, Кукса была першай з усіх берасцейскіх пісьменніц, у якую я паверыў з першай сустрэчы, з першых яе твораў. Падкуплялі прастата, шчырасць, жаноцкая абаяльнасць, ужыванне ў размове і на пісьме роднага, валынскага слова, дзіцячая непасрэднасць паводзін і ўспрымання жыцця, такое ж тужліва-радаснапачуццёвае адлюстраванне рэчаіснасці ў абразках і апавяданнях. Разам з тым уражвалі цвярозасць думкі, развагі, рэдкі дар знайсці патрэбны накірунак дыспуту, трапныя аргументы ў літаратурнапубліцыстычных спрэчках.

Зазвычай доўга маўчыць: маўляў, спрачайцеся, ламайце дзіды, хлопчыкі, а як я скажу, так і зробіце, так яно і будзе. Так яно і было. Мы, старэйшыя, дзіву даваліся, калі Валя ў тыя, амаль ужо забытыя дні нашага беларускага апошняга Адраджэння магла збэсціць пракамуністычнага гарлапана, асадзіць самаўпэўненага ў сваёй моцы таварыша ў шэра-цывільным.

Падкупляла багацце зместу, веданне жыцця. Пісала толькі пра тое, што ведала, што перажыла. А ведала больш за ўсё яна дзяцей і перажыванні іхнія і свае, вакол іх клала сардэчным словам на паперу. Выносіла спачатку на суд сваіх выхаванцаў у дзіцячым садку, дзе век адпрацавала. І калі яе гадаванцы, слухаючы сваю выхавацельку, глядзелі на яе ва ўсе вочкі, сапучы ў дзве дзірачкі, а потым узрываліся рогатам ці заходзіліся плачам, дазваляла сабе пусціць твор у друк.

Шаснаццаць гадоў таму светлай памяці галоўны рэдактар малога дзяржаўнага прадпрыемства «Брэстдрук» Уладзімір Іванавіч Захарэвіч выпусціў у свет невялічкую кніжачку берасцейскіх пісьменнікаў з анатацыяй «у дапамогу настаўнікам пачатковых класаў і выхавацелям дзіцячых садоў» «Чый бэз?». Гэты

калектыўны зборнік адкрывалі дзве навелы Валянціны Куксы — «Сцяжынка» і «Дудка».

І калі астатнія аўтары дасылалі нам свае творы па ўласнай ініцыятыве, то Валянціну я доўга ўгаворваў, спрачаўся, даводзіў, нарэшце пераканаў, паколькі быў укладальнікам і рэдактарам кніжкі. А пасля выхаду яе атрымаў ад Куксы… прачуханца.

«Во, усунуў сваю лыжку дзёгцю ў мой кадаўбец мёду, выправіў, называецца, — зморшчыла невялічкі носік, прыжмурыла вочы, рэзка кінула ад грудзей руку. — Нянечцы нашай чытала, дык старая вясковая кабета і тая адразу ўхапіла. Во, кажа, Валечка, ці тое ты пысала, а тое — той сывы дід» (бачыла мяне праз акно, бо і ў садку пры беларускамоўным яе садочку вялі мы з Куксай двубоі).

І вось цяпер, праз паўтара дзясятка гадоў, перачытаў святую, пакутную праўду жыцця ў «Сцяжынцы» і «Дудцы», дзе мала слоў, а думак, а пачуцця — акіян. І сэрца маё сціснулася болем, і на душы маёй «цёпла-цёпла стала». З гэтай першай яе справаздачы, споведзі перад людам сваім, які яна бязмежна любіць, забілі крыніцы, вытокі, джарэлы яе мінорнага слова пра долю людскую, долю беларускую, «долюшку женскую», долю кнігаўкі-маці.

«Сцяжынка» — нібы пралог, падалося мне, аповесці «І верыла ў цуд…», а «Дудка» — яе эпілог, у якіх, як і ў аповесці, спрасаваліся матчыны пачуцці ў такое звышцвёрдае рэчыва, з якога, чуў некалі, утвораны неадкрытыя пакуль планеты ў касмічнай прасторы, грам якіх на нашай Зямлі зацягне на цэлы касмічны карабель разам з ракетамі-носьбітамі. І якія, нягледзячы ні на што, клічуць нас не ў цемрадзь смерці, а да Сонца-Жыцця.

Як Купрэеў, Рудкоўскі, Сахарчук, Гадулька, Сыс, Мацяш, Янішчыц (вершы каторых так любіла Ганначка і клала іх на ноты, нараджаючы спеў у чулай душы), каб стаць Паэтам, паклалі на алтар Музы свае жыцці, так і Валіна жытка згарэла за паўгода ў Богам наканаваных ёй выпрабаваннях, але ж Усёмагутны Бог падараваў ёй таксама сілу і талент выплакаць-выспяваць сваю песню-стогн на душэўныя пакуты і радасць тых, хто пачуе яе.

Ні фабулы, ні вобразаў, ні зместу аповесці пераказваць няма патрэбы. Пачуйце некалькі выразаў з матчынай найшчырэйшай у свеце споведзі — і вы ўсё зразумееце.

«Божа! Нават у горы ёсць шчаслівае і няшчаснае гора. Ужо другі месяц я сплю на падлозе каля канапы, падкінуўшы пад бок кажух. Стагнала ад рыку ў горле: так намагалася не крычаць, каб не пачула Ганначка. Ад песні дачушкі тужлівая радасць вылушчвае слёзы. Казалі, што тады накрапваў дожджык, а я помню — сонца.

А мне перахацелася ўсміхацца. Нешта страшнае варушылася ў душы, аж дыхаць замінала. І так баліць, што аж не адчуваю таго болю. Вочы яе свецяцца!!! І радасць такая даўняя, амаль забытая, шчырая радасць запоўніла мяне. Я чула, як у маю скроню пульсуе жылка, што на шыйцы, да якой я прытулілася…»

А вось яшчэ адзін, не менш пакутны, матчын боль, надзвычай трапна выказаны. Меншанькая, што падоўжыць яе жыццё пасля адыходу старэйшай дачкі, тату свайго распуснага, духам слабога, шчыра любіць, а маці недаўменна зайздросціць: «Яму, не мне Жэнька сказала: “Пап! Цыцка расце, ці што?”» (Ніводзін мужчына такога не адчуў бы, не выказаў бы.)

У аповесць уплятаецца і другі неадчэпны, неад’емны ад чалавечага жыцця матыў аповеду, назавём яго грамадска-палітычным. (Мо і не патрэбны надта, але і яго аўтарка вызначае, характарызуе коратка і вобразна: «А ў бочцы даўно брадзіла. Не дай, Божа, спудзіцца каню. І мы выходзілі на міжнародны гандаль па каханні. Эх! Жыццё! Як яно дзярэцца, калі няма гаспадара! Скручвалася душа ад абраз і прыніжэння…»)

Скручвалася душа, чытаючы Валіну споведзь, радавалася сэрца поспеху чалавека, нішчачкам нават зайздросцячы сябру і мо крышачку вучаніцы маёй па пяру. Прыходзіла на думку выснова Богам абранага народа. У нас так: талент, як розум, — калі ёсць, дык ужо ёсць, а калі няма, выбачайце, калі ласка. У нашым, паляшуцкім, выпадку ёсць і розум, ёсць і талент убачыць, пачуць, адчуць, перажыць, аздобіць красою ўласнай душы і вырваць з расхлістаных грудзей людзям на ўцеху сваё палымянае мастацкае слова і «думы яе думы».

Хоць і не хочацца, але мімаходзь адзначу, што Валянціна Міхайлаўна паўжыцця вучылася: школа, педвучылішча, інстытут, аспірантура, дарэчы, перш чым паступіць у вучылішча, яна

ўладкавалася ў Берасці на працу. Бы руплівіца-пчала, Валя, Бог ведама дзе, знайшла ў сабе патрэбу, сілы і час акрамя грунтоўнае прозы зрабіць важкі ўносак у справу выхавання беларускае будучыні. Падрыхтавала, надрукавала з тузін навукова-метадычных прац у дапамогу настаўнікам і выхавацелям дзіцячых садкоў.

…Подаўну, вясною 2005 года, пачынаў я свой сказ пра творчасць Куксы, гэтага духам дужага, сэрцам чулага чалавека, і пачынаў так: «Карціць напісаць пра кніжку прозы з назваю “Кнігаўка”, пра яе аўтарку і пра саму птушку, з плачу якой за акном роднае хаты я і пачуў, напэўна, свядома, свет. Не пачуць яго было немагчыма. На маёй новай Радзіме, на Палессі, у якое з Падзвіння, дзе я ўбачыў свядома белы свет, шпурнула немаўля вайна, кнігавак было, як і балот, — мора, цьма.

Сустракаліся па адной, парамі, табункамі, а калі трапляў у іхняе царства вораг, асабліва двухногі, чорная хмара засцілала неба, і паратунку ворагу не было. Кожны паляшук ведае, што дзетак сваіх кнігаўка ўмее ратаваць, часам і цаною ўласнага жыцця. На шапку, на рулю дубальтоўкі сядаюць, цэляць дзюбаю ў вока, абы жыло тое кволае, у стракатым пер’ечку, чубаценькае стварэнне, абы доўжыўся кнігаўчын род.

Адкуль прыйшло натхненне, моц думкі, пачуцця, нечалавечае вытрымкі, каб чалавечая маці-кнігаўка падоўжыла, зрабіла неўміручым заўчасна спаленае стронцыем даччыное жыццё? Не трэба пытанняў. Трэба чытаць і плакаць над доляю матчынай, трэба дзякаваць ёй за сярмяжную праўду, за крывёю аблітае сэрца, з якім клаліся на паперу, ішлі ў свет, у жыццё Валіны радкі. Нават крышку скрабе душу маю думка: нельга так шчыра на свет белы матчына сэрца адкрываць. Розныя людзі ёсць на белым свеце.

Аб чым сведчыць лёс таго экзэмпляра “Кнігаўкі”, які падпісала мне аўтар…»

І так шчыміць, і так баліць, — працягваю я сёння. — Ад таго, што з яго, з гэтага экзэмпляра, з бясцэннай кніжкі яе з апраметнабалючым здымкам на вокладцы… наздзекаваліся… дзеці. Дзеці вёскі, у якой амаль кожная сям’я — веруючыя, няхай не нашай, праваслаўнай, ды сапраўднай веры ў Хрыста, якую не менш паважаю я за сваю.

І так наздзекаваліся, што, шчыра дзякуючы табе, Валя, за подзвіг матчын і грамадзянскі твой, раскажу аб гэтым толькі табе, сам-насам, толькі ў вочы… А вось пра апавяданні з «Кнігаўкі», пра душэўную сваю радасць-пакуту ад чытання іх выплачу колькі шчырых радкоў крыху потым, пасля апошняга паклону нашай Ніначцы.

*19 снежня 2008 года.*
*Зімовы Мікола.*

## Душа да душы

На світанні дапісваю даўно задуманае слова пра Валю Куксу — «Кнігаўкі лёс», і ўсё нешта муляе, непакоіць, усё пакутую, не выкіну з галавы думку, што сярод пералічаных мною паэтаў, якіх любіла і часам клала іхнія вершы на ноты Валіна заўчасна памерлая дачка Ганначка, адна Ніна Мацяш — жывая. Нават закрэсліць збіраўся, ды чамусьці пакінуў.

Паставіў кропку, забыўшыся на хвілю на канапцы, накрыўшыся кажухом, як злякаў тэлефонны званок. Валя Кукса:

— Бяда, Лявонка, бяда — Ніначка Мацяш сярэдначы раптоўна да Ганначкі маёй адышла!..

Так, бяда, бяда для нашага «вогнішча», найцяжэйшая пасля смерці Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Вось і не вер цяпер, што, як сказала вялікая Дачка «з палескай той раўніны» Ніна, «душа да душы прамаўляе».

## Шчасліваю доля была

Вось і «дагарэла свечачка ў яе душы». Вось і адплакала захмаранае неба Бярозаўшчыны, адзвінелі званы «юнага Белаазёрска», а «Белае возера глядзіць у вечнасць, а Чорнае возера глядзіць у памяць» адданай дачкі Палесся — Ніны Іосіфаўны Мацяш. Вось «шлях яе па зямельцы мілай уперся ў сумныя крыжы — і стала ў свеце крыжам болей…»

Не трэба ламаць пер'і, моршчыць ілбы, шукаць словы і думкі. Усё прадумана і сказана ёю самою. Чытайце і адчуеце, што шчасліваю яе доля была. Песняй са свайго «распрамененага сэрца» яна «праз грымоты выводзіла нас з мораку»:

Я ж не ару, не сею, і не жну я,
І не праду, не тку, і не будую —
Выводжу толькі душы на папас,
Над словам праўды зболенай шчырую.

І ў падзяцы за яе слова ішлі і ішлі на апошняе з ёю развітанне і «родныя па крыві, і родныя па духу» з Бярозаўшчыны, Берасцейчыны, Беларусі. Быў боль, была сляза, была ўпэўненасць, што будзе жыць Ніна датуль, як некалі на пахаванні Уладзіміра Стэльмашука сказаў Уладзімір Калеснік, пакуль людзі не развучацца чытаць на зямлі. Сям'я наша, імя якой «Берасцейскае вогнішча», адчула, зразумела, каго забраў ад нас лёс — павадыра нашага, маці нашу. Асірацелыя, мы нізка схіляем галовы і дзякуем за клопаты, за справы яе дзеля слова, паэзіі, літаратуры. Таму, як прапяяў у сваёй апошняй кнізе «Гарынь» Міхась Рудкоўскі: «Ёсць недзе смерць. Але няма канца!» Адно, што нудзіць сэрца, — не дажыла Ніна «Да дня, калі змагу без болю // Аб Беларусі запяяць!..»

## З душы, сагрэтае табой

Не спалася нешта кастрычніцкай цёмнаю ноччу. Хоць не хацелася адрываць спіну ад старое сяброўкі-канапы, выпаўз у настылую за доўгую восень спаленку, уключыў святло. Трапіла на вока наша «Жырандоля». Доўга гартаў, радаваўся і сумаваў. Нарэшце:

Загарну касу ў транспарант
з рамантычным лозунгам
«Жыве Беларусь!»,
сяду на ровар
і паеду абкошваць

гасцінец нашай гісторыі
Варшава–Масква…

Ціха, мірна, удумліва, з гумарком, і зноў закалыхваючы душу маю шчырым пачуццём адданага Радзіме сына. Канечне, не ўпершыню перачытваю і пра Мілавіды, і пра капліцу на магіле Кастусёвых паўстанцаў, якім і я пакланіўся ў сваёй кнізе, і пра шляхцюка Пракаповіча, пра вечнае і юнае жыта, вясёлкавы дождж з транспаранта ў мораку, пад якім беларусы злыбяды не зваюоць ніяк… Хораша, Мікалай Мікалаевіч! Светла нават пра морак.

І што б мы рабілі без цябе — сейбіта жытняга поля нашага, змагара за годнасць чалавечую нашу? Хочацца мовіць словам так, як тэта ты адзін умееш, — някідка, спакойна, пра ўзнятую табою разам з паплечнікамі паходню, што выпала з Калеснікавых рук, якою вы разам з Каско асвятлілі так шмат паэтычных паляшуцкіх сцежак. Хочацца залезці ў шуфляду, дзе ляжаць падпісаныя табою твае мудра-пачуццёвыя кніжкі, ды не палезу.

Рады, што і мая пакручастая творчая сцяжына азорана святлом твайго чулага сэрца. Помняцца, грэюць душу нашы блуканні-размовы і пра твайго пугачоўскага суседа, паэта-франтавіка Дзіму Васільева, і пра Васілёў — Гадульку з Сахарчуком, і пра Міколу Арцёмавіча, і пра Міхася Міхайлавіча з Міколам Сымонавічам, пра Караткевіча і Брыля, пра Жэню Янішчыц і пакуль знаёмую нам абодвум толькі па творах Наталку Бабіну…

І гэта ж ты мяне па-сур'ёзнаму ўпершыню выцягнуў на людзі, лоб у лоб сутыкнуў з фабзайцамі-будаўнікамі, цярпенне ў якіх хапіла на даволі немалое маё апавяданне «Веласіпед» і якія на пытанне, ці хочуць паслухаць яшчэ, выгукнулі ў адзіную магутную глотку: «Не-е-е!»

Не забываецца, як ты памазаў мне верасовым мёдам душу на прэзентацыі ў гарадской бібліятэцы тваёй «Мяжы надзеі». Выступоўцаў набралася шмат, і мне надта карцела ўсунуць свае тры грошы. Запала ў душу твая «Цытадэль», асабліва бязвусы лейтэнант і табун — адзінае, нястрымна-гарачае цела, вогненнае, у яблыках, белае… А 52-я старонка ажно пальцы пякла, бо «Язычніка» вырашыў цалкам прачытаць. І гэта ж трэба — для мяне не хапіла ні месца, ні часу. Узяў слова ты. Пачаў «Язычнікам», скончыў «Цытадэллю».

Вось менавіта ў гэты момант адчуў я яшчэ раз боль страты Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Няма каму грунтоўна сказаць пра паэта і паэзію. Нашы, прыбужскія навукоўцы самі падаліся ў паэты. Крыху радуе, што зрэдзь няблага ў іх атрымліваецца. Але ж не варта забывацца пра свой галоўны абавязак: сказаць слова пра слова. У гэтым сэнсе дзякуецца Алесю Каско за ягоную руплівую рэдактарска-даследчую працу.

Прабач, што «дзеда» крыху занесла, але як хораша нам пачувалася ў тры гадзіны каляднае ночы, калі мы пакінулі прынаднацёпленькі студэнцкі інтэрнат і шыбавалі чыгуначным мостам праз Мухавец. Ты — у сваё Пугачова, я — у свае Раманы.

Няхай і надалей:
Дрыжыць агеньчыкам цяпельца,
Агорне цемрай у цішы,
І цёпла-цёпла стане сэрцу,
І лёгка-лёгка на душы…

Як стала і мне пасля чарговага кароценькага яднання з тваёй узнёсла-шчымліваю, слонімска-пугачоўскаю, на мінорна-мажорнай ноце, праведнай ліраю. Такое яно, браце, жыццё: бяжыць, імчыць, не спыніш. Упэўнена і надзейна сагравай, Мікола, людскія душы праз жыццё.

## Палескімі нябёсамі адораны

Цяжка, марудна, нудна, згрызотна цягнуўся для мяне адзінаццаты год XXI стагоддзя. Не пісалася, не кахалася, не жылося, не толькі духоўна паміраў. Жахаўся ад думак, што не паспею папрасіць даравання ў тых, каму найболей вінен — у якім-небудзь чарговым шпіталі спруцянею.

І раптам, наўздзіў, менавіта літаратура, наша берасцейская паэзія ўліла ў душу струменьчык асалоды, кранула яго гаючымі акордамі, запаліла агеньчык надзеі на ўваскрашэнне.

Мора людское падзякі Ніне Мацяш вераснёўскім залатым днём у Белаазёрску за «яе праўду», глыбінны, мудры Каскоў зборнік

«Нічога больш», да саменькага донейка праўдзівыя, па-анёльску шчырыя вершы Івана Лагвіновіча, чыстая, празрыстая пасмяротная кніжка Рудкоўскага «Гарынь», шчыра-наіўна-расхрыстаная паленіка з Каско нават назваю «Няўжо?» пілігрыма Жуковіча крышку падгаілі «мае крутыя раны», абнавілі «маіх парываў крыгаход».

А першыя больш блізкія стасункі за доўгае знаёмства з Разанавым надалі смеласці дакрануцца да сапраўды бессмяротнага. Па яго парадзе ўзбіўся на «Псалтыр». «Чытайце псалмы: там глыбіня і чысціня, — раіў Алесь Сцяпанавіч. — Яшчэ Францішак Скарына назваў псалом “песняй анёльскаю, што змякчае жорсткае сэрца, разам цела спевам цешыць і душу навучае”».

Паціху чытаю, цяжкавата даходжу. Пакрысе адчуваю ўздзеянне Слова на мой чалавечы космас. А аднаго зазімкавага надвячорка неба явіла вачам у крывава-агніста-прамяністым зарыве менавіта трэці дзень тварэння Свету: аддзяленне цвердзі ад вады, утварэнне зямлі, зеляніны, травы, як мне падалося, Эдэмавага саду з пладавітымі дрэвамі жыцця і пазнання, але яшчэ без чалавека, жывёл, птахаў і гадаў. У буйстве золата-блакітна-свінцовай бясконцасці цвердзі так жадалася сцалець сучаснаму чалавечку, які на апошнюю моц угрызаўся, спяшаўся на самалёціку ў цвердзь-неба, пакідаючы за сабою зямную пупавіну-след нейкага фасфарычна-белага, ужо не Боскага колеру…

До, апускаюся грэшны на грэшную зямельку, адводжу душу над чыстымі і глыбокімі, гаючымі вершамі паэтаў «ганцавіцкай літаратурнай школы» (У. Калеснік) Міхася Міхайлавіча і Алеся Канстанцінавіча, разам з тым неяк падспудна трымаю ў думках і сэрцы Міколу Сымонавіча Купрэева.

Павесці размову пра паэтаў «ганцавіцкай літаратурнай школы» — Рудкоўскага і Каско — прыспешыў сыход юбілейнага для іх 2011 года, у якім Рудкоўскаму семдзесят пяць з нараджэння і дваццаць з адыходу, а Каско — неўпрыкмет набегла ўжо шэсцьдзясят.

Творчасць абодвух вылучаецца шырынёю інтарэсаў, вастрынёй успрымання рэчаіснасці, філіграннным адлюстраваннем чалавечых пачуццяў. Яны яднаюць паўсядзённасць з высокім спачуваннем народу, Радзіме, не аддзяляюць грамадскага ад асабістага,

этычнага ад эстэтычнага. Нябёсы надзялілі іх дарам успрымання духоўнага свету простага люду і шчырага, праўдзівага яго адлюстравання. Яны малююць і сялянскую (бацькоўскую), і творчую (уласную) працу як патрабаванне чалавечага існавання.

Лёс народа, Беларусі — галоўнае, што трывожыць, пра што разважаюць, аб чым клапоцяцца паэты з глыбіні Палесся. З гэтым кутком краіны звязаны іхнія мары і надзеі. І арыентуюцца яны ў сваіх творах на найбагацейшы беларускі, паляшуцкі фальклор, чэрпаюць з яго, узбагачаюцца «празрыстасцю стылю і ўразумеласцю мовы». «Гэты куток палескай цаліны вякамі накопліваў творчыя сілы, каб, абудзіўшыся ў добры час, закаласіцца ядраністым коласам вобразаў» — (У. Калеснік у прадмове да выбранага М. Рудкоўскага «Залатазвон»).

І першым гэтым «коласам» — прафесійным паэтам Ганцаўшчыны стаў Міхась Рудкоўскі. На пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя ён просіць у «адыходзячай» Беларусі: «Ты, святая, даруй, што так дзіка і паскудна ў хаце». Трагічным адыходам Беларусі ад родных дзяцей заканчваецца апошняя, чыстая, празрыстая пасмяротная кніжка паэта «Гарынь». А адметную рысу таленту Рудкоўскага — «шчымлівую цнатлівасць пачуцця, адчуванне зрошчанасці свайго лёсу з лёсам народа» Уладзімір Андрэевіч заўважыў яшчэ ў «Першых вёрстах», палічыўшы самым змястоўным творам першага зборніка верш «Бабіна лета».

У пашпарце мастацкай сталасці Рудкоўскага — зборніку «Сінія Брады» — знакаміты крытык вылучае тры эстэтычныя крыніцы, якія дала паэту родная зямля: «самавітае жыццё палескай вёскі; яшчэ жывая рана адгрымеўшай вайны і памяць пра яе героях і ахвяр разам з бачаннем праблем вайны і міру вачыма свайго дзяцінства; экзатычная прырода Палесся — калыска хараства і жыцця, — у якой ажывае, поўніцца гуманістычнымі, патрыятычнымі сіламі душа паэта».

Мой прыёмны бацька, найвышэйшай культуры настаўнік, які яшчэ за царом выкладаў матэматыку ў гімназіі, Аляксей Афанасьеў, вярнуўшыся ў 1945-м з канцлагера на Палессе, выпісаў у Маларыце на пошце чамусьці беларускае «Полымя», рускія «Роман-газету» і «Пионерскую правду» ды польскі часопіс «Kobieta», хоць у хаце хлеба і солі бракавала. Павёў мяне,

шасцігадовага, за сабою ў першы клас, бо чытаць я навучыўся яшчэ за калючым дротам. А пасля заняткаў мы наведваліся да ляхавецкіх непісьменных казачнікаў, ад якіх запісвалі валынскія легенды ды паданні, а часам частаваліся — ён мультынкам, а я — сырадоем. Дык вось ён у лагодзе і захапленні любіў паўтарыць: жанчыне можна пярэчыць і, не дай Божа, замахнуцца, толькі жывымі кветкамі. Не памылюся, калі скажу: з жанчынай, з каханай трэба гаманіць толькі вершамі Рудкоўскага…

Рамантычную лірыку кахання стварае паэт, разумеючы, што гэтае пачуццё неабдымнае, непадуладнае, бяздоннае, Богам дадзенае людству на найвялікшыя ягоныя радасць і боль. Яны народжаны прыгожай, цнатлівай уласнай душою паэта, якая ўвабрала ў сябе пачуцці ўсіх, хто самааддана, высакародна кахае на Зямлі…

Усё дасюль адзначанае характэрна і творчасці Алеся Каско. А найбольш — на вышэйшым закудзерку эстэтычна-мастацкай спіралі выказаная за Рудкоўскім ідэя «ачышчэння перад спазнанай марнасцю і адчутай вечнасцю». Такімі думкамі прасякнуты амаль кожны верш глыбокага, мудрага, адмысловага зборніка «Нічога больш».

Чалавек толькі тады духоўна жыве, а не існуе, калі ён змагаецца, — сцвярджае паэт, грамадзянін Каско. Як ніхто са «срэбнай» абоймы «Берасцейскага вогнішча» (Рудкоўскі, Купрэеў, Мацяш, Разанаў, Янішчыц, Пракаповіч, Сахарчук, Гадулька, Арабейка, Жуковіч), Алесь адчуў на ўласнай скуры непазбежнасць барацьбы за жыццё ў мастацтве і сцвярджае сваю патрэбу тварыць як патрэбу жыць. І жыць гожа, годна, шляхетна, «аддаваць сваю душу свайму няшчаснаму народу» (Янка Купала).

Вось той кут, дзе табе адцялі і перавязалі пупавіну, а ты вяртаешся і вяртаешся:

Што трэба вяртанцу?
Палоска былой вечаровай зары,
ды ціхая ў прыцемках вёска,
ды шолахі ў родным двары…

Вось дасціпны, рашучы дакор нацыі за здзек з роднай мовы ў вершы «Нацыянальная бібліятэка»:

І я ў полі зроку
…з тленам роднага слова на вуснах…
І толькі адзін егіпцянін як свой пачуваецца.
…У яго ёсць задума як навукоўца —
агучыць муміі і рамзэсаў і тутанхамонаў;
яму — у адрозненне! — мала надпісаў на дамавінах,
яму — у адрозненне! — трэба родная мова жывая.

Пранізвае творчасць паэта тэма маці. І наймацней гучыць у «Нічога больш». Адчувае сын, што маці нават адтуль аберагае яго. Такое сустракаецца і ў паэзіі, і ў прозе. А вось каб сын адсюль клапаціўся пра маці, якая ўжо ў «незваротным выраі», трапляецца, кладзецца на сэрца ці не ўпершыню:

Ці то хмаркай ільняною,
ці то зоркай чыстай самай
будзе дух твой нада мною
і твой позірк, мама.
Ты не будзь хоць там няўцешнай
за дзяцей — хоць там, за брамай;
да маёй душы шматгрэшнай
не спускайся, мама!..

Таксама здзіўляе, захапляе, радуе, уваскрашае душу здольнасць мастака выказаць гармонію суіснавання чалавека з прыродай, яе маліпуткага, ды самага пяшчотнага каліўца — кветачкі незабудкі і найтанчэйшай натуры паэта Купрэева:

Кавеньку-павадыра
паставіць у кут з абуткам.
Запыленым незабудкам
дасць свежай вады з вядра…
Які сёння хцівы свет,
якія ў ім ходзяць чуткі!..
Чысцюткія незабудкі
пакіне між тым паэт.

Складана, змястоўна, па-філасофску ўзмужнелы, апечаны пачуццём лірычны герой зборніка ўжо не толькі абагаўляе ка-

ханне, але дае яму ацэнку, вьносіць прысуд, дзеліць на світальнае і змяркальнае, ды, нарэшце, забірае з сабою ўсё туды ж, «дзе не плачуць», дзе яно «не знікае ў чорнай бездані», хоць, на думку аўтара, павінна знікнуць (вершы «Дзве зары», «Спроба запозненага ліста», «Простая астралогія», «Было ўжо…».

Нямала ў зборніку твораў, у якіх выказваецца адказнасць творцы за «складзеныя песні», «пасаджаныя дрэвы», «узаранае поле», «пасеянае зерне» («Апатыя», «Ніва», «Сеяць мне сёння зярняты на камені…», «Сваю — даснаваў я да спадчыннай долі…»). У гэтым сэнсе жадаецца адказаць Алесю Канстанцінавічу на ягонае «Ці стаў я паэтам?».

Безумоўна, сталі. Вы сказалі нашмат болей таго, «што ў лёсе сваім прачыталі». Бо спазналі лёс людства, народа, краіны, свету. «Абжылі еўрапейскую асацыятыўнасць фантазіі, прызналі, авалодалі верлібрам, усім выяўленчым арсеналам сучаснай паэтыкі, сталі карысным барацьбітом і арганізатарам адраджэнскай справы; як многія берасцейскія літаратары, не сарваліся, адстойваючы права народа і сваё права на незалежнасць». Так выказаўся Уладзімір Андрэевіч Калеснік у артыкуле «Паэтаў лёс і воля вольніца» (апошняе, што паклаў яму на душу ягоны белакрылы анёл), надрукаваным у адзінаццатым нумары «Полымя» за 1994 год, на вялікі жаль, ужо пасля таго, як перастала біцца шматабдымнае сэрца незабыўнага нашага «Гуртавога, Вадара і Плытагона».

І вось цяпер, амаль праз дваццаць гадоў, калі ты яшчэ раз пацвердзіў высновы Настаўніка, шчыра віншую мудрага дарадцу, пільнага, патрабавальнага рэдактара «пакручаных, каструбаватых барознаў поля майго неўмалотнага» (А. Філатаў), малодшага сябра майго за «рыцарскі склад душы» (таксама У. Калеснік), з якою стварыў песню тых, каму насуперак «часу праклятаму» (А. Каско) пашчасціла выжыць і пакуль яшчэ хапае сілы прашапацець штоначы за табой у чорную цвердзь, дзе «хапае для зор і для дум вышыні» (Р. Барадулін):

От бы ўсё — ад зярнят да расы —
зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца!
Дакахаць, дапісаць… Папрасіць

даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца.
…Ды з таго і жывем, што жывем недажынам.

## Пасада Аляксея Белага

Другі раз за некароткае сваё літаратурнае жыццё на такой самай «пасадзе», як у Аляксея Белага, пішу пра паэта з Баранавіч, добра не ведаючы яго. Даўно чуў, чытаў ягоныя вершы, ды не судзіла сустракацца. А вось сутыкнуцца са шчырым светам ягонага крэўнага роду давялося цераз брата ягонага Канстанціна Ільіча. У ліпені 2000 года па-чалавечы зрабіў ён для мяне шчырую паслугу. Пры больш блізкім знаёмстве з Аляксеем Ільічом яшчэ раз упэўніўся ў справядлівасці выслоўя: яблык ад яблыні далёка не падае. Дабрыня — дамінанта сямейнага духу Белых.

Крышку подаўну так пісалася пра таксама незнаёмага і таксама таленавітага паэта Івана Арабейку. Дык якую пасаду займае Аляксей? А такую, як і Арабейка. Іхняя пасада — паэт, пісьменнік, а вось прафесіі розныя. Аляксей — марак, Іван — шкловыдзімальшчык. Але іх яднае адна, дарагая душы, справа, адзіны занятак — тварыць! І сцвердзіў гэта Белы шчырым паэтычным радком, у якім вызначыў галоўную думку сваёй творчасці:

А мая душа не адбалела
Аб пакутным лёсе Беларусі,
Бо працую Аляксеем Белым
І пасаду страціць не баюся.

Сам Бог ведае, зрэдзь даруючы чулую душу дзіцю свайму, што ой як цяжка выбіцца таму ў творцы. Ведаюць гэта і кожны з тых, хто пакінуў пасля сябе няхай зярнятка, няхай каліўца, няхай расінку — пярлінку ў літаратуры, у мастацтве. Бо творчасць — гэта праца душы, асабліва плённая, калі ў душы гэтай з зачацця, з нараджэння да скону жыве ўсёмагутны Творца.

Свой арыгінальны па афармленні «таненькі» зборнік паэзіі (малы, ды залаты) «Кветкі ў стагах» адкрывае былы «марскі

воўк» з адчуваннем у душы неба і прамаўляе ўзрушана і шчыра да кожнага з нас:

У небе ўзышла Віфліемава Зорка,
І настала Хрыстова Раство!
І, забыўшыся ўрэшце на спрэчкі і бітвы,
З адчуваннем любові й віны
Людзі ў дзень гэты светлы
Ідуць да малітвы,
І гудуць над зямлёю Званы…

Як і належыць хрышчонаму чалавеку, успомніўшы паперад адказныя справы Хрыста, Аляксей Белы вядзе чытача ў «свет цудоўны і бясконцы» і па «шырокай дарозе», і па «сцяжынцы да роднае хаты». А паабапал гэтага шляху «агучвае песню конік у траве, уздымае пыл на загуменні статак, вёска зноў нібыта ажывае, звіняць вёдры, смяюцца жанчыны, плачуць немаўляты». Разам з паэтам трапляе ў гэта буйства жыцця і чытач. Але разам з пяшчотай замілавання ўрываецца ў сэрца… няўхільная, бясконцая туга, бо трапляем мы… у памерлую вёску, дзе жывы толькі конік у траве. І паўстаюць уваччу вершы пра пакутны лёс Беларусі, манкурцтва яе правадыроў, духоўны, жывы Чарнобыль.

Не чуваць тут голасу дзіцяці,
Ды і птушак не чутно на золку…
Хто застаўся тут — спазналі ліха,
Самасёлы не жывуць бясконца.
І збірае моўчкі абляпіха
Ў гронкі сонца, а да сонца — стронцый…

Мо гэта задума аўтара ці рэдактара, а можа, само па сабе так атрымалася, што да апошняй страфы верша «Чарнобыльская зона» ўдала дапасаваўся верш-страфа:

* * *
А бывае, жывеш, бы ў сне,
Ні смяяцца не хочаш, ні кпіць (так і цягне сказаць: жыць),
Выйдзеш з лазенкі, кінешся ў снег.
За-шы-піць!

Прачытаецца, адчуецца, зліецца з тваёю душой адчутае і сказанае сэрцам — і так пацягне не з лазенкі, а проста з моста рынуцца ці ў снег, ці ў лёд, ці ў плынь чорную, каб не толькі зашыпела, перуном ляснула на ўвесь бел свет, каб і неба пачула!..

Здзіўляе паэтычная спеласць Белага, ягоная зарыентаванасць у часе і прасторы. І роднае цёплае Палессе, і зледзянелая Поўнач, і пасляваеннае басотнае дзяцінства, і сталае, ды ўсё ж з бунтарскай закваскай, сёння, шматтэмнасць, шматдумнасць, шматпачуццёвасць, гімны, оды Каханню, Айчыне, Мору і маленькаму ручаю, радкі пра паплечнікаў у слугаванні роднаму слову «куюцца, гартуюцца» не халодным чаляднікам, які авалодаў літаратурнымі пацярушнымі штампамі, а талентам з Данкавым сэрцам у грудзях.

За Айвазоўскім палескі пясняр мора малюе «гастрыём душы» і пенныя закудзеркі, і каляровыя адценні хвалі, і бездань, вар'яцтва бязлітаснай стыхіі лона зямнога — акіяна, якую перамагае цвярдзейшы за граніт і алмаз чалавечы дух.

Арыгінальныя, своеасаблівыя, толькі Белага, вершы пра паэзію і асабліва пра паэтаў. На могілках у Міхнавічах скончылася бадзяжная дарога Міколы Купрэева. Ляжыць наш геніяльны паэт побач з Аляксеевымі дзедам, бацькам, бабай і матуляй. І спее ўпэўненасць у душы, што «жалуды адскочаць» ад усіх пяці камянёў і прарастуць магутнымі дрэвамі ў новае жыццё.

Нам шле свае пасланні з даўніны,
пісаныя крывёй счарнелаю,
Пакутніца, і Муза, і Паэтка.
Генііюш нас кліча ў дальні шлях,
і верым мы, што Бог
здабыць волю паможа!

Няскораны паэт Зніч, ён жа інак Мікола, ён жа Бембель Алег, перамог здзек халуёў з чалавека, прыйшоў назаўсёды да Бога і кліча людства да Яго!

З Сымонам Блатуном Белы «бядуе і свае краскі стагуе, бо чытае Сымонавы вершы пра каханне, самоту і ласку».

Шмат чаго знойдзе беларус-патрыёт у цененькай памерамі, ды густою зместам кніжцы Аляксея.

Скончыць падзяку цёзку свайму за карысную ягоную працу карціць двума сказамі пра два вершы з «Кветак у стагах». Колькі адплявузгана, насмечана рознымі цынікамі, крывадушнікамі, ханжамі пра братэрства, еднасць славян, якія, безумоўна, былі, ёсць і павінны быць насуперак хіжым «объединителям». І як магутна сказаў пра гэта беларускі паэт Белы:

Аркестр заціх, салют заціх,
Адплакалі мужчыны.
Ды будуць вечна помніць іх
Ojczyzna і Айчына.

(Верш «Загінуўшым пілотам»).

Праўду, шчымліва-пяшчотную, салодка-гаркавую, выпакутаваную праўду чалавечых пачуццяў гаворыць Аляксей і для душы, і для розуму: «У маленькім Лагішыне будзе дыхаць, бы ў Блока, цішком ля акна жанчына духамі й туманамі. А за ёй назірае звераваты, у гадах, дальнабойшчык. Зоркі ляжаць на дне вясковага калодзежа. Горкне ў келіху віно. А прынц з прынцэсаю не сустрэнуцца. Сумленне перамагае заган, доля не даруе, можа, і бессмяроцця шчаснага імгнення, хоць абое бясконца жадалі зліцца ў адно» (верш «Снежань. Хутка перадсвяточныя дні»). Адчуй, узрадуйся, уздыхні, чытач, з павек слязінку змахні.

Густая, не «для нежного ушка» (хоць і яно не аглухне) паэзія Аляксея Белага. Настоенае, адстоенае, тройчы перагнанае духоўнае пітво, моцнае, як «тры чаркі», што «так выдатна пайшлі ў касавіцу». Шмат з тых, хто мае чулыя сэрцы, ухопяць моцнага, свежага духу, адшукаюць у творчасці правінцыйнага паэта красу і моц «дабром прасякнутае музы».

## «Краіну цемры і маны» да прасвятлення

Адчуць у сэрцы збалелым кахання апошняга жар, зразумець ворага ўсмешку і сябра пагляд ледзяны, усвядоміць, што песню ля роднай мяжы даспяваць не паспееш, верыць, што на кладах паставяць паэту свечку і крыж; а ўжо ў небыцці ён будзе

лістотай кружляць па-над роднай зямлёю ці між хмар перунамі грымець, і гэтым набыткам, непамерна багатым і цяжкім, падзяліцца з людствам у сваім першым паэтычным дзівосным зборніку «Стодзівы» Анатоль Дэбіш паспеў ва ўзросце Хрыста сямнаццаць гадоў таму.

Якімі пуцявінамі юнак са Свіслацкага раёна так рана спасціг, што ісціна — не віно, а «БОГ І КАХАННЕ І СМЕРЦЬ»? І вядзе ён гэтую сваю выснову, гэтае творчае крэда на неабсяжным паэтычным коле цярністай дарогаю да нябачных вышынь чалавечага ўдасканальвання праз боль, асалоду, каханне, здраду да супакою і смерці шматпакутнай душою, якая штохвілінна сцякае слязою ў бяздоннае рыштаванне часу.

Усё вышэй занатаванае — гэта думкі, пачуцці, высновы, словы самога Анатоля. А колькі стварыў ён да свайго пяцідзесяцігоддзя! — паэзіі, драмы, прозы, гумару і публіцыстыкі!

Стварыў. Шмат што, як ягоны старэйшы паплечнік Мікола Купрэеў, згубіў на беларускіх сцежках і гасцінцах, у інтэрнатах, корчмах і нават зэкаўскіх камерах. Але, галоўнае, як і Купрэеў, сціпла маўчаў, не вылузваўся са скуры, не пырскаў слінаю, заслужана трапіў у анталогію, на зайздрасць ворагам беларушчыны на вякі створаную Міхасём Скоблам. Павінен дачакацца таго дня, якога Беларусь чакае так доўга, які нам напрарочыў геніяльны Максім Багдановіч.

Стварыў таму, што ў прыгажосці бачыў праўду, а ў праўдзе прыгажосць. Таму, што за Багдановічам і Паўлюком Трусам пакінуў нам свае «Радасць і Урачыстасць».

Своеасаблівая, арыгінальная тэматыка ягонай шматжанравай паэтыкі, на дзіва багатай мастацкімі сродкамі і формаю, кожным паэтычным радком малюе жывую чалавечую душу, пачуццёва-рамантычны свет чалавека, сугучны свету аўтара. Адлюстроўвае ягоныя радасць, боль, роспач і надзею, абурэнне і міласэрнасць. Адметная рыса тварчасці Анатоля Дэбіша — паяднанне гісторыі з сучаснасцю, спаціжэнне духу нашых далёкіх продкаў. Вобразна гаворыць пра гэта Алесь Каско ў прадмове да «Стодзіваў»: «Скрозь прыжмураныя павекі, скрозь імжу-слязінку бачыцца паэту мінуўшчына, гісторыя краю, вельмі сівая яго даўніна». Хоць добра патрэпаны жыццём, не аднойчы прыпёрты лёсам

да краю, як і ягоны бязмежна любімы народ, што так цяжка ўздымаецца і ніяк не ўстане з каленяў, паэт упэўнены і ў сваёй і ў народа неўміручасці:

А сейбіт зноўку сеяў жыта,
Гаіла Беларусь сыноў,
І, тысячы разоў забіты,
Уваскрасаў я зноў і зноў».

Праз апетыя любоў да радзімы, яе народа, замілаванне красою беларускай зямлі, чысціню і цяпло далоняў і сэрца каханай, праз люстэрка часу, якое праламляе жыццё, вядзе чытача — беларуса-патрыёта з хаосу «краіна цемры і падману», якой была, ёсць і, дай літасцівы Божа, як мага хутчэй каб перастала быць, вядзе нас да прасвятлення надзвычай таленавітая споведзь майго сябра Анатоля Дэбіша, які разам з Купрэевым і Каско рэкамендаваў мяне ў Саюз пісьменнікаў. Радуешся і дзівуеш, як гэта можна, выпраменьваннем энергіі космасу чалавечага розуму, крывёю жывога сэрца пакінуць у бясконцасці Космасу жывую родную Беларускую зямлю. Няхай доўга-доўга выпраменьваецца, няхай струменіць у сэрцы кроў, няхай пішуцца вершы «надзіва — як сляза чыстыя, горкія і такія патрэбныя»…

## Крыху арыфметыкі па-беларуску

Верце ці не верце, але цёпла на душы з таго, што асноўны матэматычны закон — ад перамены месц складаемых сума не мяняецца — сфармуляваў беларус Магніцкі, па «Арыфметыцы» якога вучыўся сам Ламаносаў. А яшчэ ж была старабеларуская «Граматыка» Сматрыцкага…

Пры чым тут літаратура? — здзівіцеся вы. А вось пры чым. Патэлефанаваў паэт-самавук з глухое правінцыі, трактарыст Гадулькавай сціпласці і бы брат Гадульку тварам і постаццю — Д. На прамілы Бог папрасіў прыдбаць яму ў Берасці два цікавыя зборнікі паэзіі з вершамі землякоў «Трохперсце» і «Я хацеў вам сказаць».

Я — на аўтобус і са сваіх Раманоў, не, праўда, з Мухаўца — гадоў з трыццаць таму прысабачылі старажытным Раманаўскім Хутарам гэтую гідранамічную назву, — у горад.

Папабегаў, але знайшоў. Узрадаваны тым, што нарэшце і беларускія кніжкі шукаць трэба, нават час пераблытаў, прыперся на вакзал за дзве гадзіны да рэйсу дамоў.

Часу было, як у Васілёвага Сахарчука дзеда дроў у той час, калі на дзедаў плот упаў вятрак, — «хоць заваліся». Чытаў-перачытваў, узгадваў, успамінаў: пабрацімцы — Рудкоўскі, Купрэеў, Гадулька — хлопцы, з якімі ў «поце з мазалямі» жыццё маё праляцела, да душ чыіх у вырай зажураным жуpавом і мая душа хутка сплыве. Упэўніваўся зноў і зноў, што паэтам можна толькі нарадзіцца, а вось стаць — гэта ўжо ў кожнага па-ягонаму.

У Рудкоўскага з полымя ў горне дзедавай кузні, у Купрэева ад неспазнанай прагі вандравання-бадзяння (дзевяцікласнікам занесла чалавека на даху вагона ажно ў Сібір), у Гадулькі ад «расчаравання ў прафесіі настаўніка». У Лагвіновіча ад дваццацігадовага поўзання на каленях па штрэках данбаскіх шахтаў. А вось у Д. — ад недаацэнкі настаўніцай літаратуры ягоных літаратурных здольнасцяў.

Вясковы пастушок наведваў школку сваю разы з два на тыдзень, ды для кніжак, сшытка і алоўка меў побач з лустай хлеба і біклажкай малака другое — «чыстае» аддзяленне. Пасляваенны час (эх, як ён здоўжыўся), дарослыя наваяваліся, адваяваліся, не вярнуліся, а малым усё яшчэ смыліць бабахнуць. Вось і штукуюць, вынаходзяць кожны сваё (зямліца наша яшчэ ад Палтавы начынне тое смертаноснае ў сабе хавае). Змудрагеліў сабе самапал з доўгаю руляю і будучы паэт. Брыдзе за каровамі ды авечкамі і смаліць, калі іх чорт у шкоду нясе.

А тут акурат Сара Львоўна «Смерть поэта» вывучыць на памяць задае. Брыдучы ды бабахаючы, вывучыў.

Наведаўся ў клас. З пафасам чытае:

Его убийца хладнокровно
Навёл удар… спасенья нет:
Пустое сердце бьётся ровно,
В руке не дрогнул самопал —
И Пушкин пал…

«Боже мой! — узвізгнула Львоўна. — Какое дикое кощунство! Вон из класса, чтобы ноги твоей в вонючем гумовце больше не было здесь!» (Гумоўцам палешукі называлі «эксклюзіўны» пасляваенны абутак, саматужна выраблены з гумы аўтамабільных пакрышак.)

Хлопчык са слязою ў нягеглых грудках адказаў настаўніцы:

Но есть и Божий суд, наперсники разврата!
Есть грозный суд: он ждёт…
Тогда напрасно вы прибегнете к злословью,
И вы не смоете всей вашей черной кровью
Поэта праведную кровь.

Пастушок больш за ўсё пакрыўдзіўся за гумоўца і ў школу — ні на парог. Да сваіх шасцідзесяці наглытаўся пылу ў трактары і сярод красы роднага краю стаў паэтам.

Вось так, чытаючы, успамінаючы, разважаючы і нават запісваючы, ажно згаладаў. У буфеце ўзяў куфлік чаю і бутэрброд з вяндлінаю, нейкай «обезжиренной», бы гума. Дурань, не спытаў, колькі яно каштуе. А каштавала яно тры тысячы васямсот беларускіх рублёў. Вось, слава Богу, дайшло і да арыфметыкі. Спяшаюся папярэдзіць — усе разлікі ў тысячах. «Трохперсце» — 22, «Я хацеў вам сказаць» — 27, дарога — 4, палудзень — 3,8. Гэта, так бы мовіць, крэдыт, а што маем у дэбеце? У Д. — 300 пенсія + 70 маці, якая 15 гадоў нерухомая. У мяне — 450 пенсія (накінулі за канцлагер) + 250 за месяц увіхання ля трох качагарак, гары яны і ўсё яно чорным полымем!..

## Сцежка праз жыта

З Уладзімірам Хрысцюком, чалавекам адораным паэтычнай, гуманнай душою, звёў мяне лёс на сярэдзіне шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя ў маларыцкай раёнцы «Сельскае жыццё». «Гвардыя» тады падабралася ў рэдакцыі наўздзіў рознаўзроставая, ды баявая, змітаваная адною пачэснай задачаю — слугаваннем Радзіме.

Невялікі калектыў аднадумцаў, крыху больш за дзесяць чалавек, кожны па-свойму быў пазначаны яшчэ не надта далёкаю, найвялікшаю, Айчыннай вайною. Старэйшых калечыла крупаўскае жалеза — ваявалі, сярэднія папабоўталіся пад яе нагамі, карміліся, раслі на яе недаедках і памыях, малодшыя, равеснікі Перамогі, спяшаліся жыць, дзякуючы бацькам за мірнае жыццё, якое вось толькі што крышачку пацяплела, дало магчымасць ухапіць вольнага духу.

У кожнага быў прыўзняты настрой: аднавіўся раён, вярнулася на старонкі газеты родная мова, пацягнулі на вышкі і ў сутарэнні партрэты вусатага тырана, сказалі пра ягоныя крывавыя справы праўду. Вярталіся «незаслужана забытыя імёны бязвінна рэпрэсаваных», вярталіся зрэдзь і яны самі ў кірзачах, падштаніках, целагрэйках. З'явілася магчымасць адагрэцца крыху і душы. Праўда, старэйшы са старэйшых часам кусаў сярдзіта вус і паскрыгітваў зубамі, гатоў быў маладзёна і за горла схапіць, хоць яму фрыцы прастрэлілі і горла, і лёгкія, і ногі, а блакітнапагоннікі правадыровы адбілі ныркі: як-ніяк С Т А Л І Н…

Найтлумней было ў пакоі сярэдніх. Так скlаліся ў Маларыцкім небе зоры, што тут сышоўся малады палескі паэтычны падлесак: Яраслаў Пархута, Мікола Купрэеў, Сцяпан Крываль, да якіх неяк цішком прысуседзіўся і я. Глядзелі на іх ва ўсе вочы, слухалі ва ўсе вушы сёлетнія выпускнікі Маларыцкай дзесяцігодкі, наўздзіў адукаваныя Дар'я Ярмашук, Змітрок Бягеза і Валодзя Хрысцюк. У кожнага свая натура, сваё натхненне.

Сын паляўнічага Васіля Хрысцюка Валодзя з ружовых пазногцяў стаў таксама паляўнічым. Але не тым, што забівае, а тым, што вучыць і заве любіць сцежку ў полі і лесе, старыцу ў неабсяжным лузе, гаманкое па вясне балота, залатое па восені ўзбор'е, зімовую іскрыстую бель. Усенькае, ад канёздрыка-кветачкі і мураша пад ёю да волатаў — дуба і зубра.

Паплечнік мой па рамяству з чырвоным дыпломам скончыў тэхнікум, агораў інстытут, стаў інжынерам-механікам-цеплатэхнікам. Працаваў і інжынерам, і журналістам, ды праз усё жыццё пранёс асалоду яднання з красою роднай зямлі і паэтычнага слова. Вучыўся шанаваць іх у Коласа, Лынькова, Янкі Маўра, Тургенева, Някрасава, Прышвіна і шмат яшчэ ў якіх мастакоў-

песняроў прыгажосці. Друкуе свае пейзажна-філасофскія лірыку і прозу з шасцідзясятых-сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя.

**Уладзімір ХРЫСЦЮК**

## Валошкі

*Ішлі з бабуляй неяк мы з балота.*
*Жытнім полем сцежка нас вяла.*
*Спелага калосся пазалота*
*Пахам хлеба шчодра абдала.*
*А паўз сцежкі, між сцяблінак рэдкіх,*
*Быццам хто рассыпаў сінь нябёс,*
*Ўсхвалялі лета цуда-кветкі.*
*...Шмат дахаты іх тады прынёс*
*Давялі мы кветачкі да ладу,*
*І сказала бабка: «Галубок,*
*Заўтра пойдзем мы з табой на клады,*
*Занясеш матулі свой вянок».*
*Ўпершыню да мамы на спатканне*
*Я ішоў... О, горкі лёс!*
*З пачуццём сыноўняга кахання*
*Сіняву яе ж вачэй ёй нёс!*
*Муравою прараслі дарожкі.*
*Шмат чаго ўжо не пазнаць.*
*Толькі тыя з хутара валошкі*
*І па сёння у вачах стаяць!*

# Пайшлі, дзеду, у магазін

*(Пра сябра майго, якога не раз можна сустрэць у маёй пісаніне)*

Мікалая Крываблоцкага найменшанькая ўнучка — адзіная асалода сёння дзеду. Старэйшую — ужо замуж аддалі. Дзед і ў губу не ўзяў на вяселлі. Прывезлі яго з жонкаю Зосяю, інсультам разбітаю, худзенькаю, з прагай-мальбою жыцця ў трывожных вачах. Намуляў ён канверт у бакавой кішэньцы бездакорна дагледжанага апошняга свайго пінжака, паклаў перапой крыху збоч маладых, бо сляпы, і, кашлянуўшы, сарвана скамандваў: «Дамоў, на месца, у апошні бярлог нас адвезці!»

Злы, нарваны, напяты, нястрыманы. Чытаць яму — літаратару ад Бога — хочацца, найвялікшай асалоды пазбаўлены чалавек, не бачыць ні паэзіі, ні прозы, ні публіцыстыкі ні праз адны, ні праз двое акуляраў, ні праз лупу. Злы, знерваваны, а тут меншанькая і развяселіць.

Жонка, Зося Міхайлаўна, поўная цёзка Калеснікавай жонкі, хвалюецца, не пускае дзеда з хаты, а яно, птушаня тое: «Ай, дзеду, пайшлі, пайшлі, ну яе, тую бабу, пайшлі, дзеду, у магазін». Самі здагадайцеся, чаго ёй не сядзіцца.

І расправіць змаршчыны на сакратаўскім ілбе стыры, адмысловы работнік і гуляка, і ўсміхнецца люба-святочна, і вернецца з таго магазіна задаволены яшчэ больш за ўнучку, і нагаворыць прыпавесцяў з успамінамі — у вушы не ўбярэш, звілінамі не ахопіш, не ўтрымаеш. Вось, напрыклад толькі адзін сказ:

— Будучы з дзяцінства аматарам бярозавых венічкаў і соку, як выходзіў з лазенкі ды ўхапіў першы раз у жыцці ў грудзі глыток марознага лёгкага духу, да сяго дня ад мяне гарэліцай патыхае…

Усё чамусьці па-гультайску думаецца: ай, потым запішу… і пра сябра дарагога праз усё жыццё, і пра шмат што іншае, і ўсё адкладаю, чуе сэрца, што наадкладаюся… На гэтых словах успыхнула думка пра недалёкую сустрэчу з ім, успыхнула і… пагасла! Во жах! Гадзіны з дзве не мог успомніць, ды неяк неўпрыкмет

зноў засвяцілася, але ж і папалавіў я яе ў сваёй рэшаце-макітры. Не, нельга нашаму брату разменьваць сёмы дзясятак. Хопіць! Адцвіло, адбуяла, адрадавалася, адпакутавалася, адплакалася, адрагатала нашае.

Дык вось, зазіраем з немалым падпанкам пры пляшцы і далікатнай закусцы да Мікалая Віктаравіча на лецішча. Атаварваемся з фірмовага пакета. Мікола крэкнуў і сваё цягне: кус сала, цыбуліну, з градкі агурок, шчопаць солі ў скрынцы з-пад запалак. А калі адкаркаваў паўтарачку! — ад паху дух і мову забіла, як Галубовіч мяне падкузьміў: «і вочы лупіць, і горла дзярэ»… Напарнік мой ажно пад яблыню паскакаў на адной ножцы, рукамі і рота, і носа затуліў, каб тое — далікатнае — не выскачыла.

— А-а-а-а, я ж ведаў, што вы яе піць не будзеце! Слабыя ў коках! З патакі землякі ўдружылі, — ад патыліцы да пят пакрыўся Коля пупырышкамі, кучары над ілбом дыба ўсталі. — А, капай, Лёнька, капай у шклянку. Як піцьменніку і табе не грэх кроплю прыгубіць. А я — астатнюю, бо хто ж яе выцягне, як не я!..

І як прыклад цеснай сувязі Крываблоцкага з сябрамі «Берасцейскага вогнішча» прапаную адроджаны ў Міколавай учэпістай памяці верш Сцяпана Крываля «Магіла здрадніка».

Ніхто не збіў яму труны,
Пяском сыпучым не прысыпаў.
Здзяўбалі сэрца груганы
Ў густым ажжынніку пад ліпай…
Ваўкі і косці разняслі
Ў лясной пануранай гушчэчы,
І толькі тлее на зямлі
Зрыжэлы чэрап чалавечы.
Павялі травы навакол,
Заўчасна ліпы куст загінуў,
Бо здрадніцкай крывёй
Атручан дол, мацней чым
Ядам тым змяіным.
Сюды і сонца не глядзіць,
І месяц тоіцца за дубам,
Каб ненарокам не ўсадзіць
Прамень ў ашчэраныя зубы.

# Зноў буслянка, зноў буслы

Вось і яшчэ адна, семдзесят трэцяя, мая вясна, паперад Дабравешчанне. Няспынныя захмарнікі гусей ранкамі і вечрамі плывуць паднябессем на… Шчару. «Там іхні перасыльны пункт», — патлумачыў мой, ужо пенсіянер, адзін з першых вучняў. І я яму веру: Пятрок Белавежа з Падлесся Радваніцкага галаву мае не на вошы, прагавіты да жыцця і любіць «пасеймакаваць» (моўная залацінка Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага), якую я толькі што знайшоў у ягоных залатых творах.

Журавоў пакуль яшчэ мала — таненькі шнур ці ключ, а буслоў увогуле яшчэ не было, чамусьці позняцца, а павінны ж да свята першым яйкам расстарацца.

Калі напаткае мяне прылёт-адлёт гэтых буйных нашых птахаў, заўсёды сцісне сэрца журба. Асабліва восенню. У гэты год надта нудзіцца і вясною. Нават успомнілася зноў-такі запісанае Янкоўскім:

Чаго, бусліку, кляко-очаш?
Чаго спатачкі не хо-очаш?
Ці мо дзеткам трудна?
Ці самому нудна?

І цэліць гэты сціпла-пяшчотны спеў, гэтая менавіта толькі беларуская ласка праменька ў сэрца. Як ніколі цяпер і тром маім дзеткам, і тром унучкам, нават найменшанькай, паўтара гадочкі: надта мамка ў яе мондрая, і мне, бацьку-дзеду, трудна і нудна. Успамінаю свой дзіцяча-ўнукавы час і родных, ляхавецкіх, буслоў, па-ляхавецку — «буснів». А, далібог, у тыя саракапятыя-пяцідзясятыя цыбатых клекатуноў было на Берасцейска-Валынскім памежжы, як і кнігавак, незлічона.Толькі на нашай сядзібе балявалі-раскашавалі бела-чырвона-чорныя «лэлекы» ў пяці буслянках. У кожнага на чатыры бакі суседа — у трох-дзвюх. «А сёння, — скардзяцца мае сябры-землякі-аднакласнікі Міколы Саснюк і Пацяюк, — на ўсё вялізнае сяло засталося толькі адно

жывое гняздо». Пацяюк нават сваю першую кніжку на восьмым дзясятку (і малайчына, і гаразд) іскрыстага паэтычнага спеву назваў «З-пад буслінага крыла».

Пачыналася мая «бусліная сага» з апісання буслінага жытла на клуні супраць Клейнікаўскай школкі, у якім шчасна было птахам, а мне прыемна выкладалася праз усе мае дзесяць гадоў сталення.

Працягвалася гадоў з трыццаць у Мухаўцы, аднойчы занатаваў жабінкаўскага бусла, убачыў яго на гняздзе праз акно цягніка. Але найбольш хвалююць берасцейскія буслы, што жывуць з майго, маларыцкага, паўднёвага боку, на Кавалёўцы і Валынцы, і з якімі я пазнаёміўся больш за паўвека назад. З тае пары, калі шаснаццацігадовым апынуўся ў Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме.

Асабліва парадавалі яны мінулым годам: з трох буслянак павялі ў вырай нашчадкаў. І тут я павінен сказаць, што трэцюю, другую на Валынцы, адкрыў толькі летась надта здзіўлены акурат насупраць першай, ужо па левую руку ад шашы ў горад. А кавалёўскія буслы ўзгадавалі дзетак сваіх пасля двухгадовага перапынку, прыляцелі ў роднае гняздо, калі яно ўжо лебядою прарасло.

І вось сёвеснія буслы. Таксама старыя знаёмыя з вёскі Забалацце, якую я мінаў на ровары дзве пяцігодкі запар, працуючы ўлетку ў час канікулаў на зернеачышчальнай станцыі. Вось яны і развеялі крыху непагадзь душы.

Месца для буслянкі падшыхаваў ім мой напарнік па КЗС, светлай памяці «прапар» з душою селяніна Фёдар Барысюк, усцягнуўшы на вяршаліну грушы яшчэ дзедаву барану, што мардавалася ў шопцы яшчэ з часу маршалка Пілсудскага. Зламаную віхураю грушу замяніў прывезены з радваніцкага лесу дубовы стаўбур. Ды мінулай зімою зноў скінуў буслянку шалёны вятрыска. Тады ўжо Фёдараў сын, саўгасны механізатар, Юры не пабаяўся, не паленаваўся аднавіць пляцовачку-падмурак, падоўжыў бацькаву натуру.

І вось бачу, шчыруюць цыбатаю параю на ёй. Спяшаюцца: праз дзень Дабравешчанне. Напэўна, паспеюць пакласці яйка ў гняздо, каб падоўжыць племя сваё.

Нешта гэтай ночкай не спалася, і вось напісался, што на сэрца паклалася, бо прыйшло пачуццё Канстанцыі Буйло:

Люблю наш край,
Буслоў на гнёздах клекатанне
І спеў жаўраначка люблю…

Зноў дзякую Янкоўскаму: яго чытаю, успамінаю адзіную з ім сустрэчу на слотнай мінскай вуліцы, як і тады здымаю здалёк шапку і «за гарою кланяюся»…

Ужо пасля Дабравешчання, перад Вербніцаю, што «ўзяла Вяснянку за руку і імчыць падскокам за луку, што сцяжынаю сцелецца да роднае хаты», корпаюся на сваіх, раманоўскіх, градах. Нешта наўздзіў цёплае ў грудзях пацягнула зірнуць у высокую, чыстую просінь. А ў ёй буслы! Зроду такога не бачыў — чортаў тузін, трынаццаць! Дужыя, свежыя, напэўна, са Шчары лятуць. Белчырвона-белыя, бо над галавою чорнага не відно, карагодзяць, не варухнуць крылом, нагнулі дзюбы, узіраюцца ў зямліцу, што жыццё ім дала.

Грады мае побач са школьнаю качагаркаю, а над ёю высачэзны комін пануе. І раптам адзін з птахаў пікіруе на гэты комін (так будзе кожан дзень цалюткае лета), спусціўся, прымастаколіўся, тройчы павітаўся-праклекатаў, тройчы пакланіўся, другі яму з неба адказаў і таксама шыбуе на тое месца, дзе калісь (пакуль не затапілі качагарку) нейкі бусліны рызыкант паспеў пачаць свой род. Пацясніліся, умудрыліся спаравацца і сплылі ў блакітнапразрысты бел свет, у бок Берасця падаліся крыху парадзелаю плоймаю.

Не вытрымаў. Скокнуў роварам на Кавалёўку і Валынку — стаяць! Варушаць дзюбамі голле, штукуюць нешта ў трох буслянках. На вялікі жаль, на Кавалёўцы не вядуцца больш буслы: сярод лета пажар пад гняздом налучыўся.

А цяпер, ужо летам, з вялікай радасцю паведамляю: вярнуліся на пажарышча буслы, парачкаю гнездароў разжыліся, хутка і на крыло паставяць радасць, надзею сваю.

І нарэшце, маларыцкія буслы. Чысты Чацвер. На родныя могілкі наведаўся. Ля пераезда, з якога і пачынаецца сама Маларыта, на тэлеграфным слупе з буслянкі параю сустракаюць «блуднага сына». Гара, смурод, скрэжат, грукат, віскат, енк, саляра, бянзін, газы, прапаны-бутаны, цьма пеша і самаходаў, працьма цягнікоў, дрызінаў, цеплавозаў-матавозаў-мадэронаў… А буслы

вядуцца!!! Наперакор гэтаму людскому пеклу вядуцца! Божа, гэта ўжо пяцьдзясят шэсць гадоў, як я падаўся з роднага кутка, а яны і да мяне вяліся. Во племя! Як і палешукі, як усенькія беларусы. Хазараў, манголаў, татараў, прусаў, яцвягаў, шведаў, немчугу, ляхаў, маскалёў адужалі, з горам-бядою сябе захавалі! Даў бы Бог і апошнюю навалач адолець-перажыць!..

## Не ўздымаўся

Божа, дзякую! Без Цябе у мяне не хапіла б нахабства перакласці вось гэтае з Бялінскага да Гогаля: «Я не ўздымаюся занадта высока, але не хлушу — і не думаю пра сябе надта мала; я чуў пахвалу сабе ад разумных людзей і — што яшчэ цешыць душу — меў шчасце набыць сабе лютых ворагаў; але больш за ўсё мяне радуе дасюль і будзе радаваць заўсёды, як лепшы мой здабытак, некалькі ветлівых слоў, прамоўленных пра мяне Пушкіным, і, на шчасце, яны дайшлі да мяне з дакладных крыніц…»

І мне ніколі ні над кім нават не ікнулася ўзняцца, і я маю крыху лютых ворагаў. І мне мёдам лёг на душу ды больш за ўсё грэе яе сказ, пачуты ад Разанава: «Філатаў — тая “суворая” ільняная нітка з іголкаю, што звяжа мінулае “Берасцейскага вогнішча” праз нас, сённяшніх, з будучым».

## Ода асадцы

Эх, як хораша на душы, калі хораша піша асадка! Тоненька, цвёрда — радуецца душа і ад слова, і ад думкі, і ад вобраза, нават ад самога працэсу пісання… З асаблівай пяшчотай карыстаюся дадаткам да прэміі імя У. А. Калесніка — асадкаю, якую падаравала Ніначка Мацяш, праўда, паста крышку залівае, затое як высахне — на вякі!

Каб жа хоць кропелька накрэмзанага табою…

## Вузлы на памяць з Бернарда Шоу

— Працуй! Астатняе прыйдзе само сабою.

— Калі выжывае дужэйшы і пануе нахабны, значыць, прырода — бог нягоднікаў.

— У Англіі, як і ўсюды, арыгінальны твор успрымаецца адразу толькі жменькаю людзей. Прызнанне заўсёды спазняецца, і стала банальнай рэчаіснасцю тое, што геній атрымлівае замест хлеба камень — і то пасмяротна.

— Па маіх назіраннях, наркотыкі — ад моцнага чаю да морфія — і алкагольныя стымулятары — ад піва да брэндзі — прытупляюць лязо самакрытыкі і застаўляюць чалавека задавальняцца значна меншым, чым тое, на што ён здольны ў цвярозым стане.

— Я заўсёды быў самім сабою. Я не баяўся быць самім сабою. І нарэшце, я пазбавіўся сам сябе: стаў голасам тых, хто баіцца гаварыць, і крыкам тых, чые сэрцы разбіваюцца моўчкі.

## Ніхто

Нехта ў Мінску, у Доме літаратараў, у час фуршэту, мо Вярцінскі, мо Законнікаў, напэўна, Пісьмянок, таўкнуў у плячо: плясні, плясні, Лёня, Брылю ў шкляначку. Пляснуў неўпрыкмет. Іван Антонавіч прыгубіў — «расхохоталась» сялянская душа…

А спаскудзіў шчыры фэст Сыс. Прынародна па-блазенску стаў на калені перад Мацяш, склаў на крыж рукі: «Ніна, Ніначка, дай змайструю Табе дзіцятка — геніем вырасце».

І ніводзін геній, ніхто, ніхто не ўрэзаў яму поўху.

## Сіла звычкі

На сустрэчы з літфакаўцамі ўніверсітэта з Кастусём Жмінько перакінуліся слоўкам.

— Ты оперу ніколі не пісаў? — нібыта сур’ёзна пытае былы палкоўнік міліцыі.

— Якую оперу? Лібрэта? — шчыра здзіўляюся.

— Не якую, а якому, — праз мяккую лірычную ўсмешку ўдакладняе.

— Оперу з крымінальнага вышуку, падрабязна і як мага больш ад шчырага сэрца, па-пісьменніцку!..

## Аўтографы на кніжках «Страла жыцця», «Жывая зямля»

*Валодзю Барысюку,*
*маладому майму земляку-маларытчаніну, «пожіжцю»,*
*шчыраму палешуку шчыра ў час шчымлівага роздуму*
*пра страчанае жыццё «на пустое».*

Чытаў у «ЛіМе» Галубовічава «Слова пра слова» пра Вячаслава Адамчыка і Анатоля Сідарэвіча — і нудзіўся і радаваўся. Наперакор сённяшняму ідэалагічнаму балоту ідзе дзявяты вал працы нашае нацыянальнае «солі нацыі» — інтэлігенцыі, пераважна ў першым пакаленні, як у гэтым жа «ЛіМе» назваў нас Леанід Лыч.

Думаецца, чысты, таленавіты, адданы Бацькаўшчыне вал, асабліва наш, пісьменніцкі, паэтычны, разбудзіць беларуса. Так, трэба будзіць. Трэба стварыць такога Перуна, так ляснуць, каб нарэшце прачнуўся «пан сахі і касы»!..

Цяжка, цяжка, галубок, зрубіць хату, вырасціць сад, узгадаваць сына. Не лягчэй, вер мне, нарадзіць кнігу, асабліва калі яна пра родную старонку, калі яна стваралася не толькі розумам, але

і сэрцам. Толькі як данесці наперакор смуроднай запрудзе наш празрысты струмень да людскога сэрца?

*Лявон Ляхаўчаныця*

* * *

*Падпалкоўніку-пагранічніку,*
*сімпатычнаму светламу чалавеку Алесю Яўгенавічу*
*з падзякаю за кароценькае ды шчырае сяброўства*
*ў палаце нумар восем.*

Жадаю поспехаў у пошуку сэнсу жыцця і шчасця ў ім! Успомні часам закашлянага шаранговага ад беларускай літаратуры Дзеда Філатава.

*2005-е Нараджэнне Хрыстова,*
*Брэсцкая раённая бальніца на Рэчыцы.*

* * *

*Ніне Мацяш*

Мілая, слаўная Ніна! З вялікім спазненнем прашу ў Цябе прабачэння за ўсе мае пашахонскія словы і дзеі, сведкай якіх Ты была.

Твая ўзнёсла-мудрая песня заўсёды жыла ў маёй душы — і за пісьмовым сталом, і за касою ў лузе.

Твае жыццёвыя высновы: «стварыць памяць нельга, яна сама прыйдзе да чалавека, калі ён варты яе, і не карміце, людзі, цела, а наталяйце смагу душы» дапамагаюць мне хоць на драбок заставацца творцам.

Дзякую, дзякую за тое, што Ты была, ёсць і будзеш.

* * *

*Святару з Мухаўца*

Прыгожаму выяваю і душою бацюшку Дзмітрыю з падзякаю і пажаданнем поспехаў у слугаванні Госпаду Богу

і ўсё яшчэ «сляпому, глухому» (Я. Купала), грэшнаму нашаму народу.

Шчыра.

*24 жніўня 2012 года.*
*Наша цэрквачка. Паніхіда па майму заўчасна памерламу сыну Аляксею, якому сёння споўнілася б 46 гадоў.*

## Зноў пустое

Шкадую, эх, шкадую страчанае «на пустое»: не занатаваў шмат з таго, што рвалася з душы ў свет і з-за распусты маёй не дайшло да чалавека.

## Воўк і сабака

Хачу сустрэць «чудового хлопця-козака» з Луцка Івана Чарнецкага, які з асалодаю перакладаў тэкст паштоўкі і верш Міхася Рудкоўскага «Маналог ваўка».

*Дорогий Іване!*

*Пам'ятаю твій вірш про звірюку.*

*Вони, звірі, мої кращі друзі, і я їм у своїх віршах висловив свої почуття, і зубру, і лосю, і оленю… Вони благородніші багатьох людей, і жаль їх…*

*Одного разу на грибах я зустрівся з вовком. Який славний хлопець! Моголог його (я лише слухав) і надсилаю тобі й Петрові.*

*Вітання Проньку, Гею і всім вашим добрим, чудовим хлопцям-козакам!*

*Всього найкращого!*

*Ваш М. Рудковський. 17.12.1978 р.*

Ёсць у гэтым вершы «Маналог ваўка» такія радкі:

…На сон ти обгризаеш м’ясо з кістки,
Я ж ляскаю зубами по ночах.
Який добренький ти!
Я ж так не падав низько.
Сльоза — в твоїх, вогонь — в моїх очах.
Усім вам їсться смачно, спиться м’яко.
Ми гинемо в нерівний боротьбі.
Але тобі не зрозуміть, собако,
Того, що ні, не заздрю я тобі.

…А таксама мне жадаецца паціснуць руку пісьменніку Ігару Сідаруку з Кобрыня за ягоны верш «Прага волі»:

зьбег з буды сабака
шукаць
мацнейшы
ланцуг.

## Жаваранак

Чакаў сваю пуцейскую брыгаду на адхоне насыпу у старым, часоў вайны, акопе. У хмары дыму і пары праімчаўся паравоз. Па сценках акопа пасыпаліся камякі суглінку. Разам з імі скаціўся пад ногі ржавы вінтовачны патрон.

Механічна адкалупаў ад гільзы кульку і, узрушаны, здзівіўся: убачыў у гільзе спарахнелую паперчыну. Ледзь разбіраў такія далёкія па часе і чамусьці блізкія па духу словы-выпевы:

— Чалавеча, хто б ты не быў, немец, татарын, рускі ці беларус, зірні на світанні адсюль, з майго акопчыка, у неба… — І вочы мае самі па сабе адарваліся ад паперчыны, зірнулі ўгору. Неба было сіне-блакітным, без ніводнага воблачка клікала да сябе, туды, у бездань, дзе скрозь сінечу ўгадваліся зоркі. І раптам побач, быццам з-пад майго форменнага картуза, вырваўся маленькі шэры камячок, затрымцеў у паветры крылцамі, хвосцікам, неяк клінком, з белай рысачкай пасярэдзіне. Пяе, пяе сваю дзівосную, срэбную песню.

І такая радасць жыцця лілася-журчэла з гэтага камячка, што я адчуў, як скончыцца выпадкова знойдзеная мною вестка з той, яшчэ не вельмі далёкай, выклятай вайны. Не памыліўся…

— І ты зразумееш, чаму я ў апошні момант і ў апошні патрон кладу гэты лісток… — гарэза вецер вырваў паперчыну з рук, развеяў пылам па свеце.

…Не заўважыў, калі падышлі рабочыя. Ледзь ачуняў ад покліча-песні, якую стварыў салдат, што ступіў насустрач смерці, і якою захлынаўся сёння ў сінім небе жаўрук…

*Красавік 1958 года.*

P. S.: Самае першае, мною створанае, што пайшло ў свет з ласкі Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Яму мімаходзь перадаў мініяцюру мой дзядзька Лявон Крышпіновіч — сябар Настаўніка, а прафесар не паленаваўся занесці яе на абласное радыё.

Пасля Першамайскага параду хлопцы-сувязісты не адключылі вулічную трансляцыю. І на ўвесь Брэст з весямі звінеў усхваляваным, пад Левітана, голасам дыктара Міколы Рыбакова мой жаўручок. Раным-раненька трэцяга мая ля дзіцячага садка я трымаў маленькае ручаня дачкі сваёй шурпатай брыгадзірскай даланёю, і ў пуцейскіх маіх вачах іскрылася праз слязу прамяністае сонейка…

А чацвёртага мая патэлефанавалі парторгу з адпаведнае ўстановы: «Што гэта вы там утвараеце? Разабрацца і паведаміць тэрмінова! Хто гэта ў вас патроны на рэйках шукае і знаходзіць?..»

*Пастскрыптум намаляваўся*
*ў красавіку 2012 года.*

## Запяюць смычкі

Калі надыдзе хвіліна расстання з белым светам, зажурыцца памлелае сэрца, болем працятае, таму, што так і не знайшоў, не сказаў самага шчырага і чыстага слова… Богу, маці, каханай, дзецям, роднай Зямлі?.. І закіпіць на імгненне стынучая кроў, таму, што не плюнуў у юрлівыя вочы тым, хто

топча, зневажае апетае Купалам, Коласам, Гарэцкім, Брылём, Купрэевым, Рудкоўскім, Сахарчуком, Ніначкай Мацяш, Жэняй Янішчыц і Васілём Гадулькам. Таму, што не шукаў паплечнікаў, каб разбудзіць усхваляванымі душамі беларуса, павесці на апошняе змаганне за годнасць сваю.

І блісне ў затуманенай свядомасці думка, што і я намагаўся «з народам гутарку весці», што крышку падслухаў біццё ягонага хворага сэрца. І, напэўна, запяюць ціха смычкі, падхопяць мелодыю літаўры, і сплыве яна разам з душою ў «абыякавае сіняе неба». І, пэўна, там, за крайняю мяжою, прысніцца мне ўжо жывая Беларусь…

## Раптам

Здаецца, што нуда ўжо не пакіне, што датканы жыцця твой сувой. І раптам адчуеш у чужым светлым радку на самай справе разумнае, добрае, няхай сабе і не вечнае, але цёпла-роднае. Усміхнешся ўзрадаваны, падзякуеш азоранага Божай іскрынкаю чалавека, паспачуваеш шчыра, да донца Колю Крываблоцкаму — да апошняй хвілінкі сябру майму: ён не адчуе той узнёсласці духу — аслеп, але дыхае пакуль, пакутна-цяжка, як і я, дажываючы. Не, нашмат пакутней…

Але раптам. Сцяпан Крываль, мой «хросны бацька» ў літаратуры, згубіў на падпітку два агульныя сшыткі маёй пачатковай прозы — аповесць і апавяданні. Аповесць, крывавы аўтабіяграфічны пачатак вайны, не надта шкадуецца, а вось страта апавядання — паляванне на цецерукоў па вясне — скрабе душу. Чорт ведае, што за насланнё, — змалку не магу аднавіць напісанае-страчанае…

Дык вось Сцяпан Антонавіч раіў: па-першае, ніколі не пачынай твор словам «раптам», а па-другое, не пішы пра смерць.

І раптам ягоны нечаканы, праз вар’ятню, жудасны (заблудзіўшы ў лесе, задыхнуўся) адыход. Першы раз у жыцці вяду чалавека ў забітай труне на новыя маларыцкія клады праз усё даўжэзнае наша мястэчка, нясу Сцёпаў у жалобнай рамцы партрэт…

Потым таксама раптам павяду праз Жабінку, несучы ў адубелых руках крыж, Васіля Сахарчука, што самахоць пайшоў з жыцця…

І раптам упаўзло ў цемя: а мо і самому пайсці, папрасіўшы сяброў і землякоў, каб пахавалі ў Маларыце, у той зямлі, дзе зачакаліся мяне мае родная і прыёмная матулі?..

## На кончыку промня

У Грыбаедава непахісна-праведнае «Горе от ума». У Тараса Рыгоравіча выпакутавана-балючае «Думи мої, думи мої, лихо мені з вами».

А вось Сцяпан Разін паперад і нават у час чацвертавання радаваўся, што Бог не забраў у яго магчымасці думаць і марыць! Можа, гэта думка-мара аўтара рамана Сцяпана Злобіна? Але я цалкам згодзен з ім — святая праўда: апошняе ў свядомым жыцці чалавечым — думка! Эх, каб можна было паперад сконам яшчэ і прачытаць хоць радок з неўміручага. Вось, напрыклад, «І ад любові да любові імкнуў жыцця майго чароўны круг» (нешта звязанае з Алешам)…

Замарылася спытаць у Міхася і Міколы, самога Уладзіміра Андрэевіча. Як там яно на самым кончыку промня жыцця?.. Не папытаеш, не адкажуць. Толькі сэрца бязлітасна ные. У смерці няма мінулага, сённяшняга, у яе ёсць толькі вечнае будучае.

## Непрыкметна і гожа

Не думаецца, не працуецца, не пішацца, не творыцца. Усё з рук валіцца, губляецца, гніе, іржавее, на пацяруху бярэцца, душа псуецца, цела хварэе, не жывецца. Адпіў з чары зачараванай глыток і выпусціў яе з рук, не ўтрымаў у сэрцы сваім. Пагэтаму і скруціла па-сур’ёзнаму. Патрэбны рамонт, капітальны. А дыягназ невыстаўлены. У каго паратунку шукаць? Экскулапаў, чараўнікоў, экстрасэнсаў, магаў? Лепш бы якую жытомірскую

ведзьму, ды натрапіў на маларыцкую Салоху — дабавіла згрызоты і хвароб. Праўда, ненадоўга. Нават бліснула мара, развага, просьба знайсці ў сабе моцы, назапасіць, уваскрасіць дзеі і вобразы, аднавіць пачуцці, успомніць дэталі… Душа ўстрапянулася, а ў звілінах пуста, зрэдзь-зрэдзь паспееш занатаваць якую яскарку, пробліск, маланкі зігзаг, і зноў надоўга пустка, цьма, пакута і крыху надзеі на радасць, што здужаеш напоўніць гэтыя пустэчы і цьмы бруістым чалавечым жыццём.

Вось пішу (перапісваю) гэтыя радочкі, і муха гнойная ў пяць гадзін раніцы ў закутку качагаркі прачнулася, гудзе, як «ТУ-134» перад носам, аж катлоў не чутно. Так дапякла — хоць з гарматы па ёй смалі ці сам засілься… Але неспавядзіма ўспомнілася, як нядаўна выпаўз на прэзентацыю прозы (дэбют) не так каб ранняга, не надта благога паэта-берасцейца. Слухаў безліч выступленняў, каментар (да нудоты) на кожную постмадэрнісцкую аповесць самога творцы і хораша так уваскрасіў заўвагу Міхала Герчыка ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» на маё пытанне: «Чаму гэта рэцэнзент маёй першай кніжкі ўхваліў раней адкінутае мэтрамі і раскрытыкаваў надрукаванае нават у мажных нашых часопісах?» Прысадзісты Герчык усміхнууся і параіў мне ўспомніць Гогалева: аднаму падабаецца поп, другому — пападдзя, а трэццяму — папова дачка.

Проза пачаўшага нашага празаіка, на дзіва, спадабалася і папам, і іхнім жонкам разам з донямі. Хоць па-сур’ёзнаму, на маю выснову, яе прачыталі толькі рэдактар Андрэй Федарэнка ды педантычны журналіст і паэт Анатоль Гарай. Я ў час выхаду кніжкі адлежваўся ў шпіталі і не чытаў яе, але ўзрадаваўся поспеху аўтара. Бо на самым пачатку празаічнай сцежкі паэта меў з ім грунтоўную гутарку наконт ягонай і ўвогуле прозы. Падумалася: «А мо дапамагло?» Прачытаў — не. Не дапамагло.

І як у падарунак за пакуты ад чытання дэбютанта пашчасціла натрапіць на перадачу па тэлевізіі пра магутнага Максіма Танка. Зазірнуць у ягоную творчую камору — арыгіналы паказвалі. Божа мілы, колькі працы! Акіяны радкоў! І, далібог, больш закрэсленых, чым пакінутых.

І сказалася самому сабе: пішы, натуй, крэслі, перапісвай, пакуль яшчэ цепліцца сэрца; гэта справа тваёй душы, тваіх розуму і

рук, не саромейся, як усё тваё некароткае жыццё, «ісці ў людзі», ты ж не раз бачыў, як паўзуць, як прабіваюць, як сцелюцца, не саромеюцца, а праслізнуўшы ў друк, носа дзяруць, у «дарадчыкі» лезуць. А ты не мімаходзь складаў свае споведзі, пранёс прагу карпець недзе з шаснаццаці да сямідзесяці і радаваўся кожнаму ласкаваму слову наконт твайго пісьма. Табе і па сёння «сняцца твае надрукаваныя радкі». Кланяўся, дзякаваў за навуку і Рудкоўскаму, і Купрэеву, і Мацяш, і Калесніку, Янкоўскаму, Брылю, Галубовічу, Сахарчуку, Пісьмянкову, Майсейчыку, усяму нашаму «Берасцейскаму вогнішчу».

Але няма ў мяне ніжэйшага паклону, чым Вам, Фёдар Архіпавіч Яфімаў! А адбывалася тая дзея на сярэдзіне васьмідзясятых мінулага стагоддзя. Урываецца ў хату запыханая, заўсёды спакойная, мая жонка, на той час дырэктарка Мухавецкай школы: «Табе ў настаўніцкую з выдавецтва тэлефанавалі. Ледзь адшукалі, гавораць. Чакаюць».

І вось я ў кабінеце Уладзіслава Рубанава. «Ды не хвалюйцеся, на прамілы бог, — суцяшае загадчык аддзела прозы. — Ёсць кніжка, добрую рэцэнзію Фёдар Яфімаў напісаў». Рэцэнзія Яфімава перад вачыма, і слёзы, што з-пад сэрца ідуць, вочы засцілаюць, чытаю: «Быў вельмі рады пазнаёміцца з творчасцю па-сапраўднаму таленавітага пісьменніка…»

Прачытаў, выскачыў з гмаха, хапаю ў краме пляшку каньяку, нейкі торт, шакаладкі. Знаходжу кватэру на першым паверсе. Гаспадар дома. Праз акно гляджу на толькі зацвітаючы кветнічак у палісадніку.

— Падабаецца?

— Угу.

— Давалі кватэру на другім, трэцім паверхах. У горадзе шмат хто баіцца першага. А я спецыяльна папрасіў, каб бліжэй да зямлі было…

Папытаў, як пішу.

— Толькі тое, што бачу, што чую, што адчуваю.

— Так, ёсць дзве якасці таленту — уяўляць і адлюстроўваць. У вас — другое. Здорава, працуйце далей. Пішыце жыццё. Вы гэта можаце.

— А чаму гэта так цяжка ў друк, у свет прабіцца? — неўпрыкмет вырвалася.

— Дзівак-чалавек, малады вы яшчэ ў нашым рамястве. Сёння друкуюць у нас бездары бездараў за кумпякі і кілбасы, за самагонку і каньякі, памідоры і агуркі, нават за трускаўкі з чарніцамі. А таленавітыя рэчы ў выдавецкія могілкі — у архівы ідуць.

Не ўзяў з майго наіўнага паднашэння ні кропелькі, ні крышачкі, нават прыкметна пакрыўдзіўся, заспяшаўся:

— Прабачце, няма калі. Сёння трынаццатае траўня. Салаўі толькі гэтаю ночкай ашалела кахаюць і выцінаюцца… На ўзлесак, у прыбалатак, у кушчы, да вады спяшаюся. Во, і транты падрыхтаваў, — патрос цяненькаю торбачкай.

— А ў мяне акурат сёння дзень нараджэння, — наліліся чырванню мае шчокі.

— Значыць, сэрца гарачае, салаўінае маеце. Шчыра віншую з вашым чырвоным днём.

Я ведаў, што ён рускамоўны паэт, але размаўляў са мною выключна па-беларуску. Развіталіся на аўтобусным прыпынку. Я падзякаваў Фёдару Архіпавічу як нікому, як ніколі, як дзякую і сёння, калі дапаў да ягонае чыстае, моцнае, сардэчнае паэзіі, як буду дзякаваць да скону века свайго, што марыцца сустрэць непрыкметна і гожа. Памажы, Божа…

## На хвілінку

Нарэшце зноў пішу, яе асадкаю. На гэты раз ужо на самай справе не пра яе. Вось, бачыце, і пра паэтаў, і пра сабак, пра вераб’ёў і шпакоў склалася, пра злодзея паганага. А яна — мара мая, казка мая на астатнія дні, а мо, дасць Бог, і на гадок-другі — не пакідае душы, надзеі мае. Пішу і, можа, надрукую. І ведаю, што яшчэ адно трапяткое сэрца скалечу… ды не пісаць не магу.

Чаму, чаму, Божа, застаўляеш чалавечыя душы пакутаваць, калі Сам дараваў ім на хвілінку ўсміхнуцца, парадавацца жыццю пад Табою? Напэўна, гэта не Ты. То гнюснасць людская імем Тваім прыкрываецца і сэрцы, праз край пачуццём перапоўненыя, на кавалкі рве…

# Малітва

Яшчэ прыцемкам выходзіш у туман. Туман такі густы, хоць рэж яго нажом і маж на хлеб, як масла. Пасярод старое прысады плыву ў ім, быццам у аблоках. Часам і на дрэва натткнуся. Позаду гудзе шасэйка, праваруч басавіта адгукаецца ёй чыгунка — не зблудзіў.

Вось і ўзбор'е. Тут яшчэ цямней. Чакаеш світання. Вусны шапочуць небу самім створаную малітву. У кожнага на белым свеце яна — ягоная, агульнае ж у кожным — чысціня і пакора, ціхая радасць існавання вось на гэтай, Богам і табою любімай зямлі. Нават вочы замрояцца і носам клюнеш, на грудзі галава ўпадзе, ды ўздрыгваеш, бы ашпараны: данесліся нечыя галасы.

Мацней сціснеш кій у руках: прачнулася даадамавае, звярынае — дулю вам, я і сам з вусам. І гарачым штуршком у сэрца: стаіць, вось пад гэтым узлобачкам імху стаіць, а не сысці мне з гэтага месца, стаіць! Як так не сысці? Ногі самі панеслі, стаўшы на ўколенцы, разграбаеш мох. Не, не баравік — зялёнка. Але на выгляд моцненькая, здаровенькая. Адразаеш карэньчык — нутро сточанае. Што ж, і чарвяк не дурань, і ён ведае, што грызе, дзярмо мінае.

Соўгаеш выжлам між дрэваў і кустоў. Смаркачоў з носа не маеш часу змахнуць. Але нарэшце заўважаеш, як сплыў туман, як пырснулі промні, як зазвінеў лясны благавест, як узрадаваліся і дубок, і бярозка з асінаю, і колкая груша-дзічка, як з-пад іхніх золата-зялёных лісткоў на тоненькіх павуцінках паплылі долу чарвячкі есці твае зялёнкі, як пранесліся на срэбных крылах бабі-

нага лета павучкі, як сплылі за сінь бору раннія на адлёт за сіньмора жураvы.

У маркоце і жалобе сціскаецца сэрца, і толькі амаль поўны лясным набыткам твой кошык шчасна грэе тваю душу, што не перастае спавядацца безмежнаму небу.

## Боскае стварэнне

У атамна-ядзерны час, час засмечанага бліжняга космасу і крывавых калатэчаў у бліжнім і дальнім замежжы, пасля драконаўскае суцэльнае калектывізацыі і яе канання на адной шостай частцы Зямлі, пасля бязлітаснай меліярацыі нашага Палесся і чарнобыльскага гвалту, пасля сышоўшага на спачын сонца жнівеньскім гарачым надвячоркам здзівіла-ўзрадавала шэра-рабенькая жабка, што скокнула паперад мяне, адштурхнуўшыся «брасам» ад зарошанай травіцы.

І ўспомнілася мора, акіян нашых, ляхавецкіх жаб. Няспыннае іх кваканне і кумканне з вечара да ранку і з ранку да вечара.

Бацька, мажны, белацелы, старэнькі, удумна-спакойны, распрануты да трусоў, а, далібог, за мае дзесяць гадкоў першы раз бачу яго такім, на лавачцы перад ладнаю градкаю тытуню песціцца ў апошніх за сёння сонечных промнях. Ягоныя асалоду і супакой псуюць назолы-мухі і зануды-камары. Асабліва пякуць у ногі. Але і ратунак мы ад гэтае навалачы маем — пажондныя, сярэднія і зусім маліпуценькія жабы-рапухі, што высыпалі ў падворку на вячэру. Выцаліць крывасмока, часам нават і падскочыць, стрэліць доўгім язычком, лыгне і ад асалоды вочы прыжмурыць.

Там, куды трапіў халодны пацалунак, чырвоная плямка выскачыць, нават крыху свярбіць і пячэ напачатку, потым высыхае, зажывае, знікае і пабітыя цыпкамі ступакі мае гоіць. Бацька, з пяцідзесяцігадовым стажам настаўнік, што сам і мухі не пакрыўдзіць, задаволена ўсміхаецца:

— Хто б гэта мог даць веры, што і гэтае Боскае стварэнне чалавеку карысць прыносіць?..

## Амбасадар, ці Маліся, Алёша

Нарэшце чытаю Наталку Бабіну. Яе разрэкламаваны ўлаўрэачаны, перакладзены ў блізкім і далёкім замежжы раман «Рыбін горад». (Нехта грукнуў у дзверы маёй качагаркі, але падумалася, самі адскочылі, і не збіўся з думкі.) Гляджу на Наталчын партрэт і бачу: і на самай справе рыхтык так, як яна сама яго адлюстравала. З фотакарткі глядзяць яе думы, «старыя і новыя». Ох, і складаныя думы! А ўзбіў мяне на знаёмства з ёю Мікола Пракаповіч: піша, Лёня, пра нашу, пра тваю зямлю. Дзякую Валеру Булгакаву, што, лічы, падараваў мне гэтую кніжыцу на адмысловай паперы ўсяго за дзевяць беларускіх з трыма нулямі рублёў. Дайшоў да тае старонкі, падзеі якой — у нашым, Брэсцкім ізалятары-турме, у КПЗ, якім кіраваў калісьці наш старэйшы сябар-зямляк, капітан міліцыі, пісьменнік, аўтар адзінае кніжкі «Шумят ели» Уладзімір Іванавіч Стэльмашук, што не дажыў да яе выхаду ўсяго тры дні, хоць клапаціліся, каб заспеў аўтар плён свае жыццёвае працы, Уладзімір Андрэевіч Калеснік разам з Максімам Танкам.

Не скончана чытанне, не марыцца нават сказаць нешта пра твор, проста праўда аповеду падштурхнула ўспомніць мае стасункі з караючай фалангаю ўлады, — адзінай на маім доўгім жыцці, не лічачы перапынку на фашысцкія чатыры гады.

З чаго пачаць? А з тых ястрабкоў, што атабарыліся ў нашай ляхавецкай клуні шляхцюка Клапатоўскага, дзе ў ягонай хаце знайшлі мы прытулак пасля канцлагера Потшыкаў на зыходзе 1944 года. Харошыя былі хлопцы, маладыя, чырванатварыя, адмыслова здаровыя, повар каторых пачаставаў мяне заціркаю на малацэ з казана на кастры пасярод нашага падворка — рыхтык такою, што зачарпнуў мне ў кацялок нямецкі повар у тым жа Потшыкаве на 55-м годзе здракатага фюрара. Чырвоны повар, надарылася, быў маім земляком, і калі даведаўся, што і я з-пад Віцебска, шугануў мяне, шасцігадовага, пад неба, прытуліў да грудзей — шчаслівы, як і я. Кіраваў «ястрабкамі» рыжы маёр, ка-

мендантам канцлагера таксама быў маёр і таксама рыжы. Наш Рыжы ўпадабаў бавіць час у нашай хаце, побач з адмысловым разумнікам татам прыёмным маім і выключнага хараства душы і твару прыёмнаю маці. Толькі вось мама чамусьці перад візітам госця здымала з мяне паўсядзённыя транты, апранала ў бялюткую кашулю і павязвала на шыю пунцовы піянерскі гальштук.

Восем гадоў мэльдаваўся ў раённым пастарунку тата, і не выпускалі нас ні на крок за межы раёна, пакуль не адшукаў мяне мой родны дзядзька — высокі партыйны беларускі функцыянер. Першай у раёне з тых, хто быў пад акупацыяй, маме маёй вырабілі савецкі малаткасты, праўда, часовы пашпарт.

Каб не пераскокваць далёка наперад, вярнуся крыху назад. У 1939–40-х акурат у той час, калі разам са мною прыйшлі на кароставых конях тыя харошыя, першыя Саветы, а харошыя таму, што прыйшлі і пайшлі, а другія, дрэнныя — з 1944-га засталіся па сёйдзень. Старэйшая маміна сястра, цётка Тася, як і бабуля Сцепаніда Пятроўна, былі пападдзямі. Дзед Мяфодзій, вайсковы капелан, загінуў ад тыфу ў грамадзянскую, слугуючы змагарам за Радзіму побач з Дзянікіным, а дзядзька Аляксей Ушакоў быў маларыцкім благачынным і адразу трапіў за краты, праз якія пазірала на сонечнае Берасце і Наталка Бабіна, узрадаваная «пахам чалавека». Вельмі дужага і целам і духам айца Аляксея пасадзілі без права ліставання, наведвання і перадач, з-за чаго надта ўбівалася цётка Тася, бо як ніхто ведала, што бацюшку без добрае лусты хлеба, бруса сала і прыгаршчаў табакі свет белы не мілы, і не толькі за кратамі.

Усе інтылігенты-«западэнці» трымалі сябе ніжэй травы і цішэй вады, асабліва бабуля і мама. З жудою ў сэрцы, але з годна ўзнятаю галавою паводзілі сябе бацька, якога не адлучылі ад школы, — Аляксей Нічыпаравіч і Таіса Мяфодзьеўна — матушка, якую пабойваліся прыхаджане нават больш за бацюшку яшчэ і тады, калі ён спраўна нёс сваю царкоўную службу. У сям'і яна выконвала абавязкі «каптэнармуса» — забяспечвала восем ратоў хлебам надзённым. У адмысловых строях, нават у капялюшыку з вуаллю заходзіла ў Бобелевыя лаўкі, дзе гаспадар сустракаў яе нязменным «Свуй до свэго і по свое». Гаспадыні раёна (жонкі сакратароў і старшынь), безумоўна, звярнулі ўвагу на маўкліва-

ветлівую, годную пані. Падыходзілі да прылаўкаў адразу за ёю і бралі тое ж, што і яна. Прыглядаліся падоўгу, віталіся, разыходзіліся моўчкі, глядзелі ваўкавата, і толькі ў адной, самай галоўнай, жонкі першага сакратара, цётка Тая адчула, як і Бабіна, чалавека. Сакратарша неяк неўпрыкмет адшыла сваіх сябровак, а за матушкаю заходзіла да Бобеля амаль кожан дзень. Зазвычай затрымлівалася ў лаўцы, а то неяк выйшла адразу за цёткаю і, не даганяючы, паціху вымавіла ў спіну: «Пожалуйста, не оборачивайтесь. Знаю я вашу боль. Бог всегда тот же человек, который верит в него, Бог — это скорбь по правде и любви. Я обгоню вас и уроню листок бумаги, это ваше разрешение на встречу с отцом Алексеем». «Ёсць, ёсць Ты, Божа, мілы, на зямлі. Дзякую Табе і Маці тваёй Багародзіцы», — ледзь не самлела цётка.

Праз закратаванае шкло яна ўбачыла яго магутную постаць, схуднелую да знямогі, і блакітна-шэрыя вочы, поўныя той тугі і любові, пра якую гаварыла сакратарова любоў.

— Табакі прынясла? — першае, што спытаў ён.

— Перапалавінілі, але ёсць, усё ёсць, чаго табе хочацца. Маліся, маліся, мілы Алёша, і за іх. І сярод бальшавікоў ёсць людзі.

Мо праз хвілін пяць белатвары ў рабацінні салдацік у будзёнаўцы і з вінтоўкаю з прымкнутым штыком звонка гукнуў:

— Свидание окончено! На выход! — а калі матушка мінала яго, працадзіў скрозь зубы: — Ишь, разрядилась сволочь поповская, взять бы тебя на семь штыков. И как же ты достучалась сюда, какая гнида тебя впустила?

«І за цябе памалюся, ачмуранае сатаною дзіцё», — падумалася цётцы Тасі.

Саскочыла з цягніка ў Маларыце. Бегма дамкнула да хаты. Цалютку ноч чаравала на кухні. Спазаранку зазірнула да Бобеля.

— Эльберт, дарагі, перадайце паціхеньку Мінаўне (толькі па бацьку ведалі ў мястэчку жонку першага, — папрасіла гандляра.

— О-о, важкі «амбасадар», з паўпуда заважыць, — пахітаў на руцэ торт Бобель. — Рэцэпт, рэцэпт напішыце. Яны, гавораць, як і вы, — золата-гаспадыня…

## Не да смеху

З балкона другога паверха заўважаю, як гнецца, трапеча ў палісадніку невысокая канапелька — толькі драбнюткія зялёныя ашмяткі пырскаюць ва ўсе чатыры бакі. І хто ж гэта там так разышоўся? Узіраюся пільней. Нарэшце прыкмячаю жаўтаротага верабейку. У такі шал увайшоў — ні шматпавярхоўкі, ні балкона, ні людзей, ні сабак, ні катоў, ні сваіх суродзічаў не заўважае.

Няўжо на самай справе ачмурэла і гэтае боскае стварэнне? — бо з п'янымі вераб'ямі неяк Бог звёў: накармілі змочаным у гарэлцы хлебам немаладога веку п'янтосы. Ні тады, ні цяпер не да смеху было: «зелле» ёсць «зелле», яно нікога не красіць.

## Да двара

«Што за ліха, што за птах?» — здзіўлена ўзіраюся ў паплямленую белымі лапікамі цёмна-шэрую, ладнаватую памерамі птушку, перад дзюбаю якой буркуе-ўецца таксама пярэсценькая, дробненькая чубатка-галубка. — Не-а, не голуб, не галка, тым больш не варона». Парачка зрываецца. Галубка ўразаецца ў сіняе неба, паплямлены шпарка кіруе ў галлё яшчэ не абляцелай яблыні. «Гарадскі голуб на дрэва не сядае, — думаецца мне. — І на табе, ужо чвэрці да смерці, а я не ведаю, чаму. А гэты сеў — значыць, дабег нехта з галчынага да галубінага племя і, бачыш ты, да двара прыйшоўся».

## Далей ад ліха

Блізенька ля вакзала, збоч перона, з-за плота выглядае высакаватая, з бетону, сметніца. З-за вугла будынка да сметніцы рыссю шыбуе сярэдніх памераў сабака ды раптам так

гальмуе, ажно ўпаў на азадак і добры аршын слізгануў па плітцы. Азіраюся. І самому вусцішна становіцца: на сметніцу ў імгненне вока ўзвіўся, уздыбіў спіну і так ашчэрыўся рыжы бамбіза-кацяра, што сам бы падаўся далей ад ліха. «Няхай жыруе, свалацуга», — напэўна, падумаў Бобік. І, далібог, мне шкада яго стала.

## Вярнуліся

Вераснёўскай раніцай сустракаюць мяне ў садку… шпакі. Сёлета — ладная плойма. Як ніколі раней, ва ўсіх кублах пасяліліся, напладзіліся. Не дзяруць горла, як па вясне, не лезуць пішчом да бацькоўскае дзюбы. Задуменна, нудліва развітваюцца з родным кутком. Вярнуліся Бог ведае адкуль, можа, каб і са мною развітацца? Бо хто ж ім дамкі на слупах і дрэвах прыладкаваў?..

## Дзве зоркі

Нечакана-нягадана ўсплыла вось такая падзейка з майго настаўніцкага, дакладней, «іншпэктарскага» жыцця.

Неяк трапляю ў Мінск, у Рэспубліканскі інстытут павышэння кваліфікацыі настаўнікаў на месячныя курсы. Два тыдні адпакутаваў у інтэрнаце, бо так моцна храплі два калегі з Барысава, што хапаў падушку і бег пад прыбіральню, дзе стаяла даволі мажная скрыня для інвентару, і бавіў на ёй ночаньку, нагбом чытаючы Купрына, — напэўна, агораў увесь збор ягонай мілай душы прозы.

А на пачатку трэцяга тыдня вядзе нас, слухачоў добры тузін, завуч інстытута — сімпатычная кандыдатка навук — на паказальны ўрок беларускай літаратуры да настаўніцы — Героя Сацыялістычнай Працы. Тэма ўрока: верш Пятра Усцінавіча Броўкі «Каваль». З абсталявання ўрока ні молата, ні кавадла, толькі партрэт паэта, таксама з Зоркаю Героя на грудзях.

Засумаваўшы тады па асноўным маім занятку — разбіраць урок, крэмзаю ў сшытку, «фатаграфую» выкладанне.

Заўважае мае патугі завуч-кандыдатка:

— А ці не змаглі б вы аформіць заўважанае і перадаць для мяне?

— Калі ласка! — дзве старонкі стандартнай паперы сваім «чыгуначным» шрыфтам аддаю на алтар айчыннай адукацыі.

І вось выклікае завуч інстытута шараговага інспектара райана, падае грошы, камандзіровачнае пасведчанне і «корачкі» аб заканчэнні курсаў з адзнакай «выдатна»:

— Едзьце дамоў, бярыце дакументы і грошы. Наведайце наш буфет — надта смачнага селядца (і ў той час вельмі дэфіцытнага. — *А. Ф.*) завезлі…

Не памятаю даслоўна той разбор, а заканчэнне яго нядаўна ўсплыло: «І пазіраў з дакорам Броўка са сваёй зоркай на настаўніцы зорку, і абедзвюм зоркам было надта горка, бо не толькі паказальны — урок увогуле не атрымаўся».

## Ганарар

Што ні гавары, а бяруць сваё гады. Ды яшчэ калі на другой палове сёмага дзясятка нішчыш ты іх, бы з ланцуга сарваны. Трапляю ў Бабруйск, у санаторый імя найгалоўнейшага правадыра.

Зіма. Надвячорак. Ліхтары сеюць скрозь імжу скупаватае святло. Помнічак. Невялічкі, бы падлетак, з нейкай эстафетнай палачкай у руцэ свеціць голай лысінай пад слатою і ветрам. Ходзіць у гэтым падбярэзінскім кутку пагудка, што нейкі бабруйскі Мірон падчас адкрыцця летняга сезона штогод нацягвае Ільічу на лысіну кепку, каб, крый Божа, не ляснуў яго цеплавы ўдар. Бо як памяркоўнаму беларусу без павадыра-пастуха: толькі спусці вока — так і цягне нямытую пысу ў шкоду, бо чакае тую эстафету цвёрдая рука.

Зрэдзь ачышчаныя ад снегу сцежкі, лавачкі, альтанкі, модныя сёння шапікі між жылых і лячэбных карпусоў, а над усім, відаць, модныя праз стагоддзі вышэзныя, сівыя хвоі. Першае, што падумалася і вымавілася ўголас: «Вось тут табе жаба і дасць

цыцкі», словы цесця майго Еўдакіма Бурынкі з Маларыты ў той час, калі апынуўся зацяты селянін-гаспадар пад хваёвымі шатамі Бараўлянскае шпітальнае сядзібы. Завёз я яго туды трыццаць тры гады таму на апошнюю безнадзейную нашу надзею, бо дагрыз яго там рак шлунка і печані, бо менавіта там напаткала яго жабіна цыцка.

Нэндзілася, нудзілася: недзе прадзьмула. Уздуліся лімфавузлы, свідраваў зуб, калола вуха, залівáў млосны пот твар і грудзі, смалілі суставы ад далоняў да пят, крыху пагойдвала, часам запляталіся ногі. Прыслухоўваўся да ўсіх болек, цікаваў за здароўем, бы Чэсь Адамчык у апошні свой час, пакуль не падсялілі да двух хлопцаў-чарнобыльцаў.

Гадоў за трыццаць, прыгожых, шчырых, далікатных, інтэлігентных нутром, скалечаных чарнобыльскім стронцыем і камуністычным распуствам. Як гасцінныя гаспадары, хлопцы пачалі адразу выганяць маю немач святымі на нашай зямлі лекамі — злым, ажно забівала дых, настоеным на мёдзе і перцы самагонам. Калі было выпіта за наша здароўе, за іхняе Падняпроўе і маё Палессе, за залацісты і ясны той дзень, якога дачакаецца народ, былы салдат-шафёр Валодзя, які толькі прыгубліваў шклянку, боўтнуў «старраславянскага» бальзаму ў кіпень, заставіў мяне гарачым выхлебтаць ладную кварту: «Прапацееце — бы дваццаць баб адшаптала».

Сышліся. Думкі, імкненні былі аднолькавымі ў іх, маладых, што асабліва грэла душу, і ў старога пня. На жаль, еднасць цягнулася толькі адны суткі, бо перавялі мяне ў другі нумар, да равесніка, шафёра-дальнабойшчыка, ярага ворага мовы роднай і яго і маёй, хоць і аб´ездзіў ён шмат зямное кулі — ад Мадрыда да Пекіна.

Меў чалавек купецкія замашкі, лічыў усё ў далярах і еўра, паводзіў сябе на шырокую нагу, бабскага атачэння было, бы ў магаметанскага пашы. Але таксама неканчаткова спаганеная, шчырая, радзіміцкая душа. Паехаў гамельчанін. Зазірне ў сваю буржуінскую аўтагаспадарку, ухопіць на дарожку, што Бог пашле, і ў шлях — ажно ў Алма-Аты (па мабільніку чалавеку вестку даслалі, маршрут вызначылі).

А мне адразу Бог паслаў родную крывіцкую гаворку, разам расхлістаную і сціплую душу саўгаснага механізатара, што амаль

паўвека круціць гайкі і балты, рэгулюе клапаны, доўжыць век занэндзаным доляй трактарам і машынам, лыгае пыл, не можа змыць з рук салідолу, хоць у галоўных інжынерах цяперака ходзіць, і цешыць вока родным краявідам, бо хата ягоная стаіць на саменькім краечку берага Дзвіны, якую і па сёй дзень, шырынёю ў гэтым месцы з паўкіламетра, пераплывае ён туды і назад без адпачынку.

Не магло не здарыцца, каб усім сарока на хвасце не прынела вестку, што я — крышку беларускі пісьменнік.

— Пісацелю нельзя без ганарара, — пажартаваў на развітанне дальнабойшчык і перакінуў са сваёй у маю тумбачку рукавец цукру-рафінаду, скрынку чаю і шклянку малінавага варэння. — Кашляеце нешта надта, мо і дапаможа. — Ведае мову, а, бачыш, цураецца.

Галоўны інжынер не паленаваўся паваксаваць нейкай мудрагелістай ваксаю мае паўчабаткі:

— Баба недзе надыбала, гавора — да скону блішчэць будуць. Мондрая, зараза, як Саламонавы порткі, яе б у рэзідэнцыю на Карла Маркса, во мазгі пудрыла б.

Больш за ўсіх уразіў Валодзя-бабруйчанін. Праз тыдні два пасля заканчэння курсу лячэння ледзь прыкульгаў раненька на вакзал у дзень майго ад’езду.

— А-а, вы ў шапцы другой. У санаторыі ў спартыўнай хадзілі, ледзь надыбаў-пазнаў, — працягнуў паўтарачку «стараславянскага» бальзаму і свой электракіпяцільнік, міла, саромеючыся, усміхнуўся.

Ажно сляза мяне прабрала. Падпісаў яму апошні экзэмпляр, дай Божа, каб не апошняй сваёй кніжачкі «Жывая зямля», якую вёз у Мінск знакамітаму крытыку-земляку на рэцэнзію. Абыдземся і без крытыка, радасна і ад таго, што Валодзя чытае, не забывае дзеда, не-не ды патэлефануе.

# А па баках...

Добрых паўмесяца жырую ў пляменніка Сярожы Серамака за Палярным кругам у гарадку з кваціста-наіўнасацыялістычнаю, а можа, і пампезнаю назваю Палярныя Зоры. Тут не на адных сухарах і чыфіры атабарыліся супрацоўнікі Кольскай атамнай электрастанцыі, сярод якіх і мой старэйшы пляменнік не абы-якая «шышка»!

Каціў сюды мяккай, бесстыковай, «аксамітнаю» пуцёю, глядзеў у акно, то радаваў, то засмучаў сваё былое пуцейскае сэрца. За Віцебскам пачаў адчуваць — ужо не мая, не наша зямля. А вось пад Піцерам, дзе ў свае амаль семдзесят упершыню пакланіўся на Неўскім Мікалаю Васільевічу, а потым ужо Аляксандру Сяргеевічу, Фёдару Міхайлавічу з Бялінскім, Някрасавым і Блокам, зноў паўстала Палессе. Нізіны, балоты, лясы, рачулкі, хмызы і так ажно да Зораў. І нават тут, узняўшыся ў строму Хібінскага прадгор'я, сярод граніту і ягелю надыбаў абсалютна ляхавецкую паляну ў аблямаванні арабінаў, бяроз, вербаў ды вольхаў з асінамі, зарослую асакою, канюшынай, шчаўем, падбелам, трыпутнікам, багуном, чарнічнікам, брусніцамі ды папараццю з дзеразою. Думалася, што гэта таму так, бо паваявалі, далучылі неразумных і палян з драўлянамі, слабых духам, і дрыгавічоў з крывамі і саамаралапароў з фіна-уграмі больш хітрыя і хіжыя плямёны, у ветразі якіх дзьмуў абраны імі новы Бог, а ад нашай крыві адвярнуліся нашы багі. Вось з такое далёкае пары ўсцілаюць белыя костачкі нашых продкаў — смердаў і ваяроў — гасцінцы і шляхі, нізіны і горы ад Чорнага да Белага мораў…

Ды думкі мае перабіў грукат — гуд за спіною. Пайшоў на яго і зачараваны застыг ад магутнасці і хараства вадаспада ў камяністай цясніне рэчкі са славянска-сялянскаю назваю Ніва; і той лагодзе і спакою на краечках гэтага вадзянога буйства, што збірае сваю моц з усяго Кольскага паўвострава і нясе ў яшчэ адно цуда гэтай зямлі — бязмежнае возера — мора Імандру, якое лагодна трымаюць шурпатыя далоні Лапландыі. А па берагах возера прыдрамала ганаровая варта шчыльнай сцяною вастраверхага сасонніку, што Бог яго ведае як наталяе смагу на гэтых

камяністых далонях сярод валуноў і скалаў. А над усёй гэтай боскай раскошаю пануе нізкае, снежна-белае, без ніводнае залацінкі паўночнае сонца ў чыста-беларускім, блакітна-васільковым небе.

А час бяжыць. На поўным матэрыяльна-маральным пляменнікавым забеспячэнні, ва ўсе цяжкія і лёгкія праўлю гультая: п'ю і жую з расперазаным паскам. Каб не скаціцца ў поўнае «тунеядства», хацеў перакласці свае «зацемкі» на Сярожавым камп'ютары, ды ўсунуў носа ў ягоную бібліятэку. (Маёй да ягонай — бы нашаму маларыцкаму Мелавому ўзлобку да іхняе лапарскае гары з расейскаю гулліваю назваю Барыня.) Усунуў — і… прапаў. Прапаў, як Бульбаў Андрэй і мой дзед Фёдар, пакахаўшы палячак.

Як на тое трапілі на вочы палітычныя раманы Юліяна Сямёнава і Юрыя Палякова. Пачаў чытаць і… утапіўся, бы ў Белым моры, ваду каторага спазнаў распранутым у кастрычніку — чыстая, як сляза, халодная, як лёд, салоная, як доля нашага агульнага растаптанага народа, пра якую акурат і апавядаецца ў «Ненапісаных раманах» і «Цар-грыбе».

На вокладцы незаіднай на выгляд Юліянавай кніжкі — каляровы здымак сталёвай сякеры, што адсякае ад жывой галіны чырвоную кветку гваздзіка. «Бы тая крывавая кветка, падалі да сатрапавых мяккіх горных ічыгаў мільёны светлых галоў», — доўга думалася. Пакуль не ўспомніў, як у час юнацтва чыталі з дзядзькам Лявонам Крышпіновічам у каморцы на Дзмітровіцкім хутары пад Белавежжам. Я — «Даурыю», ён — «Братоў Карамазавых», пераблыталі дзень з ноччу, не адрываючыся, бы ў святым рускім запоі, ашаламошаныя прыгажосцю мастацкага слова, якое адлюстравала праўду пакутна-шчаснага чалавечага жыцця.

## Муляраўка

Скруцілася і ўсё больш і больш скручваецца, муляе, замуроўвае жыццё. Уцякаю ад гэтага мулярства, ад усяго, ад усіх і сам ад сябе. Аніяк не ўцяку.

На Поўначы ў пляменніка Сярожы ўхапіў крыху свежага духу, ды вярнуўся зноў у задуху. Старэйшы, Алёша, п'е па-чорнаму,

дачка Люда моўчкі пакутуе, малодшы Іван на бацьку змяюкрыўду аніяк з сэрца не вырве. Жонцы нервы палю ні за што ні пра што. А ёй так хочацца і самой па-чалавечы век дажыць, і мяне чалавекам бачыць. Людзі наўкола нейкія мізэрна-подлыя, хоць і маладога веку, бядзе ў вочы не пазіралі, тым больш смерці, слізкаагідныя — адно зло нялюдскае, пачварнае з усіх куткоў вытыркаецца, паліць, давіць душу. Таму і лезу ў «стаканюру», як сказаў даўні, шчыры мой сябра з Валыні Іванко Чарнецкі ў кніжцы гумару «Вечірні розмови з Сірком» — адданым гаспадару «собацюрою», якога паэт «беззавітно отак любить».

А я таксама люблю, адкрываю кожнаму душу сваю, і нярэдка каменне ў яе кідаюць. Аніяк розуму не набяруся.

На апошнюю дзяржаўную, пакуль яшчэ не адмененую (дзесяць дзён застаецца) ласку — бясплатны праезд былому непаўналетняму вязню фашызму ў электрычцы — падаўся на Палессе. Шчыра, міла пагаманіў з васьмідзесяцігадоваю цёткаю Галяю Мінаўнай і ўжо шасцідзесяцігадовым яе сынам, стрыечным братам Шурыкам у Лунінцы, Алесевай равесніцай, стрыечнай сястрою Наталкаю і яе дачушкаю Таццянкаю ў Гомелі. І па бясконцай дарозе дамоў, бясконца выкляўшы і электрычкі, і дызелі, і дзяржаву з яе ласкаю, на нейкай станцыі Мулярцы па-хамску быў абкрадзены нейкім бяльматым смаркачом-зэкам, якога, можа, амнісціравала ўсё тая ж дзяржава, ці мо збег, падла, з калоніі сам: папрасіў мабільнік у мяне, выскачыў з ім з вагона і збег у лес, прыхапіўшы ў чахле тысяч з дзесяць на замочку…

Шчасце, што за ім не пацягнуўся.

## Жыткавічы

Еду далей. Як заўсёды, калі ваўком узвыць хочацца, успамінаю Коласава: «Нудныя песні твае, Беларусь»… Так, так, Міхал Канстанцінавіч, «хапаюць за сэрца, жалобяць душу». Адно падвесяліла, падсвяціла мой беспрасвет Жыткавіцкая бібліятэка з шыльдаю адзінаю беларускаю на ўсё мястэчка, добра так абсавечанае і аблукашэнкаванае, у прыгожа аздобленым драўлянымі карункамі будынку з экспазіцыяй да 125-годдзя Песняра.

Стаіць сабе на рагу вуліц Карла Маркса, і заўважаю з другога боку толькі літару «Ф». Ну, думаю, Скарыны, а дулю з макам — Фрыдрыха Энгельса, і на вуліцу гэту задуменна пазірае з плошчы нейкі невялічкі Ленін ці то ў бетоне, ці бронзе. Божа, 2008-ы настае… 160 гадоў «Маніфесту». А «Бібліі рускай, выложенной доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька, Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению», ягоным «Малой падарожнай кніжыцы» і «Апосталу» — паўтысячы, і не лацінкаю, а кірыліцай друкаваным, якою і Колас з Купалам пісалі, якою і мы карыстаемся.

## Выключэнне

Ёсць у маім творчым працэсе дзве… і не тэмы, і не ідэі, а нейкае наканаванне — доўжыць і доўжыць «Ляхавецкую торбу» і дабаўляць па драбку ў абразок «Прозвішчы». Ужо неяк гаварылася пра звышінтрыгуючае — Табаканюхаў. Да Барана-Чаромушкіна прысуседзіўся Крот-Крацянкоў. А то трапілі на вуха Дабраскок, Спадабаеў, Андрэй Дрышчэнко і Іван Гаўно.

Вось гэтыя два апошнія хахлы з ранішняга «ковельскага» цягнічка, што сустрэнуць мяне ў тамбуры нязменнаю чаркаю, — людзі як людзі. А два папярэднія так маглі падпусціць, што толькі як прыклад выключэння з правілаў іх усіх і ўспомніў.

…Пасля «кантузіі»-інсульта цёгаўся з паўгода па лякарнях і надыбаў з паўтузіна цікавых: Клюка, Куча, Кавенька, Кульбака, Прытыка, сюды захацелася ўціснуць Кучму, Шыламбрыты, Напаўмалот, Ашыйнічак, Снапок. Шмат ужо ўсміхаўся, цешыўся народнаю мудрасцю.

А вось упершыню падумалася: прозвішча, мянушка — біяграфія асобы, сціснутая да аднаго слова прытча, што нясе філасофскую нагрузку, расшыфроўвае адносіны мікра- і макракосмасу, не толькі асобнага суб’екта, але і ягонага роду-племя. У нашым выпадку сем першых прозвішчаў можна аднесці да разраду чалавек і ягоны лёс, два апошнія — чалавек і ягоная справа.

# Прапагандыст

У светлай памяці часы «зрэлага сацыялізму», ды яшчэ «з чалавечым тварам», часы няўмольнага панавання 6-га артыкула «самай дэмакратычнай канстытуцыі ў свеце» (артыкул узаконьваў кіруючую ролю КПСС у савецкім грамадстве) давялося мне быць на вастрыі ідэалагічнай барацьбы за ідэйнае выхаванне і натхненне на новыя працоўныя перамогі пралетарска-мяшчанскіх мас.

Чалавек быў дыпламаваным спецыялістам, членам бюро камсамольскай арганізацыі з 200 малодшых камандзіраў дыстанцыі пуці, працаваў у тэхаддзеле гэтай дыстанцыі, папярэдне глытнуўшы крыху армейскага аўсянага крупніку, і жыў на мяжы Граеўкі з Кіеўкаю. Гэтыя ціхамірныя, зялёныя прыгарады Берасця ў пэўных, пераважна кіруючых, колах лічыліся тады «гнілым гняздом і рассаднікам ідэй агароднікава-кустарных мас са спарахнелымі дробнабуржуазна-заходненацыяналістычнымі перакананнямі». «Так што трымай вуха востра!» — заўсёды натхнялі нас у райкамах, выканкамах.

Пачынаў я свае агітатарска-прапагандысцкія подзвігі век галодным юнаком, таму, напэўна, і запомніліся гэтыя два аб’екты майго ідэалагічнага ўздзеяння.

Пані Яблоньска з вуліцы Клары Цэткін, дрымучая, мажна-грувасткая, шчылінкавокая бабуля з мясістым у дзірачках сіне-чырвоным носам і лапатаю-языком, якім аблізвала даўжэзны, бы каса-«дзявятка», нож. Яна толькі што перакуліла гэтым нажом на патэльні лапацугі-катлеты. І, Божа, як духмяніў гэты нож! Далібог, нават сёння адчуваю той, танчэйшай асалоды, пах!

Пані адразу здагадалася, што яе агітатаршчык ледзь не захлынуўся слінаю, толькі ступіўшы на парог вабнае хацінкі ў глыбіні садочка, і не пусціла яго за парог…

Маладая пара з вуліцы Піваварнай (гэта ўжо Кіеўка). Раненька-рана стукаю-пукаю ў мураванку бліз асфальту — ніхто не адгукаецца, а дзверы адчынены і ў сенцы, і ў кухню, і ў святліцу. Нідзе ні душы, ні гуку, ні шолаху, паўзмрок. І толькі з-пад дзвярэй

баковачкі выбіваецца палоска святла. Папукаў — зноў цішыня. Адчыняю дзверы.

За сталом спіною да мяне сядзіць мой равеснік у аднюсенькіх плаўках, цягне рэйсфедарам па ватмане (відаць, як і я, — бедалага-завочнік). А яна з ложачка насупраць з-пад адгорнутай коўдрачкі выставіла свой бела-ружовенькі «агітпункцік…»

Выскачыў я куляю з хаты, ледзь штаны не парваўшы, прозвішчаў выбаршчыкаў не ўдакладніўшы. У дзень галасавання, пашаптаўшыся, міла-гулліва ўсміхнуліся мне: акурат сядзеў на іхнюю літару…

Калі стаў я ўжо і сыты і дагледжаны, займеўшы ўласную лялю, ды пайшоў ад рэек і шпалаў «у людзі», стаў журналістам, замацавалі мяне прапагандыстам лясніцтва, якое ўзначальваў мой меншы брат Віктар. Зазвычай у суботу (кароткі дзень) па палудні ў светла-бурштынавай, сасновай звонь-дрэва канторы даносіў я да вольнага ляснога племені «разумную, сумленную, чэсную лінію». Люду на гэты час у канторцы было небагата.

Затое калі мы пераходзілі за сталы ў маладым яблыневым садку, штат лясніцтва збіраўся напоўніцу. Пазыўнымі гэтаму таінству была збунінская «чырвоная вышня, шчо з-під корэня вийшла», якая гучала кожныя «палітрзаняткі» амаль да світання.

Леснікі, аб’ездчыкі, нарміроўшчыкі, нарыхтоўшчыкі дапіналіся на 100-адсоткавую яўку пераважна «іжакамі» і «явамі», зрэдзь конна — Пятлюраю і Марусяю (у гонар вядомых атаманаў наракл і чамусьці каняк), мэльдаваліся абавязковай пляшкаю, а то і дзвюма. Строгі ўлік і кантроль вялі ветэраны вайны і працы, камуністы ляснік-дзядзька Раман з-пад Брадзяціна і бухгалтар Павел Георгіевіч з Заказанкі.

У прыклад ставілі прапагандыста і ў райкаме, і нават у нашай «раёнцы» за… «наполняемость занятий и содержанием материала, и слушателями»…

Ды свет, як мы ведаем, не без добрых людзей. Нехта ўнёс у вушы начальству змест нашага матэрыялу. У выніку перакінулі прапагандыста як спецыяліста-чыгуначніка да шасэйнікаў у ДЭУ.

Стараюся, але крывяцца і майстры, і механікі, і рабочыя, і механізатары. «Як падвесяліць братву?» — ламаю галаву. І аднойчы, бо выкладаў тады па сумяшчальніцтву ў вячэрняй школе

літаратуры, мовы, гісторыі, нават астраномію, прачытаў людзям горкаўскую «Девушку и смерть».

За ўвесь прапагандысцкі свой стаж такой узрушанасці не бачыў. Нават мядзяна-сівы, век пахмуры стары майстар упершыню ўсміхнуўся.

Потым, праўда, і пра «текущий момент» гамонка пайшла. Акурат з Кітаем варагавалі. Дык майстар той пасля глыбокай думы ў «сакратаўскім» ілбе падвёў вынік: «Гэта-а-а, каб узводам кулямётчыкаў, ні на хвілінку не спыняючыся, звесці тую саранчу са свету, чатыры гады спатрэбіцца». Відаць, уеўся чалавеку ў спіну і ў душу той «максім» ці «дзяхцяр».

## Дзякуй Паўэрсу

Ранішняй электрычкаю ўжо за ўласны кошт (радзіма адмяніла ільготы) дапінаюся да Мінска на нараду былых вязняў фашызму-камунізму (з дарослых амаль кожны пакаштаваў пасля Асвенціма яшчэ і ГУЛАГу). За Жабінкаю, у Мацеевічах заўважаю праз акно пасярод сяла на тэлефонным слупе высокае, шырокае, дужае гняздо бусла. І ён сам хоць і далекавата да буслянкі, але прыкметна, што — гожы, здаровы, упэўнена стаіць на дзвюх цыбах. Першы раз бачу за жыццё веснянога бусла на дзвюх, век — на адной ці ў палёце.

Больш за беларусаў пра дзюбатага «бацьку» нашага ніводна нацыя не напісала. Я таксама, мо і зашмат, яму пакланіўся, аднойчы нават вершам (пра чорнага). Сябар мой, меліяратар былы, аднакласнік, экскаватаршчык, сцвярджае:

— Дрэнь, хоць і Боскае стварэнне: жывадзёр, забойца, на гарачую кроў ласы. Я яму коўш жаб, прачанят, п’явак, жукоў вадзяных выверну. Дзюбаю круціць. Ніводнае зайчаня, вожыка, птушаня чужое, жывым не пакіне, адно добра, што мышэй, пацукоў таксама нішчыць. А вось варона-разумніца, руплівіца незайздросная, гнездароў сваіх арыфметыцы вучыць, да шасці палічыць можа.

Што ж гэта я пра буслоў і варон, калі трэба пра Паўэрса.

Дык вось, адарваў ад боцяна позірк я, на суседнюю пуць зірнуў, і ўспомніўся сумнавядомы амерыканскі той лётчык. Нас, пуцейцаў, калі замест Кагановіча міністрам стаў несмяротны, як і той бальшавіцкі кашчэй, Бешчаў, гвалтавалі выкладаць баласную прызму каменьчыкамі ў чатыры пасы і фарбаваць іх вапнаю, каб цешылі яны гаспадарова вока. Занятак марудны і няўдзячны. Кожны, хто не лянівы, нагою грабане, зруйнуе, а ты — гніся.

І за царом Мікітам Лысым, акурат у час параду на Чырвонай Плошчы, збілі недзе за Уралам драпежніка нашы баявыя, арлы. Расшыфравалі ягоную шпіёнскую ленту — ды патыліцы зачухалі: рэек, шпалаў, стрэлак не відно, а каменьчыкі, бы на далоні — ад Карпатаў да Гімалаяў, ад Крамля да саменькіх ускраін. І на нашу гарачую радасць гаркнулі каманду: зняць вашыя ідыёцкія камяні! А якія яны нашы? Іхнія…

## «Страдывары»

Настаўнікам спеваў у Петрыка быў старэнькі чалавек. Высокі, шыракаплечы, з сіва-рудымі рэдкімі валасамі, абвіслаю скураю на шыі, пабляклымі, амаль белымі, сухімі губамі, меў змаршчыністыя лоб і шчокі, але молада-светлыя, перапоўненыя любасцю і дабрынёю блакітныя вочы.

Чамусьці на першым іхнім уроку Аляксей Нічыпаравіч замест штудзірвання нотаў і гамы расказваў дзецям казку пра Шэрую Шыйку. І так шчыра, пранікнённа, з такім пачуццём у сэрцы і жалем у вачах, з якіх міжволі спаўзалі слёзы, што і Петрыкава сардэчка самлела і сціснулася ад шчымлівага болю. Яму не хапала паветра, амаль не дыхаў. І ў той момант, калі хіжая Патрыкееўна вось-вось гатова была схапіць у апалонцы качачку, Петрык заплакаў наўзрыд.

Настаўнік доўга суцяшаў вучанічка, гладзіў ягоныя жорсткія валасы, раіў Пецю пастрыгчыся нагола, а ён усхліпваў, уздрыгваў, трымаючыся аберуч за доўгую, далікатную, халодную Нічыпаравічаву далонь, гатоў быў памерці дзеля настаўнікавага шчасця і супакою.

На наступныя заняткі настаўнік завітаў з маленькаю, на паўрукі, скрыпачкай са сцёртаю на грыфе фарбаю, з выцвілай, патрэсканай палітураю. «Вучань мой, Троня Бурштын з вайны, з самога Берліна прынёс, музей разбамбілі, у друзе знайшоў, цаны, дзеці, няма гэтай штуковінцы!» — тлумачыў стары, перабіраў лады, то паціхеньку, то імкліва вёў смычком. То смяялася, то заходзілася наўзрыд скрыпка.

Божа, як хуценька бегалі ягоныя доўгія з ружаватымі пазногцямі пальцы, якія пяшчотныя гукі нараджала пявуння! А настаўнік удумённа, сардэчна ўсміхаўся, пытаў рабятак: «І што гэта я вам, падшыванчыкі вы мае, выштукаваў?»

— Чыжыка-пыжыка, — ускоквалі хлопцы.

— Во поле берёзонька, — саромеліся дзяўчаткі.

— А гэта ўжо наша ляхавецкая «Ночка цёмна», — басіў гарбаносы, увесь у рабацінні, бы кнігаўчына яечка, бамбіза-перарастак з удала наканаванай яму мянушкаю Совушка. — По долинам і по взгор’ям. Катюша. Ой, рэчанька, рэчанька. Віють вітры, віють буйны, — не даваў нікому разявіць рота Сава.

— Малайцы, — хваліў клас настаўнік. — А ты, Іване, добры слых маеш і шмат мелодый ведаеш. На маіх уроках старастам будзеш, — бы маслам па душы памазаў Совушку і заліў тлушчу за скуру Петрыку. І ў класе заўсёды панавала дысцыпліна і было так ціха, што часам, калі Аляксей Нічыпаравіч іграў нешта «з класікі», з-пад грубкі вышмыгвала рудзенькае, невялічкае мышаня, узбіралася на насок настаўнікавага сапрэлага чаравіка (ён хадзіў у галёшах і здымаў іх ля дзвярэй) і аж вочкі-пацеркі жмурыла ад задавальнення.

Часам настаўнік прынасіў на ўрок лядашчы, таксама трафейны, нямецкі патэфон. Ставіў пласцінку, круціў кольбачку — праз высокія школьныя вокны плыла, чаравала людскія душы бессмяротная музыка Бетховена, Штрауса, Моцарта, Брамса, Чайкоўскага. Асабліва любіў Нічыпаравіч апошняга. Кожан раз ставіў арыю Ленскага і на словах «Я любил вас, Ольга» міжволі ўсхліпваў, далей плакаў не саромеючыся. А калі Лемешаў пачынаў «Что день грядущий мне готовит?..» — плакалі ўсе, нават шморгаў носам Совушка, якому аднойчы Петрык спусціў-такі юшку.

Гэта ж надумаў кашалот прыбіць цвікамі да падлогі Нічыпаравічы галёшы, каб той, выходзячы, упаў і пабіў лоба. Праўда, больш перапала самому Смятане, за колер валасоў так ахрысціла вёска Пятра.

Даўно гэта было. Павырастала, разляцелася настаўнікава племя. І трэба ж, нядаўна звёў іх лёс зноў.

Нечакана-нягадана завітаў да Аляксея Нічыпаравіча Янка Сава, хоць пансіёнаў ён не канчаў, але музыкам-самавукам стаў, не так музыкам, як майстрам па вырабу струнных інструментаў.

Пацікавіўся, ці жывыя яшчэ «страдывары»?

— Ну, скажам, не «страдывары», але дарагая карміцелька мая. Жыва, жыва, толькі, як і я, на ладан ужо дыша, — і з журбою прадэкламаваў: — «Вашы пальцы пахнут ладаном, и в устах лежит печаль. Ничего-то вам не надобно, ничего-то вам не жаль…»

— Не печальтесь, мілы мой чалавеча; Трэба, трэба нам і вы, і ваша рапсодыя! Праз тыдзень-другі вярну, не пазнаеце.

— Толькі душы яе тонкае, на прамілы Бог, не скалеч… — папрасіў настаўнік.

Цяжка, марудна ў трывозе паўзлі дні. Хоць і лаяў сябе, ды пад канец другога тыдня пазваніў: «Як там мае справы? Чакаю!

— Што? Што вы гаворыце?! — ускрыкнуў Іван. — Як так чакаеце?!

І сэрца настаўнікава ўпала. Выхапіў з бакавой кішэнькі нітрагліцэрынку. Ногі падкасіліся, слухаўка выпала з рук, ледзь дапяў да канапы.

На ёй і сустрэў яго Совушка, таксоўкаю прыляцеўшы ў горад.

— На мінулым тыдні Смятана ўзяў, — тлумачыў. — Сказаў, што вы даручылі, бо па суседству жывяце.

— Смятана?! Як гэта ён унюхаў? Пішы прапала, запісвай і скрыпку, і мяне ў памінальніцу! Алкаш, дзяцей кінуў, ад дзвюх жонак, з маткі здзекуецца, у суседнім пад’ездзе жывуць. Прапалі мы, Іванку, прапалі, прапалі. Прапіў, а такое ж чулае дзіцё было, праўда, на галоўку слабенькі.

— У суд свалацугу! Сведка — я! А то і сам яму на кадыку пяцельку зашмаргну!

— Не чапай, то ж суседзі. Маткі шкада. Нейкую капейку і сваім дзецям дае. Бог яму даруе.

— А я — не! — ускрыкнуў, выскачыў з пакоя Іван.

Прапажы не вярнулі. Цяпер ужо на самай справе навек плакала Нічыпаравічава «страдывары», і сэрца ягонае пакуль яшчэ плача…

## Пакурыў?

Нарэшце мая цяперашняя качагарская доля дала магчымасць пачаць выконваць жаданне, патрабаванне, даручэнне, просьбу аднакласнікаў — успомніць і з большага «ўвекавечыць» нешта з таго юнага, агульнага нашага маларыцкага жыцця.

Сустракаліся мы — выпускнікі 1955 года адзінае на паўраёна Маларыцкае дзесяцігодкі, напэўна, разоў з дзесяць — а давайце палічым: праз 5, 10, 15, 20, 25, 30, 35, 40, 45, 50 гадоў — роўна дзесяць. Вось як яно! А я на памяць наракаю, слёзы лію. Сустрэчы гэтыя адбываліся нязменна пад кіраўніцтвам нашае класнае дамы, філолага Ганны Іванаўны. І так шчыра яна ўвіхалася «со своими первенькими», што ў апошнюю нашу сустрэчу выпівалі і спявалі мы ўжо без яе. Не вытрымала сэрца таго гармідару, што ўчынілі выхаванцы роднае школы — выпускнікі яе за паўстагоддзя, Богу дзякаваць, што не з надта цяжкім інфарктам завезлі чалавека ў бальніцу проста з-за ўрачыстага стала.

Наконт успамінаў быццам бы гэта яна падкінула ідэйку, бо не магла даць веры, што гэты абібок і невук уціснуўся ў пісьменнікі (і дзякуй Богу, што ў беларускія, а то, чаго добрага, апаганіў бы «великий и могучий»). Аднойчы неяк накідаўся і план маіх успамінаў. Не ведаю нават, каму дзякаваць, што не згубіўся. А каб не спаўрочыць і не згубіць, пачынае выконвацца напярэдадні адзінаццатай нашай сустрэчы.

З Ляхавец у Маларыту дапнуўся я пешкі надзвычай сонечна-гарачым вераснем 1952 года. Трапіў у восьмы, сабраны з паўднёвай часткі прырыцка-валынскага краю, клас лікам у 27 гаўрыкаў: 9 хлопцаў і у два разы больш дзяўчат. Дзякуючы намаганням надзвычай мэтанакіраванай і валявой натуры выпускніцы Ленінградскага ўніверсітэта Ганны Іванаўны, з класам у школе няньчы-

ліся, бы кура з яйкам. Хвалілі дзе толькі і як толькі маглі, як Янка Брыль гаварыў: «па-ўсякаму». Адзіны толькі мудры выкладчык гісторыі Ісак Пятровіч Керш ведаў сапраўдную цану гэтаму «пестуну», сцвярджаючы, што клас — харошы, разумны, задае шмат пытанняў, ды толькі ўсе гэтыя пытанні зводзяцца да аднаго: «А чаму гэта конь на чатырох нагах, а чалавек з курыцаю — на дзвюх?»

Шчыра прызнаюся, што асабіста я быў найвялікшаю кляксаю ў гэтым класе. І наша адбеленая, адпытляваная дружная класная сям'я перажывала за мяне ў сто разоў больш, чым я сам за сябе. Ведала мае подзвігі падрабязней за іхняга выканаўцу. У 26 пар вучнёўскіх і з добры тузін настаўніцкіх вачэй і вушэй праследжвалася і фіксавалася мая бяспутная жытка. Не ўспомню, за якія дасягненні я стаў старшынёй вучкама, але добра ведаю, што агульнашкольны сход з запрашэннем бацькоў прайшоў з парадкам дня: «Пагаворым пра старшыню вучкама і ягоную гопкампанію». А «кампанію» гэту складалі пагалоўна члены бюро камсамола…

Але хопіць адступленняў — першым нумарам плана маіх успамінаў стаяла: «Пакурыў?».

Курылі з усяго класа тады толькі я з Іванам Мошчыкам са Збуража — упарталобым пераросткам, таксама актывістам спартыўна-грамадскага жыцця. На той час ён быў ужо не чаляднікам, а майстрам, докаю ва ўжыванні салдацкае махоркі і дзедавага мультынку. Курэцкія прылады свае насіў Іван у беспамернай студнікішэні мышынага колеру ці не нямецкага галіфэ ў нямецкім партсігары, які пры хадзе брынчэў і пазвоньваў. На гэтую рапсодыю выкладчык нямецкай мовы Мікалай Міхайлавіч Шопік нязменна заўважаў: «Ты ў нас, браце, сапраўдны курэц: маеш свой тытунец і свой аганец», — бо і прыкурваў Мошчык ад нямецкае запальнічкі.

— З партызанкі ціто ў нас, — басіў Іванка, — Дзед старшынёю ў атрадзе лямку цягнуў, а я пры ім быдта каптэнармусам лічыўся…

— Ну, давай, гер каптэнармус, чытай тэкст.

Іван больш-менш прачытаў:

— Перакладай, па сказах.

І трэба ж так здарыцца, што тэкст быў пра die русішэ партызан, якія гераічна абстралялі die дойчэ зольдатэн. Ды Мошчык за-

мест *schießen* уляпіў *scheiße*, ад чаго выкладчык ледзь жывот са смеху не парваў, а мы ўсё ніяк не маглі даўмець, што гэта так такога сур'ёзнага чалавека развесяліла? Мікалай Міхайлавіч растлумачыў, вось тут ужо мы адною сям'ёю прарагаталі да званка.

Зацягнуцца закарцела, а ў нас, як на грэх, ні на панюх. Ды ў прыбіральні выручыў мой зямляк-ляхаўчаніца Дземянцей, хоць ахрышчаны быў Сцяпанам: без мянушкі ў нас і кроку не ступіш. Даў спачатку Мошчыку «бычка», той і ўшчаперыўся, не адрываючыся, перапоўніць і рот, і нос, і грудзі дымам. Толькі хацеў перадаць «чынарыка» для мяне, як, бы Бялінскі ў пецярбургскія арыстакратычныя салоны, кангуравай ракетаю (гэта я нядаўна ў Герцэна вычытаў) уварваўся ў нужнік знакаміты на «80 вёрст вокруг себя» дырэктар школы Аляксандр Юр'евіч Беразняк. «Пакурыў? Пакурыў?!» — схапіў за футболачку разам з цельнікам Мошчыка. «Па-па-па-курыў», — запыкаў Іван і, бы з паравознае трубы, выдыхнуў на дырэктара цэбар густа-сіняга дыму. «А ты яшчэ не? Не? Не паспеў?!» — другою рукою ўхапіў мяне за кершань і звёў з Іванкам лоб у лоб — аж рэха пайшло і іскры з вачэй пасыпаліся, а гузакі з месяц тырчэлі на нашых галовах… Нават і сёння засвярбелі…

## Die Weber

Не зважаючы нават на сталінскі ГУЛАГ, у які Мікалай Міхайлавіч трапіў пасля «ўз'яднання» за рэгенцтва царкоўным хорам за польскім часам, пражыў ён доўгі век — восем гадоў не дацягнуў да ста. Хоць мы, ягоныя вучні, шчыра хваляваліся, калі часам настаўнік хапаўся за левы бок грудзей і напаўголасу ўздыхаў: «O, mein Herz, o, mein Herz».

Мае стасункі з ім цягнуліся таксама ажно паўстагоддзя. А пачаліся яны з восьмага класа Маларыцкае сярэдняе школы.

— Скілько, скілько в тэбэ було в твоіх Ляхувцях по нэмэцькій мові? — крышку прыжмурыў глыбокія шэрыя вочы і нервова ўздрыгнуў чэрапам пад густою смаляною шавялюраю, ажно варухнуліся вушы.

— Траяк, — я нават неяк злякаўся ад нечаканых пытання і руху чэрапа.

— А-а-а, дэ тры, там і два, ны захотілы атэстата портыты? — усміхнуўся, кальнуў поглядам. — Нычого, нычого, выправымо діло. Відаеш, як пчола рупыцця? Гудэ, бзымчыть, а в лёток лізэ. Так і ты будэш гудіты, бзымчаты, а вывчыш в мэнэ мову Шылера і Гётэ. — Размаўляў ён з намі выключна па-мясцоваму, павалынску, па-нашаму.

І пачалося: тэкст, слоўнік, граматыка, граматыка, слоўнік, тэкст, адмысловыя «рэцэпты» — зрабіў памылку ў слове, перапішы 100, 200, 500 разоў. Не перапісаў, будзеш скрабсці цэлы сшытак, а то і два.

З граматыкаю было лягчэй. Лексіка не давалася, бо і адносіны ў класе, дзе палова вучняў — сіроты вайны — дзетдомаўцы, да мовы фашыстаў былі катэгарычна адмоўнымі.

З слязою ў душы, з зацятаю злосцю і я — таксама сірата — перапаўзаў з нацягнутым траяком у дзявяты і дзясяты класы.

І вось на пачатку другога паўгоддзя ў выпускным класе задае ён нам вывучыць на памяць верш Шылера «Die Weber» — Ткачы, Ліёнскае паўстанне.

Праз тыдзень заходзіць у клас.

— Лёня Філатов, роскажы «Die Weber»!

— Ны відаю, Мыколаю Мыхайловічу.

— І як ны відаеш? І слова ны відаеш?

— І слова ны відаю!

— Сядай. От, шчоб відаў хоть слово, поставыв бы два, а так трымай кол, давай дзённік! Хто хочэ росказаты? Катя Вашчынчук? Давай, давай, Катю!

І Каця, бы з кулямёта, ад загалоўка да апошняе кропкі.

— Ото вумныця, ото дівчынка. На тобі п’ять!

На другім уроку тыя самыя дыялогі, тыя самыя адзнакі, на трэцім, чацвёртым, пятым. У выніку — на Новы год падарунак — Філатаву адзінаццаць адзінак. Вашчынчук — адзінаццаць пяцёрак, за паўгоддзе адпаведна — нездавальняюча і выдатна.

Але ж быў яшчэ спорт, і Філатаў — капітан усіх каманд. Быў струнны аркестр у сто гаўрыкаў, і Філатаў вядучы балалаечнік у ім. Дапусцілі чалавека да дзяржэкзаменаў. Не толькі па ўсёй

школе, але і па ўсім мястэчку ідзе пагудка пра нямецкае слова «Die Weber». У час экзамена па нямецкай мове мне з Грышам Каменчуком трэба было ехаць у Брэст на спартакіяду. Па загаду дырэктара школы А. Ю. Беразняка мы павінны браць білеты першымі.

У мяне з граматыкі — зваротны займеннік *sein* і ступені параўнання прыметнікаў. *Gut!* Нешта валаку. У тэксце трапляе слова *Männer*.

Калупаюся ў слоўніку, нешта ладкую. І атрымліваецца вецер рве грыву.

— Ах ты, *donnerwetter*! *Man, man*, на першай старонцы падручніка для пятага класа *der Man* — чалавек, а ты — грыва, — конь Божы! Давай «Die Weber» напамяць!

— Не ведаю, і слова не ведаю.

— Ахцьфу, — плюецца Шопік. — Шоб знав, і часу ны тратыв бы на пустое, вон з класу обое.

Імчым на грузавой палутарцы ў Брэст. У кузаве і Беразняк з намі.

— Чаму сумны такі? — пытае мяне.

— Двойку Мікалай Міхайлавіч Лёню ўляпіў, — адказвае Грыша.

— За «Die Weber»? — смяецца Аляксандр Юр’евіч. — Вышэй галаву. Выйграеце — будзе тройка… — запэўніў дырэктар.

І хлопцы з дзяўчатамі не шкадавалі «жывата свайго», тварылі цуд. І Бог быў з намі — выйгралі!..

Усё яшчэ густачубы, але сівы, сухенькі, прыгорблены сустрэўся ў Берасці на сотым дзясятку.

— Лявоне, бачыў цябе, і не раз, па тэлевізіі. Пісьменнік! Прэмію імя Уладзіміра Калесніка атрымаў. Віншую! А каб тады, у часы «Die Weber», хто сказаў, што з цябе чалавек атрымаецца, далібог, у вочы плюнуў бы… — апошні раз развітаўся чыста па-беларуску…

Светлая памяць Вам, Настаўнік!

# У далонях і ў сэрцы

Выключна з карысцю для сябе і з падзякаю аўтару чытаю матэрыялы Віталя Тараса ў «Нашай Ніве», якую выпісвае сын Іван з пачатку канання апошняга нашага адраджэння. Кранае ўдумная праўда адлюстравання і разваг пра гістарычны лёс і злыбяду роднага народа. Радуюць творы маладых, што друкуюцца на літаратурных старонках побач з артыкуламі ветэрана. Здзіўляе большасць нашых кабетак-празаічак і паэтак.

Вось і ў нумары за 7 жніўня 2008 года шчасна ўстрывожылі і цёплае слова Тараса на смерць Салжаніцына, і лірыка-эпічная мінірапсодыя Марыі Роўды пра бабу Вольку і сябе, што «не ўлавілі птушкі шчасця ў небе з аўчынку, якія глядзяць, адна — у неба, другая — на брук, якія яшчэ ёсць, і разам з тым адчуваюць сябе там, дзе іх няма…»

Прачытаў «Не ўлавіць той птушкі» — і падкаціла пад грудзі і горла ўласнае дзяцінства, непасрэдна той весняны дзень, калі я, дзесяцігадовы, улавіў жывую вабна-цёпленькую, бязважка-пульхную трапяткую птушачку-вераб’я.

…Пачатак пятай вясны пасля вайны. Франтавік-фізрук Іван Кандратавіч Асіпук вядзе ўрок на ледзь падсохлым грудку між школаю і школьнаю клуняю. Размінка. Найбольш смелыя, і нават дзяўчаты, вылузаліся з абрыдлых пасталоў і гумоўцаў разам з анучамі і валокамі, басанож топчуць вільготную, заінелую сцежку-дарожку. Што ім, нашчадкам валынска-татарскага племя, тая вільгаць і хрумсткі іней-лядок, калі паўлазілі яны ў анучы, валокі і пасталы недзе толькі пад Раство.

А вось я — галакрывіч, ляхавецкі гадаванец, скінуў толькі галёшы з сапрэлых чаравічак — адны халяўкі засталіся — таксама пачуваю сябе, бы птах у бясконца сінім небе. Адрэзкі па 30 і 60 метраў на час бегаем. У мяне здорава атрымліваеццца 30 — за 4 секунды, 60 — за 8.

Размяліся. Кандратавіч вядзе гаманкую ватажчыну на сяло, пад вышэзныя тры дубовыя крыжы, на скрыжаванне. Здаем залік. 1000 метраў. Ад царквы да могілак і назад. На дзіва вяртаюся пер-

шым. На саменькім фінішы паперад мяне птушка з плота зрываецца. Я наддаў і злавіў цёмнагаловага, з рудым гальштучкам па шэрай грудзінцы вераб’я.

— Роўна тры мінуты, — гукае настаўнік. — Малайчына. У раён на спартакіяду вазьму, напэўна, трэці разрад выканаў!

Не надта цямлю, пра што гаворыць Кандратавіч, бо ў той момант, калі перакладаў птушку з рукі ў руку, яна капнула ў далонь, ірванула ва ўсенькія крылцы ў роднае неба. Застаўся я з носам ды дыпломам ад дырэктара школы за першае месца.

Прашугалі, прапаўзлі вёсны і зімы. На маім пятым годзе па пенсіі ў спартыўным лагеры завуч спартыўнай школы «дзень бегуна» праводзіць. Удзел у спаборніцтвах трэнераў — абавязковы!

Завуч — дока ў лёгкай атлетыцы. Размінка. Адрэзкі па 30 і 60 метраў. Залік на 1 кіламетр. Падвядзенне вынікаў. Дырэктар дыплом Філатаву Л. Г. уручае. Абсалютны пераможца: 30 метраў — 4, 60 — 8 секунд. 1000 метраў — роўна 3 мінуты.

Не адна птаха ў жыцці маім след-баразну пакінула. А сёння апошняя, найжаданая, рвецца з далоняў і з сэрца маіх…

## Хлеб

Шэсцьдзясят чатыры гады Перамозе. Колькі словаў, песень, грому літаўраў, салютаў і шчырых слёз! А прывезлі ў краму хлеб, бы ў канцлагер на пяцідзесяціпяцігоддзе фюрара, — кіслы, недапечаны, не лезе ў рот. Наш правадыр на той час палічыў бы такую справу «врэдзіцельствам» і не аднаго ўпёк бы за краты ці ў сыру зямлю… Не ўцямлю, чаму запала ў душу, мо і сапраўды, хлеб скуру пад’еў?…

## Тры па пяць

Шчыра дзякую Богу: падараваў успомніць чалавека, нечакана, неспадзявана. Твар, кропелькі поту пад блакітнымі вачыма, рыжаватую пасмачку вусікаў пад кірпатым, акуратным носікам, заўчасную сівізну ў ільняных беларускіх валасах.

Раным-раненька спяшаўся я роварам: адпусціла сэрца, пасвятлела ўваччу, лёгка дыхалася. І, без дай прычыны, забруіла, застагнала, вырвалася на волю песня:

Помню лагерь и лагерный труд,
Звуки вальса и говор весёлый,
И оттенок накрашенных губ,
И берет этот сине-зелёный.
И когда потухал в зале свет,
Все на сцену стремилися взгляды,
Наклонялся тот синий берет
На плечо, кто сидел с нею рядом…

Валодзя, швагер мой, Еўдакімаўны, жонкі першай, брат. Вывезлі пятнаццацігадовым з Маларыты ў Ленінград, у фабзайцы. За пяць хвілін спазнення на завод, на практыку далі пяць год. Праз пяць месяцаў трапіў пад амністыю (5 сакавіка Вусаты памёр). Выпусцілі. Вярнуўся дамоў з драўляным чамаданам, гармонікам тульскім і «пад гавайскаю» гітаркаю, і не толькі з блатнымі песнямі, а з параненай, скалечанай псіхікай, у татуіроўцы ад пазногцяў да пазногцяў, асабліва шчыравалі на вонкавым боку далоняў марскія якар і штурвал.

Пакрысе перадаў мне сум і тугу рускае песні, па-азіяцку звярыную яе безвыходнасць. Не мог наслухацца, як я тоненька і пяшчотна, акампануючы сабе на ягонай гітарцы, выводзіў:

Приморили гады, приморили,
отобрали волюшку мою.

Золотые кудри поседели,
и у края пропасти стою…

Падцягваў, рыпеў гармонікам, усхліпваў, страсаў слязу з павек. І хапаўся за нож, рваў горла, калі нехта, няхай і незнарок, перабіваў нас. Ахалонуўшы, прасіў: «Лёха, ну, Лёха, давай ещё!» — пачынаў:

Меж высоких хлебов затерялося
небогатое наше село.
Горе-горькое по свету шлялося
И на нас невзначай набрело…

Сышоў, сышоў… Жонка ягоная Ларыска — грыбок-баравічок, і абодва сыны, Аркаша і Эдзік, сышлі. Аднаму Афган жыццё скараціў, другі патануў. Ад першага светлагаловая ўнучка Кацярынка ўжо ў нявесты падрастае, ад другога — рыжакучаравенькі грыбок-унучак Мішка-Чубайсік да сонейка цягнецца…

## Сабачая душа

На чыгуначным прыстанку прытомлены вясковы люд чакае апошні вячэрні цягнік. Мужчыны дапіваюць адкаркаванае, дакурваюць, жанкі зацята далузгваюць семкі, даплявузгваюць.

Пад нагамі ў дзвюх дзяўчатак-падлеткаў, што сядзяць на лаўцы бліз будынка вакзала, дагульваюць, дацешваюцца два сабакі: кудлаты, пярэсты — сярмяжнай пароды і светла-шэры высакароднай крыві, гладкі, аж блішчыць, — шляхцюк. На ім зацягнуты ашыйнік з модна-бліскучаю, у добрую капейчыну спражкаю.

Калі дызель, спыняючыся, працягла прасвісцеў, а адна з дзяўчат пацягнула за ашыйнік, адразу ўзвізгнуў, усхадзіўся, загырчаў, залямантаваў пярэсты. Абняў пярэднімі лапамі, пручаецца не пусціць дружбака ў вагон.

Ад такое калатэчы дзяўчаты таксама не на жарт усхваляваліся, палякаліся, бо і шляхцюк гучна загаўкаў, упінаецца, ажно вылузваецца з ашыйніка, не слухае сваю, напэўна, будучую гаспадыню.

На пероне нехта рагоча, нехта гігікае па-дурному. Адзін з маладзейшых нават нагою таўчэ шэрага, падсабляе, ды, бы ашпараны, скача ў тамбур: Кудлаты паспеў ухапіць за нагу.

Нарэшце цягнік кранаецца. Сяджу ў вагоне, уздыхаю, хвалююся. Не ўбачыў, не ведаю: ці паехаў Гладкі ў новае жыццё, ці застаўся з сябрам? Сляза вочы затуманіла, адчуў, да болю адчуў пакуту не толькі ўласнай жывой душы!..

*Брэст-Паўднёвы, напярэдадні новага, 2008 года.*

## Кум спывае

Чатыры гадзіны ночы. Мае жонка і хрышчонка сына майго рыхтуюць на кухні закуску на хрэсьбіны, а я ў гаражы, ужо «нахрысціўся».

Кума, Ліда Міхайлаўна:

— Тыхо, тыхо, кумонько!

І Марыя Іванаўна настаўрыла вушы.

— Чуетэ, чуетэ? Кум співае!

А я цягну ў тую хвілю за паўвярсты ад іх:

На мою на могилку, знать, никто не придёт.
Только раннею весною соловей пропоёт…

## Бруіцца

Пад спарышом-бярозаю, з якой капае ў слоікі сок, не саромеючыся, па-сённяшняму цалуюцца маладзёны. З супрацьлеглых вуглоў маёй хаты, нібыта ўжо і зайздросцячы, сочаць за імі дзве кірпаносыя, у банціках сінічкі. Раптам заўважаюць адна адну.

— А падглядаць сорамна, Волечко!

Волечка ў адказ паказвае сяброўцы язык.

А я трубануў кварту соку, бо гэта мае і бяроза, і слоікі, і ў захмаранай душы ўзышло сонейка. Цікава, ці доўга будзе свяціць?

## Дыялогі

Развітваюся з Каско на вакзале. Яму — на ўсход, мне — на поўдзень.

— Што табе тчэцца? — пытае Алесь.

— Корпаюся, у гаражы пішу і ў скрыню з-пад снарадаў складаю, з блізкага вайсковага палігона прыцягнуў. Толькі баюся, каб не гэпнуўся гараж у канаву, надта блізка стаіць.

— І напісанае можа гэпнуцца, шуснуць назаўсёды. Пара, пара, дзед, хто за нас пакорпаецца, паруліцца? Па Гадульку, па Сахарчуку ўпэўніўся — ніхто! Імчыцца час…

А вечарам, зорным, калядным, сыходжу на Раманоўскім прыпыначку, і вучань мой, гняздар, з апошненькіх, уваскрашае душу.

— Дай прыкурыць, Сярожа, — прашу.

— Няма часу! — і паляцеў да прыпухленькіх вуснаў, што проста з прыступак вагона, на відавоку, сустрэлі салодкія ёй ягоныя вусны.

Зайздрошчу, жыву!..

* * *

— За што мяне ты сёння забіваеш?

— За тое, што ўчора ты забраў маё жыццё. А ў сэрца, якое шчыра кахала, двойчы не трапіць здрады атрутнае джала.

## Сам сабе

— Філатаў, ты яшчэ змагаешся? Ачомайся, Лявоне, ты ж ужо не жывеш…

З гэтай нагоды: «прычашчоны» сустракаю перад апошнімі з Берасця цягнікамі на вакзале з Граеўскага боку Міколу Папеку. Ён мяне зачапіў:

— Ну, хто яшчэ можа сам сабе нешта ўголас даводзіць, як не пісьменнік?

Смяемся, узрадаваныя сустрэчай, вырашаем: чый дызялёк ці электрычка раней ідзе — да таго і едзем.

Папекава раней — на дзве хвіліны.

У Лінёва дабаўляем. Уваходзім у мядовую хату.

Мікола сямейнікам:

— Вы хацелі пабачыць жывога Філатава. Глядзіце — вось ён, ды ўжо амаль нежывы…

Але ўсё роўна гаспадыня запрасіла на шчырую вячэру.

## Прызыўная песня

Жніўнай, захмаранай раніцай не мела душа спакою. Раным-раненька выйшаў у недалёкі луг з касою. Мо ягчэй стане, блісне прамень у тумане? І дзіва — крышку-крышку адлягло ад сэрца: дзікага голуба пачуў. Праменька над галавою, з высокавальтовай лініі такаваў, клікаў…

І ўсміхнуліся зажураныя мае вочы, расправіліся зморшчыны на ілбе, сарвалася з вуснаў: «Хораша прымастаколіцца на лядашчай лавачцы пад волатам-дубам, прыслухацца да задумлівага посвісту шпака ці прызыўнага гуду голуба»…

Так, і сёння голуб спяваў — прызыўна. Як і я ўсё яшчэ пяю, усё яшчэ шчасце клічу. А тыя радочкі пісаліся ў сеўны час, калі яшчэ і ляснічыха, мая бабуля — гераіня юнага абразка, і яе ўнук — мой

меншы брат, і шмат хто з родных маіх, да якіх дайсці ў краіну цемры і нематы засталося мне некалькі крокаў, жылі, усміхаліся і дубу зялёнаму, і небу блакітнаму, і жаўруковай песні ў полі…

Дык чаго ж ты скуголіш, хваста падціснуўшы, выжал стары? Вось толькі што яшчэ раз упэўніўся: не памрэ разам з табою прызыўная Песня Любові на зямлі!..

## Розныя

Лягло на душу, як на світанні, бы ў маё пасляваеннае маленства перад чаргою за ўцэненым хлебам (калі перападзе пенсіянерцы якое каліва, калі — толькі дуля з макам) дзяўчынка, і прыгожанькая, і маўкліва-сціпленькая, і прыстойна апранутая, наплёванае, накуранае, насмечанае дарослай брыдотаю далікатнымі ручанятамі ўвішненька прыбірала — маму падмяняла.

Дзе тая мама сёння? — кальнула падумаць, бо не раз бачыў яе, таксама руплівую і прыветную, ды з некай павалокаю ў ваччу. — Каб хоць не запіла, не зблудзіла…

Успомнілася другая дзяўчынка, равесніца гэтай, можа старэйшая крыху, роднай мне душы родная крывінка. Папрасіў неяк яе за маму, якая не мела ні часу, ні сілы, посуд памыць. Высалупленым языком і складзенай неяк па-хамску сучаснай доўгай дуляй і мне і маме сваёй адказала.

Посуд той я сам памыў, змоўчаў той дзяўчынцы, а гэтай — і ручкі, і ножкі памыў бы. Тая зыркнула ваўчанём спадылба, а гэтая — міла-светленька ўсміхнулася…

## Ці лілі алей у бульбу?

Пазнаёміліся мы з ім ужо ў сталыя гады: звёў нас спорт. Яго — прафесійнага баксёра — Боская воля кінула на настольны тэніс у Гомелі, мяне, валейбаліста, — таксама на «пінг-понг» у Брэсцкім раёне. Ён, гарадчук, меў поспех у судзействе, атрымаў міжнародную катэгорыю, быў «выязным», я, вясковец, каваў тэнісныя кадры на бульбе і сале, ды часам такія, якіх пабойваліся і ў стольным Мінску, але з Саюза мяне не выпускалі.

Шмат мы з ім солі з’елі, не менш кілішкаў кульнулі, век галоднымі былі, бо пры сустрэчах пераходзілі нязменна на трохразовае стравaванне — «питались раз в три дня», болей за ўсё недаспалі, седзячы, сціпла, па-сяброўску, за прэферансам. Ён быў мастаком у гэтай «панскай» гульні, а я — чаляднікам. Канстанцінавіч нават крышку крывіўся на маё мужыцкае мысленне, з якім гуляюць зазвычай у «дурня», «тысячу», нават у «храпа», хоць бурчэў на маю інтэлігентнасць, сцвярджаючы, што яна ў мяне не ад слова «телега», і ўпадабаў мой анекдот наконт «мізэра».

Мізэр у прэферансе — гіблая справа. Заказваюць яго вельмі рэдка, калі масць паперла, калі «тры пасы і ў прыкупе — “чудесы”». На рызыканта навальваюцца гуртам, не пікне, не ўздыхне, вылічаць да апошняй сямёрачкі і абавязкова ўціснуць небараку дзве-тры, няхай сабе і адну ўзятку — прапаў, чалавеча: удвая, утрая ўскочыш «на горку», а гэта — чыстыя грошыкі.

Дык вось, расказваю Валодзю з ягоным сябрам — заслужаным трэнерам СССР, які падрыхтаваў алімпійскага чэмпіёна па веславанні, у іхнім Гомелі, у баковачцы фізрука.

Тры сябры да сівога валосся, да інфарктаў, інсультаў і гемарояў дажылі, «распісваючы пулечку». Стрэляныя ваўкі, але пацягнула найстарэйшага мізэрам рызыкнуць. Лоўлены! Схапіўся чалавек за левы бок грудзей. І «хуткая» не дапамагла…

Ідуць, павесіўшы насы, дружбакі за труною. Уздыхаюць скрушна. І раптам адзін з іх: «Ведаеш, Пятро Аляксеевіч, а каб я тады з бубён зайшоў, яму яшчэ горш было б…»

Як і дружбакі нябожчыка, рагатнулі мае слухачы.

— Малайчына, браце, інтэлігентны эпіздодзік. Вось і лыгнем за яго! Толькі ты мне тое, маё любімае, тое, ваша, беларускае, вымаві, пра алей. Ганарар стабільны — 150 грамулькоў, — просіць Уладзімір Канстанцінавіч.

— А-а! Калі ласка. Ці лілі алей у бульбу?

— Харашо! Красата! Цілі-лі-лі, тралі-валі, алей, бульбачка, мякенька, пяшчотненька, як і самі вы — беларусы, бульбашы…

Канстанцінавіч насіў прыгожае рускае прозвішча Маін. Ганарыўся тым, што за Мікалая Другога па Дняпры і Дзвіне хадзілі два дзедавы параходы, на бартах якіх красавала дзедава прозвішча, толькі з рысачкай над «й».

— Да саменькага «разгорнутага будаўніцтва сацыялізму» вёў дзед гандаль між варагамі і грэкамі. Потым забралі параходы і лаўкі, запяклі бальшавікі дзеда ў Сібір, у мерзлаце і костачкі яго скамянелі.

— Слухай, Валодзька, — перабівае суддзю міжнароднай катэгорыі заслужаны трэнер. — Палова хрысціянскай Еўропы, чвэрць магаметанскай Азіі, увесь шматканфесійны Саюз, абарыгены Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі ведаюць, хто мы з табою па веравызнанні, а ты, дурань, усё сумняваешся…

Смяемся шчыльным інтэрнацыяналам да слёз, і Валодзя, Царства яму нябеснае, зноў просіць:

— Ну давай, давай яшчэ разочак, Лявонка!

І я паўтараю: Ці лілі алей у бульбу?

Бярэм утрох па «стабільнаму ганарару»…

## Няўжо ГУЛАГ?

Праз кожную гадзіну «звініць і плача» радыёстанцыя «Рацыя»: затрымалі, збілі, пасадзілі, не пусцілі, рэжым узмацнілі, нарэшце і расстралялі. Які час? Адкуль весткі? Час сённяшні. Весткі з Беларусі.

Нарэшце нейкі разумны чалавек, не ўлавіў хто, гаворыць: А на які ляд патрэбен беларускай апазіцыі адзіны кандыдат у прэзідэнты, калі выбараў у вас не было, няма і не будзе? Шукайце сабе лідара, які «можа, жадае, лічыць сэнсам свайго жыцця памерці за жыццё нацыі».

Дадам да праведных слоў чалавека: «А на які хрэн нам тыя апазіцыі, прэзідэнты, цары, каралі, ханы, канцлеры, маршалкі ды шахі ўвогуле, калі трэба жыць, як сказаў Уладзімір Маякоўскі, “единым человечьим общежитием”».

## На кангрэсе

*(Мімаходзь)*

На II Кангрэсе дэмакратычных сіл Беларусі рэгістраваўся побач са Станіславам Станіслававічам Шушкевічам, палуднаваў за адным сталом з Мечыславам Грыбам і старшым афіцэрам марской пяхоты Шчукіным, у шапіку піў ваду з Воляй Іпатавай, з Нілам Сымонавічам Гілевічам спаласнуў пальцы ў туалеце.

Станіславу Станіслававічу падчас перапынку насмеліўся з рукі ў руку перадаць запіску, у якой ухваліў ягоны знакавы ўчынак — зняццё ягонай кандыдатуры ў прэзідэнты. І ён усміхнуўся мне, смаркачу, з прэзідыума. І я адчуў, што Стась-Разбуральнік на вякі перажыве Алеся-Збіральніка, бо першы ведаў казку старой Бахмачыхі з-пад Баранавічаў «Агонь ў сэрцы, а розум у галаве»,

якая сцвярджае: «бо толькі затым добра жывуць» людзі, якім дараваў Бог і гэты агонь, і гэты розум; і яны «не будуць падпіраць гнілое, бо яно ўсё роўна ўпадзе», бо яны ведаюць: «патуль ты сядзіш, пакуль другі тут не сядзе, бо ў жыцці кожны займае сваё месца».

Анатоль Вярцінскі зноў папытаў: чаму гэта ты родам з-пад Віцебска, а скончыў Брэсцкі чыгуначны тэхнікум, то ж Аршанскі бліжэй? Уладзя Арлоў толькі рыжае вока прыжмурыў і ў рыжую бараду ўсміхнуўся: крышку мо з майго аблічча нешта і знаёма яму, а хто, адкуль? — не ведае. З асалодаю назіраў, як Зніч з Сысам пілі з пляшкі гарэлку ў садку, закусвалі паданкамі і са Знічавай торбы салам з цыбуляю. І так мне жадалася пабыць хоць хвілінку побач з імі, бо то былі ўжо вольныя людзі, а я, як амаль усе дэлегаты кангрэса, усё яшчэ — раб. Пасля перапынку сядзеў плячо ў плячо з Уладзімірам Някляевым. Багданкевіч, Мілінкевіч, Ганчарык, Вячоркі, Хадыкі, Баршчэўскі, Краўчанка, Клімаў, Калякін не выходзілі з поля зроку. Бог з імі, абы ЛУНАЎ бел-чырвона-белы наш сцяг і ЖЫЛА БЕЛАРУСЬ!..

Абы набыў беларус АГОНЬ у сэрцы, а РОЗУМ у галаве!

## Каб вам

Кінуў свае качагаркі: дактары забаранілі, ды і за дзвесце тысяч у час сусветнага крызісу няма сэнсу гараю дыхаць… Не спіцца, не думаецца, не працуецца. Тэлевізар без ахвоты, без імпэту гляджу. У асноўным украінскі канал і «НТВ». Хоць глыточкам свежага духу з астатняга, асабліва беларускага, тхла павее. Міжволі чакаецца апошні акорд «Інтэра+», калі падлетачак смятанкагаловы, а за ім і сівы дзед скажуць на ўвесь Белы Свет: «Я — украінэць. Люблю сваю мову. Вона така, вона така, вона така мыла, така хороша!»

І так жадаецца, каб кожнаму з нашых адміністрацый, палатаў, саветаў, камітэтаў, выканкамаў, Богу дзякаваць, хоць ужо без райкамаў, кожнае начы снілася, як з экрана замест новага старога

гімна на дабранач гучыць: «Я — беларус, — а далей за Піменам Панчанкам. — Ці плачу я, ці пяю, // Ці размаўляю з матуляю — // Песню сваю, мову сваю // Я да грудзей прытульваю»…

## За Сяргеем Ясеніным

І кажу я сёння не бацьку, не маме,
а ў чужы ашчэраны зброд:
ўчора зноў спатыкнуўся
на той самы камень,
заўтра загоіць раны
абуджаны новым здзекам,
да зэкаў запханы мянтамі
усё яшчэ «сляпы, глухі»
наш народ.

## Народны гумар

Пасля ўчарашняе патасоўкі з гайнёю берасцейскіх скінхедаў (брытагаловых мальцоў і нават дзевак), якія спусцілі мне маю крывіцкую юшку, відаць толькі за тое, што я гаманіў роднаю маёю крывіцкаю моваю, чамусьці закарцела папытаць у рэдактара незалежнай газеты Аляксандрава: «Ці маю я права яшчэ смуродзіць сабою белы свет?» Не адважыўся. Чаму? Сам сабе не магу растлумачыць.

Спытаўся ў сакратара дзяржаўнага выдання Бурдыкі. Той імгненна адказаў: «Жыві, дурню!» Крыху пацяплела на сэрцы.

І тут раптоўнае, нечаканае тэлефанаванне — Разанаў, з Мінска!!

— Лёня-Аляксей, трэба яшчэ чатыры экзэмпляры вашай знакавай кніжкі ўспамінаў дзяцей вайны «На абпаленых крылах».

Падумалася: «Не, напэўна, трэба-такі яшчэ падыхаць зямлі жывой паветрам».

І яшчэ больш адлягло ад душы, калі няўзнак натрапіў на аўтограф непараўнальных літаратурных пародый Міхася Скоблы ў кніжцы «Розгі ў розніцу»:

«З малых і велькіх Аўцюкоў
Зьбірай пярліны, стаў свой нумар.
Сюд-туд — і торба асьцюкоў
для моладзі і дзецюкоў,
прыстойных і без мацюкоў —
Народны неўміручы гумар!

*Спадару А. Філатаву, гаспадару “Ляхавецкай торбы” —*
*На вясёлы ўспамін.*
*8 ліпеня 1895 года».*

Не датумкаю: чаму васямсот дзевяноста пяты? Ці гэта апіска, ці «неўміручы гумар»?

Папрашу ў хлопцаў з нашых залежных і незалежных «прэсаў» надрукаваць хоць каліўца з майго сённяшняга аптымістычнага пісьма.

*Ноч, 24.00 гадз. Дзяды 2012 года.*
*Вычытваю акурат на 95-я ўгодкі Вялікага Кастрычніка,*
*які ў нашай «сінявокай» усё яшчэ пішацца з вялікай літары…*

# Тэзісы да выступлення на літаратурным вечары

*13 снежня 1996 года*

Пачну словамі нашага паважанага Міколы Сямёнавіча Купрэева: «Я хацеў вам сказаць… о, я многа хацеў вам сказаць…» І ў сувязі з тым, што пайшлі з жыцця мае равеснікі-пабрацімцы Міхась Рудкоўскі, Сцяпан Крываль, наш мудры настаўнік У. А. Калеснік, прашу ў спадарства крышку болей часу, чым гэта мне патрэбна было ў папярэднія свае выступленні.

Вось ужо хутка два тыдні, як, Богу дзякаваць, у маю хату завітала жаданая ціша: ляснула тая скрыня, якую так доўга не купляў сабе Уладзімір Андрэевіч, — тэлевізар. Жонка нават «прэзідэнцкую» прэмію падае — вязі ў рамонт, а я не бяру і не вязу, бо рука пацягнулася да зялёнае кніжачкі, думалася: Брыль. Але то быў Астаф'еў. Лыгнуў Астаф'ева, знайшоў-такі Брыля і… алюляла, пацягнула, павяло ў салодкі запой. Нарэшце з радасцю вычытваю: «Як бы ні быў узброены жыццёвым вопытам, якім бы ні стаў падрыхтаваным чытачом, усё роўна са светлай журбой успамінаю сваё маладое чытанне. Толькі са шчасцем, пакутліва чыстым шчасцем першай закаханасці чатанне тое і параўнаеш».

Іменна — з першага позірку і назаўсёды. Мне здаецца, што шмат каму з сённяшняй аўдыторыі знаёма гэтае мройна-шчаслівае пачуццё.

Але спынімся на хвілінку, успомнім сваіх родзічаў, сяброў і знаёмых, асабліва ўзросту першае закаханасці, — многія з іх

чытаюць? Нуду тую «рокавую», «цяжкую» і ў ложак, і ў нужнік бярэ, мазгі тлуміць. А мы, грэшныя, як даўно і якую кніжку агаралі? З жалем, але ўпэўнена сцвярджаю: савецкі народ не чытаў. А як самы перадавы атрад таго народа, наш беларускі народ першым з усіх братніх народаў перастаў чытаць. Яшчэ на зары нашай улюблёнасці ў літаратуру Уладзімір Андрэевіч пакутаваў: 30 тысяч экзэмпляраў кніжыцы пачаткоўца-эстонца ці чачэнца за месяц расхопяць. Тры тысячы кніжак нашага Танка праз тры гады ў макулатуру спісваюць…

Чаму ж гэта так здарылася? А Танк сам адказвае: «Як часта мы праўду замянялі легендамі, адсутнасць думкі — пустазвонствам, а бягучую палітыку стараліся спалучыць з мастацтвам! А потым дзівішся, што з гэтага нічога талковага не атрымалася. Значыць, у пошуках сваёй дарогі не па гэтых азімутах трэба арыентавацца». Якія ж гэта азімуты? Перш за ўсё не абманвай, не хлусі.

Другая прычына, чаму нас шмат каго не чытаюць, бо нас і не друкуюць. І тут ад культуры мастацтва дазвольце два словы пра культуру ўлады. Калі ёй патрэбны паўночнакарэйскія шчыты і гумавыя дубінкі, то на які ляд ёй гэтыя кніжкі. А наконт дубінак успомніўся Уладзімір Андрэевіч зноў: ідзе, загадкава так усміхаецца, спыніўшыся:

— Ну, нарэшце і мы Амерыку перагналі.

— Няўжо, а па чым?

— Па даўжыні паліцэйскіх дубінак — у іх яны толькі да ср… а ў нас — ніжэй калена…

Пра ўзаемасувязь мастацтва і ўлады прывяду яшчэ прыклад. Якое наша самае цяжкае пытанне? Сельская гаспадарка. І вось як раілі яго вырашаць нашы класікі: «Слухалася сельскагаспадарчае пытанне. Свінагадоўля разглядалася на акадэмічным узроўні, і здалёк і зблізку, і вырашана было, нарэшце, каб падняць яе, неабходна мець больш заатэхнікаў.

Тады слова ўзяў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Якуб Колас.

— Калі я быў, таварышы, малы, дык бацька часам браў мяне на кірмаш у Стоўбцы або ў Нясвіж. Купляў ён там парася, а мама выкормлівала з яго вепрука — пудоў на дзесяць-пятнаццаць. Спачатку на зеллі, потым на вобмешцы. Умела яна іх карміць. Свінням, таварышы, трэба не многа заатэхнікаў, а добры харч».

А вось, так бы мовіць, другі рэцэпт: «Вельмі дрэнныя справы ў нашым калгасе, — успамінаў М. Танк. — Кармоў не нарыхтавалі. Сена згнаілі. Нат саломы няма. Кормяць жывёлу бярозавай сечкай. Трэба будзе пайсці ў абком ці нават у ЦК, каб памаглі навесці ў іх нейкі лад»…

Балела Коласу, балела Танку, баліць Брылю, баліць кожнаму сыну радзімы, і паверце, творчаму чалавеку больш баліць, больш ные. Улада павінна падтрымаць мастака, а мастак дапаможа ёй весці людзей з жывёльнага да чалавечага жыцця. Сёння гэта справа можа стаць справаю рук самога «утопающего». Вось слухаю выпадкова па радыё справаздачу з’езду суполкі ўкраінскіх пісьменнікаў. Знаёмы житомірац акурат выступае: «За два гады незалежнай Украіны житомірцы выпусцілі ў сваіх друкарнях у 50 разоў больш кніжак, чым за ўсе гады радянськое ўлады — ад сёмокласныка до головы обласное выконавчое ўлады». Успомнілася малое прадпрыемства «Брэстдрук», за паўгода з Валодзем Захарэвічам ля дзясятка кніжыц мастацкіх «зварганілі», і разышліся яны, па усёй рэспубліцы пайшлі. Гадулька з Жабінкі, Кавенька, Пацеюк, Данілюк з Маларыты, Гетманчук з Іванава, Гарай, Бакуменка, Горба, Жмінько з Брэста… Ці не варты яны кніжак, ці не патрэбна іхняя песня берасцейскаму люду, калі і без кніжак іх ведаюць у народзе? Мы абавязаны стварыць сваё, берасцейскае бюро прапаганды, скампанаваць выданне, рэдагаванне, абмеркаванне, рэкламу ў адных зацікаўленых руках і сэрцах, падлічыць, можа, рызыкнуць, камп’ютар купіць — падкажа, можа, і заробім яшчэ якую капейку, не век будзем сядзець, як гаворыць мой Капшук, у дзяржаўным банку «на чырвоным». Выступленні, можа, і канцэрты, нешта падобнае на «джазбанду». Някляеў-Еўдакімаў-Жуковіч скляпаць? Упэўнены, культура, кіраўніцтва, камсамаляты, яны ж недзе ўжо зноў атабарыліся, нашы новыя беларусы нас падтрымаюць…

Ну, калі ўспомніўся Капшук, то грэх не даць яму слова.

## Не тое сарваў

Наткнуўся неяк Капшук на Андрэя Злодзея ля старызнае націпляльнае батарэі. У руках суседа, на той час слесара-сантэхніка, вялізны, «нумар 5» газавы ключ, а з носа капае цурком.

— Ні за даляры, ні за еўры не сарвеш ты гэтую затычку: яшчэ за Сталіна ўвялі сістэму.

— Адыдзіце! — злаўчыўся Андрэй сцерці рукавіцаю пот з ілба і носа. — Ужо сарваў… толькі не тое, што трэба было, за зваршчыкам у свет цягніся, у ножанькі кланяйся, эх-х-х, доля мая ты смярдзячая!..

— Ну-у-у, калі такая аказія, то скокну я, ровар акурат пад рукою, да Оплэўкі зазірну… І нахрана нам тая казённая «кава», «жытнёвачкаю» гора зальем, праўда, Андрушко?

— Скачыце, скачыце, але ў маёй кішэні толькі «рубель».

— Усяго бяды, і напавер кума дасць, на тым свеце адтанцуем.

## Падаруначак

Па новай вясне збіраецца Савета до Берасця.

— Насення сякога-такога надыбаю, — кладучы капейчыну за ліфчык, наказвае Капшуку, каб хату і гаспадарку дывывся.

— Та ідь вжэ, ідь вымэтайся з хаты! Купыш ты там, купыш, обують в лыковы постолы, як лёду!

А што абулі, толькі па восені Савета датумкала. Капусты нейкай давыд-гарадоцкі гандляр ёй тады ўсунуў. «“Падаруначак” называецца зімовая, да Пакрова стаіць, не нахвалішся», — запэўніваў дзядзька.

А выраслі з таго падаруначка нейкія бадылякі з трыма вострымі лістамі на кожным.

— Каб хоць кветка якая была, пальні цябе гром з яснага неба, — кляла гандляра Савета праз усеньку восень і зімку.

А Капшук і сам патыліцу чухаў, крыва ўсміхаўся ў вус.

Да яго ажно праз тры гады дайшло, што замест саджанца-грушкі, яму дома, у Ляхаўцах, ля царквы пад крыжамі, нейкі заезджы гастралёр бог ведама якую трасцу ўціснуў, а не пладовае дрэва.

## Абавязак

— Давайце вып’ем, дзядзьку Грыцю, — у будні дзень без дай прычыны запрашае Андрэй суседа.

— Адчапіся, не шкадуеш сябе, кожан дзень за каўнер ліеш, дык мяне пашкадуй.

— Не маю права, абавязаны піць! — тлумачыць Андрэй. — Я цяперака ў будаўнічай брыгадзе ацінаюся. Дык прараб загадаў, нават на вы назваўшы: «Як пабачу вас, Андрэю Максімавічу, на рабоце цвярозым, прагул запішу…»

## Кожнаму сваё смыліць

Хрышчэнскім марозцам, ад якога ратуюць Капшуковы ступакі мажныя валёнкі з бахіламі, упаўзае дзед у булдыр з лірычнаю назваю «Ля возера». Ля саменькіх дзвярэй сустракаюць кліента буфетчыца з прыбіральшчыцай Оплэўкаю. У дзве пары насцярожаных вачэй пазіраюць на Капшуковы валёнкі.

— Ну, чаго вылупіліся? — пасля дабрыдзеня пытае ў кабет Капшук. — Во, ногі адубелі, не-а, да маіх лецяў ужо грэх дажываць, пагрэцца зазірну…

— Не, чоловічэ, — перабівае Оплэўка, — не пагрэцца ты сюды прыперся, а толькі што памытую падлогу спаскудзіць!..

А буфетчыца і свае тры грошыкі ўціскае:

— Калі, дзядзьку, сто пяцьдзясёнт і куфаль піва не бераце, то і парога не пераступайце…

## Зрабі ласку

Пасля працяглых угавораў згадзіўся Капшук падрамантавацца ў шпіталі для інвалідаў вайны імя Пятра Машэрава пад Мінскам.

Нічога сабе апекаваліся ля атопка, праўда харч — ні ў Вермахт, ні ў Чырвоную Армію, манка і тая на вадзе ды халодная, затое абслуга — дужа пенькная.

І вось закруціла, захутала Капшука на мяккай лаўцы ў гарачанькі парафін лялечка-санітарачка з сярэднемедыцынскаю адукацыяй. Вочы зліпаюцца, млее дзед, ды просіць дзяўчыну:

— Нагніся, нагніся, а мая ты салодзенькая, дай на вушка нешта скажу. — Сястрыца нагнулася. — Зрабі ласку, зорачка мая сінявокая, ляж хоць на хвілінку побач!

Дзяўчо і праз парфуму чырванее. Дрымоту з «ваякаў»-суседзяў бы ветрам здувае…

## А я і тых не каштаваў

— Таварышу доктару! — на трэці дзень лячэння ў шпіталі здзівіў лекара Капшук. — Навошта вы для мяне лякарства памянялі? — і паказвае на далоні жоўта-белую капсулу.

— Як жа ты даведаўся, нават не пакаштаваўшы? — здзівіўся доктар.

— А я і тыя, папярэднія, не каштаваў, у туалет кідаў, дык яны танулі, а гэтая во — усплыла, — смяецца хворы.

## Капшуковы рэцэпты

Пацешыў душу Капшук пасля працэдураў пад гарачанькім душам. Стол свой № 213 у вялізнай аборы-сталоўцы знайшоў. Сербануў, лыгнуў, да палаты дапнуў, зубы спалакнуў, у шклянку паклаў, атопкі між рэбраў радыятара ўсунуў, ногі, халера на яго, нешта пацеюць, і на левы бок у ложачак пад акном паваліўся. Задрамаў. А прачнуўся і да кумпаніі (шасцёра «гвардзейцаў» у пакоі мяшкуе, акурат у «дурня» рэжуцца) звярнуўся:

— Вось паслухайце, хлопцы мае дарагія, пару рэцэптаў вам параю, сам правяраў.

Паламаў неяк рэбры я. Зяцю малодшаму памагаў спартыўны зал фарбаваць, фізрук ён у мяне, ды з гімнастычнае сценкі гэпнуўся. З левага боку ўсе сем пэнькнулі. Тут табе, брацiку муй, ні гіпс, ні бінт не дапаможа. А што кашлянуць ці ўрэдны дух спусціць — енкам янчыш, слёзы саменькія, бы шабель, коцяцца. Але неяк з тае раённае больніцы дамоў дапнуўся і, спаць кладучыся, пад прымасты з Саветкаю дзежку бражкі даспяваць уціснулі… На ранак, крыж на пуза, бы рукою зняло…

А ад інфаркту, арлы вы мае баявыя, лепш за ўсё нітрагліцарын пад язык пасля малянкоўскае шклянкі карчовачкі на праполюсе.

Ну, і галоўнае, піце, браточкі, чабрэц — будзе той маладзец!…

## За абох

Эх, час, час! Імчыць у капіталізм, бы шыкоўныя таксічкі з «ЧУПаў» па заасфальтаваных ляхавецкіх Жмэньках, Гняздышчах, Подышчах і Брадах. Так, так, і ў нашы пісчугу ды балоты хлопцы-прадпрымальнікі дапялі. Адно толькі грызе Капшука і Андрэя, што прозвішча гаспадара таксувак на -дзэ, нейкі Ламідзэ, няўжо ж то мы — палешукі зломкі? Вырашылі суседзі ўнукаў пацясніць, да Берасця пераскочыць, бо акурат пракавечны

дзяржаўны аўтобус ды ільготы ім, «ветэранам», з-за «эканомнае эканомкі» і кошту на газ тая дзяржава адмяніла. Але цёрла вам у горла і соль у вочы, знойдзем тыя засраныя дзесяць тысяч! Грошы Капшук за праезд чэсць па чэсці перадаў. І ў саменькі той момант, калі яны трапілі шафёру ў рукі, нехта побач з ім, цэлячыся сабе ў пятку, гулка гэпнуў кіроўцу пад нос, сапсаваўшы паветра.

— Хто гэта даў?! — узбуджана пытае ахвяра патаемнага стрэлу, амаль не выпусціўшы з рук руля.

— То я, выбачай, сынку, — адазваўся Капшук. — За абох — за сябе і Андрэя!..

З гэтае аказіі, далібог, людзі добрыя, смяюцца ўжо не толькі ў Маларыце, але ў Берасці, Жабінцы, Кобрыні, Камянцы, Дамачове з Уладаваю, Ратна і Ковелі…

## Калі вернеце?

Неяк ліха прынесла суседзяў у клуб: сам дырэктар ягоны — малады і ранні хлапчына — спакусіў.

— Хадземце, дзяды, — гавора, — у «казла» ўрэжам па алімпійскай сістэме з высадкаю. За першыя тры месцы прызы ўручаю.

— Каваю? — насмеліўся спытаць Андрэй.

— Ну, што вы, кавы не ўжываем і вам не раім, бярыце вышэй!

— Калі так, то траханем пацярухаю! — горача Капшук падтрымаў ідэю. — Нам адзін хрэн, што з высадкаю…

І гэта ж трэба, як на тое, калі Андрэй абвясціў у «рыбу», у фае ўпаўзла старая, як свет, бібліятэкарка.

— О-о-о, Рыгоравіч! — узрадавалася сустрэчы з Капшуком. — Добра, што вас пабачыла: з чвэрць веку таму вы ў мяне ўнуку вашаму Караленкавы «Дзеці падзямелля» узялі, ейбо, ужо час вярнуць…

— Пашукаю, пашукаю, — пачырванеў бы печаны рак Капшук. — Калі ў войску той бейбус не згубіў, то вернем, але, б-л-л-лін гарэлы, Ева Адамаўна, ну і памяць ты маеш!.

# У Аўцюкі ўрадавым аўтобусам

Корпаўся ў сваёй «Ляхавецкай торбе», рыхтуючы яе для перадруку, наткнууся на такое: «Больш цягне».

Сустрэліся неяк аўцюковец і дзядзька Капшук. Пазналі адзін аднаго, хоць зроду не бачыліся.

— Здароў будзь, Ляхавецкая торба, пяць палінак, яшчэ няпоўна?

— Здароў, здароў, Каласок ты мой жытнёвы, як Калінка сябе пачувае?

— Богу дзякаваць. Кланяйцеся Савеце. От ведаеце, дзядзьку, за немца Гітлер за аднаго аўцюкоўца чатыры эсэсаўцы аддаваў.

— А за нашу торбу — сем.

— Чаму?

— Больш цягне ў базарны дзень…

Такая сустрэча спраўдзілася таму, што аўтару гэтых радкоў пашчасціла трапіць на першы Усебеларускі фестываль народнага гумару ў вёсках Вялікія і Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага раёна Гомельшчыны, які адбыўся папераджнівеньскаю парою.

Хросны бацька каласкоў і калінак, старшыня аргкамітэта фестывалю, пісьменнік Уладзімір Ліпскі даў рабу Божаму Філатаву ажно тры адрасы: часопіса «Вясёлка», Беларускага дзіцячага фонду, дзе працуе, і кватэрны тэлефон на дамоўленасць сустрэчы, але з прычыны суеты сует яна не адбылася. І паехаў я на першае наша свята сатыры «зайцам».

Але ёсць Бог над Ляхаўцамі, бо, дапяўшы да сталіцы на перакладных, каціў з Мінска ў Аўцюкі побач з Ліпскім, Законнікавым, Петрашкевічам, Блакітам, маладым гумарыстам Міхасём Скоблам (гэта ён арганізаваў для мяне такую гжэчнасць) і другімі слыннымі сынамі Беларусі шыкоўным урадавым аўтобусам. Па прыбыцці на месца быў чэсць па чэсці залічаны на «содержание» за казённы кошт (дзякуй загадчыку аддзела Міністэрства культуры Тадэвушу Іванавічу Стружэўскаму).

Во павевы часу: перад Аўцюкамі стаяла «мытня», служкі якое спынілі нават «мэрсэдэс» з міністрам Бутэвічам, старшынёю парламенцкай камісіі Гілевічам і адкліканым з ААН Бураўкіным. Гаспадар «мытні», пажонднага складу Колас са смачным «ліхтаром» пад вокам і характэрнага колеру носам, прапускаў у рэспубліку жарту і смеху за хабар: салёны анекдот ці прыпавесць. Я і пачаў: «Сталага веку аўцюкоўцу трэба было прайсці медыцынскую камісію. Акуліст ад самае маленькае літары дайшоў да самае вялікае. “Не-а”, — адмоўна хітае галавою Каласок. “Дрэнь справы, — мувіць эскулап, — сляпы ўжо дзядзьку”. — “Ды не-а, сынку я і самую маленькую бачу, толькі забыў, як яна называецца…”» Служба засмяяўся на трыццаць два конскія зубы, ляснуў мне пасярод ілба пячатку — шлях свабодны — і шапнуў на вуха: «Не спяшайся, накапаю…»

А «капання» было! Ля кожнае хаты, у кожным падворку. А закускі! Хочаш грыбочка — бяры, альбо агурочка, прыглянуўся рак ці карась, а то і ладны акраец кумпяка, ці скрыль пахучага паляшуцкага сала, або рамка ліповага мёду… каштуй. Сталічныя дзецюкі і дзеўкі прыглядаліся, прынюхваліся (радыяцыі так баяліся), а потым, лыгнуўшы ад стронцыю, упісвалі за абедзве шчакі — маё вам «почтеньице».

Набытыя вясёлымі дзядзькамі ва ўласнасць огер і кабыла з жарабяткам кацілі свежазаасфальтаванаю вуліцаю засцеленыя дамотканымі радзюжкамі брычкі з шыльдамі «Аргкамітэт» і «Журы» паўз сем верст Малых Аўцюкоў і дванаццаць — Вялікіх. Вось і ўявіце сабе, на колькі дзірак і вузлоў распаясвалі свае папругі і гумкі журысты і камітэтчыкі: не пакаштуеш у каго-небудзь «карчоўкі» — крыўды, бы стронцыю. Далажу вам, цяжка было, ды весела, бо наўкола звінела, спявала, наярвала, вытанцоўвала, рагатала даверлівая, шчырая, добразычлівая беларуская наша нацыя.

Весялосці дабаўляў малады, гарачы жарабок, якога, нягледзячы на гоман і тлум, распірала каханне.

А мова, мова! — срэбнаспеўная, сівая беларуская мова! — І на вуснах непісьменнай бабулі, што помніць прыгон, і з вуснаў маладога яшчэ веку доктара навук, ці народнага артыста Купалаўскага тэатра. Далібог падумалася: выжывем, браты-беларусы, выцягнем насуперак усім рэферэндумам і ўказам.

Тры дні гудзела сцалелая ў час гвалтоўнай меліярацыі зялёная дубрава між Аўцюкамі. Тры дні спявалі, пілі і елі, гаманілі, смяяліся беларусы, украінцы, кубанцы, габраўцы. Дзіву давалася, з якіх крыніц бярэцца гэтая вірлівая плынь, гэтае народнае багацце і хараство.

Дзядзька Капшук сышоўся з усімі, ды нават і ён не вытрымаў. Не дачакаўшыся падзелу прызоў, а галоўным быў малады конік, які дастаўся Ліпскаму, патрушкаваў паціху ў Калінкавічы на чыгуначную станцыю. Мармычучы сабе пад нос «гоп, мої грэчаныкы, гоп, мої ячны, чому мої грэчаныкы такыї нысмачны», сеў я ў цягнік і падаўся да родных хутароў, а сёння з асалодаю ўспомніў тыя шчасныя вясёлыя хвіліны.

## У Спорава на... метро

«У імя Айца, і Сына, і Святога Духа, — паклаў аўцюковец вуха на крысо кажуха. — Ото задуха. Ды нічога, нічога, у Спораве вады многа. Адвяду душу, са спараўчанкаю саграшу, кіну на хвілінку я сваю калінку…»

І, як бы пачуўшы каласковы думкі, — тоўк нарачоная аўцюкоўца пад бок:

— Круцішся, не спіш. Цягне, бы сучку ў кола, цягне, каб ты ногі працягнуў. Вот табе куры, вот табе індыкі, вот табе свінні і авечкі. Сена з воза не скінуў, у пуньку не склаў, жукоў на палетку, бы рыбы і ракаў у Спораўскім возеры, буракі няполаты, гуркі непаліваныя. Паедзеш ты ў мяне, носам ты па бруку паедзеш…

— Не носам, а на метро. Ад Белаазёрска праменька ў возера пралажылі. Першая станцыя «Шчупачынне» называецца.

— А людочкі мілыя, то ж паедзе, далібог, паедзе! Забажыся, што метро праклалі.

— Вот табе хрэст!

— Эх, халера на яго. Мяняем споднне, разам едзем! Толькі карыта далей ад лыча адцягні ды заднія ногі кормніку забетануй, тлусты, зараза, ды нейкі кароткі…

Хутка казка кажацца, але папацелі, пакуль да «Шчупачыння» дапнуліся, на наступнай станцыі «Карасёва» — перасадка. За мытняю і пагранзаставаю ў цянёчку, пад дубкамі, сталы ад страваў гнуцца. На самым пачэсным месцы стары знаёмы — галоўны смехагенерал беларускі, пісьменнік Уладзімір Ліпскі. «Ну, калі Ліпскі тут, — думае аўцюк, — то ўсенька будзе гут. Бачыш ты, і гаспадары з царом у галаве: падмацункам госця сустракаюць».

Падсілкаваўшыся, госці і ўдзельнікі другога Берасцейскага абласнога фестывалю гумару «Спораўскія жарты — 2001» вырашаюць Спорава пабачыць і сябе паказаць. Дваццаць два калектывы разгорнутым строем крочаць паўз утульнае, чыстае, гасцінае сяло. Як і належыць, распачынае шэсце «Незалежная рэспубліка Спорава» на чале з уладыкаю марскім і азёрным Нептуном. За «Незалежным Споравам» ідуць каласкі і калінкі, аб’яднаныя ў проста рэспубліку «Аўцюкі». З Ганцавіч на міжкантынентальнай ракеце ў лаўровым вянку і сандаліях пажалаваў развясёлы бог віна Бахус з чэляддзю. Галоўны лёкай нясе шыльдачку: «Падайце ахвярам запою». Драгічынцы ледзь стрымліваюць бамбізубарана — мінулафестывальны прыз. За пяць гадоў на казённых харчах у бугая вымахаў, раве, хоць вушы затулі, наровіць рагамі падчапіць ці лобам праміж вачэй засвяціць. Пінчукі вядуць бусла, мядзведзя, казу, крочаць камянецкія яцвягі, янаўскія лабуры, хмялёўскія валюцічы. Гаманкую талаку на канечнай станцыі «Яршоўка броварная» сустракаюць кароль фестывалю з каралеваю і ў лыка п’яны зубр белавежскі, што цэліць стралою ў Венеру. Ля саменькай вады, на апошняй шпале метро, ля шынка «Пад мухаю» і спартыўнага клуба «У падкіднога дурня» шынкар з шынкаркаю частуюць «божай слязою», што на тваіх вачах капае з бровара. Тут як тут грозныя Дзядзька Чарнамор і трыццаць тры асілкі. На сцэне распачынаюць рэй ён (добра так на Тараса Бульбу падобны) і яна (вылітая Адарка): «Каб свята ўдалося, трэба, каб начальства добра ўпілося», — да журы і аргкамітэта.

Шчыруе «в поте лица своего» галоўны юшкачэрпій і тамадуй фестывалю, загадчык аддзела культуры Бярозаўскага райвыканкама Антон Барашка.

Па сходках цяжкавата ўзнімаецца самы стары споравец (ходзіць чутка, што яшчэ ў руска-японскую вайну ваяваў) Сцяпан Міхайлавіч Аполька, ды вока пільнае і цвердая рука: стрэліў з

паходні — сярод возера ўспыхнула полымя сяброўства, жыццясцвярджальны агонь зашугаў. Расказвае, што возера штогод ад сяла адыходзіць: зашмат апошнім часам людцы за каўнер ліюць…

За дзедам, бы стракозка на блакітных крылцах, вылятае дзяўчыначка-гумарыначка, што нарадзілася ў дзень адкрыцця першага абласнога фестывалю.

Шчыра вітае беларусаў украінская дэлегацыя, якую ўзначальвае «головыця» раённай рады Іванічэўскага раёна братняй Валыні Катарына Матвіівна.

Свята пачынаецца і віхурыць два дні. Завіталі ў Спорава «Алла Пугачова» ў модным манто, рыжым парыку і чамусьці з вусамі і «Маша Распуціна», якая пацягнула домоў прыз — мех цукру напалам з грэчкаю: як нямае чаго рабіць — няхай перабірае…

Гумарысты выступілі амаль у кожнай гаспадарцы раёна, усклалі вянкі на магілы загінуўшых у час вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

…Ёсць пераможцы, ёсць лаўрэаты, няма пераможаных, перамаглі сяброўства, весялосць, гумар, шчырасць. Былі прызы, падарункі, былі спонсары і мецэнаты, было шмат чулых, таленавітых людзей.

Каласок назбіраўся да ікаўкі, каціў у метро дамоў, мармытаў пад вус па-спораўску:

Свято сёння, свято заўтра,
вэсэлысь, чэсной народ,
а хто вкынэ больш на брата —
пуйдэ задом напэрод.

А Калінка, не было б то жаночае начынне, нават прытопваючы нагою, горла драла:

Я на свяце была —
не палуднавала,
Паціхеньку скачу,
бо я есці хачу…

Катэгарычна пратэстую… Адных толькі рыбных страваў было, як цяпер у СМІ гавораць, каля дваццаці, скажы проста — васямнаццаць…

## Чыпідріс

Лета. Задуха. Капшук у халадок пад вішні схаваў галаву. Выставіў сонейку скручаныя раматусам ногі.

Ледзь не на іх наязджае ўнукаў пазадарожнік. Выставіўшы пуза са штурсаў, вывальваецца з самахода Капшукоў унук — новы паляшук. З морды ледзь тлушч не капае.

— Чы підріс, унучэ? Срака в нагавыці ны лізэ. Шо ж то за лыхо? — дзівуе дзед, класава ненавідзячы прахіндзея-выпстрычку: то ж, зараза, і ны курыць і ны п’е. Всё за шчоку пакуе.

— Сам ты, дед, — чыпидрис хренов! — агрызаецца ўнук. — Иди, багажник у коня моего открывай, вываливай «гуманитарку», а то, чего доброго, в вашем «Новом пути» копыта откинешь…

## Грыбы па тэлефоне

Прывёз неяк на сваім пазадарожніку праўнук Капшуку мабільнік.

— Держи, дед, а то тягаешься по лесам, лугам и болотам с больным сердцем. Схватит, не приведи Господь, кондрашка — хрен спасут. А по телефону дошлёшь весточку — жив будешь. Не млей, не млей, как-нибудь освоишь эту «балалайку»: проще не бывает, специально для склеротов придумали.

Хоць і папакляў Капшук і сябе-тумака, і праўнука-прайдзісвета, ды з грахом напалам навучыўся абыходзіцца з гэтым хітрым вынаходніцтвам вузкавокіх япошак — «дэбільнікам», як адразу ахрысціў паляшук тэлефончык.

І вось па ранняй восені з кошыкамі ў руках шукаюць шчасця суседзі — Капшук з Андрэем — у бары за Вотчынам. І тут у капшуку (не згубіцца) у Капшука адзываецца «балалайка» беларускім гімнам і вядомым нават па-за Беларуссю хрыпаватавысокім фальцэтам: «Стаяць, бацька гаворыць, бацька гаворыць, стаяць, а то мала не пакажацца!..

— Во, скула, якія пазыўныя прыдумаў, — ласкавым словам успомніў дзед праўнука. — А на які ляд я яму спатрэбіўся, як ты думаеш, Андрушко?

— Слухай, — адказвае Андрэй.

Капшук кгмыкнуў і алёкнуў.

— Ну, где тут в вашем облыселом лесу грибы? — абурана пытае праўнук.

— А дзе ты стаіш?

— Насупраць маяка, злева ад працярэбы, як на КЗС ісці.

— Понял, — у піку нашчадку адказвае па-руску Капшук. — Иди в четвёртый ряд посадки, под пятой сосной и ждёт тебя твой боровик.

— Не базарь дед. Посмотрим, посмотрим, поищем, поищем.

Хвіліны праз тры зноў гімн гучыць з агульнавядомым голасам, а за імі і праўнукаў узрадаваны басок:

— Ну, дед, ты даёшь: и сквозь годы, и сквозь расстояния, и, наверно, сквозь сталь видишь. Трое стоят, как лялечки, буроголовики. Дзякую, дзіду!

— Гэта не табе Чыпідріс тэлефона купіў, а самому сабе, — нарэшце рагатнуў, азваўся як ніколі здзіўлены Андрэй. — Не, такога шчэ не было, каб грыбы па тэлефоне шукалі …

## А дзе кухвайка?

Сярод дня, пад палудзень на гвалт спатрэбіліся Капшуку акуляры. Ператрос, абшукаў і хату, і хлявы, зазірнуў у праўнукаў гараж — як скрозь зямлю праваліліся. Бурчыць сярод падворка: «Ля парасят шукаў, ля цяляці глядзеў, ля качанят, ля куранят глядзеў, у нужнік зазірнуў, у летняй кухні і цяплічцы дывывся, які біс на іх трапыв?.. А-а-а, успомніў — у кухвацы былі!.. А-а-а, дзе ж гэта тая кухвайка?..»

## Выжыў

— Е шо? — стукнуў Андрэй сябе па лобе кулаком. — А то ўчора ўдарылі, макітра пэнькае, як не ўхаплю глыток — дуба ўрэжу…

— Шукай! — падае Капшук суседу калодзежную тычку з закручаным спіраллю гачком на таўсцейшым канцы. — Ухопіш пляшку — шчасце тваё.

Зірнуў Андрэй у калодзеж — піва! «Аліварыя» ў пластмасавай бутэльцы горлачкам дагары — аніяк не ўхапіць. З гадзіну пручаўся, успацеў, але ўхапіў шчасце сваё, наталіў смагу, выжыў!..

## «Па адной стацце»

Дайшла і да Капшука вестка аб тым, што дырэктара іхняй школы нарэшце перавялі ў «радавыя» настаўнікі. З фармулёўкай: «па ўласнаму жаданню». І пры нечаканым спатканні дзядзька ў яго пытаецца:

— А скажыце, будзь ласка, за што гэта вы майго сябра-суседа Андрэя Злодзея яшчэ пры Гарбачове звольнілі з пасады загадчыка гаспадаркі?

— А-а, дзядзьку Рыгору, — адказаў, уздыхнуўшы, дырэктар, — па адной стацце мы з ім пайшлі…

— Не скумекаў, — прызнаецца Капшук.

— Неяк парушыў я «табель о рангах», яшчэ Пятром Першым уведзены..

Капшук зноў пацiснуў плячыма, маўляў, не разумею.

— Ну, дазволіў сабе больш за загадчыка райана «на грудзі прыняць».

— А-а! — уцяміў Капшук. — А я ж неаднойчы папярэджваў Андрэя: што хочаш, голубе, рабі, там у вас усялякіх фарбаў, вапнаў, мелу, аліфаў, сталоў, табурэтак, цвікоў, шурупаў, солі і

соды па макаўку хапае. Толькі, на прамілы Бог, не пі больш за дырэктара…

## На пакосе

От, што то значыць — не сярмяжная закваска. З васьмі гадкоў помню сябе і падпаскам, і пастухом, аратым, касцом, нават паспеў цэпам па таку пагупаць і шуфлем драўляным збажыну веяць. З незапомных часоў трымаў трусоў, коз, пяць гадоў кароўку даглядаў. Век з касою цёгаўся, а касіць, як след палешуку, не патраплю. Праўда, усім сваім паплечнікам з «рольнікуў» па Сцёпу Крывалю, — пісацелям, і нават Купрэеву, які ў «Элегіі» расхваліўся на бел свет, да мяне ў гэтай востра-цяжкавата-смачнай справе далекавата было…

Дык вось па буйной расіцы сонечнай раніцай збіваю на Раманах ля сядзібы няўдобіцу. Ледзь угледзеў у агністых промнях у раз памаладзелую, у хустцы «пад цыганачку» знаёмую кабетку Генечку (Яўгенню) — родная сястра ляхавецкай Оплэўцы (на язык вострая, да працы гарачая):

— Бог помач, пане наўчыцелю (значыць, і польскае школкі паспытала), от што вам далажу: на покосі косар косыть, // За собою в торбі носыть. // То покосыть, подгрэбэ, // То достанэ — по-одражныцця, — зухавата шморгнула носам, пругка пашыбавала акучваць бульбу сяброўцы — пракавечнай настаўніцы, даўнымдаўно на пенсіі, якая на гэты час «здароўечка ў санаторыі папраўляе»…

Вось і я, людцы добрыя, з настаўнікаў у трэцім ці нават чацвёртым калене. А за царом, крулем і маршалкам настаўнікам ні віл, ні касы, ні плуга, ні хамута, ні супоні, адны толькі святочныя, выязныя лейцы ў руках трымаць дазвалялася…

Але на ўсё навука, практыка патрэбна. Вось толькі што паліва ў печ тачкаю вёз, цяжка, ажно крыж літасці папрасіў. Спыніўся, ацёрся, спіну пачухаў. Вось салідолам змазаў, кола падправіў. Крыху ўверх ручкі ўзняў — пакацілася мая тачка, бы «чучупа» з пагорка ў Вялікдзень. Так і коска. Направіш сам, ці чалавек з залатымі рукамі, цягнеш «васьмёрку» — нават і не чуеш.

## Базавая велічыня

— Ты часам не ведаеш, на колькі цягне сёння беларуская базавая велічыня? Нядаўна, здаецца, больш за трыццаць тысяч важыла, — пытае Капшук.

— Не, зара намнога больш.

— А ў каго папытаць?

— Давай па бутэльцы ўрэжам во тутака, ля помніка. Участковага чорт прыпрэ. І тая морда татарская да капеечкі ў квітанцыі штрафу выпіша, і не на адну базавую велічыню…

## Ходіть-но сюды!

У тамбурочку палаты стаіць каржакаваты дзядок з ладнаю торбаю за плячыма. Вочкі хітрыя, шчочкі чырванню ірдзяць, ружаватую лысіну ад поту шэрай кепкаю ацірае.

— Ходіть-но сюды! Маю до вас прэтэнзію, як колысь Оплэвка міла до мого півня за тэ, шчо чубатых цюпынеток еі курыці настругав. І вы шось ны тое стружэтэ. Бачу, бачу, шо Філатов-пысака: кныжкі, газэты, сшыткы, папіры по всіх кутках роскыданы; білы дэнь за вокном, а лепстрыка ны выключэна!..

Не раз і не два праціраю вочы. «О-о-о, раны Езуса, — дядько Капшук!!!»

— Сідайтэ, дядьку Грыцю, дэ бачытэ.

— Ныма колы мэні розсіжуватыся. З офіцыяльным візітом до вас. Прыміть нашу, ляховэцьку торбу з сушонымы в’юнкамы, брусом шпырочкы, колэчком ківбаскы пальцём пханое, подпалочком з маком, палінкою на чорныцях та гусаком «корчовочкы» з-під Вотчына, а до еі — слоік солёнэнькых зэлэныць.

— Дякую, дякую, о цітэ я люблю.

— Відаю, відаю, шо любытэ, Чыпідріс мій часом чытае мэні вашы опусы. Так от говорыть праўнук мій: занэсло вас чорт відае куды. Навроді і Андрія, і Оплэвку нашых вжэ поховалы, на мое

жыття замахнулыся. Ны дождэтэся! Оплэвку, правда, согнуло в крыжовы, алэ всёровно після Іллі, як свынку, з огорода ны выжэнэш. І Андрій шчэ клыпае, хоть з ровэром своім посварывся. Якось од Оплэвкы хотів поіхаты. Сів раз — впав, другы — впав, і за трэтім разом гэпнуўся об зэмлю, аж вона, бідна, застогнала. «Ны хоч іхаты — лэжы — чорт тэбе задэры, лэжы, а я пішка додомы долізу», — матюгнувся, алэ дохаты ны трапыв, в раён скора запэрла: інсультом стукнуло чоловіка. І відаетэ шо? На пользу ёму воно пішло. Як і вы, пысаты став по-білоруську, і дэ тыко навчывся? Віршы. Поэта. Псэвдо собі прыдумав — Гандрій Контужоный. Ось і поэму сваю, над якою і я трошкы покорпів, так бы сказаты — в політіческому направленіі, вам на рыцэнзію хотів дослаты, алэ я вдома ёго чырвону папку забув. Тыко трошэчкы помню:

Над старонкай бульбяна-жытнёвай,
Над краінай ліпова-дубовай
Не нашаю мовай
Не змаўкаў адмысловы
Хваласпеў з вечара да ранку.
Радавыя і камандзіры
Гудзелі Радзіме
Тэлерадыёкалыханку.
Да знямогі капельдудкін стараўся
І на хвіліну ад мікрафона не адрываўся.
— Люлі-люлі-люлі!
Беларусы ўсе паснулі.

Пракашляўся і працягнуў мне руку: «То я побіг, Чыпідріс сварытыся будэ. Чэкае мыне в самоході. Ну, жывіть, пішыть, тыкі правду, дывітэся мэні. Будэтэ в Ляховцях — заходьтэ. Кожна хата вам у нашому сэлі своі двэрі одчыныть…»

## Да вясны

Як бы ні харахорыўся Капшук, але ў добры марозец закашляўся на прыступках ляхавецкага магазінчыка, ажно задыхаўся.

Тут як тут Андрэй:

— Што, застудзіліся, дзядзьку?

— Ай, Андрушко, пэвно, вже жеба цыцкі дасть…

— Барані Божа, — прытуліў дзядзьку Андрэй да грудзей. — Хоць вясны дачакайцеся, той самай жабы, бярозавіку. Прамыеце нутро, мо лягчэй стане?

— Ну, калі так, то давядзецца пачакаць. Ліха яго бяры, скокні па чакушачку, Андрэйка! — Хто пачуў гэта, усім мову адняло: Капшук загаманіў па-беларуску… Што ж, з кім павядзешся, ад таго набярэшся.

## Не замерзне

Крышку павярнула на вясну. Сонейка, бы на Вялікдзень, грае з Усходу, ажно вочы заплюшчваюцца.

Капшук бы падрос, нават без кульбы, ды асцярожненька па зледзянелай узбочыне шоўгае ў чабоцях. Насустрач — Андрэй. У пантофлях, ясёнцы, без шапкі, амаль нагола пастрыжана сівая галава.

— Гімлу застудзіш, — бурчыць Капшук, але па-веснавому ўсміхаецца.

Нарэшце абое разрагаталіся на Андрэеў адказ Капшуку:

— Дзядзьку Грыцю, яшчэ калі я на запраўцы кіраваў гаручым, у чарапок свой тасолу заліў, — не замерзне…

## Канец свету

Што ж то робіцца, людцы добрыя, — недзе пасярод зімовага Вялікага посту на ўсе Подышчы і Брады нарабіла гвалту Капшукова Савета.

— Здубікаўся чалавек мой, тэлевізара наслухаўся, «Народнай Волі» начытаўся зусім глузды звіхнуліся ў раба Божага — старога пня! Таму «Агдамусу» пара год таму не паверыў, загадаў парасят пакарміць, калі я казала: на якую трасцу, калі ўсенька на белым свеце згарыць сінім полымем? А «маям» гэтым верыць!

Не пусціў мяне ў касу за камунальныя разлічыцца. 21 снежня чакае! Казе памарцавацца не дае, хоч яна, бедная, на паўсяла заходзіцца-мекае і на сцены лезе. Маўляў, няма чаго капейчыну на вецер кідаць і лішні грэх на душу браці, каб гэта на пагібель казляняткі зачаліся! Ці то ў мяне, ці ў яго? — пакруціла пальцамі ля правае скроні. — Глузды з'ехалі. Ай, збегаю до Оплэвкы, мо што-небудзь яна растумкае-параіць? — трушкамі проставалосая пашыбавала на Гныздышча. — Ай, прабачэння папрашу. Мо на самай справе канец свету?..

# Змест

**Раздзел II**

# Мае Каралішчавічы

**Раздзел III**

# Званары

**Раздзел IV**

## Са сцежак і дарог…

**Раздзел V**

## У «Ляхавецкую торбу»

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 38

Філатаў Аляксей

Жывому — жыць
(Споведзь качагара)

Проза

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алесь Пашкевіч
Вёрстка Ігара Бараноўскага
Карэктура Алены Спрытніч

Падпісана да друку 20.03.2013. Фармат 60x90 1/16.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 12,75. Ул.-выд. арк. 7,91.
Наклад 300 ас. Зак. 164.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.